ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЕДНАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

№ 4 № 4



МЕНСК
Выдавецтва ЦК КП(б)Б „ЗВЯЗДА"
1939



ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЕДНАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ТЭАРЭТЫЧНЫ І ПАЛІТЫЧНЫ
ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ XIII

№ 4
Красавік 1939 г.



ЗМЕСТ

*Матэрыялы XVIII з'езда ВКП(б)*



Адрас рэдакцыі:
Менск, вул. Карла Маркса,
Памяшканне Парткурсаў пры ЦК КП(б)Б,
пакой 13.
Тэлефоны: нам. рэдактара—комутатар
20-000, даб. 271; агульны—24-887.



## Рэзалюцыя XVIII з'езда ВКП(б) па справаздачнаму дакладу таварыша СТАЛІНА аб рабоце ЦК ВКП(б).

*(Прынята аднагалосна).*

Заслухаўшы і абмеркаваўшы справаздачны даклад таварыша Сталіна аб рабоце ЦК ВКП(б), XVIII з'езд ВКП(б) пастанаўляе:

1. Адобрыць палітычную лінію і практычную работу ЦК ВКП(б).

2. Адобрыць справаздачны даклад таварыша Сталіна і прапанаваць усім партарганізацыям кіравацца ў сваёй рабоце палажэннямі і задачамі, высунутымі ў дакладзе таварыша Сталіна.

14 сакавіка 1939 г.

---

## Рэзалюцыя XVIII з'езда ВКП(б) па справаздачнаму дакладу тав. МАНУІЛЬСКАГА аб рабоце дэлегацыі ВКП(б) у ВККІ.

*(Прынята аднагалосна).*

Заслухаўшы і абмеркаваўшы справаздачу дэлегацыі ВКП(б) у Комінтэрне, XVIII з'езд ВКП(б) адабрае палітычную лінію і практычную работу дэлегацыі ВКП(б) у Комінтэрне.

14 сакавіка 1939 г.




---

# Трэці пяцігадовы план развіцця народнай гаспадаркі СССР (1938—1942 г.г.)

## Рэзалюцыя XVIII з'езда ВКП(б) па дакладу тав. В. МОЛАТАВА

*(Прынята аднагалосна)*

### I. Вынікі другой пяцігодкі і асноўныя задачы трэцяга пяцігадовага плана.

1. У рэзультаце паспяховага выканання другога пяцігадовага плана (1933—1937 гг.) у СССР вырашана асноўная гістарычная задача другой пяцігодкі—канчаткова ліквідаваны ўсе эксплуататарскія класы, поўнасцю знішчаны прычыны, якія параджаюць эксплуатацыю чалавека чалавекам і падзел грамадства на эксплуататараў і эксплуатуемых. Вырашана труднейшая задача соцыялістычнай рэволюцыі: завершана калектывізацыя сельскай гаспадаркі, калгасны лад канчаткова ўмацаваўся. У нашай краіне «ажыццёўлена ў асноўным першая фаза комунізма—соцыялізм» (Сталін). Перамога соцыялізма заканадаўча замацавана ў новай Канстытуцыі СССР.

Соцыялістычная—дзяржаўная і кааператыўна-калгасная—уласнасць на вытворчыя фонды, на прылады вытворчасці і вытворчыя пабудовы к канцу другой пяцігодкі складала 98,7 процанта ўсіх вытворчых фондаў у нашай краіне. Соцыялістычная сістэма вытворчасці стала безраздзельна панаваць ва ўсёй народнай гаспадарцы СССР: па валавой прадукцыі прамысловасці яна складала—99,8 процанта, па валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі, уключаючы асабістую падсобную гаспадарку калгаснікаў,—98,6 процанта, па тавараабароту—100 процантаў.

У адпаведнасці з адбыўшайся соцыялістычнай перабудовай эканомікі краіны, змянілася і класавая структура совецкага грамадства. Занятыя ў соцыялістычнай гаспадарцы СССР рабочыя і служачыя складалі ў 1937 годзе ў саставе ўсяго насельніцтва краіны—34,7 процанта; калгаснае сялянства, разам з кааперыраванымі саматужнікамі,—55,5 процанта; армія, навучаючыяся, пенсіянеры і іншыя—4,2 процанта. Такім чынам, ужо тады 94,4 процанта насельніцтва краіны было занята ў соцыялістычнай гаспадарцы або цесна звязана з ёю. Астатняя частка насельніцтва: сяляне-аднаасобнікі, некааперыраваныя саматужнікі і рамеснікі, складала толькі 5,6 процанта насельніцтва. З таго часу гэтая частка насельніцтва яшчэ больш зменшылася.

Соцыялістычнае грамадства ў СССР складаецца цяпер з двух дружаственых адзін другому класаў—з рабочых і сялян, грані паміж якімі, а таксама паміж гэтымі класамі і інтэлігенцыяй, сціраюцца, паступова знікаюць. Працоўныя СССР у пераважнай масе з'яўляюцца актыўнымі і свядомымі будаўнікамі бяскласавага соцыялістычнага грамадства, комунізма. Перамога соцыялізма ў СССР забяспечыла нябачанае раней нідзе ўнутранае маральнае і палітычнае адзінства народа, маральна-палітычнае адзінства працоўных пад сцягам і кіраўніцтвам комуністычнай партыі і Совецкай улады, якое здольна не толькі пакончыць з астаткамі варожых класаў, з іх чуждымі ўплывамі і даць адпор усякім варожым замахам са зне, але і з'яўляецца лепшай гарантыяй далейшага росту і росквіту нашай радзімы, гарантыяй перамогі комунізма ў нашай краіне.

2. Галоўная і рашаючая **гаспадарчая задача** другой пяцігодкі—завяршэнне тэхнічнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі СССР—у асноўным выканана.

Карэнным чынам абнавіўся вытворча-тэхнічны апарат краіны. Звыш 80 процантаў усёй прадукцыі прамысловасці атрымана ў 1937 годзе з новых прадпрыемстваў, пабудаваных або цалкам рэканструіраваных за першую і другую пяцігодкі; каля 90 процантаў усіх працуючых у сельскай гаспадарцы трактараў і камбайнаў вытварана совецкай прамысловасцю ў другой пяцігодцы. Заданні другой пяцігодкі ў галіне прамысловасці і транспарта выкананы датэрмінова. Другая пяцігодка выканана прамысловасцю к 1-му красавіка 1937 года, гэта значыць у 4 годы і 3 месяцы, прычым і ў другой пяцігодцы асабліва быстра расла цяжкая прамысловасць. Другая пяцігодка па перавозках чыгуначнага транспарта з перавышэннем выканана ў 4 годы. Перавыкананы таксама важнейшыя заданні другой пяцігодкі па прадукцыі сельскай гаспадаркі: па зярну, па бавоўне.

У параўнанні з 1932 годам—з апошнім годам першай пяцігодкі—прадукцыя прамысловасці ў 1937 годзе вырасла на 120,6 процанта пры заданні па другому пяцігадоваму плану ў 114 процантаў прыросту. Сярэднегадовыя тэмпы прыросту прадукцыі прамысловасці ў другой пяцігодцы складалі 17,1 процанта супроць намечаных па плану 16,5 процанта.

Ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі СССР выраслі вытворчыя кадры, якія паспяхова авалодваюць новай тэхнікай. Буйнейшай перамогай другой пяцігодкі з'яўляецца стварэнне значных, патрэбных для ўсіх галін соцыялістычнага будаўніцтва, кадраў совецкай інтэлігенцыі і шырокае вылучэнне новых кіруючых работнікаў з партыйных і непартыйных большэвікоў ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі.

Поспехі, дасягнутыя ў галіне асваення новай тэхнікі, атрымалі яркае выражэнне ў стаханаўскім руху. Разгортванне соцыялістычнага спаборніцтва і яго вышэйшай формы—стаханаўскага руху—прывяло да магутнага ўздыму прадукцыйнасці працы ў прамысловасці і ў іншых галінах народнай гаспадаркі. Прадукцыйнасць працы ў прамысловасці за другую пяцігодку павялічылася на 82 проценты супроць 63 процантаў па плану, а ў галіне будаўніцтва прадукцыйнасць працы за гэты перыяд павялічылася на 83 проценты супроць 75 процантаў па плану другой пяцігодкі. Уздым стаханаўскага руху і шматлікія выдатныя прыклады соцыялістычна-свядомай працы стаханаўцаў з іх высокімі паказальнікамі прадукцыйнасці працы стварылі прадпасылкі для карэннага ўмацавання працоўнай дысцыпліны ва ўсіх нашых прадпрыемствах і ўстановах, што з'яўляецца абавязковай умовай вы-

сокай прадукцыйнасці працы ўсіх працоўных і залогам новага магутнага росту комунізма ў СССР.

Каб забяспечыць выкананне другога пяцігадовага плана, неабходна было арганізаваць барацьбу з астаткамі варожых класавых элементаў, з варожымі класавымі ўплывамі ў народнай гаспадарцы, у культурным будаўніцтве, ва ўсім палітычным жыцці. Для гэтага неабходна было, перш за ўсё, арганізаваць барацьбу за ахову і ўмацаванне соцыялістычнай, дзяржаўнай і калгаснай уласнасці супроць зладзеяў і раскрадальнікаў дзяржаўнага і калгаснага дабра, супроць усіх і ўсякіх пасобнікаў класавага ворага і, асабліва, супроць прэдацеляў народа ў асобе трацкісцка-бухарынскіх і буржуазна-нацыяналістычных шпіёнаў, дыверсантаў і шкоднікаў, якія самкнуліся з замежнымі разведкамі, сталі агентамі фашысцкіх ахранак. Іх прэдацельская работа нанесла сур'ёзную шкоду ў радзе галін народнай гаспадаркі СССР. Разгром гэтых шпіёнска-шкодніцкіх банд расчысціў шлях для далейшых і яшчэ больш магутных поспехаў соцыялістычнай гаспадаркі ў нашай краіне.

3. Пастаўленая другім пяцігадовым планам задача **ўздыму матэрыяльна-культурнага ўзроўню працоўных,** з павышэннем узроўню народнага спажывання ў два разы і больш, таксама выканана.

Колькасць рабочых і служачых па ўсіх галінах народнай гаспадаркі вырасла за другую пяцігодку на 17,6 процанта. Сярэднегадовая заработная плата рабочых і служачых па ўсёй народнай гаспадарцы вырасла ў 1937 годзе, у параўнанні з 1932 годам, на 113,5 процанта, гэта значыць, больш, чым у два разы. Фонд заработнай платы рабочых і служачых, замест устаноўленага па плану другой пяцігодкі росту на 55 процантаў, вырас на 151 процант, гэта значыць, павялічыўся ў два з палавінай раза. Дзяржаўныя расходы на культурна-бытавое абслугоўванне працоўных горада і вёскі (па саюзнаму, рэспубліканскаму і мясцовых бюджэтах) на асвету, ахову здароўя, фізкультуру і соцыяльнае забеспячэнне, а таксама расходы па дзяржаўнаму соцыяльнаму страхаванню павялічыліся з 8,3 мільярда рублёў у 1932 годзе да 30,8 мільярда рублёў у 1937 годзе, гэта значыць у 3,7 раза.

Апрача таго, расходы дзяржавы на палепшанне жыллёва-бытавых умоў працоўных і на комунальную гаспадарку склалі за годы другой пяцігодкі 16,3 мільярда рублёў. Значна вырасла за годы другой пяцігодкі заможнасць калгаснікаў. Валавы даход калгаснікаў павялічыўся за чатыры годы (1934—1937) больш, чым у 2,7 раза, а грашовыя даходы, размяркоўваемыя сярод калгаснікаў па працаднях, павялічыліся за гэтыя годы ў 4,5 раза.

У 1937 годзе вытворчасць прадметаў шырокага спажывання, у параўнанні з 1932 годам, вырасла больш, чым у два разы. Па раду важных прадуктаў і вырабаў шырокага спажывання дасягнута не толькі падваенне, але і патраенне вытворчасці. Дзяржаўна-кааператыўны тавараабарот за годы другой пяцігодкі павялічыўся больш, чым утрая, а разам з калгасным гандлем ён падняўся з 47,8 мільярда рублёў у 1932 годзе да 143,7 мільярда рублёў у 1937 годзе. Невыкананне заданняў другой пяцігодкі па зніжэнню рознічных цэн на тавары шырокага спажывання перакрыта значна большым, чым прадугледжана пяцігодкай, павышэннем размераў заработнай платы рабочых і служачых, а таксама адбыўшымся значным павелічэннем грашовых даходаў калгасаў і калгаснікаў.

За годы другой пяцігодкі ў СССР праведзена сапраўдная культурная рэволюцыя. Колькасць навучаючыхся ў пачатковай і сярэдняй школе вырасла з 21,3 мільёна да 29,4 мільёна, прычым колькасць навучаючыхся ў 5—7 класах падвоілася, а колькасць навучаючыхся ў 8—10 класах павялічылася ў 15 раз. Колькасць навучаючыхся ў вышэйшых навучальных установах паднялася да 550 тысяч. Разгарнулася культурнае будаўніцтва і ва ўсіх іншых галінах.

Ва ўсіх саюзных рэспубліках СССР дасягнуты значныя поспехі ў справе індустрыялізацыі і ўздыму матэрыяльна-культурнага ўзроўню насельніцтва, у стварэнні нацыянальных большэвіцкіх кадраў, ва ўздыме ўсёй нацыянальнай, соцыялістычнай па зместу, культуры. Асабліва вялікія былі тэмпы матэрыяльнага і культурнага ўздыму ў народаў совецкага Усхода.

4. На аснове пабеданоснага выканання другога пяцігадовага плана і дасягнутых поспехаў соцыялізма, СССР уступіў у трэцім пяцігоддзі ў новую паласу развіцця, у паласу **завяршэння будаўніцтва бяскласавага соцыялістычнага грамадства і паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма,** калі рашаючае значэнне набывае справа комуністычнага выхавання працоўных, пераадаленне перажыткаў капіталізма ў сазнанні людзей—будаўнікоў комунізма.

Нельга, аднак, пераўмяншаць труднасцей вырашэння гэтай гіганцкай задачы, асабліва ва ўмовах варожага капіталістычнага акружэння. Тым больш, што не гледзячы на паспяховае выкананне першай і другой пяцігодкі, не гледзячы на рэкордныя тэмпы развіцця нашай прамысловасці, не гледзячы на тое, што па тэхніцы вытворчасці прамысловасць СССР перагнала перадавыя капіталістычныя краіны,—не гледзячы на ўсё гэта мы яшчэ не дагналі ў **эканамічных** адносінах найбольш развітыя капіталістычныя краіны.

СССР ператварыўся ў незалежную эканамічна краіну, якая забяспечвае сваю гаспадарку і патрэбы абароны ўсім неабходным тэхнічным узбраеннем. Па тэмпах свайго развіцця прамысловасць СССР стаіць на першым месцы ў свеце. У той час як прамысловасць капіталістычных краін пасля пачаўшагася ў канцы 1929 года найцяжэйшага эканамічнага крызіса дасягнула ў 1937 годзе ледзь 102,5 процанта ад узроўню 1929 года, а з другой палавіны 1937 года, пад ударамі новага крызіса, зноў скацілася ўніз,—прамысловасць СССР у 1937 годзе дасягнула 428 процантаў ад узроўню 1929 года, што ў параўнанні з даваенным узроўнем азначае павелічэнне прадукцыі прамысловасці больш чым у 8 раз.

У 1938 годзе прадукцыя прамысловасці СССР павялічылася ў адносінах ад папярэдняга года яшчэ на 11,3 процанта і дасягнула 477 процантаў да ўзроўню 1929 года,—у той час як у краінах капіталізма ў 1938 годзе прамысловая прадукцыя скарацілася на 13,5 процанта супроць папярэдняга года і ўпала да 90 процантаў ад узроўню 1929 года.

У процілегласць капіталізму, дзе, пры вялікай няроўнамернасці развіцця па краінах, за апошняе дзесяцігоддзе ў прамысловасці ў цэлым не было росту, а адбылося прыкметнае змяншэнне прамысловай вытворчасці,—у СССР мы мелі няўхільны і быстры ўздым прамысловасці, высокія **тэмпы росту** прамысловай прадукцыі з года ў год. З прычыны таго, аднак, што ў мінулым наша краіна была вельмі адсталай у эканамічных адносінах, **узровень развіцця** прамысловасці СССР у сэнсе размераў вытворчасці на душу насельніцтва і цяпер яшчэ значна ніжэй найбольш развітых у тэхніка-эканамічных

адносінах капіталістычных краін Еўропы і ЗША. Вядома, што на душу насельніцтва ў нашай краіне прыходзіцца значна менш прамысловай прадукцыі, чым у такіх краінах, як Злучаныя Штаты Амерыкі, Англія, Германія, Францыя. Так, напрыклад, к канцу другой пяцігодкі **на душу насельніцтва** ў СССР прыходзілася: **электраэнергіі** ў два з лішнім раза менш, чым ва Францыі, амаль у тры разы менш, чым у Англіі, у тры з палавінай раза менш, чым у Германіі, у пяць з палавінай раз менш, чым у ЗША; **чыгуну**—у два з лішнім раза менш, чым у Англіі і Францыі, у два з палавінай раза менш, чым у Германіі, у тры разы менш, чым у ЗША; **сталі** прыходзілася амаль у два разы менш, чым ва Францыі, амаль у тры разы менш, чым у Англіі і Германіі, амаль у чатыры разы менш, чым у ЗША; **каменнага вугалю** на душу насельніцтва ў СССР прыходзілася крыху менш, чым ва Францыі і значна менш, чым у ЗША, Англіі і Германіі.

СССР усё яшчэ адстае па размерах вытворчасці на душу насельніцтва таксама такіх прамысловых тавараў, як тканіны, папера, мыла і некаторыя іншыя.

Гэтая недастатковасць размераў прамысловай вытворчасці СССР, у параўнанні з найбольш развітымі ў тэхніка-эканамічных адносінах капіталістычнымі краінамі, павінна быць поўнасцю ліквідавана, каб забяспечыць канчатковы поспех комунізма ў яго гістарычным спаборніцтве з капіталізмам.

5. Цяпер, калі СССР склаўся як соцыялістычная дзяржава, закончыў у асноўным тэхнічную рэканструкцыю народнай гаспадаркі і па ўзроўню тэхнікі вытворчасці ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы стаіць уперадзе любой капіталістычнай краіны Еўропы,—цяпер мы можам і павінны ва ўвесь рост практычна паставіць і ажыццявіць вырашэнне асноўнай эканамічнай задачы СССР: **дагнаць і перагнаць таксама ў эканамічных адносінах найбольш развітыя капіталістычныя краіны Еўропы і Злучаныя Штаты Амерыкі,** канчаткова вырашыць гэтую задачу на працягу бліжэйшага перыяда часу.

Для гэтага неабходзен далейшы значны рост тэхнічнага ўзбраення ўсіх галін народнай гаспадаркі і, значыцца, усямернае развіццё машынабудаўніцтва і ўсёй цяжкай прамысловасці, рашучае палепшанне ўсёй арганізацыі і тэхналогіі вытворчасці з шырокім унядрэннем навейшых дасягненняў навукі і вынаходстваў, колькасны і, асабліва, якасны рост вытворчых кадраў і высокае асваенне тэхнікі ў прамысловасці, на транспарце і ў сельскай гаспадарцы. У адпаведнасці з указаннем Леніна аб тым, што «прадукцыйнасць працы, гэта, у канчатковым выніку, самае важнае, самае галоўнае для перамогі новага грамадскага ладу», мы павінны забяспечыць усямернае разгортванне соцыялістычнага спаборніцтва і стаханаўскага руху, няўхільнае ўмацаванне працоўнай дысцыпліны ва ўсіх прадпрыемствах і ўстановах, ва ўсіх калгасах, мы павінны забяспечыць дастойную соцыялістычнага грамадства высокую прадукцыйнасць працы рабочых, сялян, інтэлігенцыі.

Разам з тым неабходна забяспечыць такі рост народнага дахода і развіццё тавараабароту, каб за годы трэцяй пяцігодкі **падняць народнае спажыванне ў паўтары—два разы.** Для гэтага, побач з узмоцненым уздымам цяжкай і абароннай індустрыі, неабходна разгарнуць работу па падняццю вытворчасці тавараў шырокага спажывання і харчовых прадуктаў, а таксама забяспечыць магчымасць адпаведнага росту рэальнай заработнай платы рабочых і служачых, росту даходаў калгаснікаў.

У адпаведнасці з гэтымі асноўнымі задачамі трэцяй **пяцігодкі**, неабходна забяспечыць значны ўздым культурнага ўзроўню ўсёй масы працоўных горада і вёскі, ажыццявіць буйны крок уперад у гістарычнай справе **падняцця культурна-тэхнічнага ўзроўню рабочага класа**, перадавой і кіруючай сілы соцыялістычнага грамадства, **да ўзроўню работнікаў інжынерна-тэхнічнай працы.**

Гіганцкі рост прамысловасці і ўсёй народнай гаспадаркі ў трэцяй пяцігодцы і неабходнасць забеспячэння яе далейшага бесперабойнага ўздыму ў адпаведнасці з агульнадзяржаўным планам, асабліва ва ўмовах нарастання агрэсіўных сіл імперыялізма ў знешнім акружэнні СССР, патрабуюць **стварэння буйных дзяржаўных рэзерваў**, перш за ўсё, па паліву, электраэнергіі і некаторых абаронных вытворчасцях, а таксама па развіццю транспарта, з правільным размяшчэннем па адпаведных раёнах краіны, устараненнем непрадукцыйных і дальніх перавозак і забеспячэннем асноўных эканамічных ачагоў краіны максімальнай колькасцю рэсурсаў на месцы.

XVIII з'езд ВКП(б) зацвярджае наступныя заданні трэцяга пяцігадовага плана развіцця народнай гаспадаркі СССР, прадстаўленага Дзяржаўнай Планавай Камісіяй СССР і прынятага Цэнтральным Камітэтам ВКП(б) і Советам Народных Камісараў СССР.

## II. План росту вытворчасці ў трэцяй пяцігодцы.

1. Устанавіць **аб'ём прадукцыі** па ўсёй прамысловасці СССР у 1942 годзе, на апошні год трэцяй пяцігодкі, у 184 мільярды рублёў (у цэнах 1926—1927 гг.) супроць 95,5 мільярда рублёў у 1937 годзе, гэта значыць рост прамысловай прадукцыі за трэцюю пяцігодку на 92 процанты.

Сярэднегадовы тэмп росту прамысловай прадукцыі СССР у трэцяй пяцігодцы ўстанавіць у 14 процантаў, прычым сярэднегадовы прырост па вытворчасці сродкаў вытворчасці ўстанавіць—15,7 процанта, а па вытворчасці прадметаў спажывання—11,5 процанта.

2. Вызначыць наступны размер прадукцыі па важнейшых **галінах прамысловасці** на канец трэцяй пяцігодкі, гэта значыць у 1942 годзе:

| | | 1942 г. | 1942 г. у процантах к 1937 г. |
|---|---|---|---|
| Уся прамысловасць (у млрд. руб. у цэнах 1926/27 г.) | | 184 | 192 |
| У т. л.: вытворчасць сродкаў вытворчасці . . . | | 114,5 | 207 |
| вытворчасць прадметаў спажывання | | 69,5 | 172 |
| Машынабудаўніцтва і металаапрацоўка (у млрд. руб. у цэнах 1926/27 г.) . . . . | | 63 | 229 |
| Паравозы магістральныя (у пераводзе на ўмоўныя „Э" і „СУ") шт. | | 2340 | 148 |
| Вагоны таварныя ў 2-восным вылічэнні . . . . . . . | тыс. шт. | 120 | 203 |
| Аўтамабілі . . . . . . | тыс. шт. | 400 | 200 |
| Электраэнергія . . . . . | млрд. квтг. | 75 | 206 |
| Каменны вугаль . . . . . | млн. тон | 243 | 190 |
| Нафта сырая з газам . . . . | „ | 54 | 177 |
| Торф . . . . . . . . . | „ | 49 | 206 |
| Чыгун . . . . . . . . | „ | 22 | 152 |
| Сталь . . . . . . . . . | „ | 28 | 158 |

| | | 1942 г. | 1942 г. у процантах к 1937 г. |
|---|---|---|---|
| Пракат | млн. тон | 21 | 162 |
| У т. л. якасны | „ | 5 | 199 |
| Хімічная прамысловасць (у цэнах 1926/27 г.) | млрд. руб. | 14 | 237 |
| Цэмент | млн. тон | 11 | 202 |
| Вывазка дзелавой драўніны | млн. м³ | 200 | 180 |
| Піламатэрыялы | „ | 45 | 156 |
| Папера | тыс. тон | 1500 | 180 |
| Баваўняна-папяровыя тканіны | млн. мет. | 4900 | 142 |
| Шарсцяныя тканіны | „ | 177 | 167 |
| Абутак скураны | млн. пар | 258 | 143 |
| Цукар-пясок | тыс. тон. | 3500 | 144 |
| Кансервы (НКХП, НКРП, НКМП) | млн. банак | 1800 | 206 |
| Металічныя канструкцыі | тыс. тон | 900 | 161 |

3. Усямерным развіццём **машынабудаўніцтва,** якому належыць вядучая роля ў тэхнічным узбраенні народнай гаспадаркі, забяспечыць унядрэнне перадавой тэхнікі ва ўсе галіны народнай гаспадаркі і для ўсіх відаў абароны СССР, у адпаведнасці з сучаснымі патрабаваннямі дзяржавы. Павялічыць прадукцыю машынабудаўніцтва к канцу трэцяй пяцігодкі ў 2,3 раза, г. зн. значна вышэй агульнага росту прамысловасці. Забяспечыць вытворчасць усіх відаў станкоў, рашуча павысіўшы ўдзельную вагу высокапрадукцыйных і спецыяльных станкоў, асабліва аўтаматаў і поўаўтаматаў. Павялічыць выпуск металарэжучых станкоў да 70 тыс. штук у 1942 годзе супроць 36 тысяч штук у 1937 годзе, давёўшы асартымент станкоў да 800 тыпараз-мераў. Усямерна развіваць аднаўленне і мадэрнізацыю зношанага станкавага абсталявання. Падвоіць выпуск інструмента, асабліва нармалізаванага. Павялічыць выпуск пнеўматычнага, электрычнага і раду іншых відаў кваліфікаванага інструмента.

Пераадалець адноснае адставанне энергетычнага машынабудаўніцтва ад усё растучых патрэбнасцей народнай гаспадаркі СССР. Павялічыць выпуск паравых турбін у 1942 годзе ў параўнанні з 1937 годам у 5,9 раза, паравых катлоў—у 5,2 раза. Усямерна расшырыць і павялічыць удзельную вагу ў вытворчасці сярэдніх і дробных турбін магутнасцю ў 12 тысяч кіловат і ніжэй. Асвоіць вытворчасць магутных гідратурбін для Куйбышэўскага гідравузла.

Асаблівую ўвагу ўдзяліць развіццю вытворчасці лакамабіляў, стацыянарных і суднавых дызеляў, у першую чаргу быстраходных, а таксама рухавікоў, працуючых на газе. Перавесці на газагенератары ўсе машыны на лесазагатоўках, а таксама значную частку трактарнага парка сельскай гаспадаркі і аўтамабільнага парка.

Пераадалець адставанне ў вытворчасці будаўнічых і дарожных машын і механізмаў, а таксама ў выпуску будаўнічага інструмента. Усямерна развіць вытворчасць экскаватараў, землесосаў і гідрамеханізмаў.

Фарсіраваць вытворчасць складанай апаратуры і абсталявання для хімічнай прамысловасці і поўнасцю забяспечыць яе магутны рост. Асвоіць вытворчасць новых тэхнічна дасканалых, быстраходных тыпаў прадзільных і ткацкіх машын, станкоў і абсталявання для тэкстыльных, трыкатажных і абутковых фабрык, звярнуўшы асаблівую ўвагу на асваенне машын, якія аўтаматызіруюць вытворчыя пра-



цэсы, ліквідаваць адставанне вытворчасці прадзільнага абсталявання, павялічыўшы выпуск ватэраў к канцу пяцігодкі ў 6 раз (па НКАМ). Далей развіць харчовае машынабудаўніцтва, забяспечыўшы ў асаблівасці рост вытворчасці разліваўных і ўпаковачных машын. Забяспечыць марскі і акіянскі флот усімі відамі сучасных суднаў і стварыць вытворчыя магутнасці для суднабудаўніцтва, дастатковыя для забеспячэння айчыннай вытворчасцю растучых патрэбнасцей марского і рачнога транспарта СССР. Расшырыць вытворчасць апаратуры аўтаматычнага і тэлемеханічнага ўпраўлення. Расшырыць вытворчасць металургічнага абсталявання для чорнай і каляровай металургіі, а таксама вытворчасць абсталявання для механізацыі працаёмкіх работ, у прыватнасці пад'ёмна-транспартных і пагрузных машын.

4. Усямерна развіць **вугальную і нафтавую** галіны прамысловасці, якія з'яўляюцца паліўнай базай усёй народнай гаспадаркі краіны. Развіць здабычу вугалю да ўзроўню, які-б забяспечваў не толькі пакрыццё бягучых патрэбнасцей краіны, але і стварэнне гаспадарчых запасаў і дзяржаўных рэзерваў. Забяспечыць найбольш высокія тэмпы здабычы вугаляў у вугальных раёнах Урала, Падмаскоўным басейне, на Далёкім Усходзе і Сярэдняй Азіі і павялічыць у іх здабычу вугалю за трэцюю пяцігодку: па Уралу—у 3,1 раза, па Падмаскоўнаму басейну—у 3,7 раза, па Далёкаму Усходу—у 2,7 раза і па Сярэдняй Азіі—у 4,4 раза. Павялічыць здабычу бурых вугаляў за перыяд трэцяга пяцігадовага плана ў 2,6 раза. Стварыць новыя базы здабычы мясцовых вугаляў ва ўсіх раёнах краіны, дзе ёсць хоць-бы невялікія месцараджэнні і па меры іх развіцця пераводзіць прадпрыемствы мясцовай прамысловасці, комунальныя прадпрыемствы, школы, больніцы і ўстановы з дальнепрывознага на мясцовае паліва. Завяршыць комплексную механізацыю здабычы вугалю ва ўсіх вугальных раёнах краіны і арганізаваць здабычу вугалю на аснове ўнядрэння ва ўсіх вугальных раёнах краіны графіка цыклічнай работы—асновы стаханаўскай прадукцыйнасці працы шахцёраў.

Стварыць у раёне паміж Волгай і Уралам новую нафтавую базу—«Другое Баку». Праграму нафтаздабычы і нафтаперапрацоўкі забяспечыць быстрым развіццём геолага-разведачных работ і ўнядрэннем высокай тэхнікі ва ўсіх галінах нафтавай прамысловасці.

Шырокае распаўсюджанне павінна атрымаць турбіннае бурэнне, бурэнне пад ціскам, закрытая эксплаатацыя з улаўліваннем газа і здабыццём з яго бензіна і старыстанне ў перапрацоўцы нафты хімічных метадаў. Усямерна павялічыць вытворчасць высокаактанавага гаручага і высокаякасных маслаў. Пабудаваць сетку нафтаправодаў і нафтабаз, асабліва ва ўсходніх раёнах СССР.

Разгарнуць на месцах тарфяную прамысловасць, асабліва ў такіх абласцях, як Іванаўская, у мэтах скарачэння перавозак вугаляў на далёкія адлегласці, павялічыць вытворчасць тарфяных брыкетаў і абязводжанага торфу, а таксама ўсямерна ўзмацніць здабычу і скарыстанне сланцаў.

Шырока разгарнуць газіфікацыю ўсіх відаў паліва і падземную газіфікацыю вугаляў, ператварыўшы ў трэцяй пяцігодцы падземную газіфікацыю вугаляў у самастойную галіну прамысловасці. Павялічыць здабычу газа з нафтавых і чыстагазавых месцараджэнняў, а таксама за кошт падземнай газіфікацыі вугаляў за трэцюю пяцігодку ў 3,5 раза. Пабудаваць і ўвесці ў эксплаатацыю рад прамысловых станцый падземнай газіфікацыі ў Данбасе, у Падмаскоўным басейне і на Усходзе СССР, са скарыстаннем атрымліваемага газа для энерге-

тыкі, хімічнай прамысловасці і комунальнай гаспадаркі. У буйных гарадах, у першую чаргу, у Маскве і Ленінградзе, дравяное ацяпленне замяняць газавым, а таксама паравым на базе мясцовага паліва. Развіць скарыстанне коксавых і доменных газаў шляхам будаўніцтва сеткі магістральных газаправодаў, у першую чаргу ў Данбасе.

Стварыць прамысловасць штучнага вадкага паліва на аснове гідрыравання цвёрдага паліва, у першую чаргу, на Усходзе, а таксама сінтэза вадкага паліва з газа.

5. У галіне **электрагаспадаркі** ліквідаваць існуючую частковую дыспрапорцыю паміж вялікім ростам прамысловасці і недастатковым павелічэннем магутнасцей электрастанцый з тым, каб рост электрастанцый апярэджваў не толькі рост прамысловасці, але і забяспечваў стварэнне значных рэзерваў электрычных магутнасцей. У адпаведнасці з гэтым павялічыць агульную магутнасць электрастанцый за пяцігоддзе ў 2,1 раза. У будаўніцтве цеплавых электрастанцый пераёсці да невялікіх і сярэдніх электрастанцый у 25 тысяч кілоўат і ніжэй. Асудзіць, як няправільнае і шкоднае для народнай гаспадаркі, захапленне буйнымі электрастанцыямі на шкоду невялікім і сярэднім. Магутнасць раённых цеплавых электрастанцый зацвярджаць Ураду ў кожным асобным выпадку. Шырока ўнядрыць навейшую энергетычную тэхніку, высокі ціск і перагрэў пары, прымяненне навейшых цеплафікацыйных турбін і аўтаматызацыю асноўных вытворчых працэсаў электрастанцый і сеткавай гаспадаркі.

Важнейшай задачай усіх прадпрыемстваў прамысловасці, комунальнай гаспадаркі, транспарта і сельскай гаспадаркі—з'яўляецца эканомія паліва і электраэнергіі.

6.Ператварыць **хімічную прамысловасць** у адну з вядучых галін прамысловасці, поўнасцю задавальняючых патрэбнасці народнай гаспадаркі і абароны краіны. Трэцяя пяцігодка—пяцігодка хіміі. З'езд пастанаўляе павялічыць прадукцыю хімічнай прамысловасці ў 2,4 раза, гэта значыць значна вышэй росту прамысловасці ў цэлым. Значна павялічыць вытворчасць сернай і азотнай кіслаты, сінтэтычнага аміяка, штучнага валакна і пластычных мас. Стварыць новыя галіны арганічнага сінтэза (сінтэтычны спірт, уксусная кіслата і інш.) на аснове скарыстання пабочных прадуктаў нафтаперапрацоўкі, вытворчасці каучука, кокса і прыродных газаў. Забяспечыць ва ўсіх галінах хімічнай прамысловасці цвёрды тэхналагічны рэжым і няўхільнае ўнядрэнне навейшых дасягненняў: інтэнсіфікацыя хімічнай вытворчасці, пераход з перыядычнага працэса на бесперапынны, скарыстанне высокіх ціскаў, развіццё электрахімічных метадаў. Механізаваць працаёмкія работы ў хімічнай прамысловасці, развіць аўтаматызацыю вытворчасці.

7. У галіне **чорнай металургіі,** развіццё якой ва многім вызначае рост усёй прамысловасці і народнай гаспадаркі і таму патрабуе асаблівых пастаянных клопатаў аб павелічэнні вытворчых магутнасцей, дабіцца няўхільнага і сур'ёзнага ўздыму вытворчасці. Трэцяя пяцігодка—пяцігодка спецыяльных сталей. З'езд пастанаўляе павялічыць выпуск якаснага пракату ў два разы і забяспечыць рэзкае павелічэнне выпуску спецыяльных сталей: цвёрдых сплаваў, нержавеючых, кіслота і жараўпорных, інструментальных, прэцэзійных, трансфарматарных, а таксама ферасплаваў. Шырока разгарнуць выплаўку драўняна-вугальных чыгуноў з чыстых ад серы і фосфара руд. Ліквідаваць шкодніцкую спецыялізацыю пракатных станаў, якая прыводзіць да сустрэчных і дальніх перавозак металу, і забяспечыць на асноў-

ных металургічных базах краіны пракат усіх найбольш хадавых сартоў метала.

Асвоіць у прамысловым маштабе бяззліткавую пракатку метала, шырока ўнядрыць кіслароднае дуццё ў доменнай вытворчасці; арганізаваць другую базу па вытворчасці трансфарматарнага дынамнага жалеза; асвоіць і развіць у мартэнаўскіх печах выплаўку шарыкападшыпнікавай і іншых відаў высокаякаснай сталі. Асвоіць выплаўку і максімальна ўнядрыць у вытворчасць нізкалегіраваныя сталі, у першую чаргу, з прыродналегіраваных чыгуноў на рудах Халілаўскага і іншых месцараджэнняў. Развіць вытворчасць чыгунных і стальных труб шляхам цэнтрабежнага ліцця. На Урале і ў Сібіры развіць здабычу марганцавых руд да размераў, дазваляючых спыніць завоз гэтых руд з поўдня. Стварыць на Далёкім Усходзе новую металургічную базу з поўным металургічным цыклам для забеспячэння ўсіх патрэбнасцей машынабудаўніцтва на месцы. Павялічыць за пяцігоддзе ўдзельную вагу ўсходніх раёнаў Саюза ў выплаўцы чыгуна з 28 да 35 працантаў ад агульнай выплаўкі ў краіне.

8. Павялічыць вытворчасць **каляровых металаў** да размераў, якія-б забяспечвалі задавальненне быстрарастучых патрэбнасцей народнай гаспадаркі і абароны краіны. У 1942 годзе выплаўку чарнавой медзі павялічыць у 2,8 раза, выплаўку алюмінія (уключаючы сілумін) не менш чым у чатыры разы ў параўнанні з 1937 годам. Забяспечыць высокія тэмпы вытворчасці свінца, цынка, нікеля, волава, магнія, вальфрама, малібдэна і сурмы. Шырока ўнядрыць заменцелі каляровых металаў ва ўсіх галінах машынабудаўніцтва. Павесці рашучую барацьбу за эканомію каляровых і чорных металаў як за кошт зніжэння страт пры здабычы, абагачэнні і выплаўцы, так і за кошт скарачэння норм расходу метала на адзінку вырабаў, рацыянальнага скарыстання ўсіх відаў адыходаў на апрацоўчых заводах і выпуску маркіраванай сталі для будаўніцтва.

Шырока развіць вытворчасць кіслота і жараўпорных эмалей для пакрыцця апаратуры з чорных металаў і замены імі каляровых металаў.

9. Пакончыць з адставаннем **лясной прамысловасці.** Ажыццявіць шырокую комплексную механізацыю ўсіх вытворчых працэсаў лесазагатовак з шырокім прымяненнем газагенератараў і паравых рухавікоў. Максімальна скарыстаць сезонныя перавагі зімовых лесазагатовак, адначасова забяспечваючы круглагадовыя загатоўкі драўніны. Стварыць на лясных біржах вялікія запасы лесу натуральнай сушкі. Усямерна развіць папяровую і лесахімічную прамысловасць, а таксама вытворчасць спірту з апілак і адыходаў папяровай прамысловасці.

10. Усямерна павялічыць вытворчасць будаўнічых дэталей, у асаблівасці драўляных, бетонных, жалезабетонных і гіпсавых дэталей, а таксама металічных канструкцый. Забяспечыць больш высокія тэмпы вытворчасці якаснага цэменту, санітарна-тэхнічнага абсталявання, аддзелачных і abліцовачных матэрыялаў, а таксама здабычу нярудных і неметалічных выкапняў, у асаблівасці асбеста і асбеставых вырабаў.

11. З'езд пастанаўляе павялічыць вытворчасць прадметаў шырокага спажывання ў трэцяй пяцігодцы ў 1,7 раза.

**У лёгкай прамысловасці** поўнасцю скарыстаць узросшыя рэсурсы сыравіны для павелічэння вытворчасці, расшырэння асартымента і павышэння якасці прадукцыі, з адначасовым стварэннем неабходных запасаў сыравіны. Ліквідаваць дыспрапорцыю паміж падрыхтоўчымі і прадзільнымі цэхамі, а таксама паміж ткацтвам і адстаўшым

прадзеннем, тэхнічна ўдасканаліць абсталяванне ўсёй тэкстыльнай і асабліва бавaўняна-папяровай прамысловасці, унядрыць высокаскарасныя, аднапрацэсныя трапальныя і іншыя, больш дасканалыя машыны, прыборы высокіх выцяжак, аўтаматычныя ткацкія станкі, кантрольную і рэгуліруючую тэхналагічныя працэсы апаратуру.

У **харчовай прамысловасці** значна расшырыць асартымент прадукцыі, асабліва вышэйшых і першых сартоў. Павялічыць вытворчасць кансерваў малочных, гароднінных і фруктовых, выпуск таматнага і іншых сокаў, вытворчасць замарожанай гародніны і фруктаў, фабрычную вытворчасць марожанага, вытворчасць піва, вінаграднага віна і шампанскага.

Рашуча пераадалець адставанне рыбнай прамысловасці. Павялічыць улоў рыбы ва ўсіх басейнах, асабліва ў Мурманскім і Далёкаусходнім, а таксама павялічыць перапрацоўку рыбы і выпуск рыбных кансерваў. Мясцовым арганізацыям усямерна развіць унутрыабласную рыбную гаспадарку на базе вадаёмаў мясцовага значэння (рэкі, азёры, пруды).

12. Усямерна развіваць **мясцовую прамысловасць і промкааперацыю,** якія з'яўляюцца буйнай крыніцай задавальнення растучых патрэбнасцей працоўных. Лічачы недастатковым цяперашні тэмп іх росту, дабіцца на працягу пяцігоддзя павелічэння выпуску прадукцыі мясцовай прамысловасці і промкааперацыі не менш, чым у два разы, а таксама расшырэння і палепшання асартымента (асабліва мэблі, пасуды і іншых прадметаў хатняга ўжытку). Побач з павелічэннем выпрацоўкі прадметаў шырокага спажывання, што з'яўляецца асноўнай задачай мясцовай прамысловасці і промкааперацыі, неабходна ўсямерна развіваць здабычу мясцовых відаў паліва і вытворчасць будматэрыялаў.

Шырока разгарнуць сетку механізаваных майстэрняў па пачынцы абутку і вопраткі, майстэрняў па рамонту мэблі і хатняга інвентару і іншыя промыслы па ўслугах для насельніцтва.

13. Устаноўлены план росту прамысловай прадукцыі і далейшыя задачы асваення новай тэхнікі патрабуюць значнага росту прадукцыйнасці працы і сур'ёзнага зніжэння сабекошту прадукцыі. З'езд вызначае на трэцюю пяцігодку:

а) **Рост прадукцыйнасці** працы ў прамысловасці за трэцюю пяцігодку на 65 працэнтаў, што павінна забяспечыць у 1942 годзе супроць 1937 года прырост прамысловай прадукцыі толькі за кошт павелічэння прадукцыйнасці працы на 62 мільярды рублёў;

б) **Зніжэнне сабекошту** прамысловай прадукцыі за пяцігоддзе (у цэнах 1937 года) на 10%, што павінна забяспечыць дзяржаве ў 1942 годзе эканомію ў параўнанні з 1937 годам у размеры 20 мільярдаў рублёў.

Неабходна ўсямерна павышаць якасць прадукцыі ва ўсіх галінах прамысловасці. Арганізаваць рашучую барацьбу з безгаспадарчасцю, прастоямі і стратамі ў вытворчасці, знізіць нормы расходавання сыравіны, матэрыялаў, паліва і электраэнергіі; шырока скарыстоўваць адыходы вытворчасці і нізкасортную сыравіну.

Упарадкаваць справу стандартызацыі і нармалізацыі і забяспечыць больш шырокае прымяненне стандартаў у народнай гаспадарцы.

14. XVIII з'езд ВКП(б) вызначае рост прадукцыі ва ўсёй **сельскай гаспадарцы** з 20,1 мільярда рублёў у 1937 годзе (у цэнах 1926—1927 гг.) да 30,5 мільярда рублёў у 1942 годзе, г. зн. на 52 про-

цанты. Па важнейшых галінах сельскай гаспадаркі з'езд вызначае наступныя заданні:

а) Па **зернавых культурах** к канцу трэцяга пяцігоддзя забяспечыць штогодні збор 8 мільярдаў пудоў зярна пры дасягненні сярэдняй ураджайнасці ў 13 цэнтнераў.

б) Па **тэхнічных культурах** для 1942 года: цукровыя буракі—збор у 282 мільёны цэнтнераў пры ўраджайнасці ў 235 цэнтнераў з гектара; бавоўна-сырэц—32,9 мільёна цэнтнераў пры ўраджайнасці паліўной бавоўны ў 19 цэнтнераў з гектара; ільновалакно—8,5 мільёна цэнтнераў пры ўраджайнасці ў 4,6 цэнтнера з гектара і павелічэнне сярэдняга нумару ільну.

Забяспечыць значнае павелічэнне ўраджайнасці канапель. Асаблівую ўвагу звярнуць на павелічэнне прадукцыі каучуканосаў, сланечніка і іншых маслічных культур, шляхам правільнай арганізацыі насеннаводства, рацыянальнага размяшчэння па асобных раёнах, палепшання агратэхнікі.

в) Прырост **пагалоўя жывёлы** і рост таварнай прадукцыі жывёлагадоўлі ў размерах, поўнасцю забяспечваючых вырашэнне праблемы жывёлагадоўлі ў СССР. Пагалоўе коней павялічыць на 35 проц., буйнай рагатай жывёлы—на 40 проц., свіней—на 100 проц., авечак і коз—на 110 проц., звярнуўшы асаблівую ўвагу на развіццё і ўзбуйненне калгасных таварных ферм. Лічыць галоўнейшай задачай павышэнне прадукцыйнасці жывёлагадоўлі шляхам палепшання пароднасці жывёлы і карэннага палепшання племяннай справы, правільнага раяніравання парод, умацавання кармовай базы, палепшання догляду жывёлы.

г) Стварыць вакол Масквы, Ленінграда, Баку, Харкава, Кіева, прамысловых цэнтраў Данбаса, Кузбаса, Горкага, гарадоў Далёкага Усхода і ўсіх іншых вялікіх гарадоў **бульбяна-гароднінныя і жывёлагадоўчыя базы,** якія-б забяспечвалі поўнасцю снабжэнне гэтых цэнтраў гароднінай, бульбай і, у значнай ступені, малаком і мясам.

д) Забяспечыць пасевы зернавых і іншых культур выключна высокасортным і палепшаным **адборным насеннем** як селекцыйных, так і мясцовых сартоў. Унядрыць у калгасах і соўгасах правільныя севаабароты з прымяненнем травасеяння і чорных папараў, якія-б забяспечвалі значнае павелічэнне пладароднасці глебы, рост ураджайнасці і стварэнне моцнай кармовай базы для растучай жывёлагадоўлі.

е) Ліквідаваць запушчанасць землеўпарадкавальных работ і наладзіць справу землеўпарадкавання ў калгасах; перавесці землеўпарадкавальныя работы на дзяржаўны бюджэт.

ж) Завяршыць у трэцяй пяцігодцы **комплексную механізацыю** сельскагаспадарчых работ. Забяспечыць поўнае задавальненне патрэбнасці сельскай гаспадаркі ў прыцэпным інвентары адпаведна наяўнасці і тыпам трактарнага парка. Шырока ўнядрыць перадавую агратэхніку з навуковым скарыстаннем вялікага практычнага вопыту перадавікоў сельскай гаспадаркі. Звярнуць асаблівую ўвагу на механізацыю працаёмкіх працэсаў жывёлагадоўлі ў соўгасах і калгасных фермах. Шырока разгарнуць будаўніцтва дробных калгасных гідрастанцый, ветрасілавых і газагенератарных электраўстановак на мясцовым паліве.

Павялічыць вытворчасць машын і апаратуры па барацьбе са шкоднікамі і хваробамі сельскагаспадарчых раслін.

Павялічыць выпуск коннага прыцэпнага, у асаблівасці транспартнага інвентару. Забяспечыць расшырэнне вытворчасці працейшых зернаачышчальных машын.

з) Асвоіць у калгасах і соўгасах прымяненне правільнай сістэмы арганічных і мінеральных угнаенняў, звярнуўшы асаблівую ўвагу на рацыянальнае захоўванне і скарыстанне гною і іншых мясцовых угнаенняў, ліквідаваць страты мінеральных угнаенняў. Шырока ўнядрыць у практыку вапнаванне падзолістых і гіпсаванне саланцовых глебаў.

і) На аснове далейшай механізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці і росту прадукцыйнасці працы, на справе ператварыць **соўгасы** ў высокапрадукцыйныя, высокарэнтабельныя гаспадаркі, якія-б служылі прыкладам арганізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці, прыкладам высокай яе ўраджайнасці і прадукцыйнасці; павялічыць пагалоўе жывёлы ў соўгасах Наркомсоўгасаў, асабліва за кошт арганізацыі жывёлагадоўлі ў зернавых соўгасах.

15. З'езд устанаўляе рост **грузаабароту** чыгуначнага транспарта з 355 мільярдаў тона-кілометраў у 1937 годзе да 510 мільярдаў тона-кілометраў у 1942 годзе; рачнога транспарта—з 33 мільярдаў да 58 мільярдаў тона-кілометраў: марскога транспарта—з 37 мільярдаў тона-кілометраў да 51 мільярда тона-кілометраў. Важнейшай задачай транспарта з'яўляецца ўпарадкаванне планіравання грузаабароту з мэтай усямернага скарачэння дальніх чыгуначных перавозак, ліквідацыі сустрэчных і нерацыянальных перавозак і далейшага павышэння ўдзельнай вагі воднага і аўтатранспарта ў грузаабароце краіны.

Павысіць **прадукцыйнасць працы** ў трэцяй пяцігодцы на 32 проценты на чыгуначным транспарце і на 38 процантаў на водным транспарце, механізаваць пагрузачна-разгрузачныя работы на чыгуначным, водным і аўтамабільным транспартах.

16. З'езд устанаўляе наступныя заданні па чыгуначнаму транспарту на трэцюю пяцігодку:

а) Павялічыць **парк лакаматываў** на 8.000 адзінак, у тым ліку: серыі «ФД» на 1500 паравозаў, кандэнсацыйных паравозаў на 4.200, пасажырскіх паравозаў серыі «ИС» на 1.500. Кандэнсацыйныя паравозы ў бліжэйшыя годы павінны заняць вядучае месца ў грузавым парку паравозаў.

б) Павялічыць **вагонны парк** грузавых вагонаў на 225 тысяч чатырохвосных, парк пасажырскіх вагонаў—на 15 тыс. Абсталяваць аўтасцэпкай 300 тысяч вагонаў дзеючага таварнага парка і 4 тысячы пасажырскіх вагонаў. Абсталяваць аўтатармазамі 200 тысяч вагонаў дзеючага таварнага парка. Расшырыць рамонтную базу паравозаў і вагонаў, асабліва на чыгунках Урала, Сярэдняй Азіі, Сібіры, Далёкага Усхода. Падрыхтаваць вытворчую базу для рамонту кандэнсацыйных паравозаў.

в) Забяспечыць далейшую рэканструкцыю чыгуначнага транспарта і асабліва чыгуначнага пуці. У трэцім пяцігоддзі пабудаваць і здаць у эксплаатацыю 11 тысяч кілометраў чыгунак і правесці ўкладку другіх пуцей на працяжэнні 8 тысяч кілометраў.

г) **Электрыфікаваць** 1.840 кілометраў чыгунак, у першую чаргу горных чыгунак, ліній, якія маюць напружаныя размеры грузаабароту, а таксама буйнейшыя вузлы з інтэнсіўным прыгарадным рухам. Усямерна ўнядраць аўтаблакіроўку, дыспетчарскую сігналізацыю і прымяненне аўтастопаў.

д) Развіць **чыгуначныя станцыі** і вузлы, у першую чаргу на напрамках, якія звязваюць Данбас з Крывым Рогам, Ленінградам і Масквой, усходнія раёны Урала, Паўночны Край, Мурманскую вобласць з цэнтральнай часткаю СССР, Заходнюю Сібір з Сярэдняй Азіяй, на чыгунках Паўднёва-Заходніх, Заходніх і Ўсходніх.

17. З'езд устанаўляе наступныя заданні па воднаму, аўтамабільнаму і паветранаму транспарту на трэцюю пяцігодку:

а) Ліквідаваць адставанне **воднага транспарта,** павысіць яго ролю ў абслугоўванні народнай гаспадаркі, асабліва ў перавозках масавых грузаў: лес, хлеб, вугаль, нафта. Палепшыць тэхнічны стан марскога і рачнога флота, папоўніць яго больш дасканалымі тыпамі суднаў, шырока ўнядрыць газагенератарныя ўстаноўкі на рачных суднах. Расшырыць будаўніцтва суднарамонтнай базы і марскіх партоў.

Правесці шырокія мерапрыемствы па рэканструкцыі і прывядзенню ў парадак існуючых водных шляхоў, рэканструіраваць шлях Астрахань—Горкі—Рыбінск—Масква з тым, каб у канцы трэцяй пяцігодкі стварыць глыбокаводны транзітны шлях ад Астрахані да Масквы з забеспячэннем глыбіні на ўсіх перакатах не менш 2,6 метра. Разгарнуць рэканструкцыю Волга-Балтыйскага воднага шляху. Агульнае працяжэнне ўнутраных суднаходных водных шляхоў павялічыць за пяцігоддзе з 102 тысяч кілометраў да 115 тысяч кілометраў.

У трэцім пяцігоддзі распрацаваць схему комплекснай рэканструкцыі рэк: Волгі, Дона і Дняпра, падрыхтаваць мерапрыемствы па падтрыманню ўзроўню Каспійскага мора і прыступіць да будаўніцтва Волга-Донскага злучэння.

Ператварыць к канцу трэцяй пяцігодкі **Паўночны Марскі Шлях** у нармальна дзеючую водную магістраль, якая-б забяспечвала планамерную сувязь з Далёкім Усходам.

б) Арганізаваць рэгулярны рух **аўтамабільнага транспарта** на аўтамагістралях, трактах і грузанапружаных пад'ездах да гарадоў, чыгуначных станцый і водных шляхоў. Забяспечыць неабходную рамонтную базу для аўтатранспарта. Развіць будаўніцтва гаражоў і безгаражных стаянак, станцый абслугоўвання і калонак па запраўцы аўтамабіляў. Павялічыць аўтаперавозкі за пяцігоддзе ў 4,6 раза. Усямерна развіць вытворчасць і прымяненне аўтапрыцэпаў у грузавым аўтатранспарце. Пабудаваць і рэканструіраваць 210 тысяч кілометраў дарог, рашуча павялічыўшы ў параўнанні з другой пяцігодкай удзельную вагу будаўніцтва ўдасканаленых гудраніраваных, асфальта-бетонных і бетонных дарог.

Адначасова звярнуць асаблівую ўвагу на падтрыманне ў належным парадку існуючых дарог, ажыццяўляючы своечасова неабходны бягучы і аднаўленчы іх рамонт.

в) Сканцэнтраваць работу грамадзянскай авіяцыі на асноўных дзяржаўных лініях. Падняць тэхнічнае абсталяванне паветраных магістралей, расшырыўшы і палепшыўшы наземныя збудаванні.

18. З'езд падкрэслівае неабходнасць большага развіцця ўсіх відаў **сувязі,** асабліва міжгародняй.

Завяршыць устанаўленне прамой тэлефоннай сувязі паміж Масквой і ўсімі рэспубліканскімі, краявымі і абласнымі цэнтрамі, а таксама дапоўніць радыяльную сістэму вузлавой сістэмай сувязі паміж буйнейшымі цэнтрамі СССР. Поўнасцю завяршыць тэлефанізацыю раённых цэнтраў, сельсоветаў, МТС і соўгасаў. Павялічыць




у 2,3 раза колькасць прыёмных радыётрансляцыйных точак. Пабудаваць у радзе буйных гарадоў тэлевізійныя цэнтры.

19. Важнейшай умовай выканання заданняў праграмы росту вытворчасці ў трэцяй пяцігодцы з'яўляецца падрыхтоўка кваліфікаваных **рабочых кадраў, тэхнікаў і інжынераў,** а таксама шырокае разгортванне работ па ўнядрэнню навейшай тэхнікі і навуковай арганізацыі вытворчасці. З'езд лічыць неабходным прадугледзець у трэцім пяцігадовым плане:

а) Разгортванне шырокай сеткі школ і курсаў па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы кваліфікаваных рабочых і майстраў соцыялістычнай працы.

б) Выпуск 1,4 мільёна тэхнікаў розных спецыяльнасцей і 600 тысяч спецыялістаў з вышэйшай асветай.

## III. План новага будаўніцтва і яго размяшчэння ў трэцяй пяцігодцы.

1. У адпаведнасці з планам росту вытворчасці, XVIII з'езд ВКП(б) устанаўляе аб'ём **капітальных работ** па народнай гаспадарцы ў трэцяй пяцігодцы ў размеры 192 мільярдаў рублёў (у існуючых каштарысных цэнах) супроць 114,7 мільярда рублёў за другую пяцігодку, з іх:

а) У **прамысловасць**—111,9 мільярда рублёў супроць 58,6 мільярда рублёў у другой пяцігодцы, у тым ліку: па прамысловасці, якая вырабляе сродкі вытворчасці,—93,9 мільярда рублёў супроць 49,8 мільярда рублёў за другую пяцігодку, або рост на 89 процантаў; па прамысловасці, якая вырабляе сродкі шырокага спажывання,—18 мільярдаў рублёў супроць 8,8 мільярда рублёў у другой пяцігодцы, або рост на 105 процантаў.

б) У **транспарт**—37,3 мільярда рублёў супроць 20,7 мільярда рублёў у другой пяцігодцы, або рост на 80 процантаў.

в) У **сельскую гаспадарку**—11 мільярдаў рублёў, у тым ліку: у МТС—5,2 мільярда рублёў, на ірыгацыю і меліярацыю—1,3 мільярда рублёў і, апрача таго, на прырост пагалоўя жывёлы ў соўгасах—2,5 мільярда рублёў. Капітальныя ўкладанні ў сельскую гаспадарку ў саміх калгасах у трэцяй пяцігодцы складуць да 24 мільярдаў рублёў.

2. З'езд зацвярджае **ўвод у дзеянне** новых і рэканструіраваных прадпрыемстваў у трэцяй пяцігодцы коштам 193 мільярды рублёў (у існуючых каштарысных цэнах) супроць 103 мільярдаў рублёў у другой пяцігодцы.

З'езд адзначае, што ўстаноўлены аб'ём капітальных работ і праграма ўводу ў дзеянне новых і рэканструіраваных прадпрыемстваў забяспечваюць далейшы вялікі рост вытворча-тэхнічнай базы СССР і ўтварэнне неабходных рэзерваў магутнасцей у важнейшых галінах народнай гаспадаркі. У трэцяй пяцігодцы **вытворчыя магутнасці** вырастаюць: па электрастанцыях з 8,1 мільёна кіловат на канец другой пяцігодкі да 17,2 мільёна кіловат у трэцяй пяцігодцы; па вугальнай прамысловасці—у 1,8 раза з давядзеннем к канцу трэцяй пяцігодкі магутнасці шахт да 335 мільёнаў тон вугалю; па чорнай металургіі (чыгун)—да 25 мільёнаў тон; па каляровай металургіі (медзь)—у 2,4 раза; па алюмінію—у 3,8 раза; па аўтамабільнай прамысловасці—амаль у два разы; па бавоўняна-папяровай прамысловасці (верацёны)—у 1,5 раза.

3. З'езд лічыць, што ў **размяшчэнні новага будаўніцтва** ў трэцяй пяцігодцы па раёнах СССР неабходна выходзіць з наблiжэння прамысловасці да крыніц сыравіны і раёнаў спажывання ў мэтах ліквідацыі нерацыянальных і празмерна дальніх перавозак, а таксама—далейшага ўздыму ў мінулым эканамічна адсталых раёнаў СССР. У адпаведнасці з гэтым у трэцім пяцігадовым плане неабходна:

а) У **асноўных эканамічных раёнах** Саюза забяспечыць комплекснае развіццё гаспадаркі і арганізаваць здабычу паліва і вытворчасць такіх відаў прадуктаў, як цэмент, алебастр, хімічныя ўгнаенні, шкло, масавыя вырабы лёгкай і харчовай прамысловасці ў размерах, якія-б забяспечвалі патрэбнасць гэтых раёнаў. Асаблівае значэнне мае забеспячэнне на месцы палівам і некаторымі труднымі для перавозкі прадуктамі тых буйных прамысловых раёнаў, залежнасць якіх ад дальняга прывозу вялікай колькасці грузаў павялічылася ў сувязі з іх прамысловым ростам і быстрым павелічэннем гарадскога насельніцтва.

Такія прадукты харчавання, якія спажываюцца ўсюды ў масавай колькасці, як бульба, гародніна, малочныя і мясныя прадукты, мука, кандзіцерскія вырабы, піва, а таксама рад прамысловых вырабаў масавага спажывання—галантарэя, вырабы швейнай прамысловасці, мэбля, цэгла, вапна і т. д., павінны ў дастатковай колькасці вытварацца ў кожнай рэспубліцы, краі і вобласці.

Забяспечыць належны кантроль за выкананнем рашэнняў ЦК ВКП(б) і СНК СССР аб забароне будаўніцтва новых прадпрыемстваў у Маскве і Ленінградзе, а таксама пашырыць гэтую пастанову на Кіеў, Харкаў, Растоў-на-Дану, Горкій, Свердлоўск, у якіх у далейшым забараніць будаўніцтва новых прадпрыемстваў.

б) У такіх **эканамічных ачагах** краіны, як усходнія раёны, Урал і Паваложжа, у трэцяй пяцігодцы стварыць прадпрыемствы-дублёры па раду галін машынабудаўніцтва, нафтаперапрацоўкі і хіміі, каб устараніць выпадковасці ў снабжэнні некаторымі прамысловымі прадуктамі з прадпрыемстваў-унікумаў.

в) Прадугледзіць больш быстры рост аб'ёму капітальных работ і будаўніцтва новых прадпрыемстваў ва **ўсходніх і далёкаўсходніх** раёнах Саюза ССР. Прадаўжаць усямерна развіццё металургічнай базы ў гэтых раёнах, для чаго з агульнай колькасці доменных печаў тры чверці іх пабудаваць у трэцяй пяцігодцы ва ўсходніх раёнах краіны.

Стварыць новую буйную вытворчую базу тэкстыльнай прамысловасці на ўсходзе СССР з перапрацоўкай сярэднеазіяцкай бавоўны. На Далёкім Усходзе прадугледзець быстрыя тэмпы развіцця здабычы вугалю, а таксама цэменту ў размерах, якія-б забяспечвалі поўнасцю яго патрэбнасці.

г) Забяспечыць далейшы гаспадарчы і культурны ўздым **нацыянальных рэспублік і абласцей,** у адпаведнасці з асноўнымі задачамі размяшчэння прадукцыйных сіл у трэцяй пяцігодцы.

4. З'езд лічыць неабходным у трэцяй пяцігодцы сканцэнтраваць увагу на наступных важнейшых будоўлях:

а) У **машынабудаўніцтве,** у адпаведнасці з устаноўленай на трэцюю пяцігодку праграмай вытворчасці, якая значна перавышае агульны тэмп уздыму прамысловасці, шырока разгарнуць будаўніцтва і паскорыць увод у дзеянне новых заводаў, у асаблівасці станкабудаўнічых і энергетычнага абсталявання. Закончыць будаўніцтва трох заводаў цяжкага станкабудаўніцтва, завода фрэзерных станкоў у Гор-

кім, станкоў-аўтаматаў у Кіеве і разгарнуць будаўніцтва раду новых станкабудаўнічых заводаў сярэдняй магутнасці па вытворчасці шліфавальных, зубарэзных, прадольна-стругальных станкоў, карусельных, расточных і станкоў-аўтаматаў, а таксама заводаў кузнечнапрэсавага абсталявання. Пабудаваць на працягу трэцяй пяцігодкі і ўвесці ў дзеянне 4 заводы паравых турбін, у тым ліку заводы ў раёнах Свярдлоўска, Уфы, Новасібірска і Калугі. Апрача таго, пачаць будаўніцтва завода паравых турбін у раёне Новачэркаска і завода гідратурбін у раёне Куйбышэва. У адпаведнасці з заводамі паравых турбін пабудаваць і ўвесці ў дзеянне заводы котлабудаўніцтва і дапаможнага энергетычнага абсталявання, у тым ліку кацельны завод у Орску. Арганізаваць масавую вытворчасць ветрарухавікоў. Закончыць будаўніцтва Горкаўскага і Маскоўскага аўтазаводаў. Пабудаваць завод малалітражных аўтамабіляў, рад новых аўтазборачных заводаў (у тым ліку на Далёкім Усходзе) і разгарнуць будаўніцтва новых заводаў грузавых аўтамашын у Сібіры, а таксама раду сумежных прадпрыемстваў аўтапрамысловасці і аўтарамонтных баз. Стварыць на Усходзе базу па вытворчасці сельскагаспадарчых машын і па зборцы і рамонту трактараў. Пабудаваць завод тэкстыльных машын у Курску і ў Заходняй Сібіры. Закончыць будаўніцтва Саратаўскага шарыкападшыпнікавага завода і разгарнуць будаўніцтва двух новых шарыка- і ролікападшыпнікавых заводаў. Пабудаваць завод паперараробчых машын. Пачаць будаўніцтва новага паравозабудаўнічага завода. Пабудаваць два-тры заводы цяжкага і сярэдняга хімічнага машынабудаўніцтва. Фарсіраваць будаўніцтва пачатых заводаў марскога і акіянскага суднабудаўніцтва і, апрача таго, пачаць будаўніцтва новых заводаў марскога і рачнога суднабудаўніцтва.

б) У галіне **электрыфікацыі** важнейшай часткай будаўнічай праграмы з'езд лічыць прырост магутнасцей за кошт будаўніцтва новых невялікіх і сярэдніх электрастанцый, а таксама ўзмацненне будаўніцтва гідраэлектрастанцый. Разгарнуць будаўніцтва найвялікшага ў свеце збудавання—двух Куйбышэўскіх гідрастанцый агульнай магутнасцю ў 3,4 мільёна кіловат, якое аднача̃сова вырашае праблему абваднення засушлівых зямель для дасягнення ўстойлівых ураджаяў у Заваложжы і справу суднаходства па Волзе і Каме. Пачаць таксама будаўніцтва Калужскай гідраэлектрастанцыі на р. Ока. Закончыць будаўніцтва і ўвесці ў дзеянне наступныя гідрастанцыі: Угліцкую, Рыбінскую, дзве Чырчыкскія, Канакірскую, Свір—2, Храмскую, Ніва—3, Сухумскую і інш. Прыступіць да будаўніцтва новых гідрастанцый: Верхне-Камскай, Мінгічаурскай, Усць-Каменагорскай, Гюмушскай, а таксама шырока разгарнуць будаўніцтва невялікіх мясцовых гідрастанцый, у тым ліку ў раёнах Урала, на рэках Тура, Уфа, Чусавая, Белая, Міяс і інш., а таксама на Паўночным Данцы.

У мэтах эканоміі паліва шырока развіць будаўніцтва невялікіх ветраэлектрастанцый. Прадугледзець будаўніцтва 102 раённых цеплавых электрастанцый з уводам у дзеянне: Курахаўскай, Несветаеўскай, некалькіх ЦЭЦ у Маскве і Ленінградзе, Чэлябінскай ЦЭЦ, Сумгаіцкай, Комсамольскай, Кіеўскай, Нікалаеўскай, Кірава-Чэпецкай, Сызранскай, Орскай, Карагандзінскай, Краснаярскай, Хабараўскай, Кувасайскай, Краснадарскай і іншых. Пабудаваць у раёне Іванава новую цеплаэлектрастанцыю на торфе для тэкстыльнай прамысловасці.

Усямерна развіць будаўніцтва высокавольтных электрасетак і падстанцый.

Агульны прырост магутнасцей па электрабудаўніцтву за трэцюю



пяцігодку вызначыць у 9 мільёнаў кіловат, забяспечыўшы стварэнне ў прамысловых раёнах пастаяннага энергетычнага рэзерва магутнасцю ў 10—15 процантаў.

в) У **вугальнай прамысловасці** разгарнуць будаўніцтва шахт як па здабычы каменнага вугалю, так і па здабычы бурага вугалю. Асвоіць новыя раёны здабычы вугалю, асабліва на Урале, у Татарскай і Башкірскай АССР, Усходняй Сібіры, на Далёкім Усходзе, у Казахскай ССР, на Украіне, у Кіргізскай і Таджыкскай ССР. Будаваць, галоўным чынам, шахты сярэдняй і невялікай магутнасці, усямерна скарачаючы і паскараючы тэрміны будаўніцтва. Усяго за пяцігоддзе закласці новых каменнавугальных шахт на агульную магутнасць 170 мільёнаў тон, з уводам у дзеянне 160 мільёнаў тон.

У **нафтавай прамысловасці** забяспечыць увод у дзеянне новых магутнасцей нафтаперапрацоўчых заводаў на 15 мільёнаў тон і, апрача таго, крэкінг-установак на 4,5 мільёна тон. Рашаючай задачай у трэцяй пяцігодцы лічыць стварэнне яшчэ адной магутнай нафтавай базы ў раёне паміж Волгай і Уралам, пабудаваўшы ў ім нафтаперапрацоўчыя заводы на магутнасць 6 мільёнаў тон. Забяспечыць разгортванне геолага-пошукавых і разведачных работ у новых раёнах здабычы нафты: паміж Волгай і Уралам, у Сібіры, на Далёкім Усходзе, на Украіне, у Сярэдняй Азіі і Казахскай ССР.

Па **тарфяной і сланцавай** прамысловасці забяспечыць неабходны рост капітальных работ. Прадугледзець будаўніцтва заводаў штучнага абязводжвання торфу, якое кладзе аснову для ліквідацыі сезоннасці торфаздабычы. Ажыццявіць будаўніцтва двух-трох коксавых заводаў, прадугледзеўшы выпрацоўку на іх таксама хімічных прадуктаў.

г) У **чорнай металургіі** закончыць будаўніцтва Магнітагорскага камбіната ў саставе 6 домнаў і двух блюмінгаў, Ніжне-Тагільскага і Петроўска-Забайкальскага заводаў, Амурстальбуда, Запарожсталі, Азоўсталі, Крываржскага, Нова-Маскоўскага бляхакатальнага, Нова-Уральскага і Нікопальскага трубных заводаў. Пачаць будаўніцтва новых металургічных заводаў на Паўднёвым Урале (на халілаўскіх і бакальскіх рудах) і ва Усходняй Сібіры, завода зварных труб на Урале, аднаго трубапракатнага завода ў Сібіры і трубаліцейнага завода ў Цэнтры. На базе скарыстання лому і металаадыходаў разгарнуць будаўніцтва невялікіх пераробчых заводаў для мясцовых патрэбнасцей у раёнах Сярэдняй Азіі і Закаўказзя. Для палепшання падрыхтоўкі руд да плаўкі пабудаваць не менш 17 агламерацыйных лент. На ўсіх дзеючых заводах завяршыць механізацыю працаёмкіх работ і шырока ўнядрыць аўтаматызацыю вытворчасці. Для палепшання якасці пракату даабсталяваць пракатныя цэхі ўсіх заводаў неабходнымі аддзелачнымі ўстройствамі. Усяго за трэцюю пяцігодку пабудаваць 20 доменных печаў і аднавіць тры драўняна-вугальныя доменныя печы на Урале.

Прыступіць да будаўніцтва шахт у раёне Курскай магнітнай анамаліі, як дадатковай базы чорнай металургіі Цэнтра, і правесці падрыхтоўчыя мерапрыемствы да будаўніцтва металургічнага завода ў раёне Курскай магнітнай анамаліі.

Закончыць прамысловую разведку Атасуйскіх і Карсакпайскіх месцараджэнняў.

д) У **каляровай металургіі** закончыць будаўніцтва Прыбалхашскага медзеплавільнага камбіната, Сярэдне-Уральскага і Блявінскага камбінатаў. Разгарнуць будаўніцтва Джэзказганскага, Алма-

лыкскага медзеплавільных камбінатаў, а таксама свінцовых і цынкавых заводаў на Алтаі. Увесці ў дзеянне Уральскі алюмініевы камбінат, алюмініевыя заводы ў Кандалакшы і Кузбасе і прыступіць да будаўніцтва іншых алюмініевых заводаў. Увесці ў дзеянне Ціхвінскі гліназёмны завод, Паўднёва-Уральскі і Паўночны нікелевыя камбінаты. Пачаць будаўніцтва раду новых прадпрыемстваў па вытворчасці свінца, цынка, волава, вальфрама і малібдэна. Пабудаваць заводы каляровага пракату і біметала, а таксама па перапрацоўцы алюмініевых і магніевых сплаваў.

е) У **хімічнай прамысловасці** разгарнуць будаўніцтва новых сернакіслотных заводаў, галоўным чынам, на базе скарыстання адыходзячых газаў каляровай металургіі і электрастанцый, тукавых камбінатаў, содавых заводаў, заводаў сінтэтычнага каучука і шынных заводаў з уводам у дзеянне 13—15-ці заводаў СК, 9 кордных і 16 шынных заводаў, расканцэнтраваных па краіне. Пабудаваць 2 заводы штучнага вадкага паліва, 2 рэгенератарныя заводы, 15 рэгенератарных цэхаў пры шынных заводах і 2—3 заводы асбеставых вырабаў.

Стварыць вытворчую базу, якая-б поўнасцю забяспечвала перапрацоўку каучуканосаў.

ж) Спыніць завоз **цэменту** з Еўрапейскай часткі СССР ва ўсходнія раёны і рэспублікі Сярэдняй Азіі, для чаго пабудаваць новыя цэментныя заводы сярэдняй і невялікай магутнасці ўсяго на 4,8 мільёна тон, у тым ліку ў раёнах Далёкага Усхода, Сібіры, Казахскай ССР, рэспублік Сярэдняй Азіі і на Урале.

з) Разгарнуць **геолага-разведачныя** работы, якія-б забяспечвалі прамысловымі запасамі сыравіны дзеючыя і будуючыяся ў трэцім пяцігоддзі прадпрыемствы і стваралі пераходзячыя на наступныя годы рэзервы новых прамысловых запасаў ва ўсіх раёнах Саюза.

і) У **лясной прамысловасці** закончыць будаўніцтва і ўвесці ў дзеянне Салікамскі, Кандапожскі, Камскі, Марыйскі, Краснаярскі, Саламбальскі, Архангельскі, Льгоўскі, Комсамольскі, Котласкі цэлюлозна-папяровыя камбінаты і фабрыку газетнай паперы ў раёне Кірава. Разгарнуць будаўніцтва новых цэлюлозна-папяровых, лесахімічных, фанерных, дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў і заводаў гідроліза драўніны. Прадугледзець быстрае развіццё лесазагатовак у паўночных і паўночна-заходніх раёнах Еўрапейскай часткі Саюза, на Урале і на Далёкім Усходзе. Узмацніць магутнасць лесапільна-дрэваапрацоўчай прамысловасці на Еўрапейскай поўначы, у Сібіры, на Далёкім Усходзе. Спыніць завоз лесу з Сібіры ў Еўрапейскую частку Саюза.

к) У **лёгкай прамысловасці** ўвесці ў дзеянне новыя баваўняна-папяровыя фабрыкі ў Барнауле, Новасібірску і ў Кузбасе, а таксама ажыццявіць будаўніцтва невялікіх прадзільных фабрык у старых тэкстыльных раёнах для ліквідацыі дыспрапорцыі паміж прадзеннем і ткацтвам, увесці ў дзеянне другую чаргу Ташкенцкага баваўняна-папяровага камбіната, Ленінаканскую прадзільную фабрыку, Кіеўскі і Семіпалацінскі суконныя камбінаты, заводы гумавай падэшвы ў Калініне і штучнай скуры ў Казані. Разгарнуць будаўніцтва новых тэкстыльных фабрык у рэспубліках Сярэдняй Азіі, у Заходняй Сібіры і Казахскай ССР, а таксама будаўніцтва раду новых трыкатажных і чулочных фабрык, невялікіх ільняных камбінатаў, скураных заводаў, абутковых і шаўковых фабрык і прадпрыемстваў шкляной тары.

л) У **харчовай прамысловасці** поўнасцю закончыць будаўніцтва і ўвод у дзеянне мясакамбінатаў у Орску, Энгельсе, Улан-Удэ, Іркуцку, Хабараўску, Свердлоўску, Іванава, Нальчыку, Куйбышэве, Днепрапятроўску, Варашылаўградзе, Ашхабадзе, Сталінабадзе; цукровых заводаў у Елань-Калена, Жэрдзеўцы, Совецкім (Курская вобласць), Алма-Аце, Нова-Троіцку, Гнівані (Вінніцкая вобласць), Шполе (Кіеўская вобласць) і аднаго цукровага завода ў Армянскай ССР. Пабудаваць рад новых спіртазаводаў, маслазаводаў, заводаў згушчонага і сухога малака, кандзіцерскіх і чайных фабрык. Разгарнуць будаўніцтва новых мясакамбінатаў сярэдняй магутнасці, цукразаводаў, хлебазаводаў і халадзільнікаў, табачных фабрык і мылаварaных заводаў.

У **рыбнай прамысловасці** павялічыць марскі рыбалоўны флот і закончыць будаўніцтва рыбных камбінатаў у Комсамольску, Хабараўску, Маскве і ў Муйнаку; халадзільнікаў—у Балхашы, Мангістау, Ахтарах, Соўгавані, Петрапаўлаўску-на-Камчатцы і 20 дробных халадзільнікаў у ДВК; суднаверфей—у Мурманску, Нікалаеўску-на-Амуры і Петрапаўлаўску-на-Камчатцы. Прадугледзець больш быстрыя тэмпы асваення раёнаў Камчаткі, Охоцка і Аянска як Наркаматам рыбнай прамысловасці, так і краявымі і абласнымі арганізацыямі.

м) У **мясцовай прамысловасці** і промкааперацыі разгарнуць будаўніцтва дробных прадпрыемстваў на базе мясцовай сыравіны і мясцовага паліва.

н) У **гарадскім будаўніцтве** забяспечыць разгортванне работ па жыллёваму будаўніцтву і па добраўпарадкаванню гарадоў і прамысловых цэнтраў. Пабудаваць новыя вадаправоды ў 50 гарадах, каналізацыю—у 45 гарадах, трамвай—у 8 гарадах.

Развіць газіфікацыю гарадской гаспадаркі. Павялічыць лік новых трамвайных вагонаў на 2900 адзінак, забяспечыўшы вытворчасць 4-восных вагонаў навейшай канструкцыі для Масквы, Ленінграда, Кіева і іншых буйных гарадоў СССР. Асаблівую ўвагу звярнуць на развіццё гарадскога і міжгародняга аўтатранспарта, павялічыўшы лік аўтобусаў на 27 тыс. адзінак, і максімальна развіць прымяненне таксі, пасажырскіх і грузавых. Расшырыць у Маскве, Ленінградзе, Кіеве і іншых вялікіх гарадах тралейбусны рух і ў адпаведнасці з гэтым павялічыць вытворчасць тралейбусаў, у прыватнасці, арганізаваць масавы выпуск двухпавярховых тралейбусаў.

Забяспечыць далейшае развіццё і рэканструкцыю Масквы і Ленінграда ў адпаведнасці з прынятымі планамі. Закончыць будаўніцтва трэцяй чаргі метро ў Маскве.

Закончыць к канцу трэцяй пяцігодкі асноўныя будаўнічыя работы па збудаванню Палаца Саветаў.

о) У галіне **сельскай гаспадаркі** ажыццявіць будаўніцтва 1.500 МТС як за кошт новых, так і за кошт разбуйнення старых МТС. Забяспечыць неабходную рамонтную базу для трактараў, камбайнаў і іншых сельскагаспадарчых машын. Разгарнуць у соўгасах будаўніцтва жывёлагадоўчых будынкаў у размерах поўнага забеспячэння ўтрымання жывёлы.

Па ірыгацыі і меліярацыі закончыць усе пачатыя работы па буйнаму ірыгацыйнаму і асушальнаму будаўніцтву: Вахш, Калхіда, Невіннамыскі канал, Мургабскі аазіс. Прыступіць да будаўніцтва абваднялънай сістэмы ў Заваложжы. Умацаваць вытворча-тэхнічную базу ў сельскай гаспадарцы раёнаў засухі.

п) Пабудаваць сетку новых зернавых **элеватараў і складаў** на агульную магутнасць звыш 10 мільёнаў тон прадуктаў, забяспечыўшы поўную ліквідацыю ўжо ў першай палавіне трэцяй пяцігодкі захоўвання хлеба ў бунтах.

5. У мэтах паскарэння тэрмінаў будаўніцтва і ўводу ў дзеянне вытворчых магутнасцей, а таксама расканцэнтравання новых прадпрыемстваў па асноўных эканамічных раёнах краіны, XVIII з'езд ВКП(б) патрабуе рашучай **барацьбы з гігантаманіяй** у будаўніцтве і шырокага пераходу да пабудовы сярэдніх і невялікіх прадпрыемстваў ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі Саюза ССР. У прамысловым будаўніцтве не дапускаць пабудовы прадпрыемстваў з празмернавузкай спецыялізацыяй і арганізаваць кааперыраванне прадпрыемстваў унутры эканамічных раёнаў.

З'езд звяртае ўвагу на неабходнасць рашучага ўнядрэння ў практыку **скарасных метадаў будаўніцтва,** для чаго патрабуецца развіццё будаўнічай індустрыі, усямернае ўмацаванне тэрытарыяльных будаўнічых арганізацый, ператварэнне будаўнічай індустрыі з адстаючай у перадавую галіну народнай гаспадаркі, з шырокім развіццём комплекснай механізацыі і прымяненнем стандартных будаўнічых дэталей і канструкцый, пабудаваўшы неабходныя для гэтага прадпрыемствы.

Для выканання намечанай праграмы будаўнічых работ вызначыць на трэцюю пяцігодку рост **прадукцыйнасці працы** ў будаўніцтве на 75 процантаў і зніжэнне кошту будаўнічых работ к канцу трэцяй пяцігодкі на 12 процантаў супроць узроўню канца другой пяцігодкі.

## IV. План далейшага павышэння матэрыяльнага і культурнага ўзроўню працоўных у трэцяй пяцігодцы.

Выкананне першай і другой пяцігодкі азначала не толькі велізарны ўздым і соцыялістычнае пераўтварэнне народнай гаспадаркі разам з умацаваннем абараназдольнасці Совецкага Саюза, але і вялікі ўздым матэрыяльна-культурнага ўзроўню народаў СССР.

Трэцяя пяцігодка павінна забяспечыць яшчэ больш высокае задавальненне патрэб і запросаў працоўных у неабходных таварах, прадуктах, жыллі, у бытавым і культурным абслугоўванні насельніцтва. Выкананне трэцяй пяцігодкі забяспечвае, апрача таго, новы буйнейшы крок уперад у стварэнні магутнай матэрыяльнай базы для далейшага развіцця прадукцыйных сіл, дабрабыту і культуры соцыялістычнага грамадства ў СССР. Цяпер справа ідзе не аб знішчэнні беспрацоўя і ліквідацыі нішчаты ў вёсцы,—з гэтым мы ўжо справіліся поўнасцю і назаўсёды. Цяпер задача заключаецца ў стварэнні такога дабрабыту і павышэння культурнасці працоўных, якія адпавядаюць узросшым запросам совецкага народа, якія недасягальны для самых багатых краін капіталізма і азначаюць пачатак сапраўднага росквіту сіл соцыялізма, росквіту новай, соцыялістычнай культуры.

XVIII з'езд ВКП(б) устанаўляе на трэцюю пяцігодку наступныя заданні ў галіне павышэння матэрыяльнага і культурнага ўзроўню рабочых і працоўных вёскі.

1. а) Павелічэнне **спажывання працоўных** СССР больш, чым у паўтара раза, у адпаведнасці з ростам даходаў рабочых, сялян і служачых.

б) Павелічэнне **колькасці рабочых і служачых** к канцу трэцяй пяцігодкі па ўсіх галінах народнай гаспадаркі на 21 процант у параўнанні з 1937 годам, сярэдняй заработнай платы на 37 процантаў і фонда заработнай платы на 67 процантаў.

в) Павышэнне дзяржаўных расходаў на **культурна-бытавое абслугоўванне** працоўных горада і вёскі, г. зн. расходаў па соцыяльнаму страхаванню і затратах дзяржавы па асвеце, ахове здароўя, дапамозе многадзетным мацерам і на культурна-бытавое абслугоўванне рабочых і служачых, апрача дзяржаўных затрат на жыллёвае і комунальнае будаўніцтва—да 53 мільярдаў рублёў супроць 30,8 мільярда рублёў у 1937 годзе,—рост больш чым у 1,7 раза.

г) Значнае павелічэнне **даходаў калгаснікаў** у рэзультаце росту прадукцыйнасці працы ў калгасах, уздыму ўраджайнасці ўсіх сельскагаспадарчых культур і павелічэння прадукцыйнасці жывёлагадоўлі.

д) Правядзенне шырокага круга мерапрыемстваў для сур'ёзнага прасоўвання ўперад у ажыццяўленні гістарычнай задачы—падняцця **культурна-тэхнічнага ўзроўню рабочага класа СССР** да ўзроўню работнікаў інжынерна-тэхнічнай працы.

е) Ажыццяўленне ўсеагульнага **сярэдняга навучання** ў горадзе і завяршэнне ў вёсцы і ва ўсіх нацыянальных рэспубліках усеагульнага сямігадовага сярэдняга навучання з расшырэннем ахвату дзяцей дзесяцігадовым навучаннем з тым, каб павялічыць колькасць навучаючыхся ў пачатковых і сярэдніх школах у гарадах і рабочых пасёлках з 8,6 да 12,4 мільёна, а ў сельскіх мясцовасцях—з 20,8 да 27,7 мільёна.

ж) Кантынгент навучаючыхся ў ВНУ і ВТНУ падняць да 650 тысяч чалавек з тым, каб галоўная ўвага ў бліжэйшыя **годы** **была** звернута на павышэнне якасці вышэйшай асветы.

з) Павелічэнне **сеткі кінотэатраў, клубаў, бібліятэк,** дамоў культуры і чытальняў з шырокай арганізацыяй і павелічэннем у шэсць раз стацыянарных і іншых гукавых кіноўстановак.

і) Значнае ўзмацненне работы па **ахове здароўя** працоўных, па палепшанню больнічнай дапамогі, па расшырэнню санітарна-прафілактычных мерапрыемстваў, па аказанню радзільнай дапамогі рожаніцам і расшырэнню дзіцячых больніц, па падняццю аховы працы і арганізацыі рабочага адпачынку і фізкультуры, з павелічэннем дзяржаўных затрат на ахову здароўя з 10,3 мільярда рублёў у 1937 годзе да 16,5 мільярда рублёў у 1942 годзе. Колькасць месц у пастаянных яслях і дзіцячых садах павялічыць у 1942 годзе да 4,2 мільёна супроць 1,8 мільёна ў 1937 годзе.

к) Узмацненне **жыллёвага будаўніцтва** ў гарадах і рабочых пасёлках з уводам у дзеянне за трэцюю пяцігодку 35 мільёнаў квадратных метраў новай жылой плошчы.

2. У мэтах павышэння матэрыяльнага ўзроўню жыцця працоўных забяспечыць у трэцяй пяцігодцы ўсямернае развіццё культурнага савецкага гандлю і ў адпаведнасці з гэтым устанавіць:

а) Павелічэнне аб'ёму дзяржаўна-кааператыўнага **тавараабароту** ў 1942 годзе да 206 мільярдаў рублёў супроць 126 мільярдаў рублёў у 1937 годзе, з павелічэннем абароту сталовых, рэстаранаў, кафэ і буфетаў у два разы.

б) Рост рознічнай дзяржаўна-кааператыўнай **гандлёвай сеткі** на 38 процантаў з палепшаннем усёй гандлёвай справы (халадзільная

гаспадарка, будаўніцтва гандлёвых баз і складаў, дастаўка і завоз тавараў), з асаблівым развіццём у быстра растучых сельскагаспадарчых раёнах сеткі крам і магазінаў з таварамі, абслугоўваючымі насеўшыя бытавыя, рамонтныя і будаўнічыя патрэбы сялян.

3. З'езд вызначае рост народнага даходу за трэцюю пяцігодку ў 1,8 раза і ўстанаўляе ў сувязі з гэтым поўную магчымасць забяспечыць растучымі даходамі насельніцтва і дзяржавы як патрэбы народнага спажывання, так і дзяржаўныя патрэбы ў развіцці народнай гаспадаркі, умацаванні абароназдольнасці і стварэнні неабходных дзяржаўных рэзерваў.

Велізарны ўздым усіх галін народнай гаспадаркі патрабуе далейшага палепшання ўсёй работы па планіраванню народнай гаспадаркі і арганізацыі ўчоту. Цэнтральнай задачай перабудовы планавай работы з'яўляецца арганізацыя праверкі выканання планаў з тым, каб папярэджваць узнікненне дыспрапорцый у гаспадарцы, ускрываць новыя рэзервы для выканання планаў і ў адпаведнасці з рэзультатамі фактычнага выканання планаў уносіць карэктывы па асобных галінах і раёнах.

З'езд пацвярджае неабходнасць палепшання бюджэтна-крэдытнай работы, далейшага ўмацавання гаспадарчага разліку, узмацнення барацьбы з безгаспадарчасцю, павышэння ўзроўню рэнтабельнасці цяжкай індустрыі і іншых галін народнай гаспадаркі, умацавання совецкага рубля на аснове соцыялістычнай вытворчасці, узмоцненага развіцця тавараабароту і агульнага ўздыму матэрыяльнага ўзроўню жыцця народа.

* *
*

У мэтах безумоўнага выканання пастаўленых трэцім пяцігадовым планам задач XVIII з'езд ВКП(б) патрабуе ад усіх партыйных, совецкіх, гаспадарчых і профсаюзных арганізацый:

а) жывой аператыўнасці і дзелавітасці гаспадарчага кіраўніцтва, сканцэнтравання работы кіраўнікоў на правільным падборы кадраў, на штодзённай фактычнай праверцы выканання ўстаноўленых партыяй і ўрадам заданняў;

б) правільнай арганізацыі заработнай платы рабочых, майстраў і інжынерна-тэхнічных работнікаў, з належным матэрыяльным заахвочваннем росту прадукцыйнасці працы;

в) разгортвання соцыялістычнага спаборніцтва і стаханаўскага руху з забеспячэннем у прадпрыемствах і ўстановах моцнай працоўнай дысцыпліны і высокай прадукцыйнасці працы ўсіх працоўных.

У калгасным будаўніцтве задачы заключаюцца ў далейшым усямерным арганізацыйна-гаспадарчым умацаванні сельскагаспадарчай арцелі, у развіцці і ўмацаванні грамадскай уласнасці калгаса, у развіцці калгасных жывёлагадоўчых ферм, грамадскіх пабудоў, грамадскіх страхавых фондаў і іншых відаў калгаснай уласнасці, што з'яўляецца асновай далейшага ўздыму сельскай гаспадаркі і матэрыяльна-культурнага ўзроўню жыцця калгаснага сялянства. У адпаведнасці з гэтым неабходна ўзмацніць барацьбу з нарушэннямі Статута сельскагаспадарчай арцелі, не дапускаць незаконнага расшырэння прысядзібнай гаспадаркі, прысядзібных зямельных участкаў і жывёлы ў асобных калгаснікаў, што вядзе да нарушэння інтарэсаў калгаса, перашкаджае ўмацаванню калгаснай дысцыпліны. Не-

абходна далейшае ўмацаванне калгаснай дысцыпліны і ўзмацненне адпаведнай выхаваўчай работы сярод усёй масы калгаснікаў, павышэнне прадукцыйнасці працы і заахвочванне лепш працуючых калгаснікаў, а таксама шырокі пераход да арганізацыі звенняў у калгасах. У інтарэсах далейшага ўмацавання дысцыпліны, падняцця прадукцыйнасці працы і павелічэння даходнасці калгаса на кожнага калгасніка, таксама як у мэтах далейшага развіцця прамысловасці, павелічэння тавараў у краіне і снабжэння прамысловых прадпрыемстваў рабочымі кадрамі з калгаснікаў,—неабходна дабіцца таго, каб калгасы сістэматычна адпускалі калгаснікаў на работу ў прамысловыя прадпрыемствы, у першую чаргу тых, якія мала скарыстоўваюцца на рабоце ў калгасе, маюць мала працадзён і таму з'яўляюцца цяжарам для калгаса.

Для ажыццяўлення задач трэцяй пяцігодкі неабходна поўнасцю ліквідаваць вынікі контррэвалюцыйнага шкодніцтва, шпіёна-трацкісцка-бухарынскіх агентаў фашызма і замежнага капітала, падняць большэвіцкую пільнасць ва ўсёй рабоце па будаўніцтву комунізма і заўсёды памятаць указанне партыі аб тым, што пакуль існуе знешняе капіталістычнае акружэнне, разведкі замежных дзяржаў будуць засылаць да нас шкоднікаў, дыверсантаў, шпіёнаў і забойцаў, каб псаваць, пакасціць і аслабляць нашу краіну, каб перашкаджаць росту комунізма ў СССР.

Ажыццяўленне вялікіх задач трэцяга пяцігадовага плана настолькі цесна звязана з кроўнымі інтарэсамі рабочых, сялян і совецкай інтэлігенцыі, што забеспячэнне яго выканання залежыць, перш за ўсё, ад нас—комуністаў і непартыйных большэвікоў—кіраўнікоў, і асабліва ад нашага ўмення арганізаваць працу і падняць комуністычнае выхаванне працоўных. Ад усіх нас, ад кіраўнікоў і радавых рабочых, служачых і калгаснікаў, патрабуюцца, у першую галаву, свядомыя адносіны да сваіх абавязкаў, чэсная праца і дапамога адстаючым для таго, каб трэці пяцігадовы план перамог, каб Совецкі Саюз зрабіў новы гіганцкі крок па шляху да поўнага тар жаства комунізма. У цяперашніх умовах, калі ў СССР безраздзельна пануюць соцыялістычныя формы гаспадаркі, соцыялістычная ўласнасць, соцыялістычная арганізацыя працы, калі рашаючае значэнне для поспеху нашай справы набывае комуністычная свядомасць у рабоце на карысць нашай дзяржавы, народа і ўсіх працоўных,—гіганцка ўзнімаецца роля совецкай інтэлігенцыі, якая ўмее па-большэвіцку працаваць, па-большэвіцку змагацца за ўздым культурнасці і комуністычнай свядомасці працоўных. Цяпер, пасля канчатковага ўмацавання палітычных і эканамічных пазіцый соцыялістычнага грамадства ў СССР, рашаюць справу кадры, якія асвоілі тэхніку вытворчасці, рашаюць справу совецкія культурныя сілы, якія ўзначальваюць масы працоўных у іх вялікай барацьбе за поўную перамогу комунізма.

У капіталістычных краінах грамадства ўсё глыбей раз'ядаецца новым сусветным эканамічным крызісам, які выкідае на вуліцу новыя мільёны беспрацоўных, узмацняе нішчату і роспач сярод паднявольнай капіталу масы працоўных. У лагеры капіталізма тон задаюць фашысцкія краіны з іх унутраным крывавым тэрорам і знешняй імперыялістычнай агрэсіяй, якая прывяла ўжо да другой імперыялістычнай вайны з удзелам раду краін Еўропы і Азіі і пагражае разліцца далей. Усё гэта бясспрэчныя прызнакі ўзмацнення агуль-

нага, невылячымага крызіса капіталізма, паразітычнага гніення капіталізма, набліжэння яго краху. Тым адказней нашы абавязкі, абавязкі будаўнікоў першага соцыялістычнага грамадства, паспеўшага ўжо палітычна і эканамічна канчаткова ўстаць на свае ўласныя ногі, поўнага сіл і ўпэўненасці ў сваёй перамозе, параджаючага бадзёрасць і веру ў сваё блізкае вызваленне ў працоўных усіх краін. Выкананне трэцяга пяцігадовага плана будзе лепшым сведчаннем усёперамагаючай сілы комунізма ў яго гістарычным спаборніцтве з капіталізмам.

XVIII з'езд ВКП(б) патрабуе ад усіх большэвікоў і ад усіх адданых справе будаўнікоў комунізма зрабіць усё для таго, каб яшчэ больш згуртаваць пад вялікім сцягам партыі Леніна—Сталіна рабочых, калгаснікаў, інтэлігенцыю для барацьбы за перамогу трэцяга пяцігадовага плана.

---

# Змяненні ў статуце ВКП(б)

## Рэзалюцыя XVIII з'езда ВКП(б) па дакладу тав. А. ЖДАНАВА

*(Прынята аднагалосна)*

1. Перамога социялізма ў СССР забяспечыла панаванне социялістычнай эканомікі. Адпаведна з карэннымі змяненнямі ў галіне эканомікі СССР змяніўся класавы састаў насельніцтва СССР. За годы социялістычнага будаўніцтва былі ліквідаваны ўсе эксплаататарскія элементы—капіталісты, купцы, кулакі, спекулянты. Працоўныя СССР—рабочыя, сяляне, інтэлігенцыя—глыбока змяніліся за годы социялістычнага будаўніцтва.

Карэнным чынам змяніўся рабочы клас, які ператварыўся ў зусім новы клас, вызвалены ад эксплаатацыі, знішчыўшы капіталістычную сістэму гаспадаркі і ўстанавіўшы социялістычную ўласнасць на сродкі вытворчасці.

Карэнным чынам змянілася сялянства, якое ператварылася ў зусім новае сялянства, вызваленае ад усякай эксплаатацыі, якое з'яўляецца ў сваёй пераважнай большасці калгасным сялянствам, базіруючым сваю работу і свае здабыткі не на прыватнай гаспадарцы, аднаасобнай працы і адсталай тэхніцы, а на калектыўнай уласнасці, на калектыўнай працы і сучаснай тэхніцы.

Змянілася інтэлігенцыя, якая стала ў сваёй масе зусім новай інтэлігенцыяй, звязанай усімі сваімі карэннямі з рабочым класам і сялянствам. Совецкая інтэлігенцыя—гэта ўчарашнія рабочыя і сяляне і сыны рабочых і сялян, якія вылучыліся на камандныя пасты. Совецкая інтэлігенцыя служыць не капіталізму, як старая інтэлігенцыя, а социялізму і з'яўляецца роўнапраўным членам социялістычнага грамадства.

Такім чынам класавыя грані паміж працоўнымі СССР сціраюцца, падаюць і сціраюцца эканамічныя і палітычныя супярэчнасці паміж рабочымі, сялянамі і інтэлігенцыяй. Стварылася аснова маральна-палітычнага адзінства совецкага грамадства. Гэтае маральна-палітычнае адзінства совецкага народа атрымала сваё бліскучае пацвярджэнне ў стварэнні блока комуністаў і беспартыйных на выбарах у Вярхоўны Совет СССР і ў Вярхоўныя Советы саюзных рэспублік і ў поўнай перамозе гэтага блока. Вакол партыі выраслі шматлікія кадры непартыйных большэвікоў, перадавых рабочых, сялян і інтэлігентаў, актыўных і свядомых барацьбітоў за справу партыі, праваднікоў яе лініі ў масах.

У гэтай новай абстаноўцы назрэла неабходнасць змянення прадугледжаных статутам умоў прыёму ў партыю новых членаў. Заразь дзеючы, згодна статуту партыі, парадак прыёму ў партыю па чатырох розных катэгорыях, у залежнасці ад социяльнага становішча прымае-

мага ў партыю, яўна не адпавядае змяніўшайся ў рэзультаце перамогі сацыялізма ў СССР класавай структуры савецкага грамадства. Патрэба ва ўстанаўленні розных катэгорый пры прыёме ў партыю і рознага кандыдацкага стажа адпадае. У сувязі з гэтым для ўсіх прымаемых у партыю павінны быць устаноўлены адзіныя ўмовы прыёму і аднолькавы кандыдацкі стаж, незалежна ад іх прыналежнасці да рабочага класа, сялянства або інтэлігенцыі.

2. Неабходна дапоўніць статутнае палажэнне аб членах партыі і іх абавязках палажэннем аб правах членаў партыі, якія лічацца само сабой разумеючыміся, але не адзначаны ў статуце. Такое дапаўненне статута партыі адпавядае росту актыўнасці членаў партыі і мае выключнае значэнне для павышэння іх адказнасці за справу партыі, для аграджэння членаў партыі ад праяўленняў бюракратызма. Параграф 57 статута партыі гаворыць, што: «Свабоднае і дзелавое абмеркаванне пытанняў партыйнай палітыкі ў асобных арганізацыях або ў партыі ў цэлым з'яўляецца неад'емным правам кожнага члена партыі, выцякаючым з унутрыпартыйнай дэмакратыі».

Апрача гэтага права ў статуце павінны быць агавораны наступныя правы членаў партыі:

а) права членаў партыі крытыкаваць на партыйных сходах любога работніка партыі;

б) права членаў партыі выбіраць і быць выбранымі ў партыйныя органы;

в) права членаў партыі патрабаваць асабістага ўдзелу ва ўсіх выпадках, калі выносіцца рашэнне аб іх дзейнасці або паводзінах;

г) права членаў партыі звяртацца з любым пытаннем і заявай у любую партыйную інстанцыю аж да ЦК ВКП(б).

3. Статутам ВКП(б) прадугледжаны правадзімыя перыядычнымі рашэннямі ЦК ВКП(б) чысткі партыі. Вопыт паказаў, што ў далейшым неабходна адмовіцца ад масавых чыстак партыі па наступных матывах:

а) метад масавых чыстак, уведзены ў пачатку НЭП'а, у перыяд ажыўлення капіталістычных элементаў, каб аградзіць партыю ад пранікнення ў яе рады людзей, якія разлагаліся ў сувязі з НЭП'ам, страціў глебу для цяперашняй абстаноўкі, калі капіталістычныя элементы ліквідаваны. Апрача таго, на практыцы, як паказаў вопыт, метад масавых чыстак выключае магчымасць адзіна правільнага індывідуальнага падыходу да членаў партыі, падмяняючы яго агульным стандартным падыходам да членаў партыі «па адной мерцы». У сувязі з гэтым пры масавых чыстках мелі месца шматлікія неабгрунтаваныя выключэнні з партыі, а варожыя элементы, якія прабраліся ў партыю, скарысталі чысткі для траўлі і збівання чэсных работнікаў;

б) метад масавых чыстак не дае магчымасці ў поўнай меры ажыццяўляць партыйную ўстаноўку аб уважлівых адносінах да членаў партыі, да работнікаў і на практыцы часта вядзе да ўшчамлення правоў членаў партыі;

в) у адносінах да варожых элементаў, якія прабраліся ў партыю, маскіруюць свой варожы твар сродкамі двурушніцтва і абману партыі, метад масавых чыстак аказаўся мала дзейсным і не дасягаючым мэты;

г) метад масавых чыстак аказаўся звернутым сваім астрыём, галоўным чынам, супроць так званых пасіўных членаў партыі і прыводзіў да выключэння з партыі чэсных і добрасумленных яе членаў па матывах іх, нібыта, пасіўнасці.

У сувязі з гэтым перыядычныя масавыя чысткі партыі неабходна адмяніць, устанавіўшы, што партыя можа ў звычайным парадку ачышчаць свае рады ад асоб, якія нарушаюць праграму, статут, дысцыпліну партыі.

4. Партыя на лютаўска-сакавіцкім Пленуме ЦК 1937 года і студзеньскім Пленуме ЦК 1938 года асудзіла практыку фармальных і бяздушна-бюракратычных адносін да пытання аб лёсе членаў партыі, аб выключэнні з партыі членаў партыі і аб аднаўленні выключаных членаў у партыі. Гэтая практыка, як вядома, была шырока скарыстана пранікшымі ў партыю кар'ерысцкімі элементамі, якія стараліся адзначыцца і вылучыцца на выключэннях з партыі, таксама як замаскіраванымі ворагамі ўнутры партыі, якія стараліся шляхам шырокага правядзення мер рэпрэсіі перабіць чэсных членаў партыі і пасеяць залішнюю падазронасць у партыйных радах.

Студзеньскі пленум ЦК 1938 года прыняў рад мер, якія забяспечваюць ліквідацыю практыкі агульных выключэнняў з партыі, устанаўленне на справе дыферэнцыраванага падыходу пры вырашэнні пытанняў аб выключэнні з партыі або аб аднаўленні выключаных членаў у партыі.

У адпаведнасці з гэтым неабходна дапоўніць статут радам палажэнняў, якія павінны:

а) забяспечыць уважлівы падыход і старанны разбор абгрунтаванасці абвінавачанняў, прад'яўленых члену партыі;

б) аградзіць правы членаў партыі ад усякага самавольства;

в) із'яць з практыкі прымяненне выключэння з партыі, якое з'яўляецца вышэйшай мерай партыйнага пакарання, у адносінах да членаў партыі, якія зрабілі малаважныя праступкі.

5. Неабходна адмяніць статутнае патрабаванне да кандыдатаў, уступаючых у партыю, згодна якому ўмовай іх прыёму ставіцца, апрача **прызнання** праграмы і статута партыі і прахаджэння статутнага кандыдацкага стажа, таксама **ўсваенне** праграмы.

Тав. Сталін у дакладзе на лютаўска-сакавіцкім Пленуме ЦК 1937 года ўказваў:

> «Каб усвоіць праграму партыі, трэба быць сапраўдным марксістам, правераным і тэарэтычна падрыхтаваным марксістам. Я не ведаю, ці многа знойдзецца ў нас членаў партыі, якія ўжо ўсвоілі нашу праграму, сталі сапраўднымі марксістамі, тэарэтычна падрыхтаванымі і праверанымі. Калі ісці далей па гэтаму шляху, то нам прышлося-б пакінуць у партыі толькі інтэлігентаў і наогул людзей вучоных. Каму патрэбна такая партыя? У нас ёсць правераная і вытрымаўшая ўсе выпрабаванні ленінская формула аб членстве ў партыі. Па гэтай формуле членам партыі лічыцца той, хто **прызнае** праграму партыі, плаціць членскія ўзносы і працуе ў адной з яе арганізацый. Звярніце ўвагу: у ленінскай формуле гаворыцца не аб **усваенні** праграмы, а аб **прызнанні** праграмы. Гэта дзве зусім розныя рэчы. Няма чаго і даказваць, што праў тут Ленін, а не нашы партыйныя таварышы, якія дарэмна балбочуць аб усваенні праграмы. Яно і зразумела. Калі-б партыя зыходзіла з таго, што членамі партыі могуць быць толькі такія таварышы, якія ўжо ўсвоілі праграму і сталі тэарэтычна падрыхтаванымі марксістамі, то яна не стварала-б у партыі тысячы партыйных гурткоў, сотні партыйных школ, дзе членаў партыі абучаюць марксізму і дапамагаюць ім усвоіць нашу праграму. Зусім ясна, што калі партыя арганізуе такія школы і

гурткі сярод членаў партыі, то гэта таму, што яна ведае, што члены партыі не паспелі яшчэ ўсвоіць партыйную праграму, не паспелі яшчэ стаць тэарэтычна падрыхтаванымі марксістамі».

Па гэтых матывах неабходна адмяніць указанае статутнае патрабаванне.

6. Новыя задачы партыі, якія ўзніклі ў сувязі з паваротам у палітычным жыцці краіны, з прыняццем новай Канстытуцыі Саюза ССР, патрабавалі ад партыі адпаведнай перабудовы практыкі партыйнай работы на аснове безумоўнага і поўнага правядзення ў жыццё пачаткаў унутрыпартыйнага дэмакратызма, прадпісваемага статутам партыі. У гэтых мэтах партыя ліквідавала меўшае месца ў практыцы партыйнай работы нарушэнне асноў дэмакратычнага цэнтралізма і аднавіла, у адпаведнасці з статутам партыі, выбарнасць кіруючых органаў партыйных арганізацый.

Партыя правяла таксама рад дадатковых мер, якія забяспечваюць правядзенне паслядоўнай дэмакратычнай практыкі, а іменна: адмена практыкі кааптацыі, забарона пры выбарах партыйных органаў галасавання спіскам, пераход да галасавання па асобных кандыдатурах, забеспячэнне за ўсімі членамі партыі неабмежаванага права адводу кандыдатаў і крытыкі апошніх, устанаўленне пры выбарах партыйных органаў закрытага (тайнага) галасавання кандыдатаў, устанаўленне абавязковасці перыядычнага склікання гарадскіх партыйных актываў, а ў вялікіх гарадах—таксама і раённых актываў.

Статут павінен адлюстраваць гэтыя новыя мерапрыемствы партыі, правераныя практыкай, забяспечыўшыя далейшае развіццё крытыкі і самакрытыкі, уздым адказнасці партыйных органаў перад партыйнай масай, рост актыўнасці партыйнай масы, і тым самым спрыяўшыя ўзбраенню партыі для паспяховага вырашэння новых задач палітычнага кіраўніцтва.

7. Згодна статуту партыі для практычнай работы па ажыццяўленню партыйных рашэнняў і пастаноў (і праверкі іх выканання савецка-гаспадарчымі органамі і ніжэйшымі партыйнымі арганізацыямі) у абкомах, крайкомах, ЦК нацкомпартый і ЦК ВКП(б) павінны існаваць цэласныя вытворча-галінныя аддзелы, прычым «у кожным вытворча-галінным аддзеле сканцэнтроўваецца ўся работа ў цэлым па данай галіне: оргпартработа, размеркаванне і падрыхтоўка кадраў, агітмасработа, вытворчая прапаганда, нагляд за выкананнем партыйных рашэнняў адпаведнымі савецка-гаспадарчымі органамі і партыйнымі арганізацыямі».

Практыка паказала, аднак, што такая арганізацыя партыйнага апарата аказалася недастатковай.

Цэнтральнай арганізацыйнай задачай партыі за прайшоўшы перыяд і ў цяперашні час была і астаецца задача правільнага падбору людзей і праверкі выканання. Гэтаму пытанню надаваў выключнае значэнне Ленін, указваючы на XI З'ездзе партыі:

> «Мы прышлі да таго, што гвозд становішча—у людзях, у падборы людзей... Падбірайце патрэбных людзей і правярайце практычнае выкананне,—і гэта народ ацэніць».

У сваім дакладзе на XVII З'ездзе партыі тав. Сталін з усёй сілай падкрэсліў значэнне правільнага падбору людзей і праверкі выканання, гаворачы:

«Перамога ніколі не прыходзіць сама,—яе звычайна прыцяг-

ваюць. Добрыя рэзалюцыі і дэкларацыі за генеральную лінію партыі—гэта толькі пачатак справы, бо яны азначаюць толькі жаданне перамагчы, але не самую перамогу. Пасля таго, як дана правільная лінія, пасля таго, як дано правільнае рашэнне пытання, поспех справы залежыць ад арганізацыйнай работы, ад арганізацыі барацьбы за правядзенне ў жыццё лініі партыі, ад правільнага падбору людзей, ад праверкі выканання рашэнняў кіруючых органаў. Без гэтага правільная лінія партыі і правільныя рашэнні рыскуюць пацярпець сур'ёзны ўшчэрб. Больш таго: пасля таго, як дана правільная палітычная лінія, арганізацыйная работа вырашае ўсё, у тым ліку і лёс самой палітычнай лініі,—яе выкананне, або яе правал».

Вопыт паказаў, што слабасць нашай арганізацыйнай работы па падбору людзей і праверцы выканання да гэтага часу не пераадолены. Распыленне справы падбору кадраў паміж вытворча-галіннымі аддзеламі прывяло да зніжэння размаху арганізацыйнай работы, затрудніла неабходнае перасоўванне работнікаў з адной галіны ў другую, вылучэнне людзей, мэтазгоднае скарыстанне іх на тых участках, якія ў даны момант прадстаўляюць асаблівую важнасць для партыі. Распыленне справы падбору кадраў па розных вытворча-галінных аддзелах партыйнага апарата стала прамым тормазам паспяховага вырашэння задачы падбору і размеркавання кадраў. Гэтая задача патрабуе накіравання ўсёй работы па кадрах з адзінага цэнтра шляхам канцэнтрацыі гэтай работы ў адзіным апараце, дзе павінны быць сканцэнтраваны вопыт па падбору кадраў, справа вывучэння кадраў, вопыт па іх расстаноўцы.

ЦК ВКП(б), улічваючы такое становішча, прыняў рад мер, сканцэнтраваўшы справу падбору кадраў у Аддзеле кіруючых парторганаў (АКПО ЦК). Прымаючы, аднак, пад увагу першаступенную важнасць справы падрыхтоўкі і падбору кадраў і вялікі аб'ём гэтай работы, трэба было-б рэарганізаваць АКПО, выдзеліўшы работу па кадрах усіх галін работы ў самастойнае Упраўленне кадраў, а пытанні партыйна-арганізацыйнага кіраўніцтва—у спецыяльны Арганізацыйна-інструктарскі аддзел.

8. Недастатковай аказалася таксама практыка распылення праверкі выканання партыйных дырэктыў паміж рознымі вытворча-галіннымі аддзеламі. Гэтую работу неабходна таксама канцэнтраваць у адным месцы, змяніўшы, у адпаведнасці з гэтым, характар дзейнасці КПК. Цэнтральнай задачай КПК павінна стаць задача ўзмацнення кантролю за выкананнем рашэнняў ЦК ВКП(б) і арганізацыі сістэматычнай праверкі работы мясцовых арганізацый. Неабходна ўстанавіць, што КПК працуе пры ЦК ВКП(б). У сувязі з гэтым адпадае неабходнасць выбараў КПК непасрэдна на З'ездзе партыі. Камісія партыйнага кантроля павінна выбірацца пленумам Цэнтральнага Камітэта ВКП(б) і працаваць пад кіраўніцтвам і па дырэктывах ЦК ВКП(б).

9. Задача ліквідацыі тэарэтычнай і палітычнай адсталасці партыйных кадраў, задача ўзбраення членаў партыі марксісцка-ленінскай тэорыяй і аўладання большэвізмам патрабуе падняцця на належны ўзровень справы партыйнай прапаганды і агітацыі, у адпаведнасці з рашэннем ЦК «Аб пастаноўцы партыйнай прапаганды ў сувязі з выпускам «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)».

ЦК ВКП(б) павінен мець магутны апарат прапаганды і агітацыі ў выглядзе Упраўлення прапаганды і агітацыі, які сканцэнтроўваў-бы ўсю работу па друкаванай і вуснай прапагандзе і агітацыі.

10. Вытворча-галінныя аддзелы ЦК ВКП(б) павінны быць ліквідаваны, за выключэннем Сельскагаспадарчага аддзела, з прычыны асаблівай важнасці задачы кантролю і нагляду за дзейнасцю совецкіх і партыйных арганізацый у галіне сельскай гаспадаркі, і Аддзела школ, які павінен кантраліраваць пастаноўку справы народнай асветы ва ўсіх рэспубліках.

У абкомах, крайкомах і ЦК нацкомпартый павінны быць створаны аддзелы: кадраў, прапаганды і агітацыі, арганізацыйна-інструктарскі і сельскагаспадарчы і скасаваны ўсе астатнія вытворча-галінныя аддзелы.

У райкомах і гаркомах неабходна мець аддзелы: кадраў, прапаганды і агітацыі і арганізацыйна-інструктарскі.

Кіраўніцтва аддзеламі прапаганды і агітацыі і аддзеламі кадраў у абкомах, крайкомах і ЦК нацкомпартый павінна быць ускладзена на асобых сакратароў.

11. Ва ўмовах быстрага ўздыму соцыялістычнай гаспадаркі, быстрага палітычнага і культурнага росту рабочых, сялян і інтэлігенцыі рэзка павысіўся тэмп партыйнага і дзяржаўнага жыцця. Для таго, каб ажыццяўляць кіраўніцтва дзяржаўнымі і партыйнымі справамі, быстра рэагаваць на запросы, што высоўваюцца жыццём, і своечасова вырашаць назрэўшыя пытанні, неабходна дапоўніць існуючую схему цэнтральных арганізацый партыі—З'езд партыі, ЦК ВКП(б)—новым органам,—Усесаюзнай партыйнай канферэнцыяй. Гэта тым больш неабходна, што вялікі адрэзак часу паміж з'ездамі партыі абмяжоўвае магчымасць вылучэння на кіруючую работу, і ў асаблівасці ў ЦК ВКП(б), вырасшых кадраў работнікаў партыі, а канферэнцыя магла-б даць партыі такую магчымасць. У сувязі з гэтым назрэла неабходнасць дапоўніць схему цэнтральных арганізацый партыі—З'езд партыі, ЦК ВКП(б)—Усесаюзнай канферэнцыяй партыі, склікаемай не радзей аднаго разу ў год з прадстаўнікоў мясцовых арганізацый, з тым, каб галоўнай задачай Усесаюзнай канферэнцыі партыі лічыць абмеркаванне назрэўшых пытанняў палітыкі партыі.

Усесаюзнай канферэнцыі партыі патрэбна прадаставіць права замены часткі членаў ЦК, г. зн. права выведу з састава ЦК асобных членаў ЦК, якія не забяспечваюць выканання імі сваіх абавязкаў, як членаў ЦК, і замены іх іншымі, але ў колькасці не больш адной пятай састава ЦК, выбранага З'ездам партыі. Канферэнцыя папаўняе састаў членаў ЦК з ліку кандыдатаў, выбраных З'ездам партыі, і ўзамен іх выбірае адпаведную колькасць новых кандыдатаў у члены ЦК.

Рашэнні канферэнцыі, за выключэннем рашэння аб замене членаў ЦК і выбранні новых кандыдатаў у члены ЦК, якое не патрабуе зацвярджэння ЦК ВКП(б), падлягаюць зацвярджэнню ЦК ВКП(б). Рашэнні канферэнцыі, зацверджаныя ЦК ВКП(б), з'яўляюцца абавязковымі для ўсіх партыйных арганізацый. Дэлегаты канферэнцыі выбіраюцца на пленумах абкомаў, крайкомаў і ЦК нацкомпартый. Члены ЦК, калі яны не з'яўляюцца дэлегатамі па поўнамоцтву ад мясцовых арганізацый, прымаюць удзел у работах канферэнцыі з правам дарадчага голасу.

12. За мінуўшы перыяд на аснове ўздыму партыйна-палітычнай і партыйна-арганізацыйнай работы ўмацаваліся пярвічныя партарганізацыі, палепшылася іх сувязь з масамі, павысілася авангардная роля комуністаў, падняўся ўзровень партыйнага жыцця. Партыйныя

арганізацыі бліжэй падышлі да практычных пытанняў гаспадарчага і культурнага будаўніцтва.

Вопыт паказаў, што паспяховая работа партыйных арганізацый была забяспечана там, дзе пярвічная партыйная арганізацыя здолела спалучыць партыйна-палітычную работу з барацьбой за паспяховае выкананне вытворчых планаў, за палепшанне работы дзяржаўнага апарата, за асваенне новай тэхнікі, за ўмацаванне працоўнай дысцыпліны з разгортваннем стаханаўскага руху, з вылучэннем на партыйна-гаспадарчую работу новых кадраў. І наадварот, там, дзе партыйныя арганізацыі адышлі ў бок ад гаспадаркі, абмежаваўшы свае задачы агітацыяй, або там, дзе партыйныя арганізацыі прынялі на сябе не ўласцівыя ім функцыі кіраўніцтва гаспадаркай, падмяняючы і абязлічваючы гаспадарчыя органы, там работа немінуча пападала ў тупік.

У цяперашні час назрэла неабходнасць больш дакладна вызначыць задачы рознага тыпу пярвічных партыйных арганізацый і ў прыватнасці такіх розных тыпаў пярвічных партыйных арганізацый, як партыйная арганізацыя на вытворчасці (фабрыка, завод, соўгас, калгас) і партыйная арганізацыя наркамата. Партыйнай арганізацыі вытворчага тыпу (фабрычна-заводскай, соўгаса, калгаса) павінна быць прадастаўлена права кантролю за станам спраў прадпрыемства, соўгаса або калгаса. Гэта павінна прывесці да ўзмацнення ролі і адказнасці пярвічных партыйных арганізацый на вытворчасці. Што датычыць партыйных арганізацый наркаматаў, то яны, не маючы, у сілу спецыфічных умоў, функцый кантролю, павінны ўзмацніць сваю ролю ў справе палепшання работы дзяржаўнага апарата. Наркамацкія партыйныя арганізацыі абавязаны сігналізаваць аб недахопах работы таго ці іншага наркамата, адзначаць недахопы асобных работнікаў і паведамляць аб іх у ЦК і кіраўнікам наркамата.

Усе члены партыі, якія працуюць у тым ці іншым наркамаце, павінны аб'ядноўвацца агульнанаркамацкай партыйнай арганізацыяй. Сакратар пярвічнай арганізацыі наркамата павінен зацвярджацца ЦК ВКП(б).

13. Улічваючы, што інстытут спачуваючых быў створан у перыяд, калі быў закрыт прыём у партыю, а таксама прымаючы пад увагу, што партыя мае магчымасць папаўняць свае рады за лік перадавой часткі беспартыйнага актыва, аб'ядноўваемага вакол советаў, прафсаюзаў, комсамола, кааперацыі, Асоавіяхіма і іншых грамадскіх арганізацый працоўных, лічыць неабходным скасаванне груп спачуваючых.

* * *

XVIII з'езд ВКП(б) пастанаўляе ўнесці ў статут ВКП(б) наступныя змяненні і дапаўненні:

## I.

## Аб членах партыі і іх правах і абавязках.

1. Адмяніць існуючыя катэгорыі пры прыёме з кандыдатаў у члены партыі і ўстанавіць адзіны парадак прыёму з кандыдатаў у члены партыі для рабочых, сялян і інтэлігенцыі. Устанавіць, што ў партыю прымаюцца асобы, якія дасягнулі 18 год. Усе ўступаючыя ў партыю абавязаны прадставіць рэкамендацыі трох членаў партыі з трохгадовым партыйным стажам, якія ведаюць іх па сумеснай рабоце не менш аднаго года. Для выхадцаў з іншых партый захаваць

цяпер дзеючыя статутныя правілы. Адмяніць статутнае патрабаванне да ўступаючых у партыю аб неабходнасці прадстаўлення водзыву грамадскай арганізацыі, дзе яны працавалі або працуюць. Рашэнне пярвічнай партарганізацыі аб прыёме ў партыю ўступае ў сілу па зацверджанні яго райкомам або гаркомам. Пры абмеркаванні пытання аб прыёме ў партыю прысутнасць рэкамендуючых не абавязкова.

2. Дапоўніць раздзел аб членах партыі і іх абавязках пунктам аб правах членаў партыі, уключыўшы:

а) права членаў партыі крытыкаваць на партыйных сходах любога работніка партыі;

б) права членаў партыі выбіраць і быць выбранымі ў партыйныя органы;

в) права членаў партыі патрабаваць асабістага ўдзелу ва ўсіх выпадках, калі выносіцца рашэнне аб іх дзейнасці або паводзінах;

г) права членаў партыі звяртацца з любым пытаннем і заявай у любую партыйную інстанцыю аж да ЦК ВКП(б).

3. Адмяніць перыядычныя масавыя чысткі партыі, устанавіўшы, што партыя можа ў звычайным парадку ачышчаць свае рады ад асоб, якія нарушаюць праграму партыі, статут партыі, дысцыпліну партыі.

4. Устанавіць, што пры вырашэнні пытанняў аб выключэнні з партыі або аднаўленні выключаных у правах членаў партыі павінен быць забяспечан максімум асцярожнасці і таварыскіх клопатаў і старанны разбор абгрунтаванасці абвінавачанняў, прад'яўленых члену партыі, і што за дробныя праступкі (няяўка на сход, няўплата ў тэрмін членскіх узносаў і т. п.) павінны прымяняцца прадугледжаныя статутам меры партыйнага выхавання і ўздзеяння, а не выключэнне з партыі, якое з'яўляецца вышэйшай мерай партыйнага пакарання.

5. Рашэнне пярвічнай партыйнай арганізацыі аб выключэнні з партыі, а таксама аб аднаўленні выключаных у правах членаў партыі набывае сілу толькі ў тым выпадку, калі яно зацвярджаецца абкомам, крайкомам, ЦК нацкомпартыі.

Да зацвярджэння абкомам, крайкомам, ЦК нацкомпартыі рашэння аб выключэнні з партыі, партыйны білет застаецца на руках у члена партыі, і ён мае права наведваць партыйныя сходы. Аб выключаных членах партыі абком, крайком, ЦК нацкомпартыі публікуе ў мясцовым партыйным друку з указаннем прычыны выключэння, а таксама публікуе аб аднаўленні няправільна выключаных.

6. Апеляцыі выключаных з партыі павінны разглядацца адпаведнымі партыйнымі органамі не пазней, чым у двухтыднёвы тэрмін.

7. Адмяніць статутнае патрабаванне да кандыдатаў, у сілу якога таварышы, якія прайшлі кандыдацкі стаж, прызнаюць праграму партыі і падпарадкуюцца яе статуту і дысцыпліне, усё-ж не могуць лічыцца членамі партыі, пакуль яны не ўсвояць праграму партыі, г. зн. пакуль яны не стануць марксісцкі адукаванымі партыйцамі.

## II.

## Аб кандыдатах у члены партыі.

8. Прывесці раздзел аб кандыдатах у члены партыі ў адпаведнасць з раздзелам аб членах партыі (адмена катэгорый па прыёму).

9. Устанавіць агульны для рабочых, сялян і інтэлігенцыі кандыдацкі стаж тэрмінам у адзін год.

10. Для выхадцаў з іншых партый захаваць цяпер дзеючыя статутныя правілы.

## III.

## Аб арганізацыйнай будове партыі.

11. Уключыць у статут наступныя дадатковыя палажэнні, якія выцякаюць з задач правядзення ў партыі паслядоўнай дэмакратычнай практыкі і ажыццяўлення да канца асноў дэмакратычнага цэнтралізма:

а) забараніць пры выбарах партыйных органаў галасаванне спіскам. Галасаванне праводзіць па асобных кандыдатурах, забяспечваючы пры гэтым за ўсімі членамі партыі неабмежаванае права адводу кандыдатаў і крытыкі апошніх;

б) устанавіць пры выбарах партыйных органаў закрытае (тайнае) галасаванне кандыдатаў.

12. Улічваючы асобае палітычнае значэнне партыйнага актыва ў жыцці партыі, дапоўніць статут наступным пунктам аб актывах гарадскіх арганізацый:

Лічыць неабходным, каб ва ўсіх без выключэння рэспубліканскіх, краявых і абласных цэнтрах, а таксама ва ўсіх больш ці менш значных прамысловых цэнтрах абавязкова склікаліся актывы гарадскіх партыйных арганізацый для абмеркавання важнейшых рашэнняў партыі і ўрада, каб актывы склікаліся не для парада і фармальнаўрачыстага адабрэння гэтых рашэнняў, а для сапраўднага іх абмеркавання, каб у вялікіх цэнтрах склікаліся не толькі гарадскія, але і раённыя партыйныя актывы.

13. Ліквідаваць у ЦК ВКП(б) вытворча-галінныя аддзелы, за выключэннем Сельскагаспадарчага аддзела і Аддзела школ.

Мець у ЦК ВКП(б) наступныя ўпраўленні і аддзелы:

а) Упраўленне кадраў;
б) Упраўленне прапаганды і агітацыі;
в) Арганізацыйна-інструктарскі аддзел;
г) Сельскагаспадарчы аддзел;
д) Аддзел школ.

У абкомах, крайкомах і ЦК нацкомпартый ствараюцца:

а) Аддзел кадраў;
б) Аддзел прапаганды і агітацыі;
в) Арганізацыйна-інструктарскі аддзел;
г) Сельскагаспадарчы аддзел.

У гаркомах і райкомах ствараюцца:

а) Аддзел кадраў;
б) Аддзел прапаганды і агітацыі;
в) Аддзел арганізацыйна-інструктарскі.

У райкомах, гаркомах, акругкомах, абкомах, крайкомах і ЦК нацкомпартый мець ваенныя аддзелы, на абавязку якіх ляжыць дапамога ваенным органам у справе пастаноўкі ўчоту ваеннаабавязаных, арганізацыі прызыву, мабілізацыі ў выпадку вайны, у справе арганізацыі проціпаветранай абароны і т. д.

14. У змяненне існуючага статутнага парадку ўстанавіць, што Камісія партыйнага кантроля выбіраецца пленумам ЦК і працуе пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б).

Камісія партыйнага кантроля:

а) кантраліруе выкананне дырэктыў ЦК ВКП(б) савецка-гаспадарчымі органамі і партыйнымі арганізацыямі;

б) правярае работу мясцовых партыйных арганізацый;

в) прыцягвае да адказнасці віноўных у нарушэнні праграмы і статута ВКП(б) і партыйнай дысцыпліны.

15. Кіраўніцтва аддзеламі прапаганды і агітацыі і аддзеламі кадраў у абкомах, крайкомах і ЦК нацкомпартый павінна быць ускладзена на асобых сакратароў.

## IV.

## Аб цэнтральных арганізацыях партыі.

16. Дапоўніць статут ВКП(б) наступнымі палажэннямі аб Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі:

а) Усесаюзная канферэнцыя склікаецца з прадстаўнікоў мясцовых арганізацый для абмеркавання назрэўшых пытанняў палітыкі партыі;

б) Усесаюзная канферэнцыя склікаецца не радзей аднаго разу ў год;

в) дэлегаты Усесаюзнай канферэнцыі выбіраюцца на пленумах абкомаў, крайкомаў, ЦК нацкомпартый;

г) парадак выбараў і нормы прадстаўніцтва на Усесаюзную канферэнцыю ўстанаўліваюцца ЦК ВКП(б);

д) Усесаюзнай канферэнцыі прадастаўляецца права замяняць частку членаў ЦК, г. зн. права выводзіць з састава ЦК асобных членаў ЦК, якія не забяспечваюць выканання імі сваіх абавязкаў, як членаў ЦК, і замяняць іх другімі, але ў колькасці не больш адной пятай састава ЦК, выбранага З'ездам партыі. Усесаюзная канферэнцыя папаўняе састаў членаў ЦК з ліку кандыдатаў, выбраных З'ездам партыі, і ўзамен іх выбірае адпаведную колькасць новых кандыдатаў у члены ЦК;

е) рашэнні Усесаюзнай канферэнцыі, за выключэннем рашэння аб замене членаў ЦК і выбранні новых кандыдатаў у члены ЦК, якое не патрабуе зацвярджэння ЦК ВКП(б), падлягаюць зацвярджэнню ЦК ВКП(б). Рашэнні Усесаюзнай канферэнцыі, зацверджаныя ЦК ВКП(б), з'яўляюцца абавязковымі для ўсіх партыйных арганізацый;

ж) члены ЦК, калі яны не з'яўляюцца дэлегатамі па поўнамоцтву ад мясцовых арганізацый, прымаюць удзел у работах Усесаюзнай канферэнцыі з правам дарадчага голасу.

17. Змяніць існуючы статутны парадак, згодна якому Камісія Савецкага Кантроля намячаецца З'ездам партыі, устанавіўшы ў далейшым, што фарміраванне Камісіі Савецкага Кантроля павінна адносіцца да кампетэнцыі савецкіх органаў.

## V.

## Аб партыйным стажы для сакратароў абкомаў, гаркомаў, райкомаў і начальнікаў палітаддзелаў Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота.

18. У мэтах стварэння неабходных умоў для вылучэння на кіруючую партыйную работу новых кадраў партыйных работнікаў, у змяненне адпаведных параграфаў статута, устанавіць партыйны стаж для сакратароў абкомаў, крайкомаў, ЦК нацкомпартый замест 12 год не менш 5 год, для сакратароў гаркомаў замест 10 год не менш 3 год, для сакратароў райкомаў замест 7 год не менш 3 год і для сакратароў пярвічных партыйных арганізацый і цэхпарторгаў замест

стажа ў першым выпадку не менш 3 год, а ў другім не менш 2 год, устанавіць партыйны стаж не менш аднаго года.

Для начальнікаў палітупраўленняў акруг, флотаў і армій лічыць абавязковым замест 10-гадовага—5-гадовы партыйны стаж і для начальнікаў палітаддзелаў дывізій і брыгад замест 6-гадовага—3-гадовы партыйны стаж.

## VI.

## Аб краявых—абласных—рэспубліканскіх арганізацыях партыі.

19. Устанавіць, што ў абкомах, крайкомах і ЦК нацкомпартый павінна быць 4—5 сакратароў, у тым ліку першы сакратар, другі сакратар, сакратар па кадрах і сакратар па прапагандзе.

## VII.

## Аб акруговых арганізацыях партыі.

20. Прадаставіць акруговым партыйным арганізацыям статутныя правы, дапоўніўшы статут ВКП(б) адпаведным палажэннем.

## VIII.

## Аб гарадскіх і раённых (сельскіх і гарадскіх) арганізацыях партыі.

21. Устанавіць, што пленум гарадскога—раённага камітэта склікаецца не радзей аднаго раза ў паўтара месяца.

## IX.

## Аб партарганізацыях у Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскім Флоце.

22. У сувязі з стварэннем Наркамата Ваенна-Марскога Флота распаўсюдзіць статутнае палажэнне аб партыйных арганізацыях у Чырвонай Арміі таксама на партарганізацыі Ваенна-Марскога Флота, устанавіўшы, што Палітычнае Упраўленне Ваенна-Марскога Флота працуе на правах Ваенна-Марскога Аддзела ЦК ВКП(б).

## X.

## Аб пярвічных партыйных арганізацыях.

23. Для павышэння ролі пярвічных партыйных арганізацый вытворчых прадпрыемстваў, у тым ліку соўгасаў, калгасаў і МТС, і іх адказнасці за стан работы прадпрыемстваў, прадаставіць гэтым арганізацыям права кантролю работы адміністрацыі прадпрыемства.

Наркамацкія партыйныя арганізацыі, якія, у сілу асобых умоў работы совецкіх устаноў, функцыямі кантролю карыстацца не могуць, абавязаны сігналізаваць аб недачотах у рабоце ўстановы, адзначаць недахопы ў рабоце наркамата і яго асобных работнікаў і накіроўваць свае матэрыялы і меркаванні ў ЦК ВКП(б) і кіраўнікам наркамата.

Сакратары наркамацкіх партыйных арганізацый зацвярджаюцца ЦК ВКП(б).

Усе комуністы—работнікі цэнтральнага апарата наркамата ўваходзяць у адну агульна-наркамацкую партыйную арганізацыю.

24. У змяненне існуючага палажэння іменаваць у далейшым выбарныя органы пярвічных партыйных арганізацый не камітэтамі, а бюро (бюро такой-то партыйнай арганізацыі).

25. Бюро пярвічных партарганізацый ствараюцца ў партарганізацыях, якія налічваюць не менш 15 членаў партыі.

26. У мэтах быстрага вырошчвання і выхавання членаў партыі ў духу калектыўнага кіраўніцтва прадаставіць права цэхавым партыйным арганізацыям, якія налічваюць не менш 15, але не больш 100 членаў партыі, выбіраць бюро цэхавай партыйнай арганізацыі ў саставе ад 3 да 5 чалавек, а налічваючым звыш 100 членаў партыі— ад 5 да 7 чалавек.

27. Устанавіць, што ў пярвічных партыйных арганізацыях, якія налічваюць менш 100 комуністаў, могуць стварацца партыйныя групы па брыгадах, агрэгатах прадпрыемства і т. п.

28. У буйных прадпрыемствах і ўстановах, якія налічваюць звыш 500 членаў і кандыдатаў партыі, могуць, у кожным асобным выпадку з дазволу ЦК ВКП(б), стварацца заводскія камітэты партыі, з прадастаўленнем цэхавым партарганізацыям гэтых прадпрыемстваў правоў пярвічнай партыйнай арганізацыі.

## XI.

## Аб партыі і комсамоле.

29. Дапоўніць статут ВКП(б) наступнымі палажэннямі аб партыі і комсамоле:

а) Усю работу ВЛКСМ праводзіць пад непасрэдным кіраўніцтвам ВКП(б). ЦК ВЛКСМ, з'яўляючыся кіруючым органам комсамола, непасрэдна падпарадкаван ЦК ВКП(б). Работа мясцовых арганізацый ВЛКСМ накіроўваецца і кантраліруецца адпаведнымі рэспубліканскімі, краявымі, абласнымі, гарадскімі і раённымі партыйнымі арганізацыямі.

б) Члены ВЛКСМ, якія з'яўляюцца членамі або кандыдатамі партыі, выбываюць з комсамола з моманту ўступлення іх у партыю, калі яны не займаюць кіруючых пастоў у комсамольскіх арганізацыях.

в) ВЛКСМ з'яўляецца актыўным памочнікам партыі ва ўсім дзяржаўным і гаспадарчым будаўніцтве. Комсамольскія арганізацыі павінны быць на справе актыўнымі праваднікамі партыйных дырэктыў ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва, а там, дзе няма пярвічных партыйных арганізацый,—несці поўную адказнасць за іх правядзенне ў жыццё.

г) Комсамольскія арганізацыі маюць права шырокай ініцыятывы ў абмеркаванні і пастаноўцы перад адпаведнымі арганізацыямі ўсіх пытанняў работы прадпрыемства, калгаса, соўгаса, установы, звязаных з задачамі знішчэння недачотаў у дзейнасці апошніх і аказання ім неабходнай дапамогі ў палепшанні работы шляхам арганізацыі соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, правядзення масавых кампаній і т. д.

## Асобная пастанова

Асобы, прынятыя ў кандыдаты партыі да XVIII З'езда, праходзяць кандыдацкі стаж на агульных падставах, гэта значыць тэрмінам у адзін год.

# Прамова т. АНДРЭЕВА А. А. на XVIII з'ездзе ВКП(б).

Таварышы, уся перадз'ездаўская абстаноўка—тое, як праходзіла ў партыйных арганізацыях абмеркаванне пытанняў з'езда і выбары на з'езд,—паказвае, што ўся партыя ішла да свайго XVIII з'езда з пачуццём глыбокага маральнага задавальнення ў сваёй рабоце, з усведамленнем сваёй найвялікшай сілы і глыбокай удзячнасцю таварышу Сталіну за тое, што ён і ў гэты справаздачны перыяд правёў партыю праз усе труднасці да новых перамог. **(Працяглыя апладысменты.)**

Уздым, які адбываецца ў сувязі са з'ездам партыі ў краіне, на фабрыках, заводах, у калгасах, гаворыць таксама, што гэтае пачуццё глыбокага маральнага задавальнення перажывае не толькі партыя, але ўся краіна, увесь наш вялікі совецкі народ.

Ды і як, таварышы, не быць маральна задаволеным рэзультатамі работы партыі, калі справаздачны перыяд у жыцці нашай большэвіцкай партыі быў такім багатым, насычаным вялікай работай і новымі перамогамі ва ўсіх галінах палітычнай, гаспадарчай і арганізацыйнай дзейнасці нашай партыі.

Узяць толькі некалькі вынікаў, якія былі падведзены таварышам Сталіным. У той час, як капіталізм прадаўжае барахтацца, таптацца на месцы, не ў сілах нават дасягнуць узроўню вытворчасці 1929 года, СССР за гэты-ж час пайшоў далёка ўперад.

Вытворчасць у адносінах да 1929 года ў нас узрасла амаль у 5 раз. Пад кіраўніцтвам партыі за гэты час была датэрмінова выканана другая пяцігодка. Соцыялістычны лад перамог і канчаткова ўцвярдзіўся. Завершана ліквідацыя эксплуататарскіх класаў, зроблен велізарны крок уперад да бяскласавага грамадства тым, што грань паміж класамі рабочых і сялян усё больш сціраецца на аснове ўмацавання калектывізацыі і перамогі соцыялізма. Адбылася, як гаварыў таварыш Сталін, цэлая культурная рэволюцыя ў краіне за гэты час.

За гэты-ж перыяд наш народ меў магчымасць прыняць вялікую Сталінскую Канстытуцыю, а партыя большэвікоў—атрымаць яшчэ і яшчэ раз усенароднае давер'е.

За справаздачны перыяд у краіне шырока разгарнуўся літаральна ўсенародны стаханаўскі рух, які захваціў сабой усе галіны гаспа-

даркі і працы, рух, які зрабіў і робіць поўную рэвалюцыю ў вытворчасці і прадукцыйнасці працы.

Як-жа не быць, таварышы, задаволеным, калі партыі пры падтрыманні і ўдзеле ўсяго народа ўдалося разграміць, знішчыць кадры трацкісцка-бухарынскіх і іншых змоўшчыкаў, шкоднікаў, забойцаў, шпіёнаў, рыхтаваўшых пад кіраўніцтвам замежных разведак ліквідацыю Совецкай улады і аднаўленне ярма рабства для народаў СССР.

Можна не сумнявацца, што разгром гэтых дыверсанцкіх інтэрвенцкіх кадраў у нас у тылу, безумоўна, пераблытаў усе разлікі нашых знешніх ворагаў і затрудніў ім магчымасць вайны супроць Совецкага Саюза.

У той час, як капіталізм, заблытаўшыся ў невырашальных супярэчнасцях, упоўз ужо ў другую імперыялістычную вайну, нашы рабочыя і сяляне могуць быць упэўнены за лёс сваёй соцыялістычнай радзімы, таму што пад кіраўніцтвам партыі за прайшоўшы перыяд абарона краіны яшчэ больш умацавалася, а тыя з неспакойных суседзяў, якія папрабавалі пасягнуць на совецкую тэрыторыю, атрымалі добра ў зубы і на сваёй шкуры адчулі сілу абароны СССР, сілу нашай Чырвонай Арміі. **(Апладысменты.)**

Не можа не выклікаць таксама глыбокага задавальнення і тая арганізацыйная работа, якую прарабіла партыя і яе Цэнтральны Камітэт за справаздачны перыяд, аб якой гаварыў таварыш Сталін.

Падняты да актыўнага ўдзелу за гэты час у дзяржаўным упраўленні, гаспадарцы, грамадскім жыцці мільёны людзей з заводаў, калгасаў і ўстаноў. Краіна, дзяржава, культура і ўпраўленне ўзбагаціліся сотнямі тысяч новых спецыялістаў.

За гэтыя пяць год выпушчана з ВНУ і тэхнікумаў 1.287.000 новых спецыялістаў, не лічачы ваенных спецыялістаў. Толькі за адзін мінулы год выпушчана з ВНУ і тэхнікумаў 294.700 новых спецыялістаў.

Пад кіраўніцтвам партыі за справаздачны перыяд арганізавана 3.450 новых МТС, звыш 660 МТМ, 939 новых ВНУ і тэхнікумаў. Колькасць членаў профсаюзаў за гэты перыяд узрасла на 4.700 тыс. чалавек, членаў комсамола каля 3 млн. Падрыхтавана і перападрыхтавана за гэты час звыш 1.500 тыс. новых трактарыстаў і камбайнераў. Прайшлі перападрыхтоўку сотні тысяч старшынь калгасаў і калгасных брыгадзіраў. Створана 2.255 новых пярвічных партыйных арганізацый.

Улічыўшы слабасць работы па ідэйна-палітычнаму выхаванню нашых кадраў, Цэнтральны Камітэт, як вам вядома, у гэтым напрамку прарабіў вельмі сур'ёзную работу, у асаблівасці асабіста таварыш Сталін, які, не гледзячы на сваю штодзённую занятасць, забяспечыў нашу партыю стварэннем сапраўднай гісторыі большэвіцкай партыі, дзякуючы чаму наша партыя, нашы кадры ідэйна за кароткі пе-

рыяд падняліся на некалькі ступеней вышэй. А пастанова Цэнтральнага Камітэта аб прапагандзе, выпрацаваная пад непасрэдным кіраўніцтвам і пры асабістым удзеле таварыша Сталіна, з'яўляецца практычнай баявой праграмай, якая па-новаму ставіць арганізацыю палітычнага выхавання нашых кадраў.

Па-новаму з усёй яснасцю Цэнтральным Камітэтам былі пастаўлены пытанні арганізацыі працоўнай дысцыпліны на прадпрыемствах і ролі майстра, што сустрэла гарачае падтрыманне сярод рабочых і тэхнічнага персанала на фабрыках і заводах і што безумоўна ўжо дае сур'ёзныя рэзультаты ў становішчы спраў на вытворчасці і выпуску прадукцыі.

Партыя і яе Цэнтральны Камітэт неаднаразова за гэты час займаліся арганізацыйнымі пытаннямі калгаснага і соўгаснага будаўніцтва. Асаблівую ўвагу ў сваёй арганізацыйнай рабоце партыя і яе Цэнтральны Камітэт удзялілі ўнутрыпартыйнаму жыццю. Як толькі сталі адчувацца недахопы ўнутрыпартыйнага жыцця, у справе ажыццяўлення дэмакратызма, таварыш Сталін і Цэнтральны Камітэт з усёй вастрынёй паставілі і правялі выпраўленні гэтых буйнейшых недахопаў, а партыйныя арганізацыі безумоўна ўжо дабіліся сур'ёзных рэзультатаў у аднаўленні норм партыйнай дэмакратыі, выбарнасці і справаздачнасці.

Выправіўшы гэтыя недахопы ўнутрыпартыйнай дэмакратыі ў арганізацыйнай рабоце, партыя перайшла да выпраўлення такіх-жа, калі не больш сур'ёзных, недахопаў у прафсаюзах і комсамоле. Аб рэзультатах работы ў гэтым сэнсе, відаць, скажуць самі кіраўнікі прафсаюзаў і комсамола.

Партыя за гэты перыяд прывяла ў парадак сваю партыйную гаспадарку і ўчот членаў партыі. Дастаткова сказаць, што цяпер Цэнтральны Камітэт у любы момант можа мець уяўленне аб кожным члене партыі. Бясспрэчным вынікам, мне здаецца, з'яўляецца тое, што ў рэзультаце велізарнай арганізацыйнай работы, праведзенай партыйнымі арганізацыямі пад кіраўніцтвам Цэнтральнага Камітэта, узмацнілася сувязь нашых арганізацый з масамі, а ЦК нацкомпартый, абкомаў і крайкомаў—з месцамі.

Але самым галоўным і выдатным вынікам арганізацыйнай работы партыі, безумоўна, з'яўляецца выхаванне і вылучэнне шматлікіх кадраў на кіруючую работу ў партыйныя, савецкія, гаспадарчыя, прафсаюзныя і комсамольскія арганізацыі.

Такіх новых маладых кадраў, паднятых знізу з перадавых, растучых людзей і стаханаўцаў, а таксама скончыўшых вышэйшыя навучальныя ўстановы—у нас сотні тысяч.

Я хацеў-бы агласіць некаторыя асноўныя даныя аб змяненні якаснага састава нашых кадраў.

Вось, напрыклад, у ліку сакратароў абкомаў, крайкомаў і ЦК

нацкомпартый мы маем 28,6 проц. з вышэйшай асветай, з закончанай сярэдняй і незакончанай вышэйшай—30 проц.

У састаў сакратароў абкомаў, крайкомаў і ЦК нацкомпартый 54 проц. вылучана за апошнія годы з нізавой работы і з пярвічных арганізацый, а 39 чалавек вылучаны на сакратарскую работу непасрэдна па сканчэнні вучобы.

Сярод сакратароў райкомаў, гаркомаў і акругкомаў партыі з вышэйшай асветай—534 чалавекі, з незакончанай вышэйшай і сярэдняй—2.581 чалавек. Вылучана з нізавой работы і з работы ў пярвічных арганізацыях 7.250 чалавек і непасрэдна з вучобы—185 чалавек.

У саставе сакратароў пярвічных партыйных камітэтаў і парторгаў з вышэйшай асветай—5.191 чалавек, з сярэдняй асветай—18.677 чалавек.

Такім чынам, вы бачыце з гэтага значную перасоўку ў саставе нашых кіруючых партыйных кадраў у бок больш высокага асветнага ўзроўню і перанясенне непасрэднага вопыту нізавой работы пярвічных арганізацый у нашы кіруючыя партыйныя органы.

Не менш сур'ёзныя якасныя змяненні адбыліся і ў саставе кіруючых кадраў савецкіх і гаспадарчых работнікаў. Так, сярод наркомаў Саюза ССР і РСФСР мы маем 53 проц. з вышэйшай асветай; намеснікаў наркомаў—68 проц.; нач. галоўных упраўленняў і аб'яднанняў наркаматаў—60 проц.; сярод дырэктараў прадпрыемстваў—27,6 проц. Даволі значная колькасць стаханаўцаў цяпер займаюць у нас кіруючыя пасты ў наркаматах, галоўных упраўленнях, на дарогах і ў якасці дырэктараў прамысловых прадпрыемстваў.

Заменай абанкроціўшайся ў палітычных і дзелавых адносінах часткі кадраў і вылучэннем новых людзей на кіруючую работу наша партыя зрабіла вялікую справу, яна ўзмацніла сябе. Адбылося аздараўленне дзяржаўнага і гаспадарчага апарата. У нашым партыйным доме стала чысцей і свяжэй. Сувязь з масамі і месцамі стала мацней. Новыя людзі прынеслі непасрэдны вопыт практычнай работы знізу. Падхалімства і элементы маральнага разлажэння ў значнай меры зніклі, бо іх падтрымлівалі ў мінулым людзі з гнілым палітычным нутром, што і вызначала іх маральнае падзенне.

Таварыш Сталін у справаздачы гаварыў, што ў капіталістычных краінах старонкі буржуазнага друку стракацяць перапевамі аб тым, што, правёўшы ачыстку кадраў за апошні два—тры годы, бальшэвікі аслабілі сябе. Няхай уцяшаюць сябе гэтыя паны. Мы з вамі добра ведаем, што партыя зрабіла вялікую справу, вылучыўшы сотні тысяч новых, свежых кадраў. Гэтым мы ўмацавалі ва ўсіх адносінах справу кіраўніцтва ў партыйных арганізацыях, савецкіх, гаспадарчых і прафсаюзных. Справа ў нас цяпер нязмерна мацней і на-

дзейней. Але, не гледзячы на велізарную арганізацыйную работу, праведзеную партыяй, нам прадстаіць таварышы, уперадзе яшчэ нямала работы, аб ёй гаварыў таварыш Сталін.

## Аб некаторых задачах арганізацыйнай работы

**Першае.** Верна, што партыя рашыла вялікую арганізацыйную задачу вылучэннем новых кадраў. Гэтыя новыя кадры маюць вопыт практычнай нізавой работы, ведаюць жыццё і канкрэтную абстаноўку, яны сталі культурней, многія з вышэйшай і сярэдняй асветай. Яны не заражаны бюракратычным налётам дырэктыўнага кіраўніцтва, чванствам, важдзізмам, больш звязаны з масамі, чэсны і адданы ў адносінах сваёй партыі. Створан выдатны каштоўны фонд. Задача заключаецца ў тым, каб даражыць гэтым фондам, дапамагчы новым кадрам падняцца да ўзроўню сапраўдных кіраўнікоў. Сур'ёзнага вопыту кіруючай работы ў іх яшчэ няма, трэба дапамагчы ім у гэтай справе і ў атрыманні большэвіцкай загартоўкі і палітычнага выхавання.

**Другое.** Таварыш Сталін гаварыў аб неабходнасці забеспячэння правільнага спалучэння ў партыйным кіраўніцтве партыйна-палітычнай работы і кіраўніцтва гаспадаркай.

Ці можам мы сказаць, што нашы крайкомы, абкомы, райкомы на практыцы поўнасцю ўсвоілі ўжо гэтую арганізацыйную задачу? Не, гэтага яшчэ сказаць нельга. На жаль, нават у самы апошні час Цэнтральнаму Камітэту прышлося сур'ёзна папраўляць некаторыя абкомы ў аднабаковасці кіраўніцтва: або збіваюцца на захапленне гаспадарчай работай, забываючы партыйна-палітычныя задачы, або, наадварот, закідваюць гаспадарчую работу, а потым займаюцца ёю ў парадку ліквідацыі прарываў.

Прапановы па статуту, якія ўнесены на разгляд з'езда, прадугледжваюць скасаванне некаторых вытворча-галінных аддзелаў. Але гэта ніяк нельга разглядаць як звужэнне задач кіраўніцтва совецкай і гаспадарчай работай. Наогул трудна і нельга вызначыць, які процант увагі і работы ў нашых арганізацыях павінен ісці на партыйна-палітычную работу і які на гаспадарчае кіраўніцтва. Тут трэба выходзіць з таго, што гаварыў таварыш Сталін у 1937 г. на Пленуме ЦК ВКП(б). Таварыш Сталін гаварыў:

> «Калі цяпер некаторыя нашы таварышы, беручыся за ўзмацненне партыйна-палітычнай работы, уздумаюць адыйсці ад гаспадаркі, то гэта будзе другая крайнасць, якая будзе нам каштаваць не меншых афяр. Нельга шарахацца ад адной крайнасці да другой. Нельга аддзяляць палітыку ад гаспадаркі. Мы не можам адыйсці ад гаспадаркі таксама, як не можам адыйсці ад палітыкі. Для зручнасці вывучэння людзі звычайна аддзяляюць метадалагічна пытанні гаспадаркі ад пытанняў палітыкі.

Але гэта робіцца толькі метадалагічна, штучна, толькі для зручнасці вывучэння. У жыцці, наадварот, на практыцы палітыка і гаспадарка неаддзялімы. Яны існуюць разам і дзейнічаюць разам. І той, хто думае ў нашай практычнай рабоце аддзяліць гаспадарку ад палітыкі, узмацніць гаспадарчую работу цаной умалення палітычнай работы, або, наадварот, узмацніць палітычную работу цаной умалення гаспадарчай работы,—той абавязкова пападае ў тупік».

**Трэцяе.** Таварыш Сталін у якасці адной з арганізацыйных задач ставіў перад нашымі партыйнымі арганізацыямі задачу ўмацавання людзьмі асобных галін совецкай і гаспадарчай работы, каб не падмяняць совецкія і гаспадарчыя органы і не ператвараць сябе ў такавых. Вось, што таварыш Сталін гаварыў па гэтаму поваду ў 1937 г. на Пленуме ЦК ВКП(б):

«Сэнс вядомага пункту праекта рэзалюцыі аб вызваленні партыйных арганізацый ад гаспадарчых дробязей і ўзмацненні партыйна-палітычнай работы заключаецца не ў тым, каб адыйсці ад гаспадарчай работы і гаспадарчага кіраўніцтва, а ўсяго толькі ў тым, каб не дапускаць больш практыкі падмены і абязлічання гаспадарчых органаў, у тым ліку і асабліва зямельных органаў, нашымі партыйнымі арганізацыямі. Неабходна, стала быць, засвоіць метад большэвіцкага кіраўніцтва гаспадарчымі органамі, які заключаецца ў тым, каб сістэматычна дапамагаць гэтым органам, сістэматычна ўмацоўваць іх і кіраваць гаспадаркай не паміма гэтых органаў, а праз іх».

Ці можна, таварышы, сказаць, што гэтае сур'ёзнае папярэджанне таварыша Сталіна нашымі арганізацыямі ўжо поўнасцю ажыццёўлена? Не, гэтага сказаць нельга, таму што ў некаторых нашых арганізацыях маюць месца да гэтага часу два тыпы работы і два тыпы работнікаў. Адны, якія імкнуцца зрабіць усё самі, бяруцца за ўсё, цягнуць усе дробязі гаспадарчага і совецкага кіраўніцтва ў партарганізацыю і ў рэзультаце не ў сілах справіцца і давесці справу да канца, абязлічваючы тым самым совецкія гаспадарчыя арганізацыі.

Другі тып работы і работнікаў—гэта звядзенне свайго кіраўніцтва да агульна-дырэктыўнага кіраўніцтва, перадаручэнне ўсяго канкрэтнага і аператыўнага кіраўніцтва ўсім каму ўгодна. Я мог-бы прывесці нямала падобных канкрэтных прыкладаў з работы асобных абкомаў, але гэта наўрад ці неабходна. Задача заключаецца ў тым, каб канчаткова ліквідаваць гэтыя недахопы шляхам умацавання людзьмі совецкіх і гаспадарчых органаў і правільнага кіраўніцтва імі.

**Чацвертае.** Па-ранейшаму самым сур'ёзным у кіраўніцтве ўсякай работай астаецца падбор людзей і праверка выканання. Вы ведаеце, што на гэтым сур'ёзна настойваў яшчэ пры жыцці Ленін, як на ас-

ноўнай арганізацыйнай умове правільнага кіраўніцтва. Гэта астаецца самым істотным і да гэтага часу. Аб гэтым пастаянна, настойліва нам напамінае таварыш Сталін.

Ці можна сказаць, што гэтая асноўная арганізацыйная ўмова партыйнага, совецкага і гаспадарчага кіраўніцтва ўвайшла ў плоць і кроў нашых кіраўнікоў? Не, гэтага сказаць, таварышы, нельга.

Справа часта зводзіцца да таго, што пякуцца дырэктывы, якія паўтараюць адна другую, астаюцца без праверкі выканання. Часта падбор людзей пастаўлен настолькі няўважліва, што за ім абавязкова ідзе цякучка кадраў, змена людзей, таму што яны часта не апраўдваюць свайго прызначэння.

Значыць задача заключаецца ў тым, каб ліквідаваць гэтыя недахопы і сапраўды ўнядрыць уважлівы падбор людзей і праверку выканання, як асноўную ўмову ўсёй работы, якая нам прадстаіць.

**Пятае.** Верна, што асноўныя кадры ворагаў выкрыты і разгромлены. Але гэта не павінна настрайваць нас да благадушнасці, а няма сумнення, што ў некаторых нашых людзей могуць складвацца такія настроі,—моў, вось цяпер мы ворагаў разграмілі, цяпер можна зноў спакойна папрацаваць. Такія настроі былі-б небяспечнымі, калі-б яны ахапілі нашы арганізацыі. Таварыш Сталін папярэджваў аб варожым капіталістычным акружэнні, і гэтае папярэджанне нашы людзі ніколі не павінны забываць. Недавыкрытыя яшчэ астаткі і зноў засылаемыя да нас ворагі будуць вынаходзіць новыя, больш утончаныя формы барацьбы; праваліўшыся на адных метадах, яны будуць вынаходзіць другія. Яны ўжо скарыстоўваюць форму паклёпу для падшыбання нашых новых кадраў.

Задача заключаецца ў тым, каб і далей выкрываць і паралізаваць усе і ўсялякія спробы ворагаў шкодзіць, вербаваць кадры і ўносіць дэзарганізацыю ў нашы рады.

**Шостае.** Неабходна сказаць аб тым, каб не выпускаць з-пад увагі кіраўніцтва і кантролю партыйных арганізацый ні адной галіны работы—палітычнай, гаспадарчай і совецкай. Урокі гавораць, што ў гэтых адносінах у мінулым былі дапушчаны вельмі буйныя недахопы нашымі арганізацыямі, і Цэнтральнаму Камітэту прышлося сур'ёзна папраўляць некаторыя абкомы і крайкомы.

Напрыклад, нельга сказаць, каб добра справа абстаяла з кіраўніцтвам такой важнай галіною, якая звязана з абслугоўваннем непасрэдных патрэбнасцей насельніцтва, як дзяржаўны і каапера- цыйны гандаль. Ці можна пахваліцца, што нашы партарганізацыі дастаткова сур'ёзна кіруюць гэтай справай і партыйнай работай у гэтых установах? Не, гэтым пахваліцца нельга.

Нельга таксама прызнаць здавальняючым кіраўніцтва партыйнай работай у нашых ВНУ і тэхнікумах, дзе рыхтуюцца сотні тысяч нашай лепшай моладзі, якія заўтра, па сканчэнні вучобы, будуць працаваць і кіраваць у самых розных галінах палітычнай, гаспадарчай

і культурнай работы. А ў нас-жа ў ВНУ і тэхнікумах вучацца 1.553.000 чалавек. Сур'ёзнага павароту пасля папярэджання таварыша Сталіна нашы партыйныя арганізацыі ў гэтых адносінах яшчэ не зрабілі.

І, нарэшце, аб партыйнай рабоце ў сельскай гаспадарцы. Безумоўна, за справаздачны перыяд партыйна-палітычная работа ў сельскай гаспадарцы ўзмацнілася. Колькасць пярвічных арганізацый і колькасць членаў партыі ўзрасла. Аднак усё-ж трэба прызнаць слабасць нашай партыйнай работы ў сельскай гаспадарцы і яе неадпаведнасць у параўнанні з тымі велізарнымі задачамі нашай работы ў вёсцы і ў сельскай гаспадарцы наогул. Узяць хоць-бы становішча спраў з наяўнасцю пярвічных арганізацый і комуністаў у калгасах.

За апошні год мы маем некаторы рост колькасці членаў партыі ў калгасах, аднак нельга яшчэ лічыць нармальным, калі ў нас на 243 тысячы калгасаў толькі 12 тысяч пярвічных партыйных арганізацый з колькасцю членаў і кандыдатаў 153 тысячы.

А па некаторых абласцях справа абстаіць асабліва дрэнна. Вось напрыклад, Беларуская рэспубліка. На 9.665 калгасаў ёсць толькі 44 пярвічныя арганізацыі ў калгасах, з колькасцю 614 членаў партыі.

У Валагодскай вобласці, на 5.970 калгасаў ёсць 31 пярвічная арганізацыя, з колькасцю 442 члены партыі. У Пермскай вобласці, на 3.314 калгасаў—16 пярвічных арганізацый у калгасах, з колькасцю 274 члены партыі.

У той-жа час ёсць рэспублікі і вобласці, дзе справа абстаіць значна лепш. Так напрыклад, у Азербайджане, на 3.677 калгасаў ёсць 882 пярвічныя арганізацыі, з колькасцю 14.500 членаў партыі. У Казахстане, на 7.347 калгасаў—1.239 пярвічных арганізацый, з колькасцю 15.600 членаў партыі. У Сталінградскай вобласці, на 1.655 калгасаў—507 пярвічных арганізацый, з колькасцю 5.286 членаў партыі. Вось бачыце, якая розніца паміж асобнымі абласцямі.

Трэба таксама пажадаць, каб арганізацыі комсамола звярнулі сур'ёзную ўвагу на ўмацаванне работы комсамола ў вёсцы. Комсамол мог-бы безумоўна мець, калі не ва ўсіх, то ў значнай большасці калгасаў свае пярвічныя арганізацыі, між тым справа абстаіць так, што з 243 тысяч калгасаў больш чым у 100 тысячах калгасаў няма пярвічных комсамольскіх арганізацый.

З гэтага, вядома, таварышы, не вынікае, што нашы арганізацыі павінны пачаць шырокую кампанію па механічнаму павелічэнню колькасці пярвічных арганізацый і членаў партыі ў калгасах, але ва ўсякім выпадку цяпер мы маем у калгасах многа перадавых людзей, жадаючых быць членамі нашай партыі, і ў сваёй далейшай рабоце мы абавязаны дабіцца павелічэння ліку комуністаў у калгасах і колькасці пярвічных арганізацый. Гэта нам аблегчыць як задачу палітычнай работы ў калгасах, так і арганізацыю кіраўніцтва калгасамі.

## Аб нашых задачах па сельскай гаспадарцы

Таварыш Сталін паставіў вялікія і сур'ёзныя задачы ў галіне сельскай гаспадаркі:

«Разгарнуць далей уздым нашага земляробства і жывёлагадоўлі з тым, каб на працягу бліжэйшых 3—4 год дабіцца штогодняй вытворчасці зярна 8 мільярдаў пудоў з сярэдняй ураджайнасцю на гектар у 12—13 цэнтнераў, павялічыць вытворчасць па тэхнічных культурах на 30—35 процантаў у сярэднім, павялічыць пагалоўе авечак і свіней удвая, пагалоўе буйнай рагатай жывёлы—процантаў на 40, пагалоўе коней—процантаў на 35».

Гэтыя задачы выканальны. Я хацеў-бы спыніцца на тых велізарных магчымасцях, якія мы маем у сельскай гаспадарцы.

Нельга недаацэньваць таго, што ворагі народа ўсіх масцей, бясспрэчна, прычынілі нямала шкоды калгасам і соўгасам шкодніцтвам у сельскай гаспадарцы. Цяпер ясна, што ворагамі народа пад кіраўніцтвам замежных разведак быў задуман і праводзіўся план шырокай правакацыі. Скарыстоўваліся ўсе сродкі для стварэння голаду ў калгаснай вёсцы, для таго, каб выклікаць нездаволенні ў краіне. Трудна наогул паддаецца якім-небудзь выражэнням тая злоба і звярыныя сродкі, якія прымянялі ворагі, каб дабіцца сваёй мэты. Бадай што чалавечая гісторыя не ведае нічога падобнага таму каварству і той дзікасці, якія прымянялі ворагі народа.

Замаскіраваныя шкоднікі праводзілі масавае заражэнне калгаснай і соўгаснай жывёлы сапам, сібірскай язвай і іншымі заразнымі хваробамі, а праз жывёлу заражалі і людзей. Замест выпрацоўкі лякарственых прэпаратаў у біо-лабараторыях ворагі, якія прабраліся туды, выраблялі яды для атручвання жывёлы, штучна стваралася бяскорміца, каб выклікаць масавы падзеж жывёлы.

Каб падарваць калгасы, ворагі, якія прабраліся ў зямельныя органы, разбуралі сельскагаспадарчыя машыны ў МТС і соўгасах. Праводзілі мелкае ўзорванне палёў з мэтаю засмечання хлябоў, усяляк перашкаджалі ўборцы хлябоў і губілі хлеб на корані, а ўбраны хлеб гнаілі на складах і заражалі кляшчом. Трудна пералічыць тыя подлыя сродкі, якімі карысталіся ворагі народа. Сельская гаспадарка была, відавочна, галоўным аб'ектам шкодніцтва і дыверсійнай работы ворагаў. Але ворагі пралічыліся. Ім прышлося сутыкнуцца з дзесяткамі мільёнаў калгаснага сялянства, якія жыць па-старому не хочуць. Ворагі хацелі падарваць калгасы. Гэта ім не ўдалося. Яны сутыкнуліся са сцяной узмацнеўшых калгасаў, з нянавісцю ўсяго народа. Дзе-ж ім, гэтым жалкім казяўкам, змагацца супроць народа-велікана і яго партыі. І народ страхнуў і раздавіў гэтых казявак, а нашы калгасы вышлі з барацьбы са шкоднікамі яшчэ больш узмацнеўшымі.

Якія-ж асноўныя змяненні, што адбыліся ў сельскай гаспадарцы і калгасах за перыяд з XVII з'езда нашай партыі? Таварыш Сталін гаварыў аб іх. Тэхнічная рэканструкцыя сельскай гаспадаркі закончана. Колькасць МТС за гэты перыяд вырасла ў два з лішнім раза. Магутнасць трактарнага парка за той-жа перыяд павялічылася ў тры разы. Колькасць камбайнаў узрасла ў 6 раз. Тры чверці ўсёй пахаці калгасаў апрацоўваецца трактарамі МТС. Больш чым палавіна калгасных пасеваў засяваецца трактарнымі сеялкамі і ўбіраецца камбайнамі. Палепшылася якасць апрацоўкі глебы ў калгасах. Плошчы папараў узраслі з 19 млн. да 31 млн. га, зябліва—з 24 млн. да 53 млн., пасеваў сартавым насеннем—з 27 млн. да 67 млн., гэта значыць яны сталі пераважаючымі.

Разам з гэтым значна ўзрасла прадукцыя і прадукцыйнасць сельскай гаспадаркі, ураджайнасць нашага земляробства і прадуктыўнасць жывёлагадоўлі. У корані змяніўся матэрыяльны дабрабыт калгаснага сялянства. Грашовыя даходы калгасаў узраслі ў параўнанні з 1934 годам у тры разы. Даходы па працаднях калгасных двароў узраслі ў натуральнай частцы ў 2,5 раза, а грашовая даходнасць на калгасны двор паднялася ў 4 разы. Бескароўнасць калгаснікаў можна лічыць ужо цяпер поўнасцю ліквідаванай. Заможнае жыццё ў калгасах стала фактам. Такім чынам тое, што заяўляў таварыш Сталін на I Усесаюзным з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў аб заможным жыцці,—поўнасцю і цалкам апраўдана.

Не прыходзіцца гаварыць аб тых велізарных змяненнях, якія адбыліся ў калгаснай вёсцы ў палітычных, культурных і соцыяльных адносінах. Усе гэтыя карэнныя змяненні ў сельскай гаспадарцы і ў калгасах суправаджаліся стварэннем зусім новай сельскагаспадарчай калгаснай інтэлігенцыі, новых кадраў у сельскагаспадарчай вытворчасці.

Адных трактарыстаў і камбайнераў налічваецца звыш паўтара мільёна чалавек; аграномаў, землямераў, заатэхнікаў, ветурачоў, фельчараў—звыш 300 тыс. чалавек; сотні тысяч старшынь калгасаў, брыгадзіраў, жывёлаводаў.

Калгасы сталі адзінай сілай і адзіным гаспадаром у вёсцы. Калгасны лад непахісны, ён увайшоў у плоць нашага сялянства. Жыццё па-за калгасам стала нямыслімым. Такія вынікі работы нашай партыі ў сельскай гаспадарцы. Такім чынам, таварышы, створаны велізарныя магчымасці для руху ўперад у галіне сельскай гаспадаркі.

Няма чаго даказваць, што наша сельская гаспадарка і земляробства—самая буйная, самая механізаваная ва ўсім свеце. І ўсё-ж яна астаецца ў велізарнай залежнасці ад прыроднай стыхіі,—гэта мы павінны прызнаць. Кожны год то ў адной, то ў другой частцы СССР ад сухавеяў, з-за недахвату вільгаці і ападкаў калгасы і соўгасы трацяць сотні мільёнаў пудоў зярна і кармоў. Калі-б такая засуха, якая ў мінулым годзе ахапіла Паваложжа і некаторыя нашы цэнт-

ральныя вобласці, здарылася ў краіне пры старым ладзе, пры індывідуальнай сялянскай гаспадарцы, то быў-бы напэўна страшны голад, а мільёны сялянскіх гаспадарак разарыліся-б. Пры калгасным ладзе гэта выключана. Не гледзячы на вялікую засуху, дзякуючы грамадскай гаспадарцы і машынізаванай апрацоўцы глебы калгасы сабралі ў цэлым дастатковы ўраджай, каб выйсці з труднага становішча. Краіна ў нас такая велізарная і лад у нас такі, пры якім неўраджай у адной рэспубліцы і вобласці кампенсіруецца ўраджаем і дапамогаю з другіх. У нас голад выключан. Пры недародзе нашы партыя і ўрад не дапусцяць, каб калгаснікі неўраджайных раёнаў галадалі. Калі ў мінулым годзе пэўная частка абласцей пацярпела ад неўраджаю, ЦК і СНК аказалі дапамогу найбольш пацярпеўшым калгасам гэтых абласцей у размеры 103 мільёнаў пудоў натурай, па ссудах і скідках, і звыш 350 мільёнаў рублёў грашыма.

Але ці цярпіма, таварышы, далей такая сляпая залежнасць ад стыхіі ў нашай буйнай механізаванай сельскай гаспадарцы? Ці не пара сур'ёзна кончыць з гэтай сляпой залежнасцю ад дожджычка?

Мы маем усе падставы весці нашу сельскую гаспадарку, наша земляробства па-культурнаму, навуковаму і вывесці яе са стыхійнай залежнасці, таму што маем амаль усе неабходныя для гэтага сродкі: лепшыя сельскагаспадарчыя машыны, буйныя, а не раздробленыя ўчасткі зямлі, грамадскую гаспадарку і велізарны вопыт у гэтых адносінах. Многія калгасы і МТС у засушлівых абласцях ужо рашылі на справе гэтую вялікую задачу.

Я мог-бы спаслацца на жывыя прыклады таго, як пры параўнаўча нізкай ураджайнасці, атрыманай у мінулым годзе па Саратаўскай, Сталінградскай, Маскоўскай і іншых абласцях, даволі многія калгасы, на палях якіх таксама не было за ўсё лета дажджу, як і ў іншых калгасаў гэтых абласцей, атрымалі нармальны і нават павышаны ўраджай хлябоў тым, што не падпарадкаваліся стыхіі, аб'явілі ёй вайну, а земляробства на сваіх палях вялі па-культурнаму.

Вось для прыкладу некалькі калгасаў: пры сярэдняй ураджайнасці па Саратаўскай вобласці ў 1938 годзе 22 пуды з гектара калгас «Красный Октябрь» Балакаўскага раёна атрымаў ураджай азімай пшаніцы 75 пудоў з га, яравой пшаніцы—60 пудоў з га, аўса—76 пудоў з га, ячменю—72 пуды з га; калгас імені ОГПУ атрымаў ураджай пшаніцы 70 пудоў з га; калгас «Красный Ижорец» атрымаў ячменю са 117 га 100 пудоў з кожнага га.

А вось Сталінградская вобласць, дзе пры сярэдняй ураджайнасці 19 пудоў з гектара калгас імені Крупскай Нехаеўскага раёна атрымаў 72 пуды азімай пшаніцы, а з насенных участкаў—95 пудоў з кожнага гектара; калгас імені Кагановіча Н.-Анненскага раёна сабраў азімай пшаніцы 86 пудоў з га.

Па Маскоўскай вобласці пры сярэднім ураджаі зернавых 33 пуды з га ў 1938 годзе калгас «Победа» Дзімітраўскага раёна атрымаў у

сярэднім зернавых па 106 пудоў, а жыта—136 пудоў з га; калгас імені Сталінскай Канстытуцыі атрымаў 109 пудоў пшаніцы з гектара; калгас імені Сталіна атрымаў 173 пуды аўса з га; калгас «Об'единение» атрымаў ячменю 154 пуды з гектара.

Я, таварышы, прывёў гэтыя прыклады толькі па 2—3 калгасах з гэтых абласцей, але такіх калгасаў у абласцях, пацярпеўшых ад засухі ў мінулым годзе, налічваюцца не адзінкі, а дзесяткі і сотні. Якімі-ж мерамі гэтыя калгасы пераадалелі засуху? Вось што правёў калгас імені ОГПУ Балакаўскага раёна Саратаўскай вобласці. Ён правёў лушчэнне пасля зняцця пасеву, усё зябліва ўзараў да 30 верасня і на глыбіню 18—20 сантыметраў, правёў снегазатрыманне. Пасеў быў закончан у раннія і сціслыя тэрміны, насенне перад сяўбой было ачышчана, пратручана, поўнасцю яравізавана. Здавалася-б, нескладаная агратэхніка, а калгас пераадалеў засуху. Прыкладна тое-ж самае праводзілася і ў іншых калгасах. Увесь гэты вопыт запісан Цэнтральным Камітэтам і СНК Саюза, як рашэнне па барацьбе з засухай на паўднёвым усходзе. Але, здаецца, гэтае рашэнне яшчэ далёка недастаткова сур'ёзна праводзіцца нашым Наркамземам і нашымі абкомамі гэтых абласцей.

Таварыш Сталін паставіў задачу: у бліжэйшыя годы атрымаць валавы збор 8 мільярдаў пудоў, г. зн. 13 цэнтнераў з га. Цыфра гэта рэальная, але для гэтага прыдзецца сур'ёзна папрацаваць нашым арганізацыям і перш за ўсё ліквідаваць страты, якія маюць многія МТС і калгасы ў сувязі са спазненнем сяўбы, па крайняй меры, як правіла, на два—тры дні супроць тэрмінаў, ды ў дадатак сяўба расцягваецца вясной замест сціслых тэрмінаў 5—6 дзён,—на 15—17 дзён. Па азімай сяўбе, як правіла, нашы МТС наогул строгіх тэрмінаў не прытрымліваюцца ні для пачатку сяўбы, ні для яе сканчэння, а бывае так, што сеюць да марозу. А што значыць спазніцца на 2—3 дні ў сяўбе або расцягнуць яе? Гэта значыць страціць ад 1/4 да 1/3 ураджаю.

Многія МТС і калгасы з-за дрэннай падрыхтоўкі ўборкі і расцяжкі яе на месяц, а то і больш, таксама трацяць частку ўраджаю. Толькі ліквідаваўшы гэтыя два недахопы, мы ўжо маглі-б атрымаць і захаваць па крайняй меры некалькі соцень мільёнаў пудоў дабавачнага зярна, кармоў. Да гэтага і накіраваны рашэнні Цэнтральнага Камітэта партыі.

Наколькі велізарны магчымасці павышэння ўраджайнасці хлябоў і тэхнічных культур, паказваюць тысячы калгасаў, дзесяткі тысяч брыгад і звенняў. Калі ўзяць учот ураджайнасці ў 1938 годзе па 187 тысячах калгасаў, то выходзіць, што ўжо 58 тысяч калгасаў атрымалі з га ўраджай 66 пудоў і вышэй, а ў тым ліку 35 тыс. калгасаў атрымалі ўраджай 78 пудоў і вышэй, г. зн. 13 цэнтнераў і вышэй, пры сярэднім ураджаі ў СССР па зернавых 9,3 цэнтнера, г. зн. 56 пудоў з гектара. Асобнымі-ж раёнамі ў цэлым быў дасягнут такі

ўраджай: у Руска-Палянскім і Шэрбакульскім раёнах Омскай вобласці—па 123 пуды з гектара; у Лапацінскім раёне Чэлябінскай вобласці—па 125 пудоў з гектара; у Ямпольскім раёне Вінніцкай вобласці—па 129 пудоў з гектара; у Келлераўскім і Петрапаўлаўскім раёнах Паўночна-Казахстанскай вобласці—па 140 пудоў з гектара. Найвышэйшы ўраджай па калгасах быў дасягнут у 158 пудоў з гектара, як, напрыклад, у калгасе імені Літвінава Свердлоўскай вобласці.

Па брыгадах у цэлым дасягнут яшчэ большы ўраджай. Напрыклад, брыгада тав. Салдатава калгаса імені Палітаддзела Мелекескага раёна Куйбышэўскай вобласці атрымала сярэдні ўраджай зернавых па 225 пудоў з гектара. Брыгада тав. Ледоўскага калгаса імені Красіна Адыгейскай аўтаномнай вобласці—па 246 пудоў з гектара.

Яшчэ больш высокіх размераў ураджаю дабіліся калгаснікі па асобных звеннях. Звяно калгасніцы тав. Сергеевай калгаса імені Палітаддзела, Алтайскага края, атрымала з участка ў 4 га па 438 пудоў пшаніцы з гектара, а з участка ў 10 гектараў—328 пудоў з гектара. Звяно тав. Папенка калгаса «Красный партизан» дабілася ўраджаю 457 пудоў яравой пшаніцы з аднаго гектара, а з 15 гектараў—353 пуды з гектара. Звяно тав. Ракіціна калгаса «Новый Чарыш» Белаглазаўскага раёна атрымала ўраджай пшаніцы ў 1937 г. 481 пуд з гектара. Звенні вядомых перадавікоў у Алтайскім краі калгасніkаў тт. Ефрэмава і Чуманава ў 1936 годзе атрымалі ад 213 да 372 пудоў з гектара. Гэта было поўнай нечаканасцю для мясцовых аграномаў. У наступным годзе гэтыя і многія іншыя звенні Белаглазаўскага раёна дабіліся небывалага ўраджаю—427—457 пудоў з гектара. Тав. Чуманаў у 1938 годзе атрымаў ураджай з гектара 512 пудоў. Такіх звенняў высокага ўраджаю ў 1938 годзе толькі па аднаму Алтайскаму краю налічвалася 4300. Дарэчы сказаць, душой і ініцыятарам гэтага руху быў Белаглазаўскі райком Алтайскага края, ягò першы сакратар. Гэта гаворыць аб тым, што могуць зрабіць, калі захочуць, нашы райкомы ў любым раёне.

Так справа абстаіць па зярну.

А вось якія справы творацца па бавоўне. Пры сярэднім ураджаі па СССР у 1938 годзе 12,9 цэнтнера з гектара па асобных раёнах у цэлым дасягнуты ўраджаі: па Геок-Тэпінскаму і Фарабскаму раёнах Туркменскай ССР—па 23,8 цэнтнера з гектара; па Сталінабадскаму раёну Таджыкскай ССР—па 27,8 цэнтнера бавоўны з гектара; па Ізбаскенцкаму раёну Ферганскай вобласці—па 33 цэнтнеры з гектара. У цэлым па калгасах ужо дасягнуты больш значныя ўраджаі па бавоўне. Калгас імені Карла Маркса Туркменскай ССР атрымаў па 43 цэнтнеры з гектара; калгас імені Чапаева Туркменскай ССР—па 43 цэнтнеры з гектара. Па брыгадах у цэлым найвышэйшы ўраджай бавоўны ўжо дасягнут у 91 цэнтнер з гектара ў брыгадзе т. Курбанава калгаса імені Тэльмана Узбекскай ССР. Але яшчэ больш высокі

ўраджай паказваюць бавоўнавыя звенні. Напрыклад, звяно т. Абдураімава Р. калгаса імені Варашылава Кіргізскай ССР сабрала 108 цэнтнераў з гектара; звяно калгасніка, дэпутата Вярхоўнага Совета СССР т. Аланазара Худаева калгаса імені Сталіна Свердлоўскага раёна Узбекскай ССР атрымала 125 цэнтнераў з гектара; звяно т. Ташбаева А. Ферганскай вобласці атрымала 130 цэнтнераў з гектара; звяно т. Аліевай калгаса імені Літвінава Азербайджанскай ССР—151 цэнтнер з гектара.

Звяно т. Годжар Мустафа кызы калгаса імені Варашылава Азербайджанскай ССР атрымала 151 цэнтнер з гектара. Так справа абстаіць у нас з бавоўнай.

А вось што адбываецца па ільну. Пры сярэднім ураджаі па СССР, атрыманым у 1938 годзе, у 2,7 цэнтнера з гектара ёсць асобныя раёны, якія ўжо атрымалі ўраджай у два разы большы. Напрыклад, Краснахолмскі раён Калінінскай вобласці атрымаў па 4,6 цэнтнера з гектара; Каменскі раён Калінінскай вобласці—па 5,3 цэнтнера з гектара.

Па асобных звеннях: звяно т. Важжаевай калгаса імені Кагановіча Кіраўскай вобласці атрымала ільнавалакна 12,8 цэнтнера з гектара; звяно т. Кандзеравай калгаса «Юны комунар» Чавускага раёна БССР атрымала па 14 цэнтнераў з гектара; звяно т. Фількінай калгаса «1 Мая» Мсціслаўскага раёна БССР атрымала 17,6 цэнтнера з гектара; звяно т. Бараноўскай калгаса імені Тэльмана Эмільчынскага раёна Жытомірскай вобласці атрымала ў 1936 годзе 14 цэнтнераў, у 1937 годзе—20,6 цэнтнера, а ў 1938 годзе—21,75 цэнтнера з гектара.

Тое-ж самае па бураках. Пры сярэднім ураджаі па СССР у 1938 годзе 141 цэнтнер з гектара асобныя раёны ў цэлым атрымліваюць значна больш. Так напрыклад, Шырокаўскі раён Днепрапетроўскай вобласці атрымаў па 335 цэнтнераў з гектара; Канцкі раён Кіргізскай ССР—па 361 цэнтн. з гектара; калгас «За линию ЦК» Калінінскага раёна Кіргізскай ССР—442 цэнтн. з гектара. Па асобных брыгадах: напрыклад, брыгада т. Гета Згуроўскага буракавага соўгаса Палтаўскай вобласці атрымала ўраджай буракоў 455 цэнтн., а ў 1938 годзе—545 цэнтн.; брыгада т. Мамунава калгаса «Социялей» Канцкага раёна Кіргізскай ССР атрымала ўраджай буракоў у сярэднім 534 цэнтн. Па звеннях дасягнут ураджай, які перавышае тысячу цэнтнераў: звяно т. Охота С. Д. калгаса «Чырвоны перадавік» Вінніцкай вобласці атрымала ўраджай у 1936 годзе 835 цэнтн., а ў 1938 годзе ўжо 1.062 цэнтнеры з гектара; звяно т. Піліпенка калгаса «Чэрвона Украіна» Лазоўскага раёна Харкаўскай вобласці атрымала ўраджай буракоў у 1936 годзе—700 цэнтн., а ў 1938 годзе—1.049 цэнтн.; звяно т. Праналоцкай соўгаса імені Мікаяна Кіраваградскай вобласці атрымала ў 1938 годзе 1.103 цэнтн. з гектара.

Такіх прыкладаў можна было-б прывесці сотні і тысячы. Вось

яны сапраўдныя рэзервы! Колькі тут магчымасцей паміж 56 пудамі сярэдняга ўраджаю па краіне па зернавых і ўраджаем у 512 пудоў з гектара, ужо дасягнутым перадавікамі сельскай гаспадаркі! Паміж ураджаем у 12,9 цэнтнера па бавоўне і 151 цэнтн., ужо дасягнутым перадавымі калгаснікамі! Паміж ураджаем у 2,7 цэнтн. з гектара ільну па Саюзу і 21 цэнтн., ужо дасягнутым перадавікамі! Тое-ж самае па бураках. Колькі тут магчымасцей і рэзерваў у сельскай гаспадарцы, якія адкрываюць у нас перадавыя людзі сельскай гаспадаркі!

Што гэта за людзі? Ці не выпадкова яны атрымліваюць такія ўраджаі?

Гэтыя людзі, таварышы,—самыя звычайныя, выйшлі яны ў мінулым з серадняцкіх, батрацкіх і бядняцкіх сем'яў і, як гаварыў таварыш Сталін аб стаханаўцах,—гэта людзі простыя і скромныя, без якіх-бы то ні было прэтэнзій на тое, каб набыць лаўры фігур усесаюзнага значэння. Гэта людзі, якія вывучылі і вывучаюць прыроду раслін на практыцы, на сваёй працы, якія аўладалі агратэхнічнай навукай і рухаюць гэтую навуку ўперад, ствараючы зусім новыя нормы і новыя палажэнні для сельскай гаспадаркі. Гэтыя людзі дасягнулі такіх высокіх рэзультатаў сваёй працы таму, што любяць сваю справу.

Трэба мець на ўвазе, што гэта ўжо не адзіночкі. Такіх і ім падобных, выхаваных нашай партыяй, ужо дзесяткі тысяч. Некаторыя з іх дэпутаты Вярхоўных Саветаў, многія ўзнагароджаны ордэнамі. Пявіліся гэтыя людзі на аснове перамогі і ўмацавання калгасаў, на аснове ўзбраення нашай сельскай гаспадаркі першакласнымі машынамі, на аснове велізарнай работы партыі і пастаянных клопатаў аб сельскай гаспадарцы таварыша Сталіна. **(Апладысменты.)**

У чым-жа сакрэт іх поспехаў? Што перадавікі сельскай гаспадаркі прымяняюць для атрымання высокіх ураджаяў? Можна было-б прадэманстраваць вам тыя меры, якія прымяняюць асобныя калгасы, брыгады і звенні, але ў агульным усе гэтыя меры перадавікоў зводзяцца да наступнага.

**Па-першае,** перадавікі сельскай гаспадаркі прымяняюць агратэхнічныя меры ў комплексе, ва ўзаемнай увязцы, а не разрываючы адну меру ад другой.

**Па-другое,** іх меры зводзяцца да барацьбы за вільгаць, шляхам снегазатрымання, абавязковага і ранняга зяблівага ворыва, падняцця папараў, баранавання пасеваў не толькі азімых, але і яравых, для ўстаранення коркі пасля дажджоў. Апошняе, я павінен заўважыць, таварышы, з'яўляецца безумоўна зусім новым агратэхнічным прыёмам, які ўвялі нашы перадавікі сельскай гаспадаркі.

**Па-трэцяе,** у барацьбе з пустазеллем і за структуру глебы ўвядзеннем севаабаротаў, глыбокага ворыва, лушчэння, праполкі пасеваў і ачысткі насеннага зярна ад смецця.

**Па-чацвертае,** забеспячэнне ранняй сяўбы ў сціслыя тэрміны. Сяўба, як правіла, праводзіцца яравізаваным насеннем па метаду акадэміка Лысенка.

Далей, перадавікі сельскай гаспадаркі зусім па-новаму падыходзяць да пытання высеву насення ў тым сэнсе, што дабіваюцца больш правільнага размяшчэння насення на плошчы і ў гэтых адносінах рашуча ламаюць усе традыцыйныя нормы высеваў. Яны не задавальняюцца толькі вагою, а выходзяць з колькасці зёран на плошчы для таго, каб, з аднаго боку, пазбегнуць пры густаце сяўбы ўзаемнага прыгнечання раслін у радках, а, з другога боку, скарыстаць як можна больш інтэнсіўна плошчу пасеву. Некаторыя перадавікі, не здавольваючыся канструкцыяй нашых шырокарадных сеялак, ідуць на перакрэсную сяўбу для таго, каб правільней скарыстаць плошчы і правільней размясціць расліны.

Перадавікі сельскай гаспадаркі ў барацьбе за высокую ўраджайнасць на палях абавязкова прымяняюць гной і хімічныя ўгнаенні. Зусім новае, што ўнеслі ў гэтых адносінах перадавікі і чаго не было ў навуцы,—гэта падкормка раслін угнаеннямі пасля сяўбы. І, нарэшце, барацьба за своечасовую ўборку.

Некаторыя-ж перадавікі пераходзяць да больш высокай агратэхнікі, да паліванняў зернавых пасеваў. Напрыклад, брыгада т. Олейнікава калгаса «Красный партизан» Сталінградскай вобласці, якая атрымала 445 пудоў зярна з га ў засушлівым 1938 годзе.

Але вельмі важна тое, што перадавікі сельскай гаспадаркі і перадавыя калгасы выходзяць не з шаблона і не з механічнага прымянення тых ці іншых агратэхнічных мер, а з ацэнкі і вывучэння мясцовых глебаў і кліматычных умоў.

Вось у асноўным, таварышы, сутнасць таго, чым дабіваюцца перадавікі рэкордных ураджаяў. І ўсё-ж яны самі гавораць, што мы яшчэ не ўсё робім, мы яшчэ можам больш зрабіць для таго, каб атрымаць больш высокія ўраджаі. Таму вось яны атрымліваюць не выпадкова высокія ўраджаі на той-жа самай зямлі, з якой знімаецца і нізкі ўраджай. Справа ў тым, што яны падпарадкоўваюць ужо і трымаюць у руках ураджайнасць і з года ў год, прыкладна, атрымліваюць тое, што намячаюць у сваіх планах.

Паўстае пытанне, ці ёсць тут у гэтых мерах што-небудзь незвычайнае і недаступнае для іншых калгасаў і калгаснікаў? Не, усе гэтыя меры з'яўляюцца зусім даступнымі для кожнага калгаса і калгасніка.

Я прашу прабачэння, таварышы, што вельмі падрабязна спыняюся на гэтых пытаннях і захапіўся падрабязным ізлажэннем гэтых пытанняў, але мне хацелася-б вам, кіраўнікам партыйных арганізацый, сакратарам райкомаў, абкомаў і іншым партыйным работнікам, паказаць у сабраным выглядзе, даказаць не на агульных палажэннях, а на фактах, на рабоце дзесяткаў тысяч жывых людзей, нашых кал-

гасаў, які выдатны, здаровы, малады, усеперамагаючы рух адбываецца ў нашай калгаснай вёсцы і якія велізарныя магчымасці мы маем з вамі для рашучага перавароту ў прадукцыйнасці сельскай гаспадаркі. **(Апладысменты.)**

Вы бачыце, таварышы, як ляцяць усе прэдзелы, усе тэорыі, усе размовы аб пладародных і непладародных землях пад напорам перадавых калгасаў і калгаснікаў. Як яны, гэтыя скромныя людзі, сваёй практыкай стварылі ўжо цэлую навуку высокай ураджайнасці і поўнага вызвалення земляробства ад шкодных уплываў прыроднай стыхіі.

Я гаварыў аб велізарных магчымасцях у адносінах ураджайнасці.

Тое-ж самае можна сказаць і адносна ўжо накопленых велізарных рэзерваў у механізацыі сельскай гаспадаркі. Тым больш, гэта трэба сказаць, што некаторыя нашы абкомы аднабакова падыходзяць к данаму пытанню, патрабуючы пабольш камбайнаў і пабольш трактароў, пры гэтым забываючы аб павышэнні прадукцыйнасці сельскагаспадарчых машын, а перадавікі—трактарысты і камбайнеры паказваюць, наколькі велізарны гэтыя рэзервы і магчымасці ў выкарыстанні трактараў і камбайнаў.

Вось толькі каратка некалькі цыфр. Пры сярэдняй выпрацоўцы па Саюзу, асобна на калёсны трактар за сезон—411 га ў 1938 годзе і на гусенічны —ЧТЗ—1.117 га, выпрацоўка, ужо дасягнутая, складае ў цэлым: па Крымскай АССР—693 га на калёсны трактар і 1.726 на ЧТЗ; па Татарскай АССР на калёсны трактар—610 і на ЧТЗ—1.596 га. У Актанышскай МТС Татарскай АССР на калёсным трактары выпрацавана ў сярэднім 1.296 га; па Расашанскай МТС Варонежскай вобласці на калёсным трактары—1.306 і на ЧТЗ—2.745 га; па Краснаармейскай МТС Крымскай АССР на калёсным трактары—1.095 га, на ЧТЗ—2.066 га.

Яшчэ больш высокія паказальнікі выкарыстання трактараў даюць асобныя трактарысты і брыгадзіры. Напрыклад, брыгадзір Піражкоў Мураўлянскай МТС Разанскай вобласці на трактары ЧТЗ даў 5.100 га; т. Бахолдзіна брыгадзір-трактарыстка Талаўскай МТС Алтайскага края на трактары ЧТЗ дала 5.200 га, брыгадзір т. Бартакоўскі Мажарскай МТС Разанскай вобласці на трактары ЧТЗ даў 5.700 га, гэта значыць больш чым сярэдняя выпрацоўка 5 трактараў ЧТЗ па Саюзу. Па калёсных трактарах тая-ж самая карціна.

Па камбайнах, пры сярэдняй выпрацоўцы за сезон па Саюзу 301 га, Рэспубліка Немцаў Паваложжа ў цэлым ужо мае 398 га. Па МТС: Сталінская МТС Краснадарскага края дала выпрацоўку на камбайн 507 га, Нова-Анненская МТС Сталінградскай вобласці—550 га. А перадавыя камбайнеры, напрыклад, камбайнер Свірыдаў Краснахолмскай МТС Чкалаўскай вобласці на сцэпе двух камбайнаў «Сталинец» убраў 3.675 га.

Агрэгат братоў Оськіных (сцэп двух камбайнаў «Сталинец»)—Чкалаўская вобласць—пры сярэдняй выпрацоўцы па вобласці на адзін камбайн 378 га, убраў за сезон ні больш ні менш як 5.238 га, г. зн. столькі, колькі ўбралі ў гэтай вобласці 14 камбайнаў.

А калі параўнаць, колькі патрэбавалася-б на ўборцы коней і людзей, то выходзіць, што Оськіны сваёй работай на двух камбайнах замянілі 1.637 чалавек, 373 кані, 25 жнянрак, 25 малатарань, 25 веялак, 40 сартыровак, а пры ўборцы ўручную, як рабілася раней, патрэбавалася-б на гэта 3.323 чалавекі. Вось бачыце, якія цуды робяць людзі, аўладаўшыя тэхнікай. **(Апладысменты.)**

Вось, таварышы, якія рэзервы ў адносінах выкарыстання с.-г. механізацыі ўскрываюць нашы перадавыя людзі сярод трактарыстаў і камбайнераў.

Што-ж патрабуецца для таго, каб пераадалець шкодны ўплыў стыхіі на наша земляробства, каб падпарадкаваць прыроду і выйсці з залежнасці ад дожджычка, што патрабуецца, каб значна павысіць ураджай нашых палёў у соўгасах і калгасах?

**Па-першае,** правесці хоць-бы мінімум з таго, што ўжо праводзяць нашы перадавыя калгасы, соўгасы і перадавікі сельскай гаспадаркі, гэта значыць ажыццявіць культурную апрацоўку глебы. Як вы ведаеце, ЦК із лажыў гэтыя патрабаванні ў сваіх пастановах аб засушлівых раёнах і рабоце МТС, якія і павінны быць праведзены.

**Па-другое,** трэба, нарэшце, сур'ёзна заняцца справай увядзення правільных севаабаротаў, правесці смялей тое, аб чым гаварыў таварыш Сталін па гэтаму поваду яшчэ на XVII з'ездзе партыі і што так нерашуча праводзіць, або вярней нічога не робіць Наркамзем. Дарэчы, трэба сказаць, што каля 15 проц. нашых калгасаў і соўгасаў ужо ўвялі правільныя севаабароты, не чакаючы, пакуль раскачаецца наш Наркамзем і некаторыя нашы абкомы і крайкомы.

**Па-трэцяе,** трэба максімальна раздуць справу з прымяненнем угнаенняў. Перадавікі сельскай гаспадаркі даказваюць на справе, якое велізарнае значэнне для ўраджаю мае ўнясенне ўгнаенняў у глебу і падкормка раслін. Разам з тым трэба прызнаць, што агульны ўзровень унясення ўгнаенняў у нас яшчэ нізкі, хоць у параўнанні з 1932 годам сельская гаспадарка атрымлівае ўгнаенняў у 4 разы больш. Ад новага наркамата і ўсіх работнікаў хімічнай прамысловасці неабходна патрэбаваць больш быстрага развароту і высокай прадукцыйнасці прамысловасці хімічных угнаенняў. Каб пазбегнуць далёкіх перавозак хімічных угнаенняў, неабходна паскорыць распрацоўку ўсякага роду новых месцанараджэнняў, такіх, як, напрыклад, калійныя солі ў Саратаўскай вобласці—гавораць, багатыя месцанараджэнні; залежы фасфарытаў у Паўднёвым Казахстане, што дало-б магчымасць забяспечыць цалкам пасевы бавоўны ў Сярэдняй Азіі.

Разам з тым трэба ліквідаваць у соўгасах і калгасах нецярпімае становішча, калі пры недахваце ўгнаенняў велізарная колькасць гною прападае і не вывозіцца на палі, а штучныя ўгнаенні часта ляжаць перавезенымі на станцыях чыгунак і псуюцца пад дажджом з-за таго, што раёны і праўленні калгасаў своечасова не выкупляюць і не перавозяць гэтыя ўгнаенні на палі.

**Па-чацвертае,** для таго, каб паспяхова рухаць справу культурнага земляробства, трэба паставіць цалкам на службу гэтай мэце нашу сельскагаспадарчую навуку з яе шматлікімі навуковымі і даследчымі ўстановамі. У нас ёсць сярод людзей навукі выдатныя наватары, якія рухаюць навуку ўперад, такія як Лысенка, Вільямс, Цыцын і іншыя. У нас ёсць тысячы выдатных вопытнікаў—перадавікоў у МТС, калгасах, на даследчых станцыях, якія, аўладаўшы самі навукай, рухаюць яе ўперад. Калі-б суміраваць хоць-бы адну дзесятую гэтага багацейшага вопыту, можна было-б скласці некалькі добрых падручнікаў і дапаможнікаў для нашых аграномаў, старшынь калгасаў, дырэктароў МТС і брыгадзіраў. На жаль, Наркамзем не займаецца гэтай справай, а наша навучаючаяся моладзь у значнай меры вымушана карыстацца старымі падручнікамі і старымі агратэхнічнымі нормамі.

Вось, таварышы, што нам неабходна ажыццявіць для таго, каб пакончыць са сляпой залежнасцю ад стыхіі і дабіцца высокай ураджайнасці ад калгасных і соўгасных палёў. Гутарка ідзе, вядома, не аб тым, каб падраўняць агульны ўраджай да рэкордаў, а аб тым, каб у бліжэйшыя 3—4 годы павялічыць наш ураджай у паўтара раза, што складае прыбаўку ў 3—4 мільярды валавога збору.

Падняць ураджайнасць, зрабіць яе ўстойлівай—гэта значыць вырашыць пытанне быстрага ўздыму жывёлагадоўлі. Таварыш Сталін ужо гаварыў аб сур'ёзным значэнні гэтай важнейшай галіны сельскай гаспадаркі. З цыфр, ім прыведзеных, відаць, што за справаздачны перыяд удалося не толькі прыпыніць упадак, але і забяспечыць значны прырост пагалоўя жывёлы, і ўсё-ж мы павінны прызнаць, што пытанні жывёлагадоўлі астаюцца далёка яшчэ нявырашанымі.

Што перашкаджае росту жывёлагадоўлі? Па-першае, відаць, яшчэ слаба працуюць нашы многія калгасы і соўгасы па стварэнню кармовай базы. Па-другое, няма належных клопатаў і сур'ёзнага кіраўніцтва справай жывёлагадоўлі ні ў Наркамземе, ні ва многіх абласных совецкіх і партыйных арганізацыях. Хоць ёсць нямала рэспублік і абласцей, дзе справа ўжо ідзе добра. Нямала калгасаў і соўгасаў здолелі забяспечыць з года ў год значны прырост пагалоўя жывёлы. Ёсць дзесяткі тысяч калгаснікаў і калгасніц, якія дабіліся шляхам добрага догляду выдатных рэзультатаў у прыплодзе жывёлы і ўдоях.

Што патрабуецца? Можна многа гаварыць аб гэтым, але галоўнае заключаецца ў тым, каб пакончыць з недаацэнкай і самацёкам у справе жывёлагадоўлі. Справу жывёлагадоўлі павінны ўзяць, як гаварыў таварыш Сталін, у свае рукі ўся партыя, усе нашы работнікі пар-

тыйныя і беспартыйныя, маючы на ўвазе тое, што праблема жывёлагадоўлі з'яўляецца цяпер першачарговай праблемай у сельскай гаспадарцы. Мы можам і павінны заняцца ўсімі пытаннямі жывёлагадоўлі і кармовай базы. Трэба зацікавіць усіх калгаснікаў у развіцці калгаснага стада і асабліва калгаснікаў, якія даглядаюць жывёлу, у справе павелічэння калгаснага стада, яго захавання, павышэння прадуктыўнасці. Як гэта зрабіць? Багатыя прыклады паказваюць нам у гэтых адносінах перадавыя калгасы.

## Аб дысцыпліне і пытаннях арганізацыі працы ў калгасах

Я коратка хацеў-бы яшчэ спыніцца на арганізацыйных пытаннях калгасаў, таму што гаварыць аб адной агратэхніцы мала, ёсць яшчэ старана эканамічная, як арганізавана праца у калгасах, ад чаго залежыць само прымяненне агратэхнікі. Наколькі пытанне арганізацыі калгаснай гаспадаркі і працы ў калгасах рашае справу, можна бачыць на тысячах прыкладаў, калі два побач размешчаныя калгасы, пры розных парадках паказваюць рэзка процілеглыя рэзультаты і па ўраджаю, і па жывёле, і па даходах калгаснікаў. Я прывяду пару прыкладаў: калгас «Свобода» Орлоўскай вобласці, старшыня калгаса Еўсюкоў; праца ў калгасе арганізавана добра, сярэдні ўраджай па зернавых у 1938 годзе 13 цэнтнераў з га, выдана на працадзень 4—5 кілограмаў зернавых, грашыма 1 р. 40 к. Калгас мае малочна-таварную ферму, сярэдні ўдой на адну карову складае 2.500 літраў. А вось сумежны з ім калгас ім. VI з'езда Советаў: справа ў калгасе вядзецца дрэнна, арганізацыя працы дрэнная, ураджай зярна ў 1938 годзе 6 цэнтнераў, выдана на працадзень 800 грамаў і грашыма 84 кап., удой на карову 900 літраў.

Вось калгас «Прогресс» Екацерынаўскага раёна Чкалаўскай вобласці: арганізацыя працы і дысцыпліна пастаўлена не дрэнна, калгас атрымаў ураджай 8,4 цэнтнера, выдана на працадзень 5,6 кілограма хлеба, грашыма 93 кап. Дзяржаўныя пастаўкі выкананы, звыш гэтага калгас прадаў дзяржаве 800 цэнтнераў зярна, насенне засыпана поўнасцю, да сяўбы падрыхтаваны, сярэдні ўдой на фуражную карову 1.448 літраў. Побач калгас «Первая Михайловка»: ураджай нізкі—4,3 цэнтнера, зябліва паднята на 50 проц., сяўба была зацягнута, на працадзень выдана 800 грамаў, грашыма 20 кап., сярэдні ўдой на карову 962 літры. Парадак і працоўная дысцыпліна дрэнныя. За 1938 год змянілася 3 старшыні.

Такіх прыкладаў прамога ўплыву парадкаў у калгасе на рэзультаты можна прывесці вельмі многа. Вось чаму ў калгасах усё настойлівей становяцца пытанні арганізацыі працы і калгаснай гаспадаркі. Якія гэта пытанні? Па-першае, зацікавіць калгаснікаў у барацьбе за высокі ўраджай і высокую прадукцыйнасць калгаснай жывёлагадоўлі. Гэтая старана рашае ўсё. Там, дзе ў калгасах гэта забяспечана, там

справа ідзе нязмерна лепш. Справа ў тым, што наяўнасць ураўнілаўкі ў калгасах, у кошце працадня незалежна ад рэзультатаў ураджаю і росту прадуктыўнасці жывёлы, а таксама абязлічванне працы калгаснікаў у буйных брыгадах, ёсць асноўная перашкода да далейшага росту прадукцыйнасці працы ў калгасах.

Ці не ясна, таварышы, што гэтыя элементы ўраўнілаўкі і абязлічкі працы ў калгасах неабходна ліквідаваць і чым хутчэй, тым лепш.

Чым аб'ясніць выдатныя рэкорды і поспехі перадавых калгасаў і калгаснікаў у паляводстве і жывёлагадоўлі? Тым, што праца асобнага калгасніка або звяна не абязлічана, а выражана ў канчатковых рэзультатах іх работы, што гэтая праца асобнага калгасніка або невялікай групы калгаснікаў відна і матэрыяльна заахвочана. Калгаснікі хочуць, каб рэзультаты іх працы былі відны не толькі на вялікай колькасці працадзён, але і на вышыні дасягнутага ўраджаю і прадукцыйнасці жывёлы, каб праца іх заслужана цанілася, тады калгаснік аддасць усе свае здольнасці.

Значыць, чым больш праца ў калгасах індывідуалізавана ў выглядзе звенняў або асобных калгаснікаў, чым больш іх праца матэрыяльна заахвочана, тым больш яна прадукцыйна як ва ўраджаі, так і ў жывёлагадоўлі. Нямала калгасаў правільна вырашылі ў сябе гэтае пытанне.

Вы ведаеце, таварышы, што справа з бавоўнай некалькі год таму назад у нас ішла дрэнна. Ураджай быў нізкі. Цэнтральны Камітэт і таварыш Сталін умяшаліся ў гэтую справу. Варта было ўвесці ў калгасах прэміяльныя надбаўкі на ўраджайнасць і перайсці на звеннявую дробнабрыгадную арганізацыю працы, як справа з бавоўнай у нас пайшла. Збор бавоўны з 13 мільёнаў цэнтнераў у 1933 годзе павысіўся да 27 мільёнаў у 1938 годзе, а ўраджай з 6 цэнтнераў павысіўся да 12,9 цэнтнера з гектара.

Акурат таксама справа абстаяла з ільном. Цэнтральны Камітэт і Соўнаркам прынялі рашэнне, аналагічнае рашэнню па бавоўне, і справа пайшла. Так у 1938 годзе, не гледзячы на засуху, план па здачы ільну па ўсіх абласцях быў выканан. Тое-ж самае было і з буракамі.

Але вопыт звеннявой арганізацыі працы апраўдаў сябе не толькі па тэхнічных культурах, даволі многа калгасаў перайшло на стварэнне звенняў і ў паляводчых, зернавых брыгадах.

Вось што расказвае тав. Касценка, старшыня калгаса імені XVII партз'езда Стара-Шчэрбінаўскага раёна Краснадарскага края, дэпутат Вярхоўнага Совета РСФСР: «У нас у калгасе ў паляводчых брыгадах арганізаваны звенні па 9—10 чалавек, звяну даецца пэўны ўчастак, на якім яно вядзе ўсю падрыхтоўку да сяўбы і забяспечвае догляд пасеваў. Такім чынам у нас кожны ўчастак пасеву мае свайго сапраўднага клапатлівага гаспадара. Учот ураджаю арганізаван па звеннях. Калгаснікі ў звяне лепш адзін аднаго ведаюць і бачаць, як хто працуе, і паміж сабой спаборнічаюць. Калі раней, да арганізацыі

звенняў з 50 чалавек у брыгадзе рэгулярна выходзіла на работу 17—25 чалавек, то пры арганізацыі звенняў выходзіць 45—47 чалавек. Радзей сталі выпадкі нарушэння працоўнай дысцыпліны, і калгас мае нядрэнныя рэзультаты. У сярэднім атрымаў ураджай па каласавых культурах 112 пудоў з га».

Такі-ж вопыт ефрэмаўскіх звенняў у Сібіры. Значыць, трэба рашуча пераходзіць на звеннявую арганізацыю працы ў калгасах і брыгадах і на аплату і прэміраванне працы індывідуальна і па звеннях у залежнасці ад ураджайнасці—гэта адна старана.

Другая старана—трэба дапамагчы калгасам у правільным устанаўленні норм выпрацоўкі. Нормы Наркамзема, выданыя яшчэ ў 1933 годзе, яўна ўстарэлі, за гэты час у калгасах адбыліся значныя змяненні, а між тым у справе прымянення норм у калгасах вялікая стракатасць. Трэба дапамагчы ў выпрацоўцы правільных норм, правераных праз перадавы вопыт калгасаў.

У аплаце працы ў калгасах павінна ўлічвацца не толькі колькасць выпрацаваных працадзён, але і якасць працы, укладзенай у рэзультаты ўраджаю, па брыгадах, звеннях і асобных калгасніках. А ў адносінах калгаснікаў, якія даглядаюць жывёлу,—па якасці ўтрымання і прадукцыйнасці жывёлы. У гэтым сэнсе прэміраванне ў калгасах і соўгасах прымяняецца яшчэ далёка недастаткова.

Трэцяя старана. Усё настойлівей раздаюцца патрабаванні велізарнай большасці добрасумленна працуючых і старанных калгаснікаў аб упарадкаванні працоўнай дысцыпліны ў калгасах, што звязана з ростам калгасаў, з умацаваннем грамадскага сазнання пэўнай большасці калгаснікаў і, відаць, з тым, што ёсць яшчэ пэўная частка калгаснікаў, якія прыкрываюцца званнем членаў калгаса і ў той-жа час пагарджаюць грамадскай працай у калгасе, шукаючы шчылінкі і заработку ў раздуванні асабістай гаспадаркі па жывёле і прысядзібных землях. Зусім відавочна, што калгасы ўправе патрабаваць пэўнага мінімума працы ў калгасе ад кожнага калгасніка. Званне і правы члена сельгасарцелі накладваюць і пэўныя абавязацельствы. Нельга называць сябе калгаснікам і ў той-жа час памыкаць калгасам і толькі для выгляду адпрацаваць 30—40 працадзён. Калгас управе ў адносінах такіх калгаснікаў абмяжоўваць абслугоўванне калгаснымі коньмі і патрабаваць ад органаў улады пазбаўляць іх усякага роду ільгот па падатках і натуральных пастаўках дзяржаве, якія ўстаноўлены ў адносінах калгаснікаў.

Ва ўсім гэтым мы павінны падтрымаць патрабаванні велізарнай большасці чэсна працуючых і добрасумленных калгаснікаў. Мы абавязаны пайсці гэтым здаровым патрабаванням насустрач і сур'ёзна ўзяцца за арганізацыю працы ў калгасе ў адпаведнасці з вопытам і патрабаваннямі перадавых калгасаў і калгаснікаў. А калгасы могуць і павінны ўважыць просьбу таварыша Сталіна аб выдзяленні што-

годна для прамысловасці паўтара мільёна маладых калгаснікаў. Я думаю, можна не сумнявацца, што нашы калгасы і калгаснікі горача адгукнуцца на заклік таварыша Сталіна ў гэтых адносінах. **(Апладысменты.)**

Некалькі слоў аб скажэннях калгаснага статута. Быў перыяд, калі нашы калгасы былі яшчэ слабы і не ў сілах былі браць на сябе поўнасцю забеспячэнне патрэбнасцей калгаснікаў за кошт грамадскай гаспадаркі. Тады правільна было пастаўлена пытанне ад допушчэнні асабістай гаспадаркі калгасніка па жывёле, прысядзібных землях. Цяпер, калі гэтая задача выканана, усе калгаснікі надзелены каровамі і сядзібамі, і калі калгасы ўжо ўмацаваліся, трэба націск зрабіць на ўмацаванне і расшырэнне грамадскай калгаснай гаспадаркі, павышэнне яе ролі ў задавальненні патрэбнасцей і даходаў калгаснікаў. Правільнае спалучэнне асабістых інтарэсаў і грамадскіх у калгасах астаецца асновай калгаснага ладу, але асабістая госпадарка калгасных двароў павінна ўсё больш насіць вузкападсобны характар, а агульнакалгасная—узрастаць як асноўная.

Не бязмернае расшырэнне асабістай жывёлы і прысядзібных зямель асобных двароў калгаснікаў, а толькі павелічэнне грамадскай гаспадаркі калгаса можа забяспечыць далейшае павышэнне матэрыяльнага ўзроўню і заможнасці ўсіх калгаснікаў. Няправільны-ж падыход і практыка некаторых нашых мясцовых кіраўнікоў партыйных і совецкіх арганізацый прывялі да сур'ёзных нарушэнняў калгаснага статута, да таго, што дзе-ні-дзе асабістая гаспадарка калгаснага двара стала перарастаць грамадскую гаспадарку калгаса і ператварацца ў асноўную, а калгасная, наадварот—у падсобную. Правільныя суадносіны ў некаторых калгасах нарушаліся. Даходы асабістай гаспадаркі ад агародаў, садоў, малака, мяса і т. п. у некаторых калгасах сталі перавышаць даходы па працаднях. Гэта не магло не адбіцца адмоўна на стане працоўнай дысцыпліны ў калгасах.

Гэтыя ненармальнасці ў калгасах пры аднадушным падтрыманні ўсіх калгасаў і велізарнай большасці калгаснікаў у асноўным ужо выпраўлены, але яшчэ не зусім.

Якія для нас урокі выцякаюць з усяго гэтага? Неабходна быць сапраўднымі кіраўнікамі і памочнікамі калгасаў, а не назіральнікамі. Не застраваць на дасягнутых пазіцыях, а рухаць справу з умацаваннем калгасаў далей, пераводзячы іх на больш высокую ступень грамадскай гаспадаркі.

Доля грамадскіх даходаў па працаднях і пакрыццё патрэбнасцей калгаснікаў за кошт грамадскай гаспадаркі павінны ўзрастаць, а доля асабістых даходаў павінна адносна скарачацца. Многія калгасы з поспехам ужо шагаюць па гэтаму шляху. Такія арганізацыйныя пытанні калгасаў.

## Аб кіраўніцтвэ сэльскай гаспадаркай і калгасамі

Вывады з усяго таго, што я гаварыў, мне здаецца, таварышы, могуць быць такія: у выніку велізарнай работы, праведзенай па калектывізацыі вёскі, мы з поўным правам і без усякага бахвальства можам заявіць, што партыя большэвікоў зрабіла, падрыхтавала ўсё неабходнае для нябачанага да гэтага часу перавароту ў прадукцыйнасці сельскай гаспадаркі. Буйная грамадская гаспадарка склалася. Калгасы канчаткова замацаваліся і сталі адзінымі гаспадарамі ў вёсцы. Клас кулакоў ліквідаван. Аднаасобнік страціў усякае самастойнае гаспадарчае значэнне і знаходзіцца дзесьці на раздарожжы паміж калгасам і фабрыкай. Тэхнічная рэканструкцыя, узбраенне сельскай гаспадаркі новымі машынамі ў асноўным закончаны. Накоплен рознабаковы і багацейшы вопыт, як дабівацца высокай ураджайнасці, высокай прадукцыйнасці жывёлагадоўлі і перадавой арганізацыі працы ў калгасах. Нарэшце, мы маем у калгасах надзвычай здаровыя настрої і выдатны рух перадавікоў-стаханаўцаў. Хіба ўсяго гэтага, таварышы, недастаткова для таго, каб зрабіць нябачаны пераварот у прадукцыйнасці нашай сельскай гаспадаркі? Але для таго, каб зрабіць гэты пераварот, яго трэба арганізаваць. Ён сам сабой не адбудзецца, а для гэтага неабходна асноўная ўмова: нашым арганізацыям партыйным і совецкім, рэспубліканскім, абласным і раённым трэба сур'ёзна перастроіцца ў кіраўніцтве сельскай гаспадаркай.

Некаторыя таварышы выходзяць з таго, што ўсё ўжо наладжана і пойдзе само сабой. Такія арганізацыі і кіраўнікі часта засцігаюцца знянацку і пападаюць у нялоўкае становішча, як гэта было, напрыклад, пры ўборцы багатага ўраджаю восенню 1938 года з Чэлябінскай, Новасібірскай і Омскай арганізацыямі.

Можна мець у дастатку выдатныя машыны, людзей і нават добры ўраджай і з ганьбай правaліцца. Такіх прыкладаў нямала ў практыцы некаторых абкомаў, крайкомаў, МТС і калгасаў.

Вось што гаварыў таварыш Сталін па гэтаму поваду ў 1933 годзе на Пленуме ЦК ВКП(б):

> «Мы ўсе радуемся таму, што калгасная форма гаспадаркі стала пануючай формай... Але не ўсе разумеюць тое, што гэтая акалічнасць не змяншае, а павялічвае нашы клопаты і нашу адказнасць у справе развіцця сельскай гаспадаркі... Пераход да калектыўнай гаспадаркі, як пераважаючай формы гаспадаркі, не змяншае, а павялічвае нашы клопаты аб сельскай гаспадарцы, не змяншае, а павялічвае кіруючую ролю комуністаў у справе ўздыму сельскай гаспадаркі. Самацёк цяпер больш чым калі-небудзь небяспечны для справы развіцця сельскай гаспадаркі. Самацёк цяпер можа пагубіць усю справу».

У чым асноўныя недахопы цяперашняга кіраўніцтва некаторых нашых арганізацый сельскай гаспадаркай? У тым, што многія аб-

комы і крайкомы кіруюць сельскай гаспадаркай рыўкамі, кампаніямі, а не па-гаспадарску. Памылка некаторых нашых партыйных, совецкіх кіраўнікоў заключаецца ў тым, што яны самі, не вывучаючы сельскай гаспадаркі, думаючы, што ўсё пойдзе цяпер само сабой, не ўваходзяць у сутнасць тэхнікі і арганізацыі гаспадаркі калгаснай і соўгаснай, не пераймаюць і не скарыстоўваюць багаты вопыт перадавікоў сельскай гаспадаркі, кіруюць наогул, замест канкрэтнага, пастаяннага аператыўнага кіраўніцтва, не займаюцца сур'ёзна падборам кадраў у калгасах, МТС і соўгасах.

Ці не пара, таварышы, пакончыць з такога роду кіраўніцтвам і стаць сапраўднымі кіраўнікамі калгасаў і соўгасаў і весці справу па-гаспадарску, а не ў парадку барацьбы з прарывамі?

Для гэтага трэба ліквідаваць практыку нікому непатрэбнага неўмяшання ва ўнутранае жыццё калгасаў і замяніць яе практыкай пастаянных клопатаў і дапамогі калгаснікам. Трэба зразумець, што калгасы маюць патрэбу ў сур'ёзным кіраўніцтве і хочуць гэтага кіраўніцтва ад нас.

Трэба ліквідаваць маючую месца недаацэнку ў пытанні арганізацыі калгаснай гаспадаркі, учоту, рахункаводства і т. д.

Трэба пакончыць з лёгкімі адносінамі да кіруючых кадраў МТС, калгасаў і соўгасаў і практыкай частай змены дырэктараў соўгасаў, МТС, старшынь калгасаў і брыгадзіраў і сур'ёзна дапамагчы калгасам у падборы кіруючых кадраў і іх палітычным выхаванні.

Трэба пакончыць з маючай месца ў некаторых нашых партыйных і совецкіх органах практыкай падмены арганізацыйнай работы адміністраваннем над калгасамі і пагардлівымі адносінамі да калгаснай дэмакратыі—справаздачнасці перад калгасамі і выбарнасці.

Трэба сур'ёзна ўмацаваць і перабудаваць работу Наркамзема і яго мясцовых органаў. У цяперашнім выглядзе яны ў большасці выпадкаў—планавыя органы, а не ўпраўляючыя. Трэба пакончыць там з бюракратычнасцю і са старымі традыцыямі і вылучыць туды больш людзей з перадавікоў сельскай гаспадаркі, знізу, з калгасаў, МТС, ВНУ.

Трэба сур'ёзна заняцца кіраўніцтвам соўгасамі. Справа абстаіць так, што многія абкомы фактычна адстараніліся ад кіраўніцтва соўгасамі. Гэтаму нямала садзейнічала няправільная сістэма ўпраўлення соўгасамі з Наркомсоўгасаў, праведзеная ў мінулым сядзеўшымі там шкоднікамі, відаць, для таго, каб адшыць абкомы ад кіраўніцтва і кантролю над соўгасамі. Соўгасы—справа сур'ёзная. Іх у нас каля 4 тысяч. Іх доля ў жывёлагадоўлі, валавым зборы зярна даволі значная, а галоўнае, важна іх роля як узорных сельскіх гаспадарак, якімі яны павінны быць.

Трэба пакончыць з няўважлівасцю кааперацыі і мясцовай прамысловасці да пытання вытворчасці і гандлю ў раёнах такімі прадметамі шырокага спажывання калгасаў і калгаснікаў, як лес, жалеза,

цвікі, скабяныя тавары, кроўля, мэбля. Трэба мець на ўвазе ўзросшыя патрэбнасці калгаснай вёскі. Калгаснікі хочуць і могуць жыць лепш. Трэба мець на ўвазе ўзрастаючую даходнасць калгасаў, якая ўсё больш будзе ўзрастаць. Ясна, што, калі калгасы і калгаснікі не змогуць рэалізаваць свае даходы, зацікаўленасць у прадукцыйнай працы будзе зніжацца. Справа нават не столькі ў недахваце лесу і металу, колькі ў недахваце ўвагі.

Нарэшце, трэба дапамагчы калгасам, соўгасам і МТС яшчэ больш шырока разгарнуць рух перадавікоў і шырока распаўсюдзіць іх вопыт і дасягненні.

Таварышы, можна прама сказаць, што ўсе пытанні севаабаротаў, лепшай агратэхнікі—своечасова пасеяць, своечасова ўбраць, уздым жывёлагадоўлі, арганізацыя працы ў калгасах і многія іншыя пытанні—могуць быць лёгка вырашаны, калі партыйныя і савецкія кіраўнікі раёнаў, абласцей і рэспублік сур'ёзна, па-сапраўднаму зоймуцца кіраўніцтвам сельскай гаспадаркай і сапраўды ўзначаляць рух перадавікоў калгасаў і соўгасаў. Тады ў нас будзе ўсё, што мы хочам.

Можна не сумнявацца, што партыя большэвікоў з чэсцю выканае і гэтыя вялікія задачы ў сельскай гаспадарцы. **(Апладысменты.)**

Таварыш Сталін у сваім выдатным дакладзе сцісла і ясна падвёў вынікі, вызначыў наперад работу партыі. Уся партыя і ўся краіна атрымалі ясныя адказы на ўсе пытанні.

Таварышы, перад намі вялікія адказныя задачы—зрабіць новы, яшчэ больш выдатны пераход на наступную, больш высокую ступень комуністычнага грамадства. Нам прыходзіцца пакуль-што будаваць гэта комуністычнае грамадства ў варожым капіталістычным акружэнні, што стварае для нас дадатковыя труднасці, чаго не будуць адчуваць працоўныя іншых краін, калі пераможа міжнародная соцыялістычная рэволюцыя.

Але мы з новымі, свежымі сіламі можам бадзёра глядзець на наша будучае, таму што як ніколі мы маем у краіне згуртаванасць і маральна-палітычнае адзінства нашага многанацыянальнага народа, таму што мы маем усеперамагаючую партыю большэвікоў, якая не ведае перашкод на сваім шляху і пераканана ў праваце сваёй справы.

Мы можам смела і бадзёра шагаць уперад да канчатковай перамогі комунізма, таму што нас вядзе вялікі прадаўжальнік справы Леніна—наш Сталін! Ура, таварышы!

**(Бурныя апладысменты, усе ўстаюць, воклічы: «ура», «вялікаму Сталіну—ура», апладысменты. «Няхай жыве таварыш Сталін!» Апладысменты. Воклічы: «ура»).**

---

# Прамова т. ВАРАШЫЛАВА на XVIII з'ездзе ВКП(б)

Таварышы! Даклад таварыша Сталіна, які ўзбагачае марксісцка-ленінскую тэарэтычную скарбніцу новым, велізарнай каштоўнасці, укладам, з'яўляецца выдатным кіраўніцтвам для партыі, нашай дзяржавы і народа ў справе далейшай барацьбы за будаўніцтва соцыялізма, у справе барацьбы за пабудову комуністычнага грамадства. Бліскучым, марксісцка-ленінскім аналізам сучаснага капіталістычнага грамадства і яго ўзаемаадносін з краінай пабеданоснага соцыялізма таварыш Сталін ускрыў усе язвы, гніль і агонію сучаснага капіталізма і ясна паказаў магутны росквіт соцыялістычнага Совецкага Саюза.

Сусветная буржуазія шукае выхаду з тупіка невырашальных супярэчнасцей у азвярэлым фашызме, прадастаўляючы яму поўную свабоду дзеянняў. Яна заахвочвае яго на ваенныя авантуры, падштурхоўвае на барацьбу з Совецкім Саюзам. Гэта, з дазволу сказаць, «міжнародная палітыка» гаспадарнічаючай імперыялістычнай буржуазіі не толькі аддала цэлыя дзяржавы ва ўладу фашызма, але дазволіла, дапамагла яму пачаць другую імперыялістычную вайну, афярай якой стала ўжо поўмільярда людзей раду міралюбівых краін.

У сваім дакладзе таварыш Сталін сказаў, што «... усякая нават невялікая вайна, пачатая агрэсарамі дзе-небудзь у аддаленым кутку свету, прадстаўляе небяспеку для міралюбівых краін. Тым больш сур'ёзную небяспеку прадстаўляе новая імперыялістычная вайна, паспеўшая ўжо ўцягнуць у сваю арбіту больш пяцісот мільёнаў насельніцтва Азіі, Афрыкі, Еўропы».

Краіна перамогшага соцыялізма—самая міралюбівая з усіх краін свету. Але будучы акружанай варожымі імперыялістычнымі краінамі, з'яўляючыся бяльмом на воку аджываючага свой век капіталізма, яна больш чым іншая якая-небудзь краіна знаходзіцца пад пагрозай пастаяннага ваеннага нападу.

Міралюбівыя дзяржавы, сярод якіх ёсць і нашы бліжэйшыя суседзі, мала робяць для ўмацавання міру і падрыхтоўкі адпору агрэсарам. Таму мы павінны, як і раней, спадзявацца толькі на сябе.

Мір, дабротамі якога народы Совецкага Саюза карыстаюцца на працягу больш паўтара дзесятка год, з'яўляецца рэзультатам велізарнай работы нашай партыі, Урада і ўсяго народа. Мір для сваёй дзяржавы мы робім сваімі ўласнымі рукамі.

На аснове магутнага росту нашай соцыялістычнай эканомікі, у рэзультаце бліскучага выканання двух сталінскіх пяцігодак і нябачанага росквіту соцыялістычнай культуры ў краіне, Цэнтральны Камітэт Партыі і Урад, пад непасрэдным кіраўніцтвам нашага Сталіна, няспынна ўмацоўвалі і ўдасканальвалі нашы ўзброеныя сілы—Рабоча-Сялянскую Чырвоную Армію і Ваенна-Марскі Чырвоны Флот, якія грознай сілай стаялі і стаяць на рубяжах нашай Радзімы, гарантуючы яе ад варожага нашэствія.

Я хачу некалькі падрабязна, у рамках, вядома, дазволенага, далажыць XVIII-му з'езду партыі аб Чырвонай Арміі сёнешняга дня.

Але перш чым перайсці да гэтага, я хачу ненадоўга затрымаць вашу ўвагу на пытаннях бесперапыннага росту ўзбраенняў імперыялістычных, асабліва фашысцкіх дзяржаў. Я ведаю, што гэта агульнавядома, набіла ўсім аскоміну, тым не менш аб гэтым неабходна гаварыць.

У «Праўде» за 5 сакавіка дан перадрук з нямецкага фашысцкага ваеннага журнала «Дэйчэ Вер», у якім паказаны арміі мірнага часу галоўнейшых краін і размеры разгортвання гэтых армій для вайны, а таксама даны некаторыя весткі аб артылерыйскім і авіяцыйным іх узбраенні.

У гэтай заметцы прадбачліва ўмоўчваецца аб германскіх узброеных сілах. Нічога не сказана аб тым, што армія мірнага часу фашысцкай Германіі вызначаецца ў 1.150.000 чалавек, што фашысцкія ваенізаваныя арганізацыі налічваюць да 2 млн. чалавек і што на ваенны час Германія разгорне сваю армію ў 5,5—6 раз.

Яны аб сабе нічога не сказалі, але сказанае аб другіх заслугоўвае ўвагі.

Колькаснасць арміі ў мірны час і мяркуемая колькаснасць у ваенны час выглядзіць наступным чынам:

| Краіны | Колькаснасць арміі ў мірны час | Мяркуемая колькаснасць у ваенны час | Каэфіцыент разгортвання |
|---|---|---|---|
| ЗША | 384.000 | 2.500.000 | 6,5 |
| Англія | 529.200 | 2.000.000 | 3,6 |
| Францыя | 760.000 | 5.100.000 | 6,7 |
| Італія | 400.000 | 2.000.000 | 5,0 |
| Японія | 328.000 | 1.500.000 | 4,6 |
| Турцыя | 203.000 | 1.300.000 | 6,4 |
| Румынія | 217.000 | 1.600.000 | 7,4 |
| Польшча | 302.000 | 3.600.000 | 11,9 |
| Латвія | 25.500 | 150.000 | 5,9 |
| Эстонія | 11.000 | 100.000 | 9,0 |
| Фінляндыя | 28.000 | 310.000 | 11,1 |

Указаная колькаснасць па італьянскай і японскай арміях мае патрэбу ў вельмі сур'ёзных папраўках, яна тут заніжана.

Японская армія, напрыклад, ужо зараз мае пад ружжом больш паўтара мільёна чалавек і яе рост прадаўжаецца; што датычыць Італіі, то правадыры італьянскага фашызма абяцаюць сваю армію разгарнуць у 9—10 мільёнаў чалавек.

У адносінах усіх астатніх пералічаных армій, выключаючы Чырвоную Армію, даныя аб якой фашысцкі «Дэйчэ Вер» бязбожна блытае, то, не надаючы поўнай даставернасці гэтым цыфрам, трэба сказаць, што яны дзесьці недалёка ад ісціны і ва ўсякім выпадку зусім дастатковы для некаторых вывадаў.

А вывады напрашваюцца самі.

Перш за ўсё кідаецца ў вочы вялікі каэфіцыент мабілізацыйнага разгортвання армій ваеннага часу. Калі выключыць Англію, якая разгортвае сваю армію толькі ў 4 разы, то ўсе астатнія арміі на выпадак вайны павялічваюцца ў пяць, іншыя ў шэсць, у сем з лішнім і дзевяць раз, а Польшча і Фінляндыя нават амаль у 12 раз.

Гэта сведчыць аб катастрафічнай напружанасці ўсіх указаных краін у самым пачатку ўступлення іх у вайну.

А між тым, вопытам усіх войн даказана, што ні адна дзеючая армія не можа ўтрымацца ў рамках першапачатковых фарміраванняў і колькасных лімітаў і ўжо праз самы невялікі час вымушана расці і разбухаць.

Асабліва гэта бясспрэчна ў зацяжных войнах. А сучасныя войны, як аб гэтым красамоўна сведчыць другая імперыялістычная вайна, будуць працяглымі, зацяжнымі, разаральнымі.

Аб тым-жа напружанні гавораць і ваенныя бюджэты галоўнейшых капіталістычных і, у першую чаргу, фашысцкіх краін.

**Рост ваенных бюджэтаў**

| Краіны | Процантныя адносіны ваеннага бюджэта да агульнага | |
|---|---|---|
| | 1934/35 гг. | 1937/38 гг. |
| Германія . . . . | 21,0 | 67,0 |
| Японія . . . . . | 43,4 | 70,0 |
| Італія . . . . . | 20.0 | 52,0 |
| Польшча . . . . | 32,9 | 33,6 |
| Англія . . . . . | 15,5 | 32,2 |
| ЗША . . . . . | 14,2 | 17,7 |
| Францыя . . . . | 24,4 | 37,7 |

Тут гутарка ідзе толькі аб ваенных бюджэтах, афіцыяльна публікуемых. Але не трэба быць асабліва праніклівым, каб здагадацца, што фашысцкія дзяржавы, якія прама ці ўскосна вядуць агрэсіўную вайну, маюць, апрача таго, і іншыя крыніцы пакрыцця ваенных расходаў, грамадская думка аб якіх нічога не ведае.

Шалёная гонка авіяцыйных узбраенняў капіталістычных краін

прадаўжаецца ўжо рад год і, несумненна, прадстаўляе сабой адзін з найбольш характэрных і вызначаючых момантаў немінучай усеагульнай ваеннай сутычкі.

Што прадстаўляла сабой авіяцыя асноўных сусветных дзяржаў к канцу першай імперыялістычнай вайны і чым яна з'яўляецца ў сучасны момант?

Апускаючы пытанні відаў і дэтальнага разбору якасці авіяцыі, а ўзяўшы толькі агульныя сумарныя даныя, апублікаваныя ў розны час у сусветным друку, атрымліваецца наступная карціна.

**Параўнальныя даныя аб колькаснасці паветраных флотаў іншакраінных дзяржаў, іх бомбавым залпе і колькасці куль, выпускаемых у 1 мінуту**

**За 1918—1934—1938 гг.**

| Годы | Колькасць самалётаў. | Процант росту ў адносінах да 1918 г. | Бомбавы залп у тонах. | Процант росту ў адносінах да 1918 г. | Колькасць куль у 1 мінуту. | Процант росту ў адносінах да 1918 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| **АНГЛІЯ** | | | | | | |
| 1918 | 1.758 | 100 | 148,8 | 100 | 605.400 | 100 |
| 1934 | 1.072 | 61 | 608 | 408 | 1.651.200 | 272,7 |
| 1938 | 2.238 | 127,3 | 1.476 | 990,6 | 5.600.000 | 925 |
| **ГЕРМАНІЯ** | | | | | | |
| 1918 | 2.730 | 100 | 134 | 100 | 984.800 | 100 |
| 1934 | 620 | 22,7 | 350 | 261 | 954.000 | 97 |
| 1938 | 4.020 | 147 | 2.995 | 2.235 | 10.400.000 | 1.054 |
| **ФРАНЦЫЯ** | | | | | | |
| 1918 | 3.321 | 100 | 146,3 | 100 | 1.439.700 | 100 |
| 1934 | 1.970 | 59,3 | 385 | 264 | 2.595.000 | 180 |
| 1938 | 4.000 | 120 | 1.680 | 1.150 | 9.160.000 | 636 |
| **ІТАЛІЯ** | | | | | | |
| 1918 | 812 | 100 | — | — | — | — |
| 1934 | 931 | 114,5 | 489 | 100 | 1.352.000 | 100 |
| 1938 | 2.161 | 416 | 1.534 | 314 | 5.248.000 | 388 |
| **ЯПОНІЯ** | | | | | | |
| 1918 | 250 | 100 | — | | — | — |
| 1934 | 2.050 | 820 | 480 | 100 | 2.820.000 | 100 |
| 1938 | 3.005 | 1.200 | 793 | 160 | 6.400.000 | 227 |
| **ПОЛЬШЧА** | | | | | | |
| 1918 | — | — | — | — | — | — |
| 1934 | 634 | 100 | 23 | 100 | 783 600 | 100 |
| 1938 | 1.101 | 175 | 61 | 265 | 2.376.000 | 303 |

Так выглядалі ўзброеныя паветраныя сілы галоўнейшых капіталістычных краін у 1938 годзе, але, зразумела, яны па-іншаму выглядаюць зараз, у сакавіку 1939 года.

Авіяцыйнае будаўніцтва фарсіравана прадаўжаецца ўсімі капіталістычнымі краінамі. Авіяцыя—гэты малады род войск—разглядаецца ўсімі імперыялістычнымі арміямі, як панацэя ад усіх ваенных за-

трудненняў. На авіяцыю імперыялістамі пастаўлена стаўка, праз яе буржуазна-імперыялістычныя і фашысцкія правячыя кругі спадзяюцца дабіцца ў будучай вайне перамогі.

Аб нашай авіяцыі скажу ніжэй.

Таварышы, дастаткова толькі гэтых нямногіх даных, каб бачыць велізарны рост узбраенняў імперыялістычных, асабліва фашысцкіх дзяржаў, каб бачыць, якія велізарныя сродкі затрачваюцца для новай, другой усеагульнай імперыялістычнай бойні.

У выніку гэтага нічым не стрымліваемага шаленства ўзбраенняў і тых заблытанейшых і глыбокіх супярэчнасцей капіталізма, аб якіх дакладваў таварыш Сталін, міжнародная абстаноўка к цяперашняму часу склалася такім чынам, што новая ўсеагульная імперыялістычная вайна стала немінучай.

Другая імперыялістычная вайна за новы перадзел свету палыхае ўжо. Фашысцкія агрэсары, не сустракаючы на сваім шляху ніякіх перашкод, мітусяцца ў чадзе першых лёгкіх поспехаў, выглядаючы новыя афяры. Трудна прадбачыць, як у далейшым будзе развівацца гэтая другая імперыялістычная вайна, калі і якія краіны будуць захвачаны ёю ў свой крывавы паток.

Адно для нас бясспрэчна,—гэта выцякае з усяго аналіза цяперашняга міжнароднага становішча, зробленага таварышом Сталіным,—а іменна: мы павінны мець заўсёды і абавязкова магутную несакрушымую Рабоча-Сялянскую Чырвоную Армію і такі-ж магутны, пабеданосны Ваенна-Марскі Чырвоны Флот.

Мы ведаем, цяпер больш чым калі-небудзь, што толькі пастаянная сапраўдная баявая гатоўнасць Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота можа служыць надзейнай гарантыяй ад усякіх ваенных авантур супроць Совецкай дзяржавы, толькі гэтым шляхам, шляхам яшчэ большага ўмацавання і ўдасканальвання ваеннай сілы Дзяржавы можна абезапасіць сябе ад брудных фашысцкіх спроб лёгка пажывіцца за кошт нашай краіны, спроб шляхам ваенных нападаў нарушыць тэрытарыяльную цэласнасць Совецкай дзяржавы.

## Наша Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія

За прайшоўшае пяцігоддзе Чырвоная Армія і Ваенна-Марскі Флот мелі значныя, а ў некаторай частцы, я сказаў-бы, радыкальныя змяненні ў сваёй арганізацыі, узбраенні, тэхнічным аснашчэнні і баявой падрыхтоўцы.

Спынюся на галоўнейшым:

1) Як вядома, стралковыя часці, у сваёй большасці, і нязначныя іншыя роды войск Чырвонай Арміі, раней будаваліся на змешаным прынцыпе, на так званай тэрытарыяльнай і кадравай сістэмах.

Тэрытарыяльная сістэма, у выпадку мабілізацыі, прадвызначала разгортванне нашых стралковых дывізій на колькасна невялікіх і,

значыць, слабых кадрах. Гэта азначала, што большая частка стралковых і некаторых іншых вайсковых злучэнняў у першы перыяд пасля адмабілізавання былі-б слаба арганізаванымі і баявая здольнасць гэтых войск была-б адноснай.

Тэрытарыяльная сістэма была цярпімай да пары, пакуль арміі капіталістычных краін былі параўнальна невялікімі і таксама на выпадак вайны разгортваліся на слабых кадрах.

Тэрытарыяльная сістэма, як аснова нашых войск, стала ў супярэчнасць з патрэбнасцямі абароны Дзяржавы, як толькі арміі галоўнейшых імперыялістычных краін сталі павялічвацца і прыводзіцца ў баявы стан ужо ў мірны час. Мы не мелі права аставацца на старых арганізацыйных пазіцыях, таму што гэтым самым мы ставілі сябе ў нявыгаднае становішча ў адносінах да нашых магчымых праціўнікаў. Патрэбна была радыкальная рэформа для прывядзення арміі ў адпаведнасць з новымі ўмовамі адмабілізавання, тактыка-стратэгічнымі задачамі нашай Чырвонай Арміі і патрэбнасцямі абароны Дзяржавы. Мы не маглі, не мелі права дапусціць, каб наша армія была менш абучанай і слабей, чым арміі буржуазных краін.

Апрача гэтага, тэрытарыяльная сістэма ўжо ў перыяд ажыццяўлення першай Сталінскай пяцігодкі не адпавядала ступені росту ўзбраення баявой тэхнікай і сучаснага аснашчэння арміі.

У выніку ўсяго гэтага было прызнана неабходным, ліквідаваць аснову тэрытарыяльнай пабудовы нашых войск і цалкам перайсці на прынцып кадравага будаўніцтва ўзброеных сіл. Цяпер уся наша армія пабудавана на аднастайным і пакуль адзіна правільным кадравым прынцыпе.

2) Аднача́сова з пераводам войск на кадравае становішча праведзена карэнная рэарганізацыя мясцовых органаў ваеннага ўпраўлення, якія арганізацыйна цесна перапляталіся з тэрытарыяльным метадам фарміравання і не спраўляліся са сваімі ўскладніўшыміся задачамі.

К цяперашняму часу ўся сістэма ваенных камісарыятаў перабудавана занова. Замест ранейшых корпусных і дывізіённых абласных мобакруг, якія кіравалі раённымі ваенкаматамі, з чым дрэнна спраўляліся, створаны самастойныя ваенкаматы ў аўтаномных рэспубліках, краях і абласцях, аўтаномных абласцях і гарадах, а сетка раённых ваенных камісарыятаў расшырана ў 3½ раза. Гэта апошняя мера значна палепшыла сістэму ўчоту ваеннаабавязаных, прызыву і ўмовы мабілізацыі.

3) У мэтах палепшання ўпраўлення і кіраўніцтва баявой падрыхтоўкай войск, за гэты перыяд былі створаны дадаткова яшчэ дзве ваенныя акругі—Калінінская і Орлоўская.

4) Рэарганізавана ўпраўленне войск Далёкага Усхода. Замест раней існаваўшага Далёка-Усходняга Чырвонасцяжнага фронта цяпер створаны два асобныя армейскія ўпраўленні. Гэтае мерапрыем-

ства рэзка палепшыла кіраўніцтва жыццём і баявой вучобай нашых войск у Прымор'і і Прыамур'і.

5) У адпаведнасці са Сталінскай Канстытуцыяй былі рэарганізаваны нацыянальныя часці.

Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія з'яўляецца адзінай арміяй Совецкай дзяржавы і камплектуецца з грамадзян Совецкага Саюза на агульных і роўных пачатках. Таму існаванне асобных дробных нацыянальных вайсковых часцей, пастаянна прывязаных да сваёй тэрыторыі, супярэчыла асновам Сталінскай Канстытуцыі і прынцыпам экстэрытарыяльнага фарміравання нашай арміі. Нацыянальныя часці былі ўліты ў састаў Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі на агульных падставах.

6) Як вядома, нашы граніцы ў найбольш уязвімых месцах апаясаны паласой умацаваных раёнаў. За гэты час былі прыняты меры к узмацненню раней пабудаваных умацаванняў і ўзвядзенню раду дадатковых умацаваных раёнаў, радыкальна паляпшаючых усю сістэму абароны граніц. Значна выраслі спецыяльныя войскі ўмацаваных раёнаў.

7) У сувязі з ростам колькаснасці і ваеннай тэхнікі арміі і бесперапынна ўзрастаючымі культурнымі і палітычнымі запросамі байцоў, было прызнана неабходным стварэнне інстытута камісараў.

8) Да ўсяго сказанага неабходна дадаць, што год таму назад Цэнтральным Камітэтам партыі і Урадам быў створан Галоўны Ваенны Совет у ліку 11 чалавек, у састаў якога увайшоў і наш Сталін. **(Бурныя апладысменты.)**

У задачы Галоўнага Ваеннага Совета ўваходзіць разгляд і вырашэнне ўсіх асноўных і важнейшых пытанняў будаўніцтва Чырвонай Арміі.

Створаны Ваенныя Советы Ваенных Акруг.

9) І, нарэшце, за гэты перыяд з састава Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі быў выдзелен у асобы Народны Камісарыят—Ваенна-Марскі Флот, аб чым Вы ўсе ведаеце.

Перахожу да пытання аб змяненнях, якія адбыліся за прайшоўшы перыяд у саміх страявых войсках.

Якія змяненні адбыліся ў колькасным саставе за гэты час у Чырвонай Арміі?

Калі ўзяць Чырвоную Армію перыяда XVII партыйнага з'езда за 100%, то к 1939 году, к XVIII партыйнаму з'езду, яна выглядае як 203% **(бурныя апладысменты, авацыі, воклічы «ура»)**, г. зн. колькаснае павелічэнне адбылося на 103%, або армія ў цэлым павялічылася крыху больш, чым у два разы.

Гэтае павелічэнне колькаснасці размяркоўвалася не роўнамерна па родах войск, а ў залежнасці ад ступені важнасці таго ці іншага з іх. Такое, параўнальна, значнае павелічэнне арміі пацягнула за сабой і іншыя вельмі сур'ёзныя змяненні.

Кадравых стралковых дывізій мы маем зараз у дзесяць раз больш, чым іх было раней, калі існавала тэрытарыяльная сістэма і армія была меншага састава.

Рэзка змянілася штатная колькаснасць стралковых дывізій мірнага і ваеннага часу. Калі раней наша стралковая дывізія ваеннага часу складалася з 13.000 чалавек, то ў даны час стралковая дывізія мае 18.000 чалавек. Павелічэнне колькаснасці адбылося, галоўным чынам, за кошт узмацнення артылерыйскага ўзбраення, пачынаючы з артылерыі так званага бліжняга бою і канчаючы дывізіённай, за кошт узмацнення кулямётнага агню, а таксама і за кошт павелічэння ўдарнай сілы рот, г. зн. павелічэння стралкоў ва ўзводзе.

Стралковыя дывізіі ўваходзяць у састаў стралковых корпусаў. Стралковы корпус складаецца з трох і, у асобных выпадках, з двух стралковых дывізій.

Такім чынам, тыповы стралковы корпус Чырвонай Арміі прадстаўляе сабой даволі ўнушальную баявую адзінку: ён мае каля 60.000 байцоў і адпаведнае артылерыйскае, танкавае і іншае ўзбраенне з разнастайнымі сродкамі абслугоўвання і аўтатранспарт.

Для таго, каб даць уяўленне аб агнявой магутнасці сучасных стралковых корпусаў некаторых капіталістычных армій і параўнаць з нашым стралковым корпусам, прыводжу наступныя разлікі, складзеныя нашымі спецыялістамі па майму заданню.

Бяру для параўнання корпусы Германіі і Францыі, як найбольш па арганізацыйнай структуры падыходзячыя да тыпу нашага стралковага корпуса.

Адзін залп усёй артылерыі стралковага корпуса Францыі (3-дывізіённага састава) ровен 6.373 кгр; такога-ж састава—германскага стралковага корпуса—6.078 кгр. Залп артылерыі стралковага корпуса Чырвонай Арміі раўняецца—7.136 кгр. **(апладысменты).**

Такім чынам, агнявы артылерыйскі залп нашага стралковага корпуса большы чым залп германскага і французскага корпусаў.

І далей. Вага снарадаў, выпускаемых у адну мінуту ўказанымі стралковымі корпусамі: французскі корпус за адну мінуту можа выпусціць—51.462 кгр.; германскі—48.769 кгр. Наш стралковы корпус у адну мінуту можа даць 66.605 кгр. металу **(апладысменты).**

Апрача артылерыі, корпус мае яшчэ ружэйную, кулямётную, мінамётную, гранатамётную і інш. зброю, што павышае агульную вагу выкідаемага ў адну мінуту металу ўсёй зброяй корпуса.

Калі прыплюсаваць да артылерыйскага агню ў адну мінуту вагу снарадаў, мін, ружэйных гранат і куль, то мы атрымаем агульную вагу мінутнага залпа:

французскага корпуса —60.981 кгр.,
германскага корпуса —59.509 кгр.,
і нашага стралковага корпуса —78.932 кгр.

**(апладысменты).**

Прыведзеныя даныя гавораць, што наш стралковы корпус, а значыць, і ўся Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія не адстае, а некалькі апярэджвае ў агнявой магутнасці арміі капіталістычных, фашысцкіх краін **(апладысменты).**

Я свядома не прыводжу даных,—хоць яны ў мяне ёсць,—па японскай, польскай і іншых арміях, таму што арганізацыя і ўзбраенне гэтых армій, іх дывізій, корпусаў не ідуць ні ў якое параўнанне з арміяй Германіі і Францыі.

Цэнтральны Камітэт Партыі і Урад, таварыш Сталін, уся партыя, увесь народ патрабуюць, каб мы не адставалі ад нашых суседзяў у галіне ўзбраенняў і абароннай магутнасці нашай дзяржавы і мы, як бачыце, не адстаем, не маем права адставаць **(апладысменты).**

**Чырвоная конніца,** як і іншыя роды войск, таксама колькасна вырасла. Па конніцы мы маем рост на 52%. Тэхнічнае аснашчэнне конніцы расло наступным чынам:

| | |
|---|---|
| па ручных кулямётах | —на 30 проц., |
| па станкавых кулямётах | —на 21 проц., |
| па зенітна-комплексных | —на 31 проц., |
| па артылерыі | —на 43 проц. |

Апрача таго, створана спецыяльна зенітная артылерыя конніцы, моцна яе прыкрываючая з паветра, узмоцнены танкавыя палкі кав. дывізій на 30% і прыданы ім спецыяльныя аўта-броне-часці.

Гэта асноўнае, не гаворачы ўжо аб многім другарадным, што зроблена і што мае таксама вялікае значэнне ў павышэнні баявой і ўдарнай сілы нашай чырвонай кавалерыі.

**Аўта-броне-танкавыя войскі** за справаздачны перыяд узраслі наступным чынам: агульная колькаснасць людскога састава ўзрасла на 152 1/2%. Танкавыя часці і злучэнні танкавых войск поўнасцю рэарганізаваны ў адпаведнасці з іх тактыка-баявым прызначэннем. Павелічэнне танкавых арганізмаў выражаецца ў 180%. Танкавы парк колькасна павялічыўся на 191%. Колькасць бронемашын узрасла ў 7 1/2 раз.

Адначасова адбылося абнаўленне матэрыяльнай часткі танкавых войск. Уведзены новыя тыпы танкаў і ўдасканалены старыя ў адносінах узмацнення іх бранявой абароны і спецыяльнага абсталявання.

Рэзка змянілася ўзбраенне танкавых войск, асабліва іх артылерыйскае ўзбраенне.

Для таго, каб даць уяўленне аб агнявой магутнасці танкавых войск сёнешняга дня ў параўнанні з тым, чым яны былі 5 год таму назад, прыводжу наступныя даныя:

Калі ўзяць залп з усіх відаў зброі танкаў і аўта-бронемашын у 1934 г. за 100, то к 1939 г. адзін залп будзе ровен 393%, або магутнасць агнявога залпа нашых танкавых войск узрасла амаль у 4 разы ў параўнанні з 1934 годам.

І далей. Калі ў 1934 годзе агнявая магутнасць усяго нашага танкавага парка ў адну мінуту раўнялася 100%, то к 1939 году гэтая магутнасць узрасла да 334%, або павялічылася амаль у $3\frac{1}{2}$ раза.

**Артылерыя.** Пытанням артылерыйскага ўзбраення нашых войск удзялялася асабліва сур'ёзная ўвага. Рэзультаты і ў гэтай частцы работы нядрэнныя.

Лёгкая артылерыя без процітанкавай і артылерыі бліжняга дзеяння за гэты перыяд часу ўзрасла на 34%.

Сярэдняя артылерыя павялічылася на 26%.

Цяжкая артылерыя вырасла на 85%.

Зенітная артылерыя вырасла на 169%.

Процітанкавая і танкавая артылерыя, якая была недастаткова развіта, к цяперашняму часу вырасла яшчэ больш, чым іншыя віды артылерыі. Скажу каротка, што ў адносінах процітанкавай і танкавай артылерыі Чырвоная Армія ўзброена поўнасцю і прытым першакласнай зброяй.

У нас раней не было, або вярней, амаль не было так званай артылерыі бліжняга бою. К цяперашняму часу гэты вельмі важны від артылерыі (мінамётнай і бомбамётнай) мы стварылі і маем яго на ўзбраенні ў патрэбнай колькасці і добрай якасці.

Побач з колькасным ростам артылерыйскага ўзбраення павышаліся і якасныя паказчыкі артылерыйскіх сістэм як новаўведзенай на ўзбраенне, так і старой, але поўнасцю мадэрнізаванай.

Апрача таго, радыкальна змяніліся суадносіны паміж гарматнай і гаубічнай артылерыяй у артчасцях. Дастаткова ўказаць, што рост гаубізацыі выражаецца к цяперашняму часу ў 80%, а гэта значыць, што наша артылерыя стала больш эфектыўнай, таму што яе ўбойныя ўласцівасці значна павысіліся.

Значна павялічылася дальнабойнасць усіх відаў нашай артылерыі. Так напрыклад, дальнабойнасць цяжкай артылерыі ўзрасла ад 50 да 75% для розных відаў артылерыі.

Павялічылася скарастрэльнасць амаль усіх артылерыйскіх сістэм, асабліва процітанкавых і танкавых гармат, дзе мы маем павелічэнне скарастрэльнасці больш, чым у два разы.

Адбылося павелічэнне вагі снарадаў і палепшанне іх баявых уласцівасцей.

**Процiхімічныя войскі** Чырвонай Арміі, заклікаdebы абараняць армію ад хімічнага нападу ворага і адказаць на ўдар ворага хімсродкамі тым-жа хімічным ударам, таксама змяніліся ў сваёй арганізацыі і колькасна выраслі ўдвая.

Сродкі процiхімічнай абароны к данаму часу і якасна і колькасна зусім не падобны на тое, што мы мелі 5 год назад.

Палепшаны перш за ўсё сродкі абароны адкрытай часткі скуры і дыхання байца, створаны ў дастатковай колькасці абаронныя сродкі, якія засцерагаюць байца ад магчымых хімічных нападаў з

паветра, а таксама атрыманы абаронныя сродкі для каня і засцеражэння ад хімзаражэння маемасці.

Якасна палепшаны і колькасна значна павялічаны сродкі механічнай і тэхнічнай дэгазацыі мясцовасці. Прароблена вялікая работа ў частцы стварэння спецыяльных машын для гэтай мэты.

Усяго толькі два словы аб стане **войск сувязі,** аб гэтым вельмі важным родзе войск, на якім базіруецца ўся работа ўпраўлення і кіраўніцтва войскамі ў мірны і, асабліва, у ваенны час.

Войскі сувязі выраслі на 37%. Рост адбыўся за кошт значнага аснашчэння войск сувязі сучаснай тэхнікай.

Уведзены радыё-станцыі з павялічаным радыусам дзеяння і абсталяваннем пішучымі апаратамі.

Быстра-дзеючая тэлеграфная апаратура павялічылася на 200%. Уведзена тэлефонная апаратура дальняга дзеяння.

Узмацнілася рухомасць войск сувязі.

Войскі сувязі амаль поўнасцю матарызаваны.

Усё гэта і многае іншае патрабавала расшырэння колькаснасці і якаснага палепшання гэтага роду войск.

Асоба стаіць пытанне аб актыўнай **проціпаветранай** абароне нашай краіны. Гэтаму пытанню за прайшоўшы перыяд была ўдзелена значная ўвага, аднак, трэба прызнацца, што мы яшчэ не ўсё зрабілі, што патрэбна. Але ўжо к данаму моманту мы маем рэзкае палепшанне проціпаветранай абароны асноўных цэнтраў нашай краіны.

Дастаткова ўказаць толькі на **колькасны рост** зенітнай артылерыі, каб зразумець, якая вялікая работа ўжо прароблена. Зенітная артылерыя вырасла на 288,3%.

Палепшылася і якасць зенітнай артылерыі, так напрыклад, паталок зенітнай артылерыі павялічыўся на 60% **(апладысменты).**

Проціпаветраная абарона важнейшых дзяржаўных цэнтраў і гарадоў будуецца ў нас, як вядома, на ўзаемадзеянні зенітнай артылерыі і знішчальнай авіяцыі. Адначасова з палепшаннем арганізацыі гэтага ўзаемадзеяння адбывалася павелічэнне знішчальнай авіяцыі, якая вырасла на 142,3%.

Я не закранаю пытанняў так званай пасіўнай (само слоўца чаго варта!) проціпаветранай абароны, або лепш і правільней сказаць, мясцовай, грамадзянскай ППА, хоць гэтае пытанне і заслугоўвае таго, каб аб ім было сказана ўсё, што сказаць трэба. Абмяжуюся толькі, што справа абстаіць у гэтай частцы, на жаль, дрэннавата і не столькі па віне нашай (ваенных), колькі па віне мясцовых работнікаў. Гэтай справай трэба заняцца ўшчыльную і без правалочак.

Я зусім не закранаю пытанняў унутрыармейскай вайсковай ППА, яна развіваецца нармальна ў адпаведнасці з ростам арміі.

Каб не стамляць вашай увагі далей, апускаю многія з пытанняў, якія адносяцца да дапаможных войск, накшталт чыгуначных, інжынерных, пражэктарных, аўта-транспартных і іншых войск, якія, як і

ўся армія, за гэты час рэзка змянілі сваё аблічча і колькасна і, у асаблівасці, якасна.

**Ваенна-паветраныя сілы** ў параўнанні з 1934 годам выраслі ў сваім асабовым саставе на 138%, г. зн. сталі больш амаль у два з паловай раза **(апладысменты).**

Самалётны парк у цэлым вырас на 130%, г. зн. павялічыўся значна больш, чым у два разы.

Калі-ж выразіць узрослую магутнасць паветранага флота ў конскіх сілах авіяматараў у параўнанні з 1934 г., то мы атрымаем павелічэнне на 7.900.000 конскіх сіл або прырост на 213% у параўнанні з тым, што было 5 год таму назад **(апладысменты).**

Побач з колькасным ростам паветранага флота змянілася і яго якасная сутнасць.

Вось кароткія даныя, якія сведчаць аб сказаным:

| | Павелічэнне | | |
|---|---|---|---|
| | Скорасці | Вышыні | Дальнасці |
| Знішчальнікі . . . на | 56,5% | 21,5% | — |
| Бамбардыроўшчыкі (бліжняга дзеяння) » | 88% | 83% | 50% |
| Бамбардыроўшчыкі (дальняга дзеяння) . » | 70% | 77% | 61% |
| Разведчыкі і штурмавікі . . . . . . » | 67% | 23% | 45% |

Змяніліся за гэты час, што вельмі важна, і суадносіны паміж рознымі відамі авіяцыі ўнутры ваенна-паветранага флота.

Цяжка-бамбардыровачная авіяцыя з 10,6% вырасла да 20,6%— рост у два разы.

Лёгка-бамбардыровачная, штурмавая і разведвальная авіяцыя— з 50,2% зменшылася да 26%—змяншэнне ў два разы.

Знішчальная авіяцыя—з 12,3% павялічылася да 30%—рост у $2^1/_2$ раза.

Такім чынам, змяніліся суадносіны відаў авіяцыі ў карысць бамбардыроўшчыкаў і знішчальнікаў больш, чым у два разы.

Гэта значыць, што наша авіяцыя наогул стала больш магутнай і яе ўдарная сіла адпаведна павысілася.

Калі ў 1934 годзе ўвесь наш паветраны флот мог падняць за адзін вылет 2.000 тон авія-бомб, то ў сучасны момант ён падымае ўжо на 208 проц. больш; іншымі словамі, адначасовы бомбавы залп павялічыўся ў тры разы. Гэта маса паражаючага металу, здольнага перамяшчацца на велізарныя адлегласці, можа быць нядрэннай совецкай смірыцельнай кашуляй для ахопленых брэдавымі ідэямі аг-

рэсараў, калі яны ў вар'яцкім парыве палезуць на зямлю советаў **(бурныя апладысменты).**

Адначасова з гэтым павялічылася магутнасць кулямётнага залпа нашага ваенна-паветранага флота. Калі ў 1934 годзе ў адну секунду ўсе авіяцыйныя кулямёты маглі даць выстралаў 100%, то ў 1939 г. яны могуць даць на 300% больш.

Я разумею натуральнае жаданне таварышоў ведаць, якія-ж мы маем самалёты, з якімі не процантнымі, а даступнымі чалавечаму разуменню паказчыкамі хоць-бы па скарасцях, па паталку, дальнасці. Ідучы насустрач гэтаму натуральнаму жаданню, я дакладваю, што зараз нярэдка сустрэць на нашых ваенных аэрадромах не толькі знішчальнік, але і бамбардыроўшчык са скорасцямі, якія далёка пераваліілі за 500 кілометраў у гадзіну **(бурныя апладысменты. Воклічы: «Ура!» «Няхай жыве таварыш Сталін!» «Няхай жыве таварыш Варашылаў!» «Няхай жыве чырвоная авіяцыя!» «Ура!» Зал, стоячы, наладжвае авацыю правадыру народаў таварышу Сталіну),** а высотнасцю за 14—15 тыс. метраў **(апладысменты);** што-ж датычыць дальнасці нашых самалётаў, то аб гэтым лепш за ўсё сказалі справай цудоўнай памяці Герой Совецкага Саюза Валерый Чкалаў і Героі Совецкага Саюза тт. Громаў, Байдукоў, Юмашаў, Белякоў, Данілін, Кокінакі, пакойны Брандзінскі і нашы выдатныя лётчыцы— Героі Совецкага Саюза тт. Грызадубава, Осіпенка і Раскова **(апладысменты).**

Вы ўсе ведаеце, зразумела, што яны гэтыя і многія, многія іншыя героі, нашы сталінскія сокалы, яшчэ аб многіх якасцях нашай авіяцыі справай раскажуць нашаму народу і ўсяму свету **(працяглыя апладысменты).**

Таварышы, я нічога не гаварыў аб нашым слаўным Рабоча-Сялянскім Ваенна-Марскім Флоце не толькі таму, што ён цяпер прадстаўляе самастойную сілу, кіруемую самастойна Народным Камісарыятам, але і таму, што вы ведаеце з выступленняў тав. Молатава на сесіі Вярхоўнага Совета і іншых крыніц, што Партыя, Урад рашылі пабудаваць і паспяхова ўжо будуюць магутны Ваенна-Марскі і акіянскі флот, а таксама таму, што аб Ваенна-Марскім Флоце скажуць іншыя таварышы.

Каб закончыць гэты раздзел майго выступлення, я прывяду толькі адну спраўку для таго, каб паведаміць вам даныя аб узмацненні матарызацыі нашай арміі.

За перыяд з 1934 года рост матарызацыі па ўсёй арміі выражаецца ў 260%. Атрымліваецца наступная карціна: у 1934 годзе на аднаго чырвонаармейца РСЧА ў сярэднім прыходзілася 7,74 конскіх сіл, у 1939 годзе на аднаго чырвонаармейца прыходзіцца 13 конскіх сіл, што складае 167% росту **(працяглыя апладысменты).** Гэта пры ўмове павелічэння самой арміі больш чым у два разы.

## Асабовы састаў

Таварышы, я далажыў вам аб змяненнях, якія адбыліся ў арганізацыі, узбраенні і тэхнічным аснашчэнні нашай арміі за апошнія 5 год. Наша армія стала зусім іншай і колькасна і ў асаблівасці якасна.

Я нічога не сказаў аб людзях, аб нашых байцах, камандзірах, камісарах, палітработніках, начальніках, інжынерах, тэхніках, ваенных урачах, гаспадарніках, адным словам аб чалавеку нашай арміі, які ў канчатковым выніку рашае ўсё і вызначае сапраўдную баявую сілу і магутнасць Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі.

Тэхніка без людзей мёртва. Тэхніка ў руках ведаючых, ауладаўшых тэхнікай людзей—велізарная сіла.

Кадры рашаюць усё. Гэта бясспрэчна. Іменна таму ЦК партыі і Урад так многа ўдзялялі і ўдзяляюць увагі пытанням накаплення сваіх, сапраўды совецкіх ваенных кадраў, людзей высокага воінскага абавязку і бязмежнай адданасці сваёй Радзіме і вялікай справе Леніна—Сталіна. Многа ўдзяляецца ўвагі росту і ўдасканаленню нашых кадраў у палітычных і спецыяльна ваенных адносінах. Кадры мы маем у дастатковай колькасці і патрабуемай якасці. Яны беспярапынна растуць ва ўсіх адносінах разам з ростам нашай вялікай краіны і арміі. Іменна такія людзі, такія кадры робяць нашу Чырвоную Армію першакласнай, несакрушымай па сіле яе арганізацыі, узбраення, баявой падрыхтаванасці і адзінай па сіле духу, па палітычнай і маральнай магутнасці.

У перыяд ачышчэння Чырвонай Арміі ад мерзкіх людзей, якія здрадзілі сваёй Дзяржаве і баявому сцягу, фашысцкія і іншыя імперыялістычныя агрэсары ўзнялі шалёны вой на ўвесь белы свет аб аслабленні ваенных кадраў, зніжэнні, у выніку гэтага, баявой магутнасці Чырвонай Арміі і іншае ў гэтым родзе.

Таварыш Сталін з усёй яснасцю ўскрыў карэнні, з якіх нараджаюцца падобныя воплі нашых ворагаў. Мы, бачыце, нядобра паступаем, карчуючы агентуру і лазутчыкаў у радах сваёй арміі, куды гэтая падаль паслана замежнымі разведкамі. Панам фашысцкім заправілам і іх прыказчыкам было-б прыемней, калі-б подлыя здраднікі тухачэўскія, егоравы, орловы і іншыя прадажныя канальі прадаўжалі арудаваць у нашых радах, прэдаючы нашу армію, краіну. Яно, вядома, арганізатарам сусветнай бойні куды зручней займацца сваёй чорнай справай, маючы ўласную надзейную агентуру ў чужых арміях, бо значна лягчэй злодзею прабрацца ў чужы дом, калі дом знутры адчыняць саўдзельнікі.

Можна было-б не звяртаць увагі на гэтыя інсінуацыі фашысцкіх пісак аб слабасці Чырвонай Арміі і інш., калі-б з гэтага не рабілася фашысцкімі агрэсарамі вельмі рэальных вывадаў.

Я маю на ўвазе тых паноў, якія жывячыся паведамленнямі сваіх

прыяцеляў аб аслабленні Чырвонай Арміі, а галоўнае, трацячы сваю агентуру, засланую ў нашу армію, неасцярожна паспяшаліся «скарыстаць», як ім здалося, «зручны выпадак» і рушылі к возеру Хасан, каб прапаўзці праз совецкую падваротню пагрэць рукі на чужым дабры, паправіць свае заблытаныя дзялішкі.

Рэзультаты гэтай разбойнай зацеі агульнавядомы.

Доблесная 1 Асобная Чырвонасцяжная армія зброяй сваіх байцоў, камандзіраў і палітработнікаў напісала на спінах ахвотнікаў да лёгкай пажывы свой адказ аб сапраўднай боездольнасці совецкай арміі, аб стане яе камандных і палітычных кадраў.

Будзем спадзявацца, што гэты прадметны ўрок будзе ўлічан тымі, чые ненасытныя позіркі квапяцца на совецкую дзяржаву, каму мярэшчыцца аслабленая Чырвоная Армія, хто схілен верыць у легенду, што совецкая зямля лёгка даступна для разбойных авантур.

Калі ўсё-ж прадметныя ўрокі Хасана недастатковы, наша Чырвоная Армія гатова ў любую мінуту **паўтарыць** іх у расшыраным і больш пераконваючым аб'ёме ўсякаму, хто гэтага будзе дабівацца **(апладысменты).**

У сувязі з павелічэннем Чырвонай Арміі больш, чым у два разы, а таксама ў выніку вялікага ўзмацнення і ўскладнення баявой і дапаможнай тэхнікі ў ёй, адпаведна рос, а значыць і амаладжваўся камандна-палітычны і ўвесь астатні начальствуючы састаў.

Колькасны рост нашых кадраў за прайшоўшыя пяць год характарызуецца наступнымі данымі:

каманднa-начальствуючы састаў стралковых войск, уключаючы і артылерыйскія часці гэтых войск, павялічыўся на 118%,
конніцы на 66%,
аўтаброне-танкавых войск—на 154%,
асобна кадры артылерыі ўзраслі на 124,5%,
кадры авіяцыі ў цэлым, уключаючы інжынерна-тэхнічны і абслугоўваючы састаў выраслі на 148%, а калі ўзяць асобна лётчыкаў, то іх колькасць павялічылася на 184%, а колькасць інжынераў авіяцыі асобна павялічылася на 801%.

Чырвоная Армія ў цэлым з'яўляецца ў мірны час, **зразумела,** велізарнай разгорнутай школай, дзе пастаянна сотні тысяч добрых совецкіх людзей вучацца не толькі сваёй справе, па спецыяльнасці, авалодваюць майстэрствам біць ворага, але дзе ўсе—ад байца да вярхушкі камандавання—абучаюцца таксама і палітыцы, папаўняюць свае веды, авалодваюць тэорыяй марксізма-ленінізма.

Ці паспяхова працуе гэтая гіганцкая школа для дарослых? Адно можна сказаць—працуюць многа, упарта. Дасягненні, і не малыя, ёсць, але неабходна працаваць яшчэ больш і напружаней, поспехі трэба множыць, яны яшчэ недастатковы.

Арміям усіх буржуазных краін забараняецца, ва ўсякім выпадку радавым і афіцэрскай драбнаце, безумоўна забараняецца, займацца

палітыкай. Там за палітыку караюць. Наша армія сільна палітычнай свядомасцю і палітычнай актыўнасцю, адсюль патрабаванні да камандных і іншых кадраў РСЧА—хочаш быць на сваім месцы карысным і патрэбным сваім падначаленым, хочаш чэсна служыць свайму народу і справе Леніна—Сталіна, хочаш быць сапраўдным большэвіком-ленінцам, вучыся, многа вучыся, бесперапынна ўдасканальвайся, ведай сваю спецыяльнасць на зубок, інакш ты не справішся з даручанай справай, аскандалішся перад падначаленымі, а галоўнае—будзь абавязкова палітычна граматным, па-большэвіцку актыўным, будзь не толькі добрым, абавязкова добрым, калі не можаш быць выдатным, спецыялістам, але будзь такім-жа добрым палітычна падкаваным грамадзянінам социялістычнай дзяржавы, яе карысным будаўніком. Гэтыя патрабаванні выконваюцца ўсім асабовым саставам Чырвонай Арміі не заўсёды, на жаль, пунктуальна, аднак работа па абучэнню і марксісцка-ленінскаму выхаванню кадраў у РСЧА вядзецца вялікая і з поспехам.

Для падрыхтоўкі камандзіраў і розных спецыялістаў для Чырвонай Арміі, г. зн. для папаўнення кадраў корпуса нашых чырвоных афіцэраў усіх спецыяльнасцей, мы маем нядрэнна дзеючую школьную сетку.

63 сухапутныя вучылішчы, у якіх абучаюцца дзесяткі тысяч нашай выдатнай совецкай моладзі, штогод даюць арміі тысячы добра абучаных, палітычна граматных і адданых партыі Леніна—Сталіна маладых камандзіраў—лейтэнантаў.

Авіяцыйныя кадры папаўняюцца з 32 спецыяльных лётных і лётна-тэхнічных школ. У гэтыя школы партыя і комсамол даюць лепшых сваіх пітомцаў у колькасці больш двух дзесяткаў тысяч, дзе яны абучаюцца на будучых чырвоных лётчыкаў, штурманаў і авіяцыйных спецыялістаў. У гэтых авіяшколах гэтак сама, як і ў іншых ваенных школах праходзяць, апрача спецыяльнай праграмы, таксама і грамадска-палітычныя цыклы.

Агульны рост абучаючыхся ў школах кантынгентаў павялічыўся за 5 год наступным чынам:

па сухапутных школах—на 117,8%;

асобна па ваенна-палітычных школах кантынгент абучаючыхся вырас на 273,3%;

кантынгенты школ Паветранага Флота выраслі на 187%.

Школы каманднага састава даюць Чырвонай Арміі добра падрыхтаваных камандзіраў, асабліва гэта адносіцца да апошніх год, калі камандныя школы амаль на 100% камплектуюцца людзьмі з поўнай і часткова няпоўнай сярэдняй асветай.

Але апрача гэтых афіцэрскіх кадраў арміі патрэбны, прытым у вялікай колькасці, камандзіры і розныя спецыялісты высокай кваліфікацыі з закончанай вышэйшай асветай.

Для гэтай мэты РСЧА мае 14 ваенных акадэмій і 6 спецыяльных

ваенных факультэтаў пры грамадзянскіх ВНУ з агульнай ёмкасцю, якая выходзіць за межы двух дзесяткаў тысяч пастаянна абучаючыхся камандзіраў, начальнікаў, палітработнікаў, інжынераў, урачоў і інш.

Гэта дае арміі штогод патрэбную колькасць высокападрыхтаваных, у большасці сваёй па-сапраўднаму адукаваных камандзіраў, камісараў, інжынераў розных спецыяльнасцей, урачоў, гаспадарнікаў і т. д.

Апрача гэтага, пры ваенных акадэміях існуюць вячэрнія і завочныя курсы па праграмах гэтых акадэмій, на якіх абучаюцца да паўтара дзесятка тысяч камандзіраў і начальствуючага састава арміі.

Я нічога не сказаў аб нашых вайсковых школах і курсах з поўгадовым і гадовым тэрмінам абучэння младшага каманднага састава, праз якія Чырвоная Армія прапускае штогод некалькі сот тысяч чалавек.

Вайсковыя школы адыгрываюць у жыцці арміі велізарную і выдатную ролю. Яны даюць ёй младшага камандзіра, які з'яўляецца асновай ваеннай арганізацыі, першым і бліжэйшым начальнікам чырвонаармейцаў, камандзіра, які заўсёды і пастаянна раздзяляе ўсе радасці і труднасці ваеннага жыцця з радавымі байцамі як у мірнай, так і ў баявой абстаноўцы. Младшыя камандзіры выдатна біліся ў раёне возера Хасан, яны высока трымалі баявы сцяг нашай Чырвонай Арміі, іх запомніць абнаглеўшы вораг. **(Бурныя апладысменты. Усе дэлегаты ўстаюць і, стоячы, вітаюць дакладчыка. Воклічы: «Няхай жыве Чырвоная Армія!».)**

**Аб кадрах запаса.** Як ні вялікі ў мірны час кадры арміі, яны недастатковы для таго, каб поўнасцю забяспечыць армію ваеннага часу. Таму прыходзіцца весці вялікую работу па накапленню і падтрыманню на належным узроўні кваліфікацыі кадраў камандна-палітычнага і начальствуючага састава запаса.

Пытанні задавальнення арміі ваеннага часу камандным саставам з'яўляюцца найбольш труднымі для ўсіх армій капіталістычных краін. Для нас гэтых труднасцей не існуе. У асноўным і галоўным пытанні камплектавання і далейшага папаўнення арміі ваеннага часу камандным і начальствуючым саставам мы ўжо вырашылі.

## Матэрыяльна-культурнае становішча Чырвонай Арміі

Матэрыяльнае становішча нашых радавых байцоў стаіць на высокім узроўні. Харчаванне, адзенне, расквартараванне—усе гэтыя і іншыя пытанні быту чырвонаармейца былі і заўсёды астаюцца важнейшымі пытаннямі, якімі пастаянна займаецца ўвесь каманды, камісарскі і палітычны састаў.

Матэрыяльнае становішча начальствуючага састава ў цэлым за прайшоўшыя пяць год рэзка змянілася.

Заработная плата ў сярэднім для ўсяго каманднага, камісарскага, палітычнага і іншага начальствуючага састава вырасла на 286%.

**Рост акладаў утрымання па асноўных пасадах**
(у рублях)

| | 1934 г. | 1939 г. | Павелічэнне ў процантах |
|---|---|---|---|
| Камандзір узвода | 260 | 625 | 240 проц. |
| Камандзір роты | 285 | 750 | 263 " |
| Камандзір батальёна | 335 | 850 | 254 " |
| Камандзір палка | 400 | 1200 | 300 " |
| Камандзір дывізіі | 475 | 1600 | 337 " |
| Камандзір корпуса | 550 | 2000 | 364 " |

У вялікай ступені выраслі сродкі культурнага абслугоўвання Чырвонай Арміі, што, вядома, самым спрыяючым чынам сказваецца на росце культурнасці байцоў і ўсяго састава арміі.

Так напрыклад—у 1934 г. мы мелі ленінскіх куткоў 15.091, у 1939 г. іх ёсць 26.435.

Адпаведна—клубаў было 1.336, цяпер маем 1.900.

Дамоў Чырвонай Арміі замест 142, якія меліся ў 1934 годзе, маем зараз 267.

Значна ўзмацнілася сетка радыёвузлоў, кіноўстановак, кінoперасовак і т. д. Дастаткова сказаць, што адных радыёточак армія мае 350.000.

Бібліятэчны фонд Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі ў цяперашні час складае 25 мільёнаў кніг.

Асабовы састаў РСЧА выпісвае штодзённа 1.725.000 газет, а таксама чытае рэгулярна 471.500 журналаў.

Грошай затрачваецца цяпер на культурна-асветную работу 230 мільёнаў рублёў замест 72 мільёнаў рублёў у 1934 годзе.

Вялікая і карысная работа па культурнаму абслугоўванню Чырвонай Арміі праводзілася і праводзіцца Саюзам работнікаў Мастацтва. Цэлыя тэатры, асобныя брыгады работнікаў мастацтва, лепшыя музыканты, артысты, спевакі і інш. ахвотна ідуць у армію са сваім таленавітым майстэрствам. Вучоныя, тэхнікі, інжынеры і ўсякага роду спецыялісты таксама аказваюць вялікую паслугу Чырвонай Арміі сваімі лекцыямі, сваім пастаянным абслугоўваннем нашых байцоў, камандзіраў і начальнікаў, за якое Чырвоная Армія ўзнагароджвае сваіх прыяцеляў нязменнай удзячнасцю і любоўю.

## Асоавіяхім і іншыя грамадскія арганізацыі

Я лічу неабходным сказаць некалькі слоў аб Асоавіяхіме і іншых грамадскіх арганізацыях.

Асоавіяхім з'яўляецца масавай добравольнай грамадскай арганізацыяй, вядзе вялікую і карысную работу. Гэтая арганізацыя заклікана весці падрыхтоўку рабочых, служачых, інтэлігенцыі, навучаючыхся і калгаснікаў у інтарэсах абароны Дзяржавы. Адначасова Асоавіяхім дапамагае Чырвонай Арміі ў справе папярэдняй «чарнавой» работы па адпрацоўцы кадраў розных ваенных спецыяльнасцей.

Адносячыся з усёй павагай да работнікаў Асоавіяхіма, асабліва да тых актывістаў-дабравольцаў, якія па-сапраўднаму, як існыя патрыёты совецкай дзяржавы, аддаюць не мала сваіх сіл служэнню інтарэсам абароны краіны, я павінен сказаць, што Асоавіяхім мог-бы даць значна большыя рэзультаты работы, што мы не ўсё робім для таго, каб гэта выдатная арганізацыя поўнасцю скарыстоўвалася як належыць. Мы можам і абавязаны ў бліжэйшы час зрабіць усё для таго, каб Асоавіяхім сістэмай сваіх арганізацый ахапіў усе фабрыкі і заводы, прадпрыемствы, установы, навучальныя ўстановы і калгасы. Трэба паставіць справу так, каб работа Асоавіяхіма па сутнасці стала грамадска-масавай работай, каб усякі член таварыства бачыў карыснасць і неабходнасць той справы, якой Асоавіяхім займаецца.

У нас ёсць такія абаронныя арганізацыі, як РОКК і Таварыства Чырвонага Поўмесяца. Яны, на жаль, мала папулярны. Разам з тым іх работа была не дрэннай у свой час і можа стаць важнай і добрай, калі партарганізацыі на месцах хоць зрэдку будуць удзяляць ім крыху ўвагі.

Трэба памятаць, што фашысцкія, і не толькі фашысцкія, дзяржавы маюць у цяперашні час вялікую колькасць спецыяльна абаронных арганізацый, якія, будучы пабудаванымі па ваеннаму ўзору, з'яўляюцца вельмі сур'ёзным і эфектыўным элементам, дадатковым да іх рэгулярных армій.

Мы не можам, не маем права адставаць у справе арганізацыі нашага насельніцтва ў мэтах абароны нашых гарадоў, фабрык, заводаў і калгасаў, жыцця і здабытку народа ад магчымых нападаў ворагаў.

Таварышы! Я не спыняюся на такой вялікай дзяржаўнай арганізацыі, як Грамадзянскі Паветраны Флот, які, у выпадку вайны, будзе цалкам абслугоўваць патрэбы абароны. На чале яго стаіць Герой Совецкага Саюза тав. Молакаў, які трымае пастаянную цесную сувязь з Чырвонай Арміяй і робіць усё неабходнае для таго, каб Грамадзянскі Паветраны Флот мацнеў, развіваўся і быў здольным у патрэбны час аказваць садзейнасць баявым сілам Ваеннага Паветранага Флота ў справе абароны Радзімы.

# Палітычная падрыхтоўка Чырвонай Арміі

Чырвоная Армія прадстаўляе сабою асаблівую, яшчэ ніколі ў гісторыі чалавецтва нябачаную армію. Яна створана народам, які ўпершыню перамог сваіх ворагаў у барацьбе за сваё сацыяльнае разняволенне.

Наступныя словы таварыша Сталіна вызначаюць асаблівасці нашай арміі:

«Першая і асноўная асаблівасць нашай Чырвонай Арміі,—гаворыць таварыш Сталін,—заключаецца ў тым, што яна ёсць армія вызваленых рабочых і сялян, яна ёсць армія Кастрычніцкай рэвалюцыі, армія дыктатуры пролетарыята...

Другая асаблівасць нашай Чырвонай Арміі заключаецца ў тым, што яна, наша армія, з'яўляецца арміяй брацтва паміж народамі нашай краіны, арміяй вызвалення прыгнечаных народаў нашай краіны, арміяй абароны свабоды і незалежнасці народаў нашай краіны...

Нарэшце, трэцяя асаблівасць Чырвонай Арміі. Заключаецца яна ў духу інтэрнацыяналізма, у пачуццях інтэрнацыяналізма, якія пранізваюць усю нашу Чырвоную Армію» (Сталін).

Гэтае сталінскае вызначэнне асаблівасцей нашай Чырвонай Арміі з'яўляецца кіруючым пачаткам ва ўсёй партыйна-выхаваўчай і палітычнай рабоце ў Чырвонай Арміі. Іменна на гэтых трох палажэннях грунтуецца палітычнае і маральнае жыццё байцоў, камандзіраў і начальствуючага састава.

Чырвоная Армія жыве і выхоўваецца, як і ўвесь совецкі народ, на аснове вучэння Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна. Армія мае спецыяльны палітычны апарат. Побач з магутнымі партыйнай і комсамольскай арганізацыямі, палітапарат Чырвонай Арміі з'яўляецца тым органам, на абавязку якога ляжаць клопаты аб пастаянным і няспынным росце палітычнага сазнання байцоў, камандзіраў і ўсяго асабовага састава арміі. На ваенных камісараў, палітрукоў і іншых палітработнікаў ускладзена партыяй надзвычай адказная задача абслугоўвання арміі і, у першую чаргу, беспартыйных чырвонаармейцаў, камандзіраў і начальнікаў у палітычных адносінах.

Роля ваеннага камісара Чырвонай Арміі ў гэтай рабоце велізарна. Ваенны камісар абавязан клапаціцца, каб самі паліторганы былі заўсёды добра падабраны, палітработнікі адпавядалі свайму высокаму прызначэнню, каб марксісцка-ленінская палітычная граматнасць і агульны культурны кругазор палітработнікаў заўсёды быў на належнай вышыні. Адным словам, ваенны камісар, перш за ўсё, павінен умець арганізаваць паліторганы, палітработнікаў, а праз іх, з іх удзелам і адказнасцю—і ўсю палітработу.

Але гэта толькі частка, праўда, важнейшая, работы ваеннага камісара. Ваенны камісар—гэта адказнейшая фігура арміі. Ваенны

камісар у перыяд грамадзянскай вайны адыгрываў выключна важную і адказную ролю—«Без ваенкома мы не мелі-б Чырвонай арміі»,— гаварыў Ленін. Ваенны камісар і ў даны час, калі армія ўзброена рознастайнай, кваліфікаванай баявой і дапаможнай тэхнікай, калі армія стала складанейшым арганізмам, калі камандзір большую частку свайго часу абавязан аддаваць справе баявога і спецыяльнага абучэння,—адыгрывае адказную і важную ролю. Камандзір і ваенны камісар прадстаўляюць сабой адзінае цэлае ў справе кіраўніцтва баявым і палітычным абучэннем і выхаваннем воінскай часці. Яны абодва адказны за баявое, палітыка-маральнае, гаспадарчае, бытавое і інш. становішча часці. Яны абодва—камандзір і ваенны камісар—будуць весці ў бой сваю часць, злучэнне. Неабходна, таму, у дапаўненне да ўсяго іншага, весці таксама ўпартую работу па выхаванню камандзірскіх і валявых якасцей у кожным камандзіру, камісару і начальніку Чырвонай Арміі.

Асаблівая адказнасць за гэтую работу ўскладаецца на ваеннага камісара.

**Палітычны апарат арміі,** г. зн. ваенныя камісары, палітрукі і палітработнікі ўсіх спецыяльнасцей, за перыяд з XVII па XVIII З'езд у сваім саставе рэзка павялічыўся. На 1 студзеня 1934 г. было ўсяго 15 тысяч палітработнікаў, у сучасны момант армія мае 34 тысячы палітработнікаў; павелічэнне **на 126%.**

У сувязі з чысткай Чырвонай Арміі ад прэдацельскіх, шпіёнскіх і здрадніцкіх элементаў і ачышчэннем самога палітапарата ад той-жа гніласнай прэдацельскай мерзасці, роля і задачы палітапарата і ваенных камісараў у першую чаргу, значна павысіліся. Вырасла і адказнасць усяго палітсастава за яго работу.

Палітычны састаў Чырвонай Арміі за апошнія годы значна абнавіўся. За гэты час былі вылучаны знізу на розныя адказныя пасады тысячы маладых выдатных людзей, членаў нашай партыі, чэсных, адданых і здольных работнікаў.

Гэта лепшыя людзі армейскай партыйнай арганізацыі, гэта тыя актывісты, якія, будучы бязмежна адданымі справе Леніна—Сталіна, на працягу апошніх 2—3 год праявілі сябе, як сапраўдныя партыйцы, барацьбіты за чыстату радоў партыі, за магутнасць Чырвонай Арміі. Гэта яны, разам з усёй партыйнай арганізацыяй, пры падтрыманні ўсёй масы чэсных беспартыйных чырвонаармейцаў, камандзіраў і начальнікаў, жалезнай мятлой ачысцілі армію ад прэдацельства і мерзасці, зрабіўшы яе к гэтаму часу яшчэ больш моцнай, больш палітычна маналітнай, чым калі-б то ні было раней. Гэтыя палітработнікі, разам з усім партыйным і комсамольскім актывам арміі, вядуць вялікую палітыка-выхаваўчую работу па павышэнню палітычнага ўзроўню нашай арміі, у мэтах папярэджання паяўлення ў арміі не толькі элементаў прэдацельства і здрады, але і ўсякага роду малавераў, ныцікаў і іншай погані, з якой у канчатко-

вым выніку нараджаюцца і не могуць не вырастаць сапраўдныя прэдацелі і агенты нашых класавых ворагаў.

Паліторганы арміі ў цяперашні час атрымалі такі выдатны дапаможнік у сваёй рабоце, як «Кароткі курс Гісторыі ВКП(б)». Гэты выдатны падручнік стаў настольнай кнігай не толькі палітработнікаў, камандзіраў і начальнікаў, ён стаў неабходным і пастаянным спадарожнікам палітычнага выхавання нашых чырвонаармейцаў.

Палітыка-выхаваўчая работа ў Чырвонай Арміі ахапляе ўсю масу байцоў, камандзіраў і ўсяго асабовага састава. Многатысячны камсамол арміі з'яўляецца лепшым памочнікам і праваднікам усіх пачынанняў паліторганаў у справе абслугоўвання ўсёй беспартыйнай масы байцоў і начсастава.

## Баявая падрыхтоўка Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі

Усе роды войск, пачынаючы ад пяхоты і канчаючы тэхнічнымі войскамі, забяспечаны адпаведнымі каманднa-палітычнымі кадрамі, якія дасканала ведаюць сваю справу.

Поспехі баявой падрыхтоўкі прайшоўшага 1937—38 гг. далі значны рост па ўсіх раздзелах баявой, тэхнічнай і тактычнай вывучкі войск.

Тактычная і агнявая падрыхтоўка стралковых часцей, не гледзячы на значнае ўскладненне гэтага роду войск ва ўсіх адносінах, стаіць на адпаведнай вышыні. Аднак, пяхотным камандзірам, камісарам і палітработнікам трэба больш і ўпорней працаваць, каб яшчэ лепш паставіць стралковую справу.

Чырвоная Армія заўсёды адзначалася сваімі снайперамі і выдатнымі стралкамі з вінтовак і кулямётаў, яна і надалей будзе гэтае сваё майстэрства множыць і ўдасканальваць, не спыняцца на дасягнутым. Трэба яшчэ ўпорней працаваць, каб яшчэ больш грунтоўна падрыхтаваць нашы стралковыя войскі ў тактычных і агнявых адносінах, павысіць падрыхтоўку штабаў, палкоў, дывізій і корпусаў. Прадаўжаць упорна працаваць над павышэннем вывучкі ўзаемадзеянню стралковых войск з іншымі родамі войск.

Чырвоная конніца ў справе баявой падрыхтоўкі заўсёды стаяла на вялікай вышыні і ў даны момант конныя часці могуць служыць прыкладам арганізаванасці і баявой вывучкі. Нашы коннікі ўмела спалучаюць сваю спецыяльную конную падрыхтоўку са сваімі механізаванымі баявымі сродкамі. У баявой абстаноўцы сучасная чырвоная кавалерыя яшчэ пакажа ўзоры высокага баявога майстэрства ва ўмелых і бязлітасных бітвах з ворагамі.

Баявая падрыхтоўка артылерыі, якой у нас многа ва ўсіх родах войск, стаіць на высокім узроўні. Між тым сучасная артылерыя рэзка адрозніваецца ад артылерыі нават нядаўняга мінулага, у сувязі

з чым і авалоданне ёю ўскладнілася. Ускладнілася і баявое ўзаемадзеянне артылерыі з іншымі родамі войск. Савецкія артылерысты, як і чырвоныя коннікі, заўсёды любілі сваю справу, добра яе ведалі і дабіваліся вялікіх рэзультатаў у баявой і тактычнай падрыхтоўцы. У цяперашні час наша артылерыя ўсіх найменаванняў, яе чырвонаармейцы, камандзіры, камісары добра падрыхтаваны і могуць спраўляцца з любымі баявымі задачамі, якія перад ёю будуць пастаўлены.

Нядрэнна працуюць нашы слаўныя танкісты. Ёсць цэлыя танкавыя часці і злучэнні, баявая падрыхтоўка якіх расцэньваецца вельмі высока. Наогул, усе танкавыя войскі з'яўляюцца добра зладжанымі, нядрэнна падрыхтаванымі як у агнявых, так і ў тактычных адносінах. З баявымі задачамі любога характару гэты род войск безумоўна заўсёды справіцца, бо радавы, камандны, камісарскі і палітычны састаў іх добра падрыхтован і сваю справу ведае «на-яць» **(вясёлае ажыўленне ў зале).**

Нядрэнна падрыхтаваны спецыяльныя войскі: сувязь, інжынеры, хімікі, чыгуначнікі і інш. Будучы нешматлікімі, маючы выдатна склаўшыяся кадры, гэтыя войскі, як правіла, заўсёды добра падрыхтаваны ў спецыяльных і тактычных адносінах.

Нарэшце, некалькі слоў аб баявой падрыхтоўцы Ваенна-Паветраных Сіл. Наша авіяцыя на даны час прадстаўляе сабою вельмі складаны род войск. Яе баявая падрыхтоўка патрабуе вялікіх пазнанняў, майстэрства і напружання з боку камандзіраў, ваенкомаў, палітработнікаў, інжынерна-тэхнічнага і ўсяго асабовага састава ў цэлым.

Апрача ўсяго іншага, авіяцыя ў сваёй баявой падрыхтоўцы заўсёды ў некаторай ступені залежыць ад метэаралагічных умоў. Тым не менш, дзякуючы выдатным кадрам нашага лётнага і іншага састава, Чырвоная авіяцыя ў сваёй спецыяльнай і тактычнай падрыхтоўцы стаіць на высокім узроўні. Гэта праверана неаднаразова на справе **(шумныя апладысменты).** Агульнавайсковая падрыхтоўка ўсёй Чырвонай Арміі з'яўляецца асноўнай задачай камандавання і яна пастаўлена нядрэнна.

Што наша Чырвоная Армія нядрэнна падрыхтавана, відаць нават з выказванняў нашых ворагаў, якія, як я ўжо сказаў, неасцярожна прабавалі захваціць кавалак савецкай тэрыторыі.

У запісных кніжках забітых японскіх афіцэраў, між іншым, ёсць наступныя запісы:

1) Маёр Хірабары, камандзір батальёна 75-га пяхотнага палка, запісвае ў сваю запісную кніжку:

«Нямала прышлося пацярпець ад савецкіх танкаў. Яны скарыстоўвалі мясцовасць, падыходзячы на блізкую адлегласць і вёдучы агонь. Агонь быў жудасны і вельмі меткі. Прыстасоўваючыся да мясцовасці, савецкія танкі часта высоўвалі для вядзення агню толькі гарматныя башні. Наш абстрэл не быў дастаткова дзейсным. Калі

танкі пападалі пад наш артылерыйскі агонь, то вадзіцелі танкаў часта выскаквалі з машыны і ўкрываліся ў складках мясцовасці, пакуль наш агонь не пераносіўся на другі напрамак.

Часта экіпажы знімалі кулямёты з танка і вялі меткую стральбу па нашых салдатах, а затым зноў садзіліся ў танкі».

2) Маёр Накана (камандзір 1-га батальёна, 75-га пяхотнага палка) (запісная кніжка):

«Ужо другі дзень, як мы сядзім у акопах, а совецкая армія праяўляе актыўнасць. То пераходзіць у наступленне і быстра да абароны. Трудна высунуць галаву. Раней нам гаварылі, што гэта не сільная армія, але калі мы сутыкнуліся на фронце, то я бачу, што гэта было памылкай. Чырвоныя войскі часта паўтаралі ярасныя атакі.

Учора раніцой у трэцяй роце было 137 чалавек, сёння асталося 50, і яе ўжо звялі ў адзін узвод.

31-га ліпеня раніцой на світанні мы 1-й ротай атакавалі сопку Сяцаофын. 14 салдат праціўніка на працягу 5 гадзін упорна стрымлівалі атаку нашай 1-й роты, наносячы ёй вялікія паражэнні, і іх удалося выбіць толькі пасля рукапашнага і штыкавога бою».

3) Паручык японскай арміі Кафуэндо (11-я рота, 75-га пяхотнага палка) у запісной кніжцы адзначыў:

«Чырвоныя добра скарыстоўваюць усе віды стралковай зброі— і вінтоўкі, і ручныя і станкавыя кулямёты. Мы неслі вялікія страты ад меткага агню, калі ружэйная перастрэлка ішла нават на 900—1000 метраў. Совецкія снайперы добра маскіруюцца, умела карыстаюцца мясцовасцю. Збіраюцца па 3—4 салдаты і, неадкладна акапваючыся, вядуць звышметкую стральбу па ўсяму нашаму распалажэнню, прычыняючы вялікія страты. Многа забітых і раненых».

Вось, таварышы, можа быць прыстраснае, але ў другі бок, у бок умалення якасці баявой падрыхтоўкі нашых часцей, сведчанне таго, што нашы камандзіры і палітработнікі недарма ядуць совецкі хлеб, яны, як бачыце, «сёе-тое» робяць і дасягаюць некаторых поспехаў **(апладысменты).**

Чырвоная Армія была і з'яўляецца прадметам **асобых** клопатаў Цэнтральнага Камітэта нашай партыі, Рабоча-Сялянскага Урада і асабіста таварыша Сталіна. У рэзультаце выканання двух Сталінскіх пяцігодак, якія далі велізарны рост нашай індустрыі і соцыялістычнай гаспадаркі ў цэлым, наша армія няспынна расла і ўдасканальвалася.

Я досыць падрабязна спыняўся на пытаннях сучаснага ўзбраення і тэхнічнага аснашчэння нашай арміі. Я гаварыў аб тых змяненнях, якія адбыліся ў гэтай галіне за апошнія 5 год, зрабіўшыя нашу армію настолькі тэхнічна ўзброенай і абсталяванай, а кадры і асабовы састаў у цэлым настолькі падрыхтаваным, што совецкаму народу не страшны цяпер ніякія падкопы ворагаў. Ён можа спакойна

рабіць сваю вялікую соцыялістычную справу ў поўнай упэўненасці, што яго Радзіма—Совецкая дзяржава—абараняецца магутнай сілай Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Чырвонага Флота.

Нельга не сказаць некалькі слоў падзякі рабочым, інжынерам, тэхнікам і служачым, і асабліва партыйным і комсамольскім арганізацыям нашых соцыялістычных заводаў, якія, ачысціўшыся ад прэдацеляў, ворагаў народа, многа папрацавалі для аснашчэння Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота баявой сучаснай тэхнікай, для ўзмацнення абароннай магутнасці нашай краіны. Многа вырасла не толькі асобных выдатных людзей нашай прамысловасці, але цяпер ужо нямала гіганцкіх прадпрыемстваў, работа якіх адзначана Партыяй і Урадам вышэйшымі ўзнагародамі Совецкага Саюза.

Многа і не без карысці для абароны папрацаваў т. Кагановіч М. М., які ўзначальваў былы Наркамат Абароннай Прамысловасці. Добра яму дапамагалі таварышы Ваннікаў, Тэвасян і цэлы рад выдатных людзей нашай партыі і беспартыйных большэвікоў—работнікаў соцыялістычнай індустрыі. Я прапаную, таварышы, іх вітаць.

**(У адказ на гэтыя словы т. Варашылава дэлегаты з'езда, стоячы, наладжваюць бурную авацыю.)**

## Палітычны і маральны стан Чырвонай Арміі

Сілу і значэнне палітычнага і маральнага фактара ў баявой дзейнасці войск класік ваеннай справы і мысліцель XIX стагоддзя Клаузевіц у сваёй выдатнай працы «Аб вайне» вызначае наступным чынам: «... большасць з'яў... складаецца напалавіну з фізічных, напалавіну з маральных прычын і вынікаў. Можна было-б сказаць, фізічныя з'явы падобны драўлянай рукаятцы, у той час, як маральныя прадстаўляюць сапраўды адточаны клінок, выкаваны з благароднага метала».

Высокі палітыка-маральны стан Чырвонай Арміі з'яўляецца іменна гэтым благародным «металам», аб якім у свой час пісаў Клаузевіц, з той толькі розніцай, што наша комуністычная мараль, «дух» нашай Чырвонай Арміі ў суме элементаў, якія вызначаюць перамогу, не падобен на дух старых поўфеадальных і буржуазных армій.

У грамадзянскай вайне Чырвоная Армія, раздзетая, дрэнна накормленая, сяк-так узброеная, біла і канчаткова знішчыла добра экіпіраваныя і багата ўзброеныя арміі інтэрвентаў і белагвардзейцаў. Тут была выяўлена сіла духу, веліч маралі новай Чырвонай Арміі, арміі сапраўды народнай і рэволюцыйнай. Грамадзянская вайна паказала, што маральны элемент арміі, якая б'ецца за свае інтарэсы, арміі, прасякнутай духам вялікага вучэння Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна, кіруемай комуністычнай партыяй, нязмерна вышэй, чым у любой капіталістычнай арміі, не гаворачы ўжо аб арміях поўфеадальных, буржуазных, арміях, якія меў на ўвазе Клаузевіц.

Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія, з'яўляючыся плоццю ад плоці і косцю ад косці свайго народа, жыве інтарэсамі ўсёй сваёй краіны, яна пад кіраўніцтвам вялікай партыі Леніна—Сталіна вядзе барацьбу за новае комуністычнае грамадства, яна па першаму закліку партыі, па загаду свайго Урада ўстане на абарону Радзімы, Народа і соцыялістычнай дзяржавы.

Чырвоная Армія, кіруемая сваімі партыйнымі і непартыйнымі бальшэвікамі—камандзірамі і ваеннымі камісарамі, дзякуючы сваім магутным партыйнай і комсамольскай арганізацыям і добра пастаўленай палітрабоце, заўсёды правільна арыентавана ў міжнародных і ўнутраных пытаннях. Яна заўсёды чутка рэагіруе на ўсе падзеі ўнутранага і міжнароднага жыцця краіны.

Таварышы! Наша армія расла і змагалася разам з народам, яна білася і канчаткова перамагла ў грамадзянскай вайне ўсіх сваіх унутраных і знешніх класавых ворагаў. Многа лепшых людзей нашай партыі, змагаючыся ў радах Чырвонай Арміі, аддалі сваё жыццё за справу народа, за справу Леніна—Сталіна.

За апошнія годы, у перыяд, калі армія арганізацыйна і тэхнічна занова пераўзбройвалася, станавілася ўсё больш моцнай і магутнай сілай Совецкай Дзяржавы, подлыя прэдацелі з трацкісцка-зіноўеўска-бухарынскай банды, шляхам здрады баявому сцягу, прэдацельства інтарэсаў свайго народа і дзяржавы, прабавалі знутры ўзарваць нашу армію, прэдацельскі абяссіліць яе, і ў часе вайны паставіць пад разгром ворага.

Гэты брудны гнойнік здрады ліквідован. Чырвоная Армія быстра і радыкальна ачышчана ад усёй гэтай погані.

Таварышы, Чырвоная Армія прадстаўляе сабой гіганцкую сілу. Чырвонаармейцы, камандзіры і палітработнікі ў нашай арміі—гэта маналітны, марксісцка-ленінскай ідэалогіяй спаяны калектыў. Чырвоная Армія, як адзін чалавек, кожны момант гатова выканаць свой свяшчэнны абавязак абаронца дзяржавы перамогшай працы, як адзін чалавек, з радасцю гатова аддаць жыццё за вялікую справу Леніна—Сталіна **(апладысменты).**

Наша армія больш, чым напалавіну складаецца з комуністаў і комсамольцаў. Але і тая частка, якая не ўваходзіць у састаў партыйнай і комсамольскай арганізацыі,—гэта сапраўды беспартыйныя бальшэвікі, жыццё якіх цалкам належыць Чырвонай Арміі і сваёй соцыялістычнай Радзіме, справе Леніна—Сталіна.

Мы ведаем масавае спаборніцтва беспартыйных бальшэвікоў з партыйцамі і комсамольцамі на возеры Хасан у справе баявой доблесці і сапраўднага геройства ў баях з ворагам за нашу соцыялістычную Радзіму, за партыю, за Сталіна **(апладысменты).**

Наша армія стаіць зоркім вартавым на рубяжах, якія аддзяляюць соцыялістычны свет ад свету прыгнечання, насілля і капіталістычнага варварства. Яна заўсёды, у любы момант гатова рынуцца ў бой

супроць усякага ворага, які пасмее дакрануцца да свяшчэннай зямлі совецкай Дзяржавы. **(Бурныя апладысменты.)**

Парукай таму, што вораг будзе на-каратку змят і знішчан, служыць палітычнае і маральнае адзінства нашай Чырвонай Арміі з усім совецкім народам.

Парукай гэтаму служыць марксісцка-ленінская ідэалогія, ідэалогія партыі Леніна—Сталіна, якой жыве армія совецкай Дзяржавы. У імя гэтай ідэалогіі байцы, камандзіры і палітработнікі гатовы заўсёды аддаць сваё жыццё.

Парукай гэтаму служыць тое, што наша Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія з'яўляецца першакласнай, лепш, чым якая-небудзь іншая армія, тэхнічна ўзброенай і вельмі добра абучанай арміяй.

Парукай гэтаму служаць таксама і тыя шматлікія Героі Совецкага Саюза, якія ў радах арміі беззаветным служэннем народу заслужылі гэтае высокае званне.

Таварышы! Наша армія несакрушальна!

Яна з'яўляецца дзецішчам нашай партыі, яна яе цудоўнае тварэнне, яна заўсёды гатова, па ўказанню партыі, нашага Урада і правадыра народаў вялікага Сталіна біцца за сваю соцыялістычную Радзіму і ператварыць у жывую справу свяшчэнныя словы ваеннай прысягі:

«Я клянуся абараняць яе мужна, умела, з дастоінствам і чэсцю, не шкадуючы сваёй крыві і самога жыцця для дасягнення поўнай перамогі над ворагамі».

Няхай жыве наша вялікая Усесаюзная Комуністычная партыя большэвікоў!

Няхай жыве XVIII з'езд нашай партыі!

Няхай жыве наш вялікі Сталін!

**(Усе ўстаюць, бурная, доўга не змаўкаючая авацыя: «Няхай жыве таварыш Сталін!» «Няхай жыве таварыш Варашылаў!», громкае, доўга незмаўкаючае «ура!».)**

---

# Прамова т. ПАНАМАРЭНКА на XVIII з'ездзе ВКП(б)

Таварышы, за пяць год, якія прайшлі ад XVII з'езда партыі, вырашаны сусветна-гістарычныя задачы: пераўтворана эканоміка, культура, быт працоўных нашай краіны. Совецкі Саюз з аграрнай краіны ператварыўся ў краіну індустрыяльную; соцыялістычная сістэма з'яўляецца адзінай сістэмай прамысловасці СССР; ліквідавана не толькі эксплаатацыя, але і прычыны, якія параджаюць эксплаатацыю.

Вырашана труднейшая задача нашай рэволюцыі—перавод дробнай, распыленай сялянскай гаспадаркі на рэльсы калгаснай соцыялістычнай гаспадаркі, перамога якой характарызуецца як найглыбейшы рэволюцыйны пераварот, скачок з аднаго якаснага стану грамадства ў новы стан, паварот, роўназначны па сваіх выніках рэволюцыйнаму перавароту ў кастрычніку 1917 года.

Калгасы канчаткова замацаваны і ўпрочаны, а соцыялістычная сістэма гаспадаркі з'яўляецца цяпер адзінай формай нашага земляробства.

Совецкі Саюз ператворан у магутную ўзброеную дзяржаву, краіну буйнейшай ваеннай магутнасці, краіну, здольную не толькі ахоўваць свяшчэнную недатыкальнасць сваіх рубяжоў, але і здольную разграміць да канца любога агрэсара.

Такім чынам, закончан бліскучы этап соцыялістычнай рэволюцыі ў СССР, завершана цэлая эпоха будаўнічай, творчай работы. «...СССР уступіў у трэцім пяцігоддзі ў новую паласу развіцця, у паласу **завяршэння будаўніцтва бяскласавага соцыялістычнага грамадства і паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма...»**

Перамогі гэтыя дасягнуты таму, што нашу партыю, наш народ ад перамогі да перамогі вёў і вядзе ўперад геніяльнейшы правадыр і арганізатар, вялікі выхавацель і друг—таварыш Сталін! **(Апладысменты).**

Большэвікі Беларусі, як і ўся партыя, прышлі к XVIII з'езду з буйнейшымі дасягненнямі. У рэзультаце перамогі Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі і паслядоўнага правядзення ў жыццё ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, у рэзультаце выканання першай і другой сталінскіх пяцігодак, у рэзультаце рашучага разгрому варожай агентуры, Беларусь дабілася велізарных

поспехаў у справе ўздыму народнай гаспадаркі і ператварылася з забітай, цёмнай акраіны царскай Расіі, акраіны з нішчанскімі ўраджаямі і саматужнай прамысловасцю, у адну з перадавых рэспублік вялікага Совецкага Саюза, у рэспубліку развітай індустрыі і соцыялістычнай сельскай гаспадаркі.

Беларусь мае цяпер машынабудаўнічую, хімічную, тэкстыльную, дрэваапрацоўчую прамысловасць і сельскагаспадарчае машынабудаўніцтва. За другую пяцігодку пабудавана і асвоена звыш 1.700 новых прадпрыемстваў. У Беларусі створана новая энергетычная база, аснаваная на скарыстанні мясцовага паліва. Адна толькі электрастанцыя імені таварыша Сталіна ў 1937 годзе выпрацавала электраэнергіі ў 30 з лішнім раз больш, чым яе выпрацоўвалі ўсе электрастанцыі дарэволюцыйнай Беларусі, разам узятыя. Адна толькі віцебская чулочна-трыкатажная фабрыка «КІМ» выпускае прадукцыі больш, чым уся прамысловасць дарэволюцыйнай Беларусі.

На базе багацейшых сыравінных рэсурсаў у Беларусі занава створана тарфяная прамысловасць, здабыча якой ў 1938 годзе раўнялася 2,5 мільёна тон супроць 14 тыс. тон у 1913 годзе.

У рэзультаце завяршэння тэхнічнай рэканструкцыі, асваення тэхнікі і соцыялістычнай арганізацыі вытворчасці значна павысілася прадукцыйнасць працы. Так, напрыклад, прадукцыйнасць працы па прамысловасці ў 1938 годзе вырасла на 153% супроць 1933 года.

Стаханаўцы Беларусі апракінулі прадзельчаскія нормы і перавысілі сусветныя рэкорды па апрацоўцы лесаматэрыялаў, далёка пакінуўшы за сабой паказчыкі самых лепшых прадпрыемстваў Швецыі.

Стаханаўцы-абутнікі пакінулі далёка ззаду сябе паказчыкі лепшых прадпрыемстваў Чэха-Славакіі.

Калгаснае сялянства Беларусі цвёрда і ўпэўнена ідзе па шляху ўздыму і росквіту соцыялістычнай сельскай гаспадаркі. Замест 838 тысяч распыленых аднаасобных сялянскіх гаспадарак, у Беларусі ёсць цяпер 9.650 калгасаў, якія аб'ядноўваюць 715 тысяч гаспадарак, што складае 91% усіх гаспадарак рэспублікі з 97% пасеўнай плошчы. На калгасных палях рэспублікі працуе каля 9 тыс. трактараў, звыш адной тысячы камбайнаў, звыш 4 тысяч аўтамашын і дзесяткі тысяч іншых сельскагаспадарчых машын. Многія калгасы рэспублікі на працягу раду год атрымліваюць нябачаныя раней у Беларусі ўраджаі зярна, па 20 цэнтнераў і вышэй з гектара, бульбы—350 цэнтнераў з га, ільнавалакна—да 14 цэнтнераў з га.

Калгасы Беларусі дабіліся велізарных поспехаў у справе асваення балотных зямель і атрымання на іх высокіх ураджаяў. На асвоеных балотах калгасамі і даследчымі станцыямі дасягнут ураджай азімага жыта да 36 цэнтнераў з га, ячменю—да 48 цэнтнераў, аўса—да 41 цэнтнера, канапель—да 14,5 цэнтнера і капусты—да 415 цэнтнераў з га.

Такім чынам, са свайго роду немінучага зла балотныя землі зараз ператвараюцца ў буйнейшы фактар павышэння ўраджайнасці, а ў Беларусі-ж з 12.700 тыс. га агульнай тэрыторыі 3 мільёны га, або 24%, займаюць балоты.

У калгасах Беларусі ў перыяд другой пяцігодкі прывіўся і дае высокі ўраджай каучуканос кок-сагыз. Так, напрыклад, пры сярэднім па СССР ураджаі каля 2 цэнтнераў з га, у Беларусі сярэдні ўраджай—да 4 цэнтнераў з га, г. зн. у два разы больш, прычым на мінеральных глебах ураджай 0,9, на тарфяніках—11 цэнтнераў з га, на балотнай глебе—да 30 цэнтнераў з га паветрана-сухіх карэнняў кок-сагыза.

Гэта адкрывае выключныя перспектывы развіцця ў Беларусі ў трэцяй пяцігодцы культуры кок-сагыза і павінна паставіць кок-сагыз у рады асноўных тэхнічных культур, засяваемых у Беларусі.

У Беларусі было 160 тысяч хутарскіх гаспадарак, у 1938 годзе пераселена ў калгасныя цэнтры 21 тысяча хутарскіх гаспадарак. У трэцяй пяцігодцы неабходна будзе закончыць сцягванне хутарскіх гаспадарак у калгасныя цэнтры. Да 1938 года ў калгасах Беларусі не ўводзілася правільных севаабаротаў. У 1938 годзе на аснове поўнага ўнутрыкалгаснага землеўпарадкавання ўведзены севаабароты ў 2.000 калгасах. У бліжэйшыя два годы севаабароты павінны быць уведзены ва ўсіх астатніх калгасах рэспублікі.

Велізарны поспехі ў галіне развіцця соцыялістычнай жывёлагадоўлі. У параўнанні з 1932 годам пагалоўе буйнай рагатай жывёлы павялічылася на 49%, свіней—на 104%, авечак і коз—на 43%. У рэспубліцы ліквідавана бескароўнасць сярод калгаснікаў.

Выкананне першай і другой пяцігодак забяспечыла рост сельскай інтэлігенцыі, кваліфікаваных кадраў сельскай гаспадаркі. Беларусь мае звыш 1.000 аграномаў, 800 ветурачоў, 21 тыс. трактарыстаў, каля 5½ тысяч машыністаў, механікаў і т. д. Велізарная дапамога, штодзенна аказваемая Цэнтральным Камітэтам і саюзным урадам калгаснаму сялянству Беларусі, яшчэ больш натхніла і згуртавала калгаснае сялянства вакол партыі, мабілізавала яго на новыя вытворчыя дасягненні. Калгасы выраслі і ўмацаваліся. Працадзень з'яўляецца настолькі рэальнай і значнай велічынёй, што калгаснікі змагаюцца за працадзень і не жадаюць ісці на заработкі з калгаса. Калі раней, да рэволюцыі, сяляне Беларусі к вясне ўжо не мелі хлеба, і цэлыя вёскі карміліся мохам, мякінай, карой, то цяпер калгасы і калгаснікі не толькі поўнасцю забяспечаны хлебам, мясам, малаком, гароднінай і іншымі прадуктамі на круглы год, але ў 1938 годзе з лішкаў прадалі дзяржаве каля паўтара мільёнаў пудоў хлеба.

Паказчыкам глыбокага давер'я і адданасці калгаснікаў нашай партыі з'яўляецца тое, з якім велізарным адабрэннем сустрэлі калгаснікі Беларусі рашэнне Цэнтральнага Камітэта ВКП(б) і ўрада аб

ліквідацыі нарушэнняў статута сельскагаспадарчай арцелі. Як паказала практыка, пераважная большасць калгаснікаў Беларусі рэзка настроена супроць нарушэнняў статута сельгасарцелі і супроць нарушальнікаў, хто-б яны ні былі.

Велізарны рост прадукцыйных сіл Беларусі забяспечыў уздым матэрыяльнага добрабыту рабочых і калгаснікаў. Сведчаннем велізарнага павышэння жыццёвага ўзроўню працоўных мас з'яўляецца той факт, што за дзве пяцігодкі натуральны прырост насельніцтва Беларусі склаў 1.200 тысяч чалавек, г. зн. насельніцтва Беларусі за дзесяць год павялічылася за лік змяншэння смертнасці і павелічэння нараджаемасці на 25%.

Усе гэтыя поспехі парадзілі глыбокае маральна-палітычнае адзінства нашага народа, згуртавалі яго вакол партыі, Цэнтральнага Камітэта, таварыша Сталіна, выхавалі ў ім беззаветную любоў да радзімы, да партыі і яе правадыра.

Найярчэйшым сведчаннем гэтых поспехаў з'яўляецца перамога магутнага блока комуністаў і беспартыйных на выбарах у Вярхоўны Совет СССР і Вярхоўны Совет Беларускай ССР.

Паказчыкам надзвычайна ўзросшай любві да партыі Леніна—Сталіна з'яўляецца імкненне лепшых людзей не толькі палітычна, але і арганізацыйна звязваць сябе з партыяй, г. зн. уступіць у партыю Леніна—Сталіна. За 1938 год і два месяцы 1939 года ўноў прынята кандыдатаў у партыю 8.700 чалавек, тады як за ўвесь 1937 год было прынята ўсяго 212 чалавек. У ліку прынятых 1.261 старшынь калгасаў, брыгадзіраў, загадчыкаў ферм, стаханаўцаў-калгаснікаў. Колькасць пярвічных партарганізацый вырасла за гэты час на 329. Усё гэта сведчыць таксама аб тым, што значна палепшылася палітычная работа сярод мас, палепшылася арганізацыйная работа партарганізацый.

Ясна, што гэтыя поспехі не прышлі самі па сабе, яны былі забяспечаны тым, што Ленінска-Сталінскі Цэнтральны Камітэт непрымірыма, паслядоўна, да канца змагаўся і накіроўваў партыю на барацьбу з усімі антыленінскімі тэорыямі, з усімі ворагамі партыі і народа і даваў партыі геніяльнейшыя ўзоры тактыкі і стратэгіі на кожным этапе барацьбы за соцыялізм.

Вырашэнне ўсіх гэтых труднейшых і складанейшых задач аказалася па-плячу толькі партыі Леніна—Сталіна, партыі рэволюцыйнай, перадавой, узброенай навуковай тэорыяй марксізма-ленінізма, партыі, якая ведае законы грамадскага развіцця, ведае не толькі, як развіваюцца падзеі ў сучасны момант, але і як яны будуць развівацца ў будучым, партыі, якою кіруе Ленінска-Сталінскі Цэнтральны Камітэт, якою кіруе таварыш Сталін. **(Апладысменты).**

Побач з поспехамі ў нас ёсць многа і недахопаў. Указанні, зробленыя ў дакладзе таварышом Сталіным аб недахопах у рабоце, цалкам адносяцца і да Беларусі. Некаторыя з гэтых недахопаў аб'ясняюцца

недаацэнкай варожых сіл, недаацэнкай лоўкасці і зваротлівасці замежных разведак, аб'ясняюцца тым, што пасля разгрому партыяй асноўных варожых гнёзд у некаторых кіруючых партыйных і савецкіх работнікаў Беларусі стала наглядацца шкодная самазаспакоенасць. Гэтыя работнікі разважалі так: ворагаў разграмілі моцна, зараз застаецца толькі выпраўляць вынікі іх шкодніцкай работы.

Гэтыя таварышы сталі забываць указанні партыі і таварыша Сталіна аб капіталістычным акружэнні, забываць аб тым, што замежныя разведкі пасля знішчэння іх асноўнай агентуры ў нашай краіне сударажна вывучаюць наш вопыт барацьбы з імі і прадаўжаюць засылаць сваіх агентаў, прабуюць аднавіць сваю агентуру ў СССР. Гэтыя таварышы сталі забываць, што астаткі разбітых варожых класаў яшчэ ёсць і барацьбы не спыняюць. Забыццё гэтага прывяло да таго, што таварышы гэтыя пачалі палітычна ў гэтым напрамку раззбройвацца. Толькі гэтым можна аб'ясніць тую акалічнасць, што ў Беларусі доўга не заўважалі, як ворагі, якія асталіся нявыкрытымі, змянілі тактыку, узялі курс на аслабленне дзяржаўнай дысцыпліны на сяле, на стварэнне пераважаючага становішча для аднаасобнікаў у параўнанні з калгаснікамі, курс на ўмацаванне аднаасобнай гаспадаркі і, значыць, на ўнясенне элементаў палітычнага разлажэння ў калгасы. Варожая агентура, засеўшая ў некаторых зямельных і савецкіх органах, вызваляла аднаасобнікаў ад абкладання, прадастаўляла ім пераважаючае права пры карыстанні лясамі, не прыцягвала іх да дзяржаўнай працоўнай павіннасці, прабуючы ўсім гэтым выклікаць нездаволенне калгаснікаў. Ворагі ўсякімі спосабамі затруднялі спагнанне паставак і нядоімак. Некаторыя з гэтых ворагаў даходзілі да такой нагласці, што бралі грошы з дзяржаўнага бюджэта, закупалі жывёлу і здавалі яе ў лік мясапаставак за аднаасобнікаў.

Становішча ўскладнялася яшчэ тым, што многія кіраўнікі партыйных і савецкіх органаў дапускалі зусім нецярпімыя прымірэнчыя адносіны да нарушэнняў і нарушальнікаў статута сельскагаспадарчай арцелі, забылі аб неабходнасці штодзеннага выхавання калгаснікаў у духу строгага выканання калгаснага статута, сталі бяздушна, абыякава адносіцца да пранікнення ў калгасы варожых калгаснаму ладу ўласніцкіх буржуазных тэндэнцый, занасімых туды астаткамі разбітага кулацтва. Яны забылі асноўную задачу— энергічна працаваць над умацаваннем калгаснай гаспадаркі, расшырэннем калгаснай фермы, павелічэннем калгаснай прадукцыйнай і рабочай жывёлы, развіццём калгасных агародаў і садаводства з тым, каб усё больш задавальняць патрэбнасці калгаснікаў па працаднях за кошт калгаснай гаспадаркі.

Выпраўленне гэтых недахопаў яшчэ больш умацавала калгасы і выбіла глебу з-пад ног варожых элементаў, якія прабавалі дзе-ні-

дзе пахіснуць калгасы знутры. Работу па ўмацаванню калгасаў з большэвіцкай настойлівасцю трэба прадаўжаць і надалей.

Адзначу яшчэ адзін недахоп. Не гледзячы на велізарныя поспехі ў сельскай гаспадарцы і палепшанне матэрыяльнага дабрабыту калгаснікаў, ураджаі ў Беларусі параўнаўча ўсё-ж нізкія. Не было, вядома, недахвату ў рашэннях кіруючых органаў Беларусі па гэтаму пытанню, але мэтаімкненасці і штодзеннай барацьбы за павышэнне ўраджайнасці было мала. Больш таго, раней хадзілі вельмі шкодныя тэорыйкі аб тым, што ў Беларусі вялікіх ураджаяў дасягнуць нялёгка або амаль немагчыма, у Беларусі землі не такія, як на Украіне. А на практыцы не заўважалі таго, што многія калгасы рэспублікі, узяўшыся за справу па-большэвіцку, дабіліся велізарнейшых поспехаў і атрымалі ўраджай не толькі не меншы, чым на Украіне, а ў радзе выпадкаў значна большы. Возьмем для прыкладу Тураўскі пагранічны раён. У гэтым раёне ўсе калгасы падалі заявы аб удзеле ва Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы. Палавіна калгасаў ужо залічана ў кандыдаты. А раён гэты нічым не адрозніваецца ад іншых раёнаў рэспублікі, і зямля там такая-ж, як у іншых раёнах. Справа ўся ў тым, што Тураўскі райком партыі і партыйныя арганізацыі раёна па-большэвіцку ўзяліся за павышэнне ўраджаю, за далейшае ўмацаванне калгасаў і дабіліся выдатных рэзультатаў.

Большэвікі Беларусі зробяць усё, што ад іх залежыць, каб у трэцяй пяцігодцы ўраджаі ў Беларусі і ўзровень аплаты калгаснага працадня павысіць не менш чым у два разы.

Таварыш Сталін у сваім дакладзе даў найглыбейшы аналіз міжнароднага становішча і вызначыў задачы нашай краіны ў галіне знешняй палітыкі.

Гэтыя словы прагучэлі на ўвесь свет, як сведчанне нашай нязменнай мірнай палітыкі і разам з тым несакрушальнай ваеннай магутнасці, гатоўнасці адказаць на ўдар двайным ударам. Мы вельмі добра разумеем, што ў генеральных штабах не адной, а, відаць, многіх капіталістычных краін, і асабліва фашысцкіх краін, складаюцца, выношваюцца планы ваеннага нападу на Савецкі Саюз. Мы разумеем, што міжнародная дыпламатыя працуе «не пакладаючы рук», каб стварыць «спрыяльную» міжнародную абстаноўку для рэалізацыі некаторых з гэтых планаў.

У Савецкай Беларусі ёсць заходні сусед. Гэты сусед зарэкамендаваў сябе вядомай блізасцю і сімпатыямі да так званай асі Берлін—Рым. Хоць ад гэтай асі, як сведчаць факты, нашаму суседу нічога добрага чакаць не прыходзіцца, усё-ж ён да яе хіліцца. Кіраўнікі гэтай суседняй дзяржавы ідуць на паваду ў гэтай асі, звязваюць з ёю сваю палітыку. Выцякае гэта, відаць, з таго, што суседу менш

страшна паступіцца нацыянальнымі прынцыпамі, чым здаць класавыя пазіцыі.

Сусед гэты захапіўся марамі аб некаторых землях, якія ляжаць недалёка ад яго. Дый як не марыць, калі такія польскія магнаты, як граф Радзівіл, князь Патоцкі і княгіня Гогенлоэ ў старой Беларусі ўладалі амаль $2^1/_2$ мільёнамі дзесяцін самай лепшай зямлі, а цяпер гэта зямля замацавана за калгасамі на вечнае карыстанне. Панства ўсё яшчэ марыць аб гэтых землях. Таму і ўзнікаюць усялякія размовы аб расшырэнні граніц. Для гэтага вядзецца асобага роду ідэалагічная падрыхтоўка, стараюцца ўпэўніць у магчымасці паспяховага прасоўвання на ўсход, падбадзёрваюць сябе, успамінаюць гісторыю. Скажаюць яе, а дзе яна ім нявыгадна, забываюць. Яшчэ Энгельс сказаў, што шляхта не зрабіла нічога ў гісторыі, апрача раду задорных глупстваў. Яны ўспамінаюць, што ў XVII веку пабывалі ў Маскве, што Напалеон займаў Маскву, а шведы пабывалі на Украіне. Мы можам да гэтага дадаць: польскія войскі, якія прабраліся ў XVII веку ў Расію, пакінулі свае косці на прасторах рускіх, украінскіх і беларускіх палёў. Нават Напалеон з першакласнай для таго часу арміяй, найлепшай артылерыяй і найбольш таленавітымі палкаводцамі быў разгромлен і страціў сваю армію на палях Расіі. Ён увесь астатак свайго жыцця шкадаваў, што напаў на Расію. Ён меў магчымасць пераканацца, на што здолен народ, які адстойвае сваю незалежнасць, а аб шведах да нашых дзён дайшла прыказка: «Загінуў, як швед пад Палтавай».

Калі вар'яцкія галовы з фашысцкага лагера думаюць, што ў Совецкага Саюза можна што-небудзь адарваць, то думаюць яны безумоўна супроць сябе. Народ, які пазнаў шчасце соцыялістычнага ладу, народ, які натхнёна імкнецца да вяршынь комунізма, народ, які стварыў магутную армію і першакласную тэхніку, народ, якім кіруе загартаваная ў баях партыя, народ, на чале якога стаіць незгібаемы і геніяльны правадыр таварыш Сталін,—гэты народ свае заваяванні не аддасць нікому. (**Бурныя апладысменты**).

Таварышы, дазвольце запэўніць, што Беларуская партыйная арганізацыя скарыстае ўсе нашы велізарныя палітычныя, эканамічныя і арганізацыйныя магчымасці для таго, каб яшчэ больш умацоўваць граніцы, павышаць ваенную магутнасць, развіваць прамысловасць умацоўваць калгасы, трымаць народ у стане мабілізацыйнай гатоўнасці, каб ніякія фокусы ворага не засталі нас знянацку.

**Беларуская партыйная арганізацыя, маналітная, згуртаваная вакол сталінскага ЦК, вакол таварыша Сталіна, зробіць усё, каб быць адной з самых баявых, самых перадавых арганізацый партыі Леніна—Сталіна. (Апладысменты).**

**На чале з Ленінска-Сталінскім ЦК ВКП(б) і таварышом Сталіным**

Беларуская партыйная арганізацыя разам з усёй партыяй пойдзе па шляху далейшых перамог да завяршэння комунізма ў нашай краіне, да перамогі комунізма ва ўсім свеце.

Няхай жыве, мацнее і шырыцца наша пабеданосная партыя Леніна—Сталіна!

Няхай жыве геніяльнейшы правадыр і вялікі арганізатар перамог— родны таварыш Сталін! (**Бурныя апладысменты**).

---

# СТАТУТ

## Усесаюзнай Комуністычнай партыі (большэвікоў)

*Секцыя Комуністычнага Інтэрнацыянала.*

[*Прынят аднагалосна XVIII з'ездам ВКП(б)*]

Усесаюзная Комуністычная партыя (большэвікоў), якая з'яўляецца секцыяй Комуністычнага Інтэрнацыянала, ёсць перадавы, арганізаваны атрад рабочага класа Саюза ССР, вышэйшая форма яго класавай арганізацыі. Партыя кіруецца ў сваёй рабоце тэорыяй марксізма-ленінізма.

Партыя ажыццяўляе кіраўніцтва рабочым класам, сялянствам, інтэлігенцыяй,—усім совецкім народам у барацьбе за ўмацаванне дыктатуры рабочага класа, за ўмацаванне і развіццё соцыялістычнага ладу, за перамогу комунізма.

Партыя з'яўляецца кіруючым ядром усіх арганізацый працоўных, як грамадскіх, так і дзяржаўных, і забяспечвае паспяховую пабудову комуністычнага грамадства.

Партыя з'яўляецца адзінай баявой арганізацыяй, звязанай свядомай дысцыплінай, аднолькава абавязковай для ўсіх членаў партыі. Партыя сільна сваёй згуртаванасцю, адзінствам волі, адзінствам дзеянняў, несумяшчальных з адступленнем ад праграмы і статута, з нарушэннем партыйнай дысцыпліны, з фракцыйнымі групіроўкамі, з двурушніцтвам. Партыя ачышчае свае рады ад асоб, якія нарушаюць праграму партыі, статут партыі, дысцыпліну партыі.

Партыя патрабуе ад сваіх членаў актыўнай і самаадданай работы па ажыццяўленню праграмы і статута партыі, выкананню ўсіх рашэнняў партыі і яе органаў, забеспячэнню адзінства радоў партыі і ўмацаванню брацкіх, інтэрнацыянальных адносін як паміж працоўнымі нацыянальнасцей СССР, так і з пролетарыямі ўсіх краін свету.

### I.

### Члены партыі, іх абавязкі і правы.

1. Членам партыі лічыцца ўсякі, хто прызнае праграму партыі, працуе ў адной з яе арганізацый, падпарадкуецца пастановам партыі і ўплачвае членскія ўзносы.

2. Член партыі абавязан:

а) няўстанна працаваць над павышэннем сваёй свядомасці, над усваеннем асноў марксізма-ленінізма;

б) захоўваць найстражэй партыйную дысцыпліну, актыўна ўдзельнічаць у палітычным жыцці партыі і краіны, праводзіць на практыцы палітыку партыі і рашэнні партыйных органаў;

в) быць узорам захавання працоўнай і дзяржаўнай дысцыпліны, авалодваць тэхнікай сваёй справы, бесперапынна павышаючы сваю вытворчую, дзелавую кваліфікацыю;

г) штодзенна ўмацоўваць сувязь з масамі, своечасова адклікацца на запросы і патрэбы працоўных, раз'ясняць беспартыйным масам сэнс палітыкі і рашэнняў партыі.

3. Член партыі мае права:

а) удзельнічаць у свабодным і дзелавым абмеркаванні на партыйных сходах або ў партыйным друку практычных пытанняў партыйнай палітыкі;

б) крытыкаваць на партыйных сходах любога работніка партыі;

в) выбіраць і быць выбраным у партыйныя органы;

г) патрабаваць асабістага ўдзелу ва ўсіх выпадках, калі выносіцца рашэнне аб яго дзейнасці або паводзінах;

д) звяртацца з любым пытаннем і заявай у любую партыйную інстанцыю аж да ЦК ВКП(б).

4. Прыём у члены партыі робіцца выключна ў індывідуальным парадку. Новыя члены прымаюцца з ліку кандыдатаў, прайшоўшых устаноўлены кандыдацкі стаж. У члены партыі прымаюцца свядомыя, актыўныя і адданыя справе комунізма рабочыя, сяляне і інтэлігенты.

У партыю прымаюцца асобы, дасягнуўшыя 18 год.

Парадак прыёму ў члены партыі з кандыдатаў:

а) Уступаючыя ў члены партыі прадстаўляюць рэкамендацыі трох членаў партыі, якія маюць не менш трохгадовага партыйнага стажа і ведаюць іх па сумеснай рабоце не менш аднаго года.

**Увага першая.** Пры прыёме ў члены партыі з комсамола рэкамендацыя раённага камітэта ВЛКСМ прыроўніваецца да рэкамендацыі аднаго члена партыі.

**Увага другая.** Члены і кандыдаты ў члены ЦК ВКП(б) устрымліваюцца ад рэкамендацый.

б) Пытанне аб прыёме ў партыю абмяркоўваецца і вырашаецца агульным сходам пярвічнай партыйнай арганізацыі, рашэнне якога ўступае ў сілу пасля зацвярджэння райкомам, а ў гарадах, дзе няма раённага падзелу,—гаркомам партыі.

Пры абмеркаванні пытання аб прыёме ў партыю прысутнасць рэкамендуючых не абавязкова.

в) Моладзь да 20 год уключна ўступае ў партыю толькі праз ВЛКСМ.

г) Выхадцы з іншых партый прымаюцца ў члены партыі ў выключных выпадках і па рэкамендацыі пяці членаў партыі: трох з дзесяцігадовым партыйным стажам і двух з дарэволюцыйным партстажам,—не інакш як праз пярвічную партарганізацыю, з абавязковым зацвярджэннем ЦК ВКП(б).

5. Рэкамендуючыя нясуць адказнасць за добраякаснасць сваіх рэкамендацый.

6. Партстаж прымаемых з кандыдатаў у члены партыі вылічваецца з дня прыняцця агульным сходам адпаведнай пярвічнай партыйнай арганізацыі пастановы аб зацверджанні данага таварыша ў члены партыі.

7. Усякі член адной арганізацыі пры пераездзе ў раён работы другой арганізацыі залічваецца апошняй у лік яе членаў.

**Увага.** Пераезд членаў партыі з адной арганізацыі ў другую адбываецца згодна правілам, устаноўленым ЦК ВКП(б).

8. Члены партыі і кандыдаты, на працягу трох месяцаў не ўплаціўшыя без уважлівых прычын членскіх узносаў, лічацца выбыўшымі з партыі, аб чым пярвічнай партыйнай арганізацыяй прымаецца адпаведнае рашэнне, зацвярджаемае райкомам або гаркомам партыі.

9. Пытанне аб выключэнні каго-небудзь з партыі вырашаецца агульным сходам пярвічнай партыйнай арганізацыі, членам якой з'яўляецца выключаемы, і зацвярджаецца райкомам або гаркомам партыі. Рашэнне райкома або гаркома аб выключэнні з партыі набывае сілу толькі ў тым выпадку, калі яно зацверджана абкомам, крайкомам партыі або ЦК компартыі Саюзнай рэспублікі.

10. Да зацвярджэння абкомам, крайкомам або ЦК компартыі Саюзнай рэспублікі рашэння аб выключэнні з партыі, партыйны білет застаецца на руках у члена партыі, і ён мае права наведваць закрытыя партыйныя сходы.

Аб выключаных членах партыі абком, крайком, ЦК компартыі Саюзнай рэспублікі публікуе ў мясцовым партыйным друку з указаннем прычыны выключэння, а таксама публікуе аб аднаўленні няправільна выключаных.

11. Пры вырашэнні пытання аб выключэнні з партыі або аб аднаўленні выключанага ў правах члена партыі павінен быць забяспечан максімум асцярожнасці і таварыскіх клопатаў і старанны разбор абгрунтаванасці абвінавачанняў, прад'яўленых члену партыі.

За дробныя праступкі (няяўка на сход, няўплата ў тэрмін членскіх узносаў і т. п.) павінны прымяняцца прадугледжаныя статутам меры партыйнага выхавання і ўздзеяння, а не выключэнне з партыі, якое з'яўляецца вышэйшай мерай партыйнага пакарання.

12. Апеляцыі выключаных з партыі павінны разглядацца адпаведнымі партыйнымі органамі не пазней, чым у двухтыднёвы тэрмін з дня іх паступлення.

## II.

## Кандыдаты ў члены партыі.

13. Усе асобы, якія жадаюць уступіць у партыю, праходзяць кандыдацкі стаж, неабходны для таго, каб азнаёміцца кандыдату з праграмай, статутам, тактыкай партыі і забяспечыць партарганізацыі праверку асабістых якасцей кандыдата.

14. Парадак прыёму ў кандыдаты (індывідуальны прыём, прадстаўленне рэкамендацый і іх праверка, рашэнне пярвічнай арганізацыі аб прыёме і яго зацверджанне) зусім той-жа, што пры прыёме ў члены партыі.

15. Кандыдацкі стаж устанаўліваецца тэрмінам у адзін год.

16. Кандыдаты ў члены партыі прымаюць удзел на сходах той арганізацыі, у якой яны знаходзяцца, з правам дарадчага голасу.

17. Кандыдаты ў члены партыі плацяць звычайны членскі ўзнос у касу мясцовага партыйнага камітэта.

## III.

## Будова партыі. Унутрыпартыйная дэмакратыя.

18. Кіруючым прынцыпам арганізацыйнай будовы партыі з'яўляецца дэмакратычны цэнтралізм, які азначае:

а) выбарнасць усіх кіруючых органаў партыі знізу даверху;

б) перыядычную справаздачнасць партыйных органаў перад сваімі партыйнымі арганізацыямі;

в) строгую партыйную дысцыпліну і падпарадкаванне меншынства большынству;

г) безумоўную абавязковасць рашэнняў вышэйшых органаў для ніжэйшых.

19. Партыя будуецца па тэрытарыяльна-вытворчаму прызнаку: партыйная арганізацыя, абслугоўваючая які-небудзь раён, лічыцца вышэйшай у адносінах да ўсіх партыйных арганізацый, абслугоўваючых часткі данага раёна, або партыйная арганізацыя, абслугоўваючая цэлую галіну работы, лічыцца вышэйшай у адносінах да ўсіх партыйных арганізацый, абслугоўваючых часткі данай галіны работы.

20. Усе партыйныя арганізацыі аўтаномны ў рашэнні мясцовых пытанняў, паколькі гэтыя рашэнні не супярэчаць рашэнням партыі.

21. Вышэйшым кіруючым органам кожнай партыйнай арганізацыі з'яўляецца агульны сход (для пярвічных арганізацый), канферэнцыя (напрыклад, для раённых, абласных арганізацый), з'езд [для кампартый Саюзных рэспублік, для ВКП(б)].

22. Агульны сход, канферэнцыя або з'езд выбіраюць бюро або камітэт, які з'яўляецца іх выканаўчым органам і кіруюць усёй бягучай работай арганізацыі.

23. Пры выбарах партыйных органаў забараняецца галасаванне спіскам. Галасаванне павінна праводзіцца па асобных кандыдатурах, прычым за ўсімі членамі партыі забяспечваецца неабмежаванае права адводу кандыдатаў і крытыкі апошніх. Выбары праводзяцца шляхам закрытага (тайнага) галасавання кандыдатаў.

24. Ва ўсіх рэспубліканскіх, краявых і абласных цэнтрах, а таксама ва ўсіх больш ці менш значных прамысловых цэнтрах для абмеркавання важнейшых рашэнняў партыі і ўрада склікаюцца актывы гарадскіх партыйных арганізацый, прычым актывы павінны склікацца не для параду і фармальна-ўрачыстага адабрэння гэтых рашэнняў, а для сапраўднага іх абмеркавання.

У вялікіх цэнтрах павінны склікацца не толькі гарадскія, але і раённыя партыйныя актывы.

25. Свабоднае і дзелавое абмеркаванне пытанняў партыйнай палітыкі ў асобных арганізацыях або ў партыі ў цэлым з'яўляецца неад'емным правам кожнага члена партыі, выцякаючым з унутрыпартыйнай дэмакратыі. Толькі на аснове ўнутрыпартыйнай дэмакратыі можа быць разгорнута большэвіцкая самакрытыка і ўмацована партыйная дысцыпліна, якая павінна быць свядомай, а не механічнай. Але шырокая дыскусія, асабліва дыскусія ўсесаюзнага маштаба па пытаннях партыйнай палітыкі, павінна быць арганізавана так, каб яна не магла прывесці да спроб нязначнага меншынства навязаць сваю волю велізарнаму бальшынству партыі або да спроб утварэння фракцыйных групіровак, ламаючых адзінства партыі, да спроб расколу, якія могуць пахіснуць сілу і стойкасць дыктатуры рабочага класа. Таму шырокая дыскусія ўсесаюзнага маштаба можа быць прызнана неабходнай толькі ў тым выпадку, калі: а) гэтая неабходнасць прызнаецца, па крайняй меры, некалькімі мясцовымі партарганізацыямі абласнога або рэспубліканскага маштаба; б) калі ўнутры ЦК ВКП(б) няма ў наяўнасці дастаткова цвёрдага бальшынства ў важнейшых пытаннях партыйнай палітыкі; в) калі, не гледзячы на наяўнасць цвёрдага бальшынства ў ЦК ВКП(б), якое стаіць на пэўным пункце гледжання, ЦК ВКП(б) усё-ж лічыць неабходным праверыць правільнасць сваёй палітыкі шляхам дыскусійнага абмеркавання ў партыі. Толькі пры выкананні гэтых умоў можна гарантаваць партыю ад злоўжыванняў унутрыпартыйнай дэмакратыяй з боку антыпартыйных элементаў, толькі пры гэтых умовах можна разлічваць на тое, што ўнутрыпартыйная дэмакратыя пойдзе на карысць справе і не будзе скарыстана на шкоду партыі і рабочаму класу.

26. Схема арганізацыі партыі:

а) для партыі ў цэлым—Усесаюзны з'езд, ЦК ВКП(б), Усесаюзная канферэнцыя;

б) для вобласці, края, Саюзнай рэспублікі—абласныя, краявыя канферэнцыі, з'езды компартый Саюзных рэспублік, абкомы, крайкомы, ЦК компартый Саюзных рэспублік;

в) для акругі—акруговыя канферэнцыі, акругкомы;

г) для горада, раёна—гарадскія, раённыя канферэнцыі, гарадскія, раённыя камітэты;

д) для прадпрыемства, сялення, калгаса, МТС, часцей Чырвонай арміі і Ваенна-Марскога флота, для ўстаноў—агульныя сходы, канферэнцыі пярвічных партыйных арганізацый, бюро пярвічных партыйных арганізацый.

27. Для практычнай работы па ажыццяўленню партыйных рашэнняў у ЦК ВКП(б) існуюць наступныя ўпраўленні і аддзелы: а) Упраўленне кадраў, б) Упраўленне прапаганды і агітацыі, в) Арганізацыйна-інструктарскі аддзел, г) Сельскагаспадарчы аддзел, д) Аддзел школ; у акругкомах, абкомах, крайкомах і ЦК компартый Саюзных рэспублік: а) Аддзел кадраў, б) Аддзел прапаганды і агітацыі, в) Арганізацыйна-інструктарскі аддзел, г) Сельскагаспадарчы аддзел, д) Ваенны аддзел; у гаркомах і райкомах партыі: а) Аддзел кадраў, б) Аддзел прапаганды і агітацыі, в) Арганізацыйна-інструктарскі аддзел, г) Ваенны аддзел.

Абавязак ваеннага аддзела аказваць дапамогу ваенным органам у справе пастаноўкі ўчоту ваеннаабавязаных, арганізацыі прызыву, мабілізацыі ў выпадку вайны, у справе арганізацыі проціпаветранай абароны і т. д.

Кіраўніцтва аддзеламі прапаганды і агітацыі і аддзеламі кадраў у абкомах, крайкомах і ЦК компартый саюзных рэспублік павінна быць ускладзена на асобых сакратароў.

28. Кожная арганізацыя партыі пасля канчатковага яе зацвярджэння мае права набыць сваю пячатку, але не інакш, як з санкцыі адпаведнай вышэйшай партыйнай арганізацыі.

## IV.

## Вышэйшыя органы партыі.

29. Вярхоўным органам ВКП(б) з'яўляецца з'езд ВКП(б). Чарговыя з'езды склікаюцца не радзей аднаго разу ў тры годы. Надзвычайныя з'езды склікаюцца Цэнтральным Камітэтам ВКП(б) па ўласнай ініцыятыве або па патрабаванню не менш ⅓ агульнай колькасці членаў, прадстаўленых на апошнім партыйным з'ездзе. Скліканне партыйнага з'езда і парадак дня аб'яўляюцца не пазней як за паўтара месяца да з'езда. Надзвычайныя з'езды склікаюцца ў двухмесячны тэрмін.

З'езд лічыцца сапраўдным, калі на ім прадстаўлена не менш палавіны усіх членаў партыі, прадстаўленых на апошнім чарговым з'ездзе.

Нормы прадстаўніцтва на з'езд партыі ўстанаўліваюцца Цэнтральным Камітэтам ВКП(б).

30. У выпадку нескліканьня Цэнтральным Камітэтам ВКП(б) надзвычайнага з'езда ў паказаны ў пункце 29-м тэрмін, арганізацыі, папатрабаваўшыя склікання надзвычайнага з'езда, маюць права ўтварыць арганізацыйны камітэт, які карыстаецца правамі Цэнтральнага Камітэта ВКП(б) па скліканню надзвычайнага з'езда.

31. З'езд:

а) заслухоўвае і зацвярджае справаздачы Цэнтральнага Камітэта ВКП(б), Цэнтральнай рэвізійнай камісіі і іншых цэнтральных арганізацый;

б) пераглядае і змяняе праграму і статут партыі;

в) вызначае тактычную лінію партыі па асноўных пытаннях бягучай палітыкі;

г) выбірае Цэнтральны Камітэт ВКП(б) і Цэнтральную рэвізійную камісію.

32. Цэнтральны Камітэт ВКП(б) і Цэнтральная рэвізійная камісія выбіраюцца ў саставе, устанаўліваемым з'ездам. У выпадку выбыцця членаў Цэнтральнага Камітэта ВКП(б) састаў яго папаўняецца з ліку выбраных з'ездам кандыдатаў.

33. Цэнтральны Камітэт ВКП(б) мае не менш аднаго пленарнага пасяджэння ў 4 месяцы. Кандыдаты ў члены ЦК ВКП(б) прысутнічаюць на пасяджэннях пленумаў ЦК ВКП(б) з правам дарадчага голасу.

34. Цэнтральны Камітэт ВКП(б) арганізуе: для палітычнай работы—Палітычнае бюро, для агульнага кіраўніцтва арганізацыйнай работай—Арганізацыйнае бюро, для бягучай работы арганізацыйна-выканаўчага характару—Сакратарыят, для праверкі выканання рашэнняў партыі і ЦК ВКП(б)—Камісію Партыйнага Кантроля.

35. Камісія Партыйнага Кантроля:

а) кантраліруе выкананне рашэнняў партыі і ЦК ВКП(б) партыйнымі арганізацыямі і савецка-гаспадарчымі органамі;

б) правярае работу мясцовых партыйных арганізацый;

в) прыцягвае да адказнасці віноўных у нарушэнні праграмы, статута ВКП(б), партыйнай дысцыпліны.

36. Цэнтральны Камітэт ВКП(б) у прамежках паміж з'ездамі кіруе ўсёй работай партыі, прадстаўляе партыю ў зносінах з другімі партыямі, арганізацыямі і ўстановамі, арганізуе розныя ўстановы партыі і кіруе іх дзейнасцю, назначае рэдакцыі цэнтральных органаў, якія працуюць пад яго кантролем, і зацвярджае рэдакцыі партыйных органаў буйных мясцовых арганізацый, арганізуе і вядзе прадпрыем-

ствы, якія маюць грамадскае значэнне, размяркоўвае сілы і сродкі партыі, загадвае цэнтральнай касай.

Цэнтральны Камітэт ВКП(б) накіроўвае работу цэнтральных совецкіх і грамадскіх арганізацый праз партыйныя групы ў іх.

37. У прамежках паміж партыйнымі з'ездамі Цэнтральны Камітэт ВКП(б) склікае, не радзей аднаго раза ў год, Усесаюзную партыйную канферэнцыю з прадстаўнікоў мясцовых партыйных арганізацый для абмеркавання наспеўшых пытанняў палітыкі партыі.

Дэлегаты Усесаюзнай канферэнцыі выбіраюцца на пленумах абкомаў, крайкомаў, ЦК компартый Саюзных рэспублік.

Парадак выбараў і нормы прадстаўніцтва на Усесаюзную канферэнцыю ўстанаўліваюцца ЦК ВКП(б).

Члены ЦК ВКП(б), калі яны не з'яўляюцца дэлегатамі па ўпаўнаважанню ад мясцовых арганізацый, удзельнічаюць у рабоце Усесаюзнай канферэнцыі з правам дарадчага голасу.

38. Усесаюзнай канферэнцыі прадастаўляецца права замяняць частку членаў ЦК ВКП(б), г. зн. права выводзіць з састава ЦК ВКП(б) асобных членаў ЦК ВКП(б), якія не забяспечваюць выканання імі сваіх абавязкаў, як членаў ЦК ВКП(б), і замяняць іх другімі, але ў колькасці не больш адной пятай састава ЦК ВКП(б), выбранага з'ездам партыі.

Усесаюзная канферэнцыя папаўняе састаў членаў ЦК ВКП(б) з ліку кандыдатаў, выбраных з'ездам партыі, і ўзамен іх выбірае адпаведную колькасць новых кандыдатаў у члены ЦК ВКП(б).

39. Рашэнні Усесаюзнай канферэнцыі зацвярджаюцца ЦК ВКП(б), за выключэннем рашэння аб замене членаў ЦК ВКП(б) і выбранні новых кандыдатаў у члены ЦК ВКП(б), не маючага патрэбы ў зацвярджэнні ЦК ВКП(б).

Рашэнні Усесаюзнай канферэнцыі, зацверджаныя ЦК ВКП(б), з'яўляюцца абавязковымі для ўсіх партыйных арганізацый.

40. У мэтах узмацнення большэвіцкага кіраўніцтва і палітычнай работы, Цэнтральны Камітэт ВКП(б) мае права ствараць палітычныя аддзелы і выдзяляць партыйных арганізатараў ЦК ВКП(б) па адстаючых участках соцыялістычнага будаўніцтва, набываючых асабліва важнае значэнне для народнай гаспадаркі і краіны ў цэлым, а таксама, па меры выканання палітычнымі аддзеламі сваіх ударных задач,— ператвараць іх у звычайныя партыйныя органы, пабудаваныя па вытворча-тэрытарыяльнаму прызнаку.

Палітаддзелы працуюць на аснове асобых інструкцый, зацвярджаемых ЦК ВКП(б).

41. Цэнтральны Камітэт ВКП(б) рэгулярна інфарміруе партыйныя арганізацыі аб сваёй рабоце.

42. Цэнтральная рэвізійная камісія рэвізуе:

а) быстрату і правільнасць праходжання спраў у цэнтральных органах партыі і наладжанасць апарата Сакратарыята ЦК ВКП(б);

б) касу і прадпрыемствы ЦК ВКП(б).

## V.

## Абласныя, краявыя і рэспубліканскія арганізацыі партыі.

43. Вышэйшым органам абласной, краявой, рэспубліканскай партыйнай арганізацыі з'яўляецца абласная, краявая партыйная канферэнцыя або з'езд компартыі Саюзнай рэспублікі, а ў прамежку паміж імі—абласны камітэт, краявы камітэт, ЦК компартыі Саюзнай рэспублікі. У сваёй дзейнасці яны кіруюцца пастановамі Усесаюзнай Комуністычнай партыі (большэвікоў) і яе кіруючых органаў.

44. Чарговая абласная, краявая канферэнцыя або з'езд компартыі Саюзнай рэспублікі склікаецца абласным, краявым камітэтам, ЦК компартыі Саюзнай рэспублікі адзін раз у паўтара года, а надзвычайныя—па рашэнню абласнога камітэта, краявога камітэта, ЦК компартыі Саюзнай рэспублікі або па трэбаванню ⅓ агульнай колькасці членаў арганізацыі, уваходзячых у абласную, краявую, рэспубліканскую партарганізацыю.

Нормы прадстаўніцтва на абласную, краявую канферэнцыю, з'езд компартыі Саюзнай рэспублікі ўстанаўліваюцца абласным камітэтам, краявым камітэтам, ЦК компартыі Саюзнай рэспублікі.

Абласная, краявая канферэнцыя, з'езд компартыі Саюзнай рэспублікі заслухоўвае і зацвярджае справаздачныя даклады абласнога, краявога камітэта, ЦК компартыі Саюзнай рэспублікі, рэвізійнай камісіі і іншых абласных, краявых, рэспубліканскіх арганізацый, абмяркоўвае пытанні партыйнай, савецкай, гаспадарчай, профсаюзнай работы ў вобласці, краі або рэспубліцы і выбірае абласны камітэт, краявы камітэт, ЦК компартыі Саюзнай рэспублікі, рэвізійную камісію і дэлегатаў на Усесаюзны з'езд партыі.

45. Абласны, краявы камітэт, ЦК компартыі Саюзнай рэспублікі выдзяляюць для бягучай работы адпаведныя выканаўчыя органы ў саставе не больш 11 чалавек і 4—5 сакратароў, у тым ліку першага сакратара, другога сакратара, сакратара па кадрах і сакратара па прапагандзе, зацвярджаемых ЦК ВКП(б). Для сакратароў абавязковы партыйны стаж не менш пяці год.

46. Абласны камітэт, краявы камітэт, ЦК компартыі Саюзнай рэспублікі арганізуе розныя ўстановы партыі ў межах вобласці, края, рэспублікі, кіруе іх дзейнасцю, назначае рэдакцыю абласнога, краявога, рэспубліканскага партыйнага органа, працуючага пад яго кантролем, кіруе партыйнымі групамі ў пазапартыйных арганізацыях, арганізуе і вядзе свае прадпрыемствы, маючыя агульнае значэнне для вобласці, края, рэспублікі, размяркоўвае ў межах сваёй арганізацыі

сілы і сродкі партыі, загадвае абласной, краявой, рэспубліканскай партыйнай касай.

47. Пленум абласнога камітэта, краявога камітэта, ЦК компартыі Саюзнай рэспублікі склікаецца не радзей аднаго раза ў тры месяцы.

48. Партыйныя арганізацыі аўтаномных рэспублік, а таксама нацыянальных і іншых абласцей, уваходзячых у састаў краёў і Саюзных рэспублік, працуюць пад кіраўніцтвам краявых камітэтаў, ЦК компартый Саюзных рэспублік і ў сваім унутраным жыцці кіруюцца палажэннямі, ізложанымі ў раздзеле V статута партыі аб абласных, краявых і рэспубліканскіх арганізацыях.

## VI.

## Акруговыя арганізацыі партыі.

49. У абласцях, краях і рэспубліках, маючых акругі, у гэтых апошніх ствараюцца акруговыя партыйныя арганізацыі.

Вышэйшым органам акруговай партыйнай арганізацыі з'яўляецца акруговая партыйная канферэнцыя, склікаемая акруговым камітэтам не радзей аднаго раза ў паўтара года, надзвычайная—па рашэнню акруговага камітэта або па трэбаванню ⅓ агульнай колькасці членаў арганізацыі, уваходзячых у акруговую арганізацыю.

Акруговая канферэнцыя заслухоўвае і зацвярджае справаздачы акруговага камітэта, рэвізійнай камісіі і іншых акруговых партыйных арганізацый, выбірае акруговы камітэт партыі, рэвізійную камісію і дэлегатаў на абласную, краявую канферэнцыю або з'езд компартыі Саюзнай рэспублікі.

50. Акруговы камітэт выбірае бюро ў саставе не больш 9 чалавек і 4 сакратароў акружкома, у тым ліку першага сакратара, другога сакратара, сакратара па кадрах і сакратара па прапагандзе. Для сакратароў абавязковы трохгадовы партыйны стаж. Сакратары акруговага камітэта зацвярджаюцца абкомам, крайкомам, ЦК компартыі Саюзнай рэспублікі.

51. Акруговы камітэт арганізуе розныя ўстановы партыі ў межах акругі і кіруе іх дзейнасцю, назначае рэдакцыю акруговага партыйнага органа, працуючага пад яго кіраўніцтвам і кантролем, кіруе партыйнымі групамі ў пазапартыйных арганізацыях, арганізуе свае прадпрыемствы, маючыя акруговае значэнне, размяркоўвае ў межах акругі сілы і сродкі партыі, загадвае акруговай партыйнай касай.

## VII.

## Гарадскія і раённыя (сельскія і гарадскія) арганізацыі партыі

52. Гарадская, раённая партыйная канферэнцыя склікаецца гарадскім, раённым камітэтам не радзей аднаго раза ў год, надзвычайная—па рашэнню гарадскога раённага камітэта або па трэбаванню ⅓ агульнага ліку членаў арганізацыі, уваходзячых у гарадскую, раённую арганізацыю.

Гарадская, раённая канферэнцыя заслухоўвае і зацвярджае справаздачы гарадскога, раённага камітэта, рэвізійнай камісіі і іншых гарадскіх, раённых арганізацый, выбірае гарадскі, раённы камітэт, рэвізійную камісію і дэлегатаў на краявую, абласную канферэнцыю або з'езд компартыі Саюзнай рэспублікі.

53. Гарадскі, раённы камітэт выбірае бюро ў саставе 7—9 чалавек і трох сакратароў гаркома, райкома партыі. Для сакратароў гарадскога, раённага камітэта абавязковы партыйны стаж не менш трох год. Сакратары гарадскога і раённага камітэта зацвярджаюцца абкомам, крайкомам, ЦК компартыі Саюзнай рэспублікі.

54. Гарадскі, раённы камітэт арганізуе і зацвярджае пярвічныя партыйныя арганізацыі на прадпрыемствах, у соўгасах, МТС, калгасах і ўстановах, вядзе рэгістрацыю комуністаў, арганізуе розныя ўстановы партыі ў межах горада, раёна і кіруе іх дзейнасцю, назначае рэдакцыю гарадскога, раённага партыйнага органа, працуючага пад яго кіраўніцтвам і кантролем, кіруе партыйнымі групамі ў пазапартыйных арганізацыях, арганізуе свае прадпрыемствы, маючыя агульнагарадское, раённае значэнне, размяркоўвае ў межах горада і раёна сілы і сродкі партыі, загадвае гарадской, раённай партыйнай касай. Гарадскі, раённы камітэт прадстаўляе абласному камітэту, краявому камітэту, ЦК компартыі Саюзнай рэспублікі справаздачу аб сваёй дзейнасці ў тэрміны і па форме, устаноўленыя ЦК ВКП(б).

55. Пленум гарадскога, раённага камітэта склікаецца не радзей аднаго раза ў паўтара месяца.

56. У буйных гарадах, з дазволу ЦК ВКП(б), ствараюцца раённыя арганізацыі, падпарадкаваныя гарадскому камітэту.

## VIII.

## Пярвічныя арганізацыі партыі.

57. Асновай партыі з'яўляюцца пярвічныя партыйныя арганізацыі.

Пярвічныя партыйныя арганізацыі ствараюцца на фабрыках, заводах, соўгасах, МТС і іншых гаспадарчых прадпрыемствах, у калгасах, часцях Чырвонай арміі і Ваенна-Марскога флота, сёлах, установах, навучальных установах і т. п., пры наяўнасці не менш 3-х членаў партыі.

На прадпрыемствах, у калгасах, ва ўстановах і т. п., дзе ёсць менш трох членаў партыі, ствараюцца кандыдацкія або партыйна-комсамольскія групы на чале з парторгам, выдзяляемым райкомам, гаркомам партыі або палітаддзелам.

Пярвічныя партыйныя арганізацыі зацвярджаюцца раённымі, гарадскімі камітэтамі або адпаведнымі палітаддзеламі.

58. У прадпрыемствах, установах, калгасах і т. п., дзе ёсць звыш 100 членаў і кандыдатаў партыі ўнутры агульнай пярвічнай партыйнай арганізацыі, ахапляючай усё прадпрыемства, установу і т. п., мо-

гуць быць арганізаваны ў кожным асобным выпадку з зацвярджэння райкома, гаркома або адпаведнага палітаддзела партыйныя арганізацыі па цэхах, участках, аддзелах і т. п.

Унутры цэхавых, участковых і т. п. арганізацый, а таксама ўнутры пярвічных партарганізацый, якія налічваюць менш 100 членаў і кандыдатаў, могуць ствараццa партыйныя групы па брыгадах, агрэгатах прадпрыемства.

59. У буйных прадпрыемствах і ўстановах, якія налічваюць звыш 500 членаў і кандыдатаў партыі могуць, у кожным асобным выпадку з дазволу ЦК ВКП(б), ствараццa заводскія камітэты партыі з прадастаўленнем цэхавым партарганізацыям гэтых прадпрыемстваў правоў пярвічнай партыйнай арганізацыі.

60. Пярвічная партыйная арганізацыя звязвае масы рабочых, сялян і інтэлігенцыі з кіруючымі органамі партыі. Яе задачай з'яўляецца:

а) агітацыйная і арганізацыйная работа ў масах па правядзенню партыйных лозунгаў і рашэнняў, з забеспячэннем кіраўніцтва заводскай прэсай;

б) прыцягненне новых членаў у партыю і іх палітычнае выхаванне;

в) садзейнасць райкому, гаркому або палітаддзелу ва ўсёй яго практычнай рабоце;

г) мабілізацыя мас на прадпрыемствах, соўгасах, калгасах і т. п. для выканання вытворчага плана, умацавання працоўнай дысцыпліны і развіцця соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва;

д) барацьба з расхлябанасцю і безгаспадарчым вядзеннем справы на прадпрыемствах, у соўгасах, калгасах і штодзенныя клопаты аб палепшанні культурна-бытавых умоў рабочых, служачых і калгаснікаў;

е) актыўны ўдзел у эканамічным і палітычным жыцці краіны.

61. Для павышэння ролі пярвічных партыйных арганізацый вытворчых прадпрыемстваў, у тым ліку соўгасаў, калгасаў і МТС, і іх адказнасці за стан работы прадпрыемстваў гэтым арганізацыям прадастаўляецца права кантролю дзейнасці адміністрацыі прадпрыемства.

Наркаматцкія партыйныя арганізацыі, якія, у сілу асобых умоў работы совецкіх устаноў, функцыямі кантролю карыстацца не могуць, абавязаны сігналізаваць аб недачотах у рабоце ўстановы, адзначаць недахопы ў рабоце наркамата і яго асобных работнікаў і накіроўваць свае матэрыялы і меркаванні ў ЦК ВКП(б) і кіраўнікам наркамата.

Сакратары пярвічных партыйных арганізацый наркамата зацвярджаюцца ЦК ВКП(б).

Усе комуністы—работнікі цэнтральнага апарата наркамата ўваходзяць у адну агульнанаркаматцкую партыйную арганізацыю.

62. Для вядзення бягучай работы пярвічная партыйная арганізацыя выбірае на адзін год бюро ў саставе не больш 11 чалавек.

Бюро пярвічных партарганізацый ствараюцца ў партарганізацыях, якія налічваюць не менш 15 членаў партыі.

У партыйных арганізацыях, якія налічваюць менш 15 членаў партыі, бюро не ствараюцца, а выбіраецца сакратар пярвічнай партарганізацыі.

У мэтах быстрага вырошчвання і выхавання членаў партыі ў духу калектыўнага кіраўніцтва, цэхавым партыйным арганізацыям, якія налічваюць не менш 15, але не больш 100 членаў партыі, прадастаўляецца права выбіраць бюро цэхавай партыйнай арганізацыі ў саставе ад 3 да 5 чалавек, а налічваючым звыш 100 членаў партыі—ад 5 да 7 чалавек.

У пярвічных партыйных арганізацыях, якія аб'ядноўваюць не больш 100 членаў партыі, партыйная работа вядзецца, як правіла, не вызваленымі ад работы на вытворчасці работнікамі.

У пярвічных партарганізацыях з колькасцю членаў партыі да 1.000 чалавек працуюць 2—3 платныя работнікі, а з колькасцю членаў да 3 тысяч і вышэй працуюць 4—5 вызваленых ад работы на вытворчасці таварышоў.

Для сакратароў пярвічных і цэхавых партарганізацый абавязковы партыйны стаж не менш аднаго года.

## IX.

## Партыя і комсамол.

63. ВЛКСМ праводзіць сваю работу пад кіраўніцтвам ВКП(б). ЦК ВЛКСМ, з'яўляючыся кіруючым органам комсамола, падпарадкаван ЦК ВКП(б). Работа мясцовых арганізацый ВЛКСМ накіроўваецца і кантраліруецца адпаведнымі рэспубліканскімі, краявымі, абласнымі, гарадскімі і раённымі партыйнымі арганізацыямі.

64. Члены ВЛКСМ, якія з'яўляюцца членамі або кандыдатамі партыі, выбываюць з комсамола з моманту ўступлення іх у партыю, калі яны не займаюць кіруючых пастоў у комсамольскіх арганізацыях.

65. ВЛКСМ з'яўляецца актыўным памочнікам партыі ва ўсім дзяржаўным і гаспадарчым будаўніцтве. Комсамольскія арганізацыі павінны быць на справе актыўнымі праваднікамі партыйных дырэктыў ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва, асабліва там, дзе няма пярвічных партыйных арганізацый.

66. Комсамольскія арганізацыі маюць права шырокай ініцыятывы ў абмеркаванні і пастаноўцы перад адпаведнымі партарганізацыямі ўсіх пытанняў работы прадпрыемства, калгаса, соўгаса, установы, звязаных з задачамі ўстранення недахопаў у дзейнасці апошніх і аказання ім неабходнай дапамогі ў палепшанні работы, у арганізацыі соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, у правядзенні масавых кампаній і т. д.

## X.

## Партарганізацыі ў Чырвонай арміі, Ваенна-Марскім флоце і на транспарце.

67. Кіраўніцтва партыйнай работай у Рабоча-Сялянскай Чырвонай арміі ажыццяўляецца Палітычным упраўленнем РСЧА, працуючым на правах Ваеннага аддзела ЦК ВКП(б), і ў Рабоча-Сялянскім Ваенна-Марскім флоце таксама, як і на транспарце—Палітычным упраўленнем Ваенна-Марскога флота і Палітычным упраўленнем транспарта, працуючымі на правах Ваенна-Марскога аддзела і адпаведнага транспартнага аддзела ЦК ВКП(б).

Сваё кіраўніцтва Палітычнае ўпраўленне РСЧА, Палітычнае ўпраўленне Ваенна-Марскога флота і Паліту праўленне транспарта праводзяць праз назначаемыя імі палітаддзелы, ваенкомаў, парторгаў і партыйныя камісіі, выбіраемыя на адпаведных армейскіх, флоцкіх і дарожных канферэнцыях.

Партыйныя арганізацыі ў Чырвонай арміі, Ваенна-Марскім флоце і на транспарце працуюць на аснове асобых інструкцый, зацвярджаемых ЦК ВКП(б).

68. Для начальнікаў палітупраўленняў акруг, флотаў і армій і начальнікаў палітаддзелаў чыгунак абавязковы 5-гадовы партыйны стаж, для начальнікаў палітаддзелаў дывізій і брыгад—3-гадовы партыйны стаж.

69. Паліторганы абавязаны падтрымліваць цесную сувязь з мясцовымі партыйнымі камітэтамі шляхам пастаяннага ўдзелу ў мясцовых партыйных камітэтах кіраўнікоў паліторганаў і ваенкомаў, а таксама сістэматычнага заслухоўвання на парткамітэтах дакладаў начальнікаў паліторганаў, ваенкомаў аб палітрабоце ў воінскіх часцях і палітаддзелаў па транспарту.

## XI.

## Партыйныя групы ў пазапартыйных арганізацыях.

70. На ўсіх з'ездах, нарадах і выбарных органах савецкіх, прафсаюзных, кааперацыйных і іншых масавых арганізацый, дзе ёсць не менш 3-х членаў партыі, арганізуюцца партыйныя групы, задачай якіх з'яўляецца ўсебаковае ўзмацненне ўплыву партыі і правядзенне яе палітыкі сярод беспартыйных, умацаванне партыйнай і дзяржаўнай дысцыпліны, барацьба з бюракратызмам, праверка выканання партыйных і савецкіх дырэктыў.

Для бягучай работы група выбірае сакратара.

71. Партыйныя групы падпарадкуюцца адпаведным партарганізацыям (ЦК ВКП(б), ЦК кампартыі Саюзнай рэспублікі, крайком, абком, акругком, гарком, райком).

Па ўсіх пытаннях групы абавязаны строга і няўхільна кіравацца рашэннямі кіруючых партыйных органаў.

## XII.

## Меры спагнання за нарушэнне партыйнай дысцыпліны.

72. Захаванне адзінства партыі, бязлітасная барацьба з малейшымі спробамі двурушніцтва, фракцыйнай барацьбы і расколу, правядзенне партыйнай і дзяржаўнай дысцыпліны з'яўляюцца пярвейшым абавязкам усіх членаў партыі і ўсіх партыйных арганізацый.

73. Пастановы партыйных і совецкіх цэнтраў павінны выконвацца быстра і дакладна. Невыкананне пастаноў вышэйшых арганізацый і іншыя праступкі, прызнаваемыя злачыннымі грамадскай думкай партыі, цягнуць за сабой: для арганізацыі—ганьбаванне і агульную перарэгістрацыю (роспуск арганізацыі); для асобных членаў партыі—той або іншы від ганьбавання (пастаноўка на від, вымова і т. п.), публічнае ганьбаванне, часовае адстраненне ад адказнай партыйнай і совецкай работы, выключэнне з партыі, выключэнне з партыі з паведамленнем аб праступку адміністрацыйным і судовым уладам.

74. У выпадках нарушэння партыйнай і дзяржаўнай дысцыпліны, адраджэння або допушчэння двурушніцтва і фракцыйнасці з боку членаў ЦК ВКП(б), ЦК ВКП(б) мае права прымяняць да іх выключэнне з састава ЦК ВКП(б) і, як крайнюю меру, выключэнне з партыі.

Умоваю прымянення да членаў ЦК ВКП(б) і да кандыдатаў у члены ЦК ВКП(б) такой крайняй меры павінна быць скліканне пленума ЦК ВКП(б) з запрашэннем усіх кандыдатаў у члены ЦК ВКП(б). Калі такі агульны сход найбольш адказных кіраўнікоў партыі двума трэцямі галасоў прызнае неабходным выключэнне члена ЦК ВКП(б) з састава ЦК ВКП(б) або з партыі, то такая мера павінна быць ажыццёўлена неадкладна.

## XIII.

## Грашовыя сродкі партыі.

75. Грашовыя сродкі партыі і яе арганізацый складаюцца з членскіх узносаў, даходаў ад прадпрыемстваў партыі і іншых паступленняў.

76. Штомесячныя членскія ўзносы для членаў партыі і кандыдатаў устанаўліваюцца ў наступным размеры:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Атрымліваючыя зарплату | | да 100 р. | плацяць | — 20 к. |
| „ „ | ад 101 | „ 150 р. | „ | — 60 к. |
| „ „ | „ 151 | „ 200 р. | „ | 1 р. — |
| „ „ | „ 201 | „ 250 р. | „ | 1 р. 50 к. |
| „ „ | „ 251 | „ 300 р. | „ | 2 р. — |
| „ „ | звыш 300 | „ 500 р. | „ | 2 % заработку |
| „ „ | „ 500 | „ „ | „ | 3 % заработку |

Размер членскіх узносаў для членаў партыі і кандыдатаў, не маючых цвёрдай зарплаты, вызначаецца ЦК ВКП(б).

77. Уступныя ўзносы бяруцца пры ўступленні ў кандыдаты ў размеры 2% з атрымліваемай заработнай платы.

## Першае Мая—дзень міжнароднай пролетарскай салідарнасці

Свята Першага Мая—дзень міжнароднай пролетарскай салідарнасці—узнікла ў агні рэволюцыйнай класавай барацьбы.

1-га мая 1886 года поўмільёна рабочых горада Чыкаго (ЗША) абвясцілі ўсеагульную забастоўку, патрабуючы скараціць рабочы дзень. Над удзельнікамі забастоўкі была ўчынена жорсткая расправа. Некалькіх правадыроў забастовачнага руху ўлады прыгаварылі да кары смерцю, многа было раненых і забітых. У адказ на гэтую лютую расправу арганізаваныя рабочыя Амерыкі абвясцілі 1-ае Мая днём сваёй класавай барацьбы.

У ліпені 1889 года ў Парыжы I Кангрэс II Інтэрнацыянала падтрымаў прапанову амерыканскіх рабочых і прыняў рашэнне аб арганізацыі штогодна міжнароднай пролетарскай дэманстрацыі ў дзень 1-га мая. У 1939 годзе спаўняецца поўвека з часу Парыжскага кангрэса. За гэты час свет перажыў рад велізарнай важнасці падзей, каласальныя гістарычныя змены. Але найвялікшай з усіх падзей не толькі для гэтага перыяда, але і для ўсёй гісторыі чалавецтва, з'яўляецца перамога рабочага класа Расіі ў Кастрычніку 1917 года. Вялікая Кастрычніцкая соцыялістычная рэволюцыя разарвала імперыялістычны ланцуг, разняволіла шматнацыянальную многамільённую Расію і паклала пачатак сусветнай пролетарскай рэволюцыі.

Перамогу Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі падрыхтавала партыя большэвікоў. Пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна рабочы клас, працоўныя масы нашай краіны звергнулі самадзяржаўе і яго ўрад і стварылі першую ў свеце соцыялістычную дзяржаву рабочых і сялян, якая ідзе сваёй выпрабаванай большэвіцкай дарогай да поўнай перамогі комунізма.

У 1918 годзе расійскі пролетарыят, упершыню ў сваёй гісторыі, святкаваў 1 Мая, як клас-пераможца, як пануючы клас. На першамайскіх сцягах начартаў ён лозунгі, якія заклікалі да стварэння ўзброеных сіл, да ўмацавання Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі—абаронцы заваёў вялікага Кастрычніка. З таго часу дзень 1 Мая праходзіць у нашай краіне пад лозунгамі, якія адлюстроўваюць асноўныя задачы, што стаяць перад рабочым класам і ўсімі працоўнымі нашай радзімы. Яны дэманструюць сваю гатоўнасць да барацьбы за выкананне задач соцыялістычнай рэволюцыі, сваю беззаветную адданасць партыі Леніна—Сталіна, адданасць справе рэволюцыйнага пролетарскага інтэрнацыяналізма, справе міжнароднай пролетарскай рэволюцыі.

Радасна і шчасліва сустракае народ нашай краіны вялікае свята працы, свята міжнароднай салідарнасці пролетарыята, бо шчасліва і

радасна жыццё мільёнаў людзей, упершыню ў гісторыі стаўшых кавалямі свайго шчасця. Першамайскія дэманстрацыі працоўных СССР,— гэта дэманстрацыі велічы і неперможнасці нашай соцыялістычнай радзімы, краіны сапраўднага соцыялістычнага дэмакратызма; гэта— дэманстрацыі высокага маральна-палітычнага адзінства совецкага народа, несакрушальнай сувязі працоўных з партыяй Леніна—Сталіна.

Пад блакітным небам у гэтым годзе асабліва ўрачыста заалеюць пераможныя сцягі соцыялізма, бо гэта незвычайны год. Гэта год, у якім адбываўся ў сэрцы рэволюцыі—Маскве—гістарычны XVIII з'езд партыі Леніна—Сталіна, які выклікаў выключны ўздым народных мас, стварыў небывалы яшчэ росквіт творчай ініцыятывы лепшых людзей нашай краіны—перадавых рабочых, калгаснікаў, совецкай інтэлігенцыі. Гэта год велізарных падзей, гераічных подвігаў, выдатных большэвіцкіх спраў. Гэта год, калі народы СССР, аглядаючы пройдзены шлях перамог, рыхтуюцца да далейшых бітваў за пабудову поўнага комуністычнага грамадства ў сваёй краіне.

Партыя Леніна—Сталіна, моцная жалезным адзінствам і згуртаванасцю сваіх радоў, узброеная рэволюцыйнай тэорыяй марксізма-ленінізма, загартаваная ў баях, прывяла многанацыянальны совецкі народ да сусветна-гістарычных перамог.

Выступаючы перад сваімі выбаршчыкамі ў Вярхоўны Совет СССР, таварыш Сталін гаварыў:

> «Год 10 таму назад можна было-б дыскутыраваць аб тым, ці можна ў нас будаваць соцыялізм ці не. Цяпер гэта ўжо не дыскусійнае пытанне. Цяпер гэта пытанне фактаў, пытанне жывога жыцця, пытанне быту, які пранізвае ўсё жыццё народа. На нашых фабрыках і заводах працуюць без капіталістаў. Кіруюць работай людзі з народа. Гэта і называецца ў нас соцыялізмам на справе. На нашых палях працуюць тружанікі зямлі без памешчыкаў, без кулакоў. Кіруюць работай людзі з народа. Гэта і называецца ў нас соцыялізмам у быту, гэта і называецца ў нас свабодным соцыялістычным жыццём».

Узведзены ў нашай краіне велічны будынак соцыялізма прадстаў перад усім светам, як яркі светач, як маяк для ўсіх прыгнечаных. Соцыялізм, аб якім марылі пакаленні, стаў сапраўднасцю, ён увайшоў у быт совецкага народа, ён пранізаў усё наша жыццё. Гады, што аддзяляюць нас ад XVII з'езда большэвіцкай партыі, напоўнены суровай бязлітаснай барацьбой з ворагамі партыі і соцыялізма, з ворагамі нашага народа.

Трацкісты, бухарынцы і буржуазныя нацыяналісты доўгія годы змагаліся супроць пабудовы соцыялізма ў нашай краіне. Наперакор ім, соцыялізм—першая фаза комунізма—ужо ў асноўным пабудован у нашай краіне. Гэтыя здраднікі, абанкроціўшыся, ператварыліся канчаткова ў банду наёмных забойц і перайшлі на службу да фашысцкіх разведак. Тэрорам, шантажом, дыверсіямі яны прабавалі спыніць пераможнае шэствіе соцыялізма. Але злосныя намеры іх разбіліся аб непахісную волю нашай партыі і народа, аб жалезную крэпасць нашых перамог. Ворагі і іх фашысцкія гаспадары праличыліся. Многамільённы совецкі народ, цесна згуртаваны вакол партыі і яе Цэнтральнага Камітэта, вакол правадыра і генія працоўнага чалавецтва—таварыша Сталіна, няўхільна ідзе ўперад да новых бліскучых перамог, да трыумфу комунізма.

«Стаўка сусветнай буржуазіі біта і будзе біта таму, што на

баку абароны інтарэсаў рабочага класа і працоўных усяго свету стаіць геній працоўнага чалавецтва таварыш Сталін» *(Мануільскі)*.

Мы ўступілі ў новую паласу развіцця і на ўсіх парах ідзем да комунізма. Наша партыя прышла к свайму XVIII з'езду як ніколі адзінай, маналітнай, цесна згуртаванай вакол свайго ленінска-сталінскага ЦК, вакол свайго настаўніка і правадыра таварыша Сталіна, вернага прадаўжальніка справы Леніна, натхніцеля, арганізатара і кіраўніка гераічнай барацьбы за комунізм.

XVIII гістарычны з'езд Усесаюзнай комуністычнай партыі большэвікоў адкрывае новую эпоху ў жыцці Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік. Краіна перажывае дні небывалага палітычнага і вытворчага ўздыму.

Совецкі Саюз прыступае да вырашэння новых гіганцкіх задач у абстаноўцы, калі капіталістычны свет увайшоў у паласу другой імперыялістычнай вайны. Магутным пражэктарам марксісцка-ленінскага аналізу таварыш Сталін асвятліў міжнароднае становішча Совецкага Саюза. Пяцігоддзе паміж XVII і XVIII з'ездамі партыі было для капіталістычных краін перыядам сур'ёзнейшых эканамічных і палітычных патрасенняў, для Совецкага Саюза—перыядам няўхільнага росту і росквіту, далейшага эканамічнага і культурнага ўздыму.

Капіталістычныя краіны, ледзь выбраўшыся з дрыгвы эканамічнага крызіса 1929—1933 гг., трапілі ў новы, яшчэ больш цяжкі і жорсткі крызіс, бо ён разыгрываецца не ў мірны час. Агонь другой імперыялістычнай вайны палыхае адначасова на трох мацерыках і ахапіў ужо больш 500 мільёнаў людзей. Бязлітасна знішчаюцца масы працоўнага насельніцтва. Бясконца шырыцца ваенны фронт, усё мацней напружваюцца міжнародныя адносіны. Падпальшчыкі вайны прабуюць скрыць свае агрэсіўныя мэты пад рознымі хітрамудрымі геаметрычнымі формуламі «асей» і «трыкутнікаў», пад бруднай маскай хлусні і паклёпу. Яны заключаюць «антыкомінтэрнаўскія пакты», і шукаюць «ачагі» Комінтэрна ў пустынях Манголіі, у гарах Абісініі, у пушчах Іспанскага Марокко. Таварыш Сталін сваім меткім сарказмам ушчэнт разбурыў фашысцкія «геаметрычныя пастраенні» і перад усім светам ускрыў сапраўдны сэнс славутай англа-французскай палітыкі «неўмяшання», якая на справе азначае патуранне фашысцкім агрэсарам, развязванне вайны.

Другая імперыялістычная вайна яшчэ не стала сусветнай, усеагульнай. Яе вядуць пакуль што дзяржавы-агрэсары і перш за ўсё супроць інтарэсаў Англіі, Францыі, Злучаных Штатаў Амерыкі. Агрэсіўныя дзяржавы—гэтыя разбойнікі з вялікай дарогі імкнуцца выперадзіць адзін другога ў ліхаманцы ўзбраенняў, каб першаму ўхапіць ласы кавалак.

І толькі Совецкі Саюз—адзіная краіна ў свеце, якая цвёрда і няўхільна праводзіць палітыку міру, знешняя палітыка якога выходзіла і выходзіць з ленінска-сталінскага вучэння аб пабудове соцыялізма.

Знешняя палітыка Совецкага Саюза, гаварыў таварыш Сталін у сваім дакладзе, ясна і зразумела: «Мы стаім за мір і ўзмацненне дзелавых сувязей з усімі краінамі, мы стаім і будзем стаяць на гэтай пазіцыі, паколькі яны будуць трымацца такіх-жа адносін і не будуць імкнуцца нарушыць інтарэсы нашай краіны. Але мы не баімся пагроз і гатовы адказаць двайным ударам на ўдар падпальшчыкаў вайны, калі яны паспрабуюць нарушыць недатыкальнасць совецкіх граніц». Гэтая мудрая сталінская знешняя палітыка здолее своечасова разглядзець і разбіць правакацыі нашых ворагаў.

Пад геніяльным вадзіцельствам таварыша Сталіна—вялікага прадаўжальніка ленінскай справы—будуць ушчэнт разбіты ўсе спробы фашыстаў і іх прыспешнікаў пасягнуць на радзіму комунізма, на соцыялістычную айчыну працоўных усяго свету. Совецкія патрыёты панясуць на першамайскіх сцягах яркія лозунгі: будзем яшчэ больш мацаваць абаронную магутнасць радзімы, узбройваць навейшай тэхнікай Чырвоную Армію і Ваенна-Марскі Флот, множыць і шырыць рады Асоавіяхіма.

У той час, калі ў капіталістычным свеце шалее фашысцкая рэакцыя, калі крызіс трэпле і рве ў лахманы капіталістычную эканоміку, калі фашызм цягне Еўропу да змрочных часоў сярэдневякоўя, каланізуючы еўрапейскія малыя краіны, наладжваючы крывавыя яўрэйскія пагромы,—у Совецкім Саюзе дасягнут небывалы росквіт соцыялістычнай народнай гаспадаркі, культуры, тэхнікі, умацоўваецца дружба брацкіх народаў, ствараецца база для далейшага эканамічнага і культурнага росквіту, паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма. Гэта паказаў таварыш Сталін на XVIII з'ездзе ў сваім гістарычным дакладзе, які з'яўляецца для ўсіх нас баявой праграмай дзеяння.

У выніку другой пяцігодкі соцыялістычная ўласнасць на прылады і сродкі вытворчасці канчаткова ўцвердзілася як непахісная аснова СССР. У параўнанні з даваенным часам наша прамысловасць вырасла больш чым у 9 раз. Па ўзроўню тэхнікі і тэмпах развіцця наша індустрыя не ведае сабе роўнай у свеце. Па аб'ёму прадукцыі мы занялі першае месца ў Еўропе і другое ў свеце. Класавая структура нашага грамадства характарызуецца наяўнасцю новага, вызваленага ад эксплаатацыі рабочага класа, калгаснага сялянства і новай, совецкай інтэлігенцыі.

Зараз цэнтральнай задачай для нас з'яўляецца дагнаць і перагнаць у эканамічных адносінах, г. зн. у вытворчасці на душу насельніцтва, галоўныя капіталістычныя краіны.

Мы ўступілі ў паласу паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма, і перад намі паўстаюць новыя палітычныя, дзяржаўныя і гаспадарчыя задачы, якія мудра аналізаваў і развіў таварыш Сталін у сваім гістарычным дакладзе. Развіваючы марксізм-ленінізм і зыходзячы з новых гістарычных умоў, таварыш Сталін распрацаваў і панаваму паставіў пытанне аб дзяржаве ў перыяд паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма. Ён даў нам разгорнутую праграму пабудовы поўнага комуністычнага грамадства ва ўмовах капіталістычнага акружэння. Раскрыўшы асноўны характар, сутнасць і асаблівасці пройдзеных нашай соцыялістычнай дзяржавай галоўных фаз развіцця, таварыш Сталін даказаў немінучасць і законамернасць змянення форм, метадаў і функцый нашай дзяржавы, якія абумоўліваюцца зменамі ў яе эканамічным, палітычным і культурным развіцці, а таксама зменамі ў міжнароднай сітуацыі.

> «...Развіццё,—сказаў таварыш Сталін,—не можа спыніцца на гэтым. Мы ідзем далей, уперад, да комунізма. Ці захаваецца ў нас дзяржава таксама і ў перыяд комунізма?
>
> Так, захаваецца, калі не будзе ліквідавана капіталістычнае акружэнне, калі не будзе знішчана небяспека ваенных нападаў звонку. Пры гэтым зразумела, што формы нашай дзяржавы зноў будуць зменены, у адпаведнасці са змяненнем унутранай і знешняй абстаноўкі.
>
> Не, не захаваецца і адамрэ, калі капіталістычнае акружэнне

будзе ліквідавана, калі яно будзе заменена акружэннем соцыялістычным».

Вось чаму мы павінны яшчэ вышэй узняць магутнасць і арганізаванасць совецкай дзяржавы. Не аб адміранні дзяржавы можа ісці гутарка, а аб яе ўсямерным умацаванні, каб пераможна адбіваць удары ворагаў, асабліва знешніх.

У соцыялістычнай дзяржаве няма процілегласці паміж грамадствам і дзяржавай, грамадствам і асобай. Соцыялістычная дзяржава— народная дзяржава ў поўным сэнсе гэтага слова. Роля і гістарычнае прызначэнне соцыялістычнай дзяржавы—забяспечыць пераход да комунізма, забяспечыць перамогу комунізма.

Адна з важнейшых нашых гаспадарчых задач—далейшы магутны рост прадукцыйнасці працы, далейшае развіццё і ўздым стаханаўскага руху. Даць больш прадукцыі і высокай якасці, больш накапленняў соцыялістычнай дзяржаве, найбольш эфектыўна выкарыстаць нашы багацейшыя рэзервы і грандыёзныя перавагі, закладзеныя ў самой сістэме соцыялістычнай гаспадаркі.

Энергічна разгортваць соцыялістычную тэхніку, авалодаць рэволюцыйнай тэорыяй марксізма-ленінізма, яшчэ вышэй узняць рэволюцыйную пільнасць—вось лозунгі, якія глыбока праніклі ў наша кіпучае жыццё. Мільёны працоўных падхапілі вялікі пачын маскоўскіх металістаў пачаць соцыялістычнае спаборніцтва імені Трэцяй Сталінскай Пяцігодкі. Заклік гэты нясецца з горада ў горад, з завода на завод, з цэха ў цэх. У гэты магутны рух уключаюцца мільёны, што з'яўляецца залогам перамог у Трэцяй Сталінскай пяцігодцы.

Перамога соцыялізма ў СССР—перамога соцыялістычнага інтэрнацыяналізма. Яе значэнне для міжнароднага рабочага руху становіцца тым большым, калі ўспомніць, што апошнія годы яшчэ раз наглядна прадэманстравалі поўнае паражэнне праграмы, тактыкі і палітыкі II Інтэрнацыянала і яго лідэраў—гэтых здраднікаў рабочай справы. Соцыял-паліцэйскія з II Інтэрнацыянала душылі пролетарскія рэволюцыі ў сваіх краінах, грамілі рабочыя арганізацыі, расстрэльвалі рабочыя дэманстрацыі, расчышчаючы шлях і актыўна дапамагаючы фашызму.

Барацьба працоўных супроць фашызма і вайны, супроць капіталістычнага рабства з кожным годам набывае ўсё больш шырокі размах. Узмацняецца цяга працоўных да аб'яднання сваіх сіл, да ўтварэння адзінага пролетарскага фронта, адзінага народнага фронта барацьбы супроць фашызма. Французскія комуністы, наперакор палітыцы Далад'е і прошукам рэакцыі, прадаўжаюць барацьбу за ўмацаванне народнага фронта ва Францыі. У Англіі ўзнімаецца магутная хваля пратэстаў супроць палітыкі зговару з агрэсарамі, якую праводзіць урад Чэмберлена. Рух за стварэнне адзінага антыфашысцкага фронта развіваецца і ў фашысцкіх краінах, у прыватнасці ў Германіі. Германскія рабочыя праводзяць сваё пролетарскае свята 1 Мая ў падполлі, высока ўзнімаючы чырвоны сцяг інтэрнацыянальнай пролетарскай салідарнасці. Скрозь і ўсюды павялічваюцца рады абаронцаў свабоды і цывілізацыі, культуры і прагрэса. Шырыцца размах рэволюцыйнага руху. Ідэя штурму спее ў свядомасці мас.

Комуністы ва ўсіх краінах з'яўляюцца зараз адзінай партыяй свету, якая ўсімі сіламі і сродкамі змагаецца супроць фашысцкіх захватчыкаў. Комуністычныя партыі заваёўваюць усё большы ўплыў народных мас, пашыраецца адзіны фронт для адпору фашысцкім агрэсарам.

Міжнародны пролетарыят не хоча ні рабства, ні вайны. Пад кіраўніцтвам Комінтэрна ён дабіваецца і даб'ецца, што сапраўдны мір, свабода, прагрэс, культура атрымаюць канчатковую перамогу над фашысцкім варварствам. Працоўныя ўсяго свету ўсё больш пераконваюцца ў тым, што адзіны сцяг, які нясе шчасце і вызваленне чалавецтву,—гэта вялікі сцяг комунізма, сцяг Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна.

Да СССР—соцыялістычнай бацькаўшчыны працоўных усяго свету—звернуты любоўныя погляды ўсяго перадавога чалавецтва. Совецкі Саюз, як магутны маяк, асвятляе рэволюцыйны шлях вызвалення народаў Еўропы, Азіі і Амерыкі ад капіталістычнага рабства. У перамогах і дасягненнях краіны Советаў працоўныя капіталістычных краін чэрпаюць сілы для паспяховай барацьбы супроць крывавага фашызма.

У дзень 1 Мая рабочыя і працоўныя ўсяго свету будуць дэманстраваць сваю нянавісць да азвярэлага фашызма, нянавісць да капіталістычнага рабства, сваю рашучасць даць адпор падпальшчыкам вайны, сваю гатоўнасць грудзьмі абараняць СССР—соцыялістычную бацькаўшчыну ўсяго свету.

Першамайская пераклічка 1939 года будзе новым довадам непарушнай інтэрнацыянальнай салідарнасці міжнароднага пролетарыята, які ідзе пад сцягам Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна уперад—да перамогі сусветнай соцыялістычнай рэволюцыі.

# ПРЫКЛАДНЫ ПЛАН
## вывучэння матэрыялаў XVIII з'езда ВКП(б)

*(Для лекцый, дакладаў, гутарак і самастойнай работы).*

## I. Міжнароднае становішча Совецкага Саюза.

ТЭМА 1-я: **Новы эканамічны крызіс у капіталістычных краінах. Абвастрэнне барацьбы за рынкі збыту, за крыніцы сыравіны, за новы перадзел свету.**

Змяненні ў міжнароднай абстаноўцы за перыяд паміж XVII і XVIII з'ездамі ВКП(б). XVI з'езд ВКП(б) аб сусветным эканамічным крызісе 1929 г. Аснова эканамічных крызісаў перавытворчасці, іх прычына ляжыць у самой сістэме капіталістычнай гаспадаркі. Агульны крызіс капіталізма і яго далейшае абвастрэнне. XVII з'езд ВКП(б) аб асаблівасцях эканамічнага крызіса 1929 г. Тав. Сталін аб дэпрэсіі, якая наступіла пасля крызіса 1929—1933 гг.—як аб дэпрэсіі асобага роду. Бліскучае апраўданне сталінскага прагноза. Пачатак новага эканамічнага крызіса з другой палавіны 1937 года. Характэрная асаблівасць новага крызіса і яго адметныя рысы ад эканамічнага крызіса 1929—1933 гг. Крызіснае становішча капіталістычных краін за апошнія 5 год. Совецкі Саюз з'яўляецца адзінай краінай у свеце, якая не ведае крызісаў і прамысловасць якой увесь час ідзе ўверх.

Узмацненне беспрацоўя і пагоршанне становішча ўсіх працоўных у капіталістычных краінах. Новы эканамічны крызіс прыводзіць да далейшага абвастрэння імперыялістычнай барацьбы. Блок трох агрэсіўных дзяржаў. Другая імперыялістычная вайна за новы перадзел свету.

**ЛІТАРАТУРА:**


**І. Сталін** — Справаздачны даклад XVIII з'езду партыі (раздзел I, § 1).

**І. Сталін** — Справаздачны даклад XVI з'езду партыі („Пытанні ленінізма", выд. 10, стар. 345—361).

**І. Сталін** — Справаздачны даклад XVII з'езду партыі („Пытанні ленінізма", выд. 10, стар. 538—552).

**Д. Мануільскі** — Даклад на XVIII з'ездзе партыі (раздзел I).

**„Кароткі курс гісторыі ВКП(б)"** (стар. 316—320).

ТЭМА 2-я: **Абвастрэнне міжнароднага палітычнага становішча, крушэнне пасляваеннай сістэмы мірных дагавораў, пачатак новай імперыялістычнай вайны.**

Важнейшыя падзеі за апошнія пяць год, паклаўшыя пачатак новай імперыялістычнай вайне: захват Італіяй Абісініі, італа-германская інтэрвенцыя ў Іспаніі, японскае ўтаржэнне ў Паўночны і Цэнтральны Кітай, захват Аўстрыі і Чэхаславакіі Германіяй, перанясенне японскай агрэсіі ў Паўднёвы Кітай.

Агрэсіўныя дзяржавы апракінулі ўсю сістэму пасляваеннага мірнага рэжыма. Японія разарвала дагавор дзевяці дзяржаў. Разрыў Германіяй і Італіяй версальскага дагавора. Выхад з Лігі нацый 3-х агрэсіўных дзяржаў. Ваенны блок Германіі, Італіі і Японіі супроць інтарэсаў ЗША, Англіі і Францыі. «Трохвугольнік Берлін—Рым—Токіо». «Антыкомінтэрнаўскі пакт» паміж Італіяй, Германіяй і Японіяй.

Сістэматычныя ўступкі неагрэсіўных краін агрэсіўным. Адмаўленне большасці неагрэсіўных краін і, перш за ўсё, Англіі і Францыі ад палітыкі калектыўнай безапаснасці і іх пераход на пазіцыю неўмяшання, на пазіцыю «нейтралітэта». Сапраўдныя карэнні пануючай цяпер палітыкі неўмяшання.

Шум, узняты англа-французскай і паўночна-амерыканскай прэсай па поваду Совецкай Украіны, меўшы сваёй мэтай уцягнуць у вайну Германію з Совецкім Саюзам.

ЛІТАРАТУРА:

**І. Сталін** — Справаздачны даклад XVIII з'езду партыі (раздзел І, § 2).

**Д. Мануільскі** — Даклад на XVIII з'ездзе партыі (раздзел II).

**М. Літвінаў** — За мір супроць вайны (ОГІЗ, 1938 г.).

**Г. Дзімітраў** — Адзіны фронт міжнароднага пролетарыята і народаў супроць фашызма (ОГІЗ, 1938 г.).

ТЭМА 3-я: **Комуністычны рух у капіталістычных краінах.**

Становішча компартый у капіталістычных краінах. Авангардная роля компартый у рабочым руху. Гераічная барацьба іспанскага і кітайскага народаў супроць іншаземных фашысцкіх захватчыкаў. Рух салідарнасці з іспанскім народам. Вайна ў Кітаі—самая буйная нацыянальна-вызваленчая вайна поўкаланіяльнай краіны, якую ведае гісторыя. Гераізм компартый Іспаніі і Кітая ў барацьбе з фашысцкімі агрэсарамі. Фашызм гэта ёсць адкрытая тэрарыстычная дыктатура найбольш рэакцыйных, найбольш шавіністычных, найбольш імперыялістычных элементаў фінансавага капітала. Барацьба за стварэнне адзінага міжнароднага рабочага фронта. Адзіны антыфашысцкі народны фронт. Антыфашысцкі рух у капіталістычных краінах.

Рост уплыву комуністаў у профсаюзным руху. Барацьба комуністычных партый супроць подлых ворагаў комуністычнага і рабочага руху—фашысцка-трацкісцкіх шпіёнаў і правакатараў.

Далейшыя задачы компартый капіталістычных краін. Барацьба компартый за стварэнне адзінага і народнага фронта, фронта міжна-

роднага супраціўлення блоку фашысцкіх агрэсараў. Войны справядлівыя і несправядлівыя.

Дваццацігадовы шлях Комінтэрна—шлях барацьбы за соцыялістычную рэволюцыю, за дыктатуру пролетарыята.

ЛІТАРАТУРА:

Д. Мануільскі —Даклад на XVIII з'ездзе партыі (раздзел II і III).
Г. Дзімітраў —Даклад на VII Кангрэсе Комінтэрна (Партвыдат, ЦК ВКП(б) 1935 г., стар. 69—70).

ТЭМА 4-я: **Совецкі Саюз і капіталістычныя краіны.**

Другая імперыялістычная вайна стварыла новую абстаноўку ў адносінах паміж краінамі. Нарушэнне міжнародных дагавораў і абавязацельстваў. Рост узбраення імперыялістычных дзяржаў. «Пачалі ўзбройвацца ўсе, ад малых да вялікіх дзяржаў, у тым ліку і перш за ўсё дзяржавы, якія праводзяць палітыку неўмяшання» **(Сталін).**

Рост ваенных бюджэтаў капіталістычных дзяржаў. Падрыхтоўка вайны супроць Совецкага Саюза. СССР—аплот міру. Уступленне СССР у Лігу нацый. Заключэнне дагавораў аб узаемнай дапамозе і аб ненападзенні. Падзеі ля возера Хасан. Умацаванне абараназдольнасці Совецкага Саюза. Разгром трацкісцка-бухарынскіх, пятакоўска-рыкаўскіх шпіёнскіх дыверсійных банд. Узмацненне баявой гатоўнасці нашай Чырвонай Арміі, нашага Чырвонага Ваенна-Марскога Флота. Чырвоная Армія і Ваенна-Марскі Флот—гордасць большэвіцкай партыі і совецкага народа. Стварэнне інстытута ваенных камісараў. Ваенныя советы ваенных акруг. Стварэнне Галоўнага Ваеннага Совета, у склад якога ўваходзіць таварыш Сталін.

Знешняя палітыка Совецкага Саюза. На што апіраецца Совецкі Саюз у сваёй знешняй палітыцы. Задачы партыі ў галіне знешняй палітыкі.

БССР—фарпост соцыялізма на заходняй мяжы з капіталістычным светам. Стварэнне ваенных аддзелаў у парторганах і нашы задачы ў справе ўмацавання абароназдольнасці СССР.

ЛІТАРАТУРА:

І. Сталін —Справаздачны даклад XVIII з'езду ВКП(б) (раздзел I, § 3).
К. Варашылаў —Прамова на XVIII з'ездзе ВКП(б).
Л. Мехліс —Прамова на XVIII з'ездзе ВКП(б).

# II. Унутранае становішча Совецкага Саюза

ТЭМА 5-я: **Пабеданоснае выкананне другой пяцігодкі і асноўныя задачы трэцяга пяцігадовага плана.**

**1. Палітычнае і гаспадарчае значэнне другой пяцігодкі.**

**Значэнне другой пяцігодкі.** Далейшы ўздым народнай гаспадаркі, рост культуры, умацаванне палітычнай магутнасці краіны. Канчатковая ліквідацыя ўсіх эксплуататарскіх класаў і знішчэнне прычын, якія параджаюць эксплуатацыю. Ажыццяўленне ў асноўным

першай фазы комунізма—соцыялізма. Завяршэнне рэканструкцыі прамысловасці і земляробства на аснове новай сучаснай тэхнікі. Насычанасць прамысловасці і сельскай гаспадаркі сучаснай тэхнікай. Значэнне стаханаўскага руху. Барацьба за ўмацаванне працоўнай дысцыпліны. Рост прадукцыйнасці працы. Стварэнне кадраў совецкай інтэлігенцыі. Барацьба з рэшткамі класава-варожых элементаў. Захаванне дзяржаўнай і калгаснай уласнасці. Завяршэнне калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Змяненне класавай структуры совецкага грамадства. Умацаванне маральна-палітычнага адзінства і дружбы ўсіх народаў нашай краіны. Дэмакратызацыя палітычнага жыцця СССР і стварэнне новай, Сталінскай Канстытуцыі. Рост палітычнай актыўнасці працоўных СССР. Любоў да радзімы. Выхаванне працоўных у духу совецкага патрыятызма. «Умацоўваць соцыялістычную разведку і сістэматычна дапамагаць ёй граміць і карчаваць ворагаў народа» **(Сталін).**

2. **Рост прамысловасці і сельскай гаспадаркі ў другой пяцігодцы.**

а) **Рост прамысловасці.** Росквіт соцыялістычнай прамысловасці ў СССР. Гіганцкі ўздым прамысловасці Совецкага Саюза. Застой прамысловасці ў капіталістычных краінах. Тэмпы росту і тэхніка вытворчасці нашай прамысловасці займаюць першае месца ў свеце. Прычыны адставання прамысловасці капіталістычных краін.

Адставанне СССР у эканамічных адносінах—у вытворчасці тавараў на душу насельніцтва і яго прычыны. Нашы магчымасці дагнаць і перагнаць галоўнейшыя капіталістычныя краіны і ў эканамічных адносінах у бліжэйшыя 10—15 год.

б) **Рост і ўмацаванне сельскай гаспадаркі.** Умацаванне соцыялістычнага сектара сельскай гаспадаркі і гібель аднаасобнага. Узброенасць нашых калгасаў і соўгасаў трактарамі, камбайнамі і іншымі сельскагаспадарчымі машынамі. Тэхніка ў сельскай гаспадарцы былой царскай Расіі і ў капіталістычных краінах. Рост прадукцыі сельскай гаспадаркі ў СССР і разарэнне сялянскіх гаспадарак у капіталістычных краінах. Таварнасць калгаснай, соўгаснай вытворчасці ў параўнанні з аднаасобнай.

Перамяшчэнне базы таварнай вытворчасці зярна з Украіны ў РСФСР. Становішча жывёлагадоўлі: рост буйнай рагатай жывёлы і свіней і адставанне пагалоўя коней і авечак.

в) **Тавараабарот і транспарт.** Рост тавараабароту гандлёвай сеткі, калгаснага гандлю. Адмена картачнай сістэмы ў СССР. Увядзенне картак у фашысцкіх краінах. Работа транспарта: чыгуначнага, воднага, паветранага, аўтатранспарта.

3. **Уздым матэрыяльнага і культурнага ўзроўню працоўных СССР.** Палепшанне матэрыяльнага становішча рабочых, сялян, інтэлігенцыі ў СССР. Разарэнне працоўных у капіталістычных краінах. Рост колькасці рабочых, служачых і фонда заработнай платы ў Совецкім Саюзе. Павелічэнне беспрацоўя і скарачэнне зарплаты ў капіталістычных краінах.

Грашовыя і натуральныя даходы калгаснікаў. Разарэнне сялянства ў капіталістычных краінах. Дзяржаўныя асігнаванні на соцыяльна-культурныя мерапрыемствы. Увядзенне ўсеагульнага абавязковага першапачатковага абучэння. Рост навучаючыхся ў сярэдніх і вышэйшых навучальных установах. З'яўленне новай совецкай інтэлігенцыі.

4. **Асноўныя задачы трэцяга пяцігадовага плана.** Завяршэнне будаўніцтва бяскласавага соцыялістычнага грамадства і паступовы

пераход ад социялізма да комунізма. Перагнаць перадавыя капіталістычныя краіны і ў эканамічных адносінах. Перавага социялістычнай сістэмы перад капіталістычнай стварае ўсе магчымасці для таго, каб перагнаць капіталістычныя краіны. Перамога нашых пяцігодак—перамога працоўных усяго свету. Партыя Леніна—Сталіна—правадыр і арганізатар пабудовы комунізма.

ЛІТАРАТУРА:


В. Ленін —„Пагражаючая катастрофа і як з ёю змагацца" (том XXI, стар. 155—192).

І. Сталін —Справаздачны даклад на XVIII з'ездзе ВКП(б) (раздзел II).

І. Сталін —Даклад аб праекце Канстытуцыі Саюза ССР (раздзел II і III).

В. Молатаў —Даклад на XVIII з'ездзе ВКП(б) аб трэцім пяцігадовым плане (раздзелы I, II і V).

Л. Кагановіч —Прамова на XVIII з'ездзе ВКП(б).

А. Андрэеў —Прамова на XVIII з'ездзе ВКП(б).

П. Панамарэнка—Прамова на XVIII з'ездзе ВКП(б).

„Кароткі курс гісторыі ВКП(б)" (стар. 320—326).

Рэзалюцыя XVIII з'езда ВКП(б) па дакладу тав. Молатава аб трэцім пяцігадовым плане (раздзел I).

Пастанова ЦК ВКП(б), СНК СССР і ВЦСПС аб мерапрыемствах па ўпарадкаванню працоўнай дысцыпліны.


ТЭМА 6-я: **План далейшага ўздыму народнай гаспадаркі СССР у трэцяй пяцігодцы.**

1. Социялістычная прамысловасць.

Далейшая індустрыялізацыя СССР, як залог яшчэ больш магутнага ўздыму ўсёй народнай гаспадаркі.

Аб'ём прадукцыі па ўсёй прамысловасці СССР к канцу трэцяй пяцігодкі. Неабходнасць больш хуткага росту цяжкай прамысловасці. Сярэдні гадавы прырост па цяжкай і лёгкай прамысловасці. Размер росту важнейшых галін: машынабудаўніцтва, паліўная, электраэнергетычная, хімічная, металургічная і т. д. Размяшчэнне прамысловасці—стварэнне новых прамысловых раёнаў («Другое Баку», Далёкі Усход і інш.). Барацьба з гігантаманіяй. Развіццё мясцовай прамысловасці і промкааперацыі. Пытанні электрыфікацыі—пабудова невялікіх электрастанцый. Рост прадукцыйнасці працы. Зніжэнне сабекошту прадукцыі. Удасканаленне тэхнікі вытворчасці. Развіццё чыгуначнага, воднага, паветранага і аўтатранспарта і сувязі. Стварэнне рэзерваў. Перагнаць галоўнейшыя капіталістычныя краіны ў эканамічных адносінах.

2. Рост і ўмацаванне социялістычнай сельскай гаспадаркі.

Аб'ём усёй прадукцыі сельскай гаспадаркі к канцу трэцяй пяцігодкі. Вытворчасць зярна—8 мільярдаў пудоў. Ураджайнасць—12—13 цэнтнераў. Збор тэхкультур. Рост жывёлагадоўлі. Стварэнне вакол буйных прамысловых цэнтраў бульбяна-гароднінай і жывёлагадоўчай баз. Унядрэнне палепшанага насення і правільных севаабаротаў. Завяршэнне комплекснай механізацыі сельскагаспадарчых работ. Далейшае ўмацаванне калгасаў. Умацаванне працоўнай дысцыпліны, разгортванне стаханаўскага руху. Значэнне Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі ў далейшым развіцці сельскай гаспадаркі.

3. Далейшае павышэнне матэрыяльнага і культурнага ўзроўню працоўных.

Павелічэнне народнага спажывання ў трэцяй пяцігодцы. Рост рыначных фондаў прамысловых і харчовых тавараў. Павелічэнне дзяржаўных выдаткаў на культурна-бытавое абслугоўванне насельніцтва. Рост фондаў заработнай платы рабочых і служачых. Павышэнне даходаў калгаснікаў. Ажыццяўленне ўсеагульнага сярэдняга абучэння. Колькасць навучаючыхся, у тым ліку ў ВНУ і ВТНУ.

Сетка культурных устаноў: тэатры, кіно-тэатры, клубы, біблія-тэкі і т. д. Ахова здароўя. Жыллёвае будаўніцтва. Тавараабарот. Народны даход. У галіне культурнага будаўніцтва зрабіць буйны крок уперад у справе ўздыму культурна-тэхнічнага ўзроўню рабочага класа да ўзроўню работнікаў інжынерна-тэхнічнай працы.

### ЛІТАРАТУРА:

**В. Ленін** —„Як арганізаваць спаборніцтва" (т. XXII, стар. 158—167).

**В. Ленін** —„Аб каапераныі" (т XXVII, стар. 391—397, выд. 1937 г.).

**І. Сталін** —Даклад XVIII з'езду ВКП(б) (раздзел II).

**І. Сталін** —Прамова на I Усесаюзным з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў („Пытанні ленінізма", выд. 10, стар. 525—537).

**І. Сталін** —„Аб рабоце ў вёсцы". („Пытанні ленінізма", выд. 10, стар. 515—524).

**В. Молатаў** —Даклад XVIII з'езду ВКП(б) аб трэцім пяцігадовым плане (раздзел III і IV).

**Л. Кагановіч** —Прамова на XVIII з'ездзе ВКП(б).

**А. Андрэеў** —Прамова на XVIII з'ездзе ВКП(б).

**А. Мікаян** —Прамова на XVIII з'ездзе ВКП(б).

**Рэзалюцыя XVIII з'езда ВКП(б) па дакладу тав. Молатава** (раздзел II, III і IV).

# III. Далейшае ўмацаванне ВКП(б)

ТЭМА 7-я: **Даклад таварыша Сталіна—найярчэйшая ілюстрацыя поўнай перамогі генеральнай лініі нашай партыі. Задачы ВКП(б) у галіне падбору кадраў і арганізацыі партыйнай прапаганды.**

Поўная перамога генеральнай лініі нашай партыі. Уцверджанне сацыялістычнай сістэмы ва ўсёй народнай гаспадарцы. Выкрыццё і знішчэнне прэзрэнных банд трацкісцка-бухарынскіх і буржуазна-нацыяналістычных двурушнікаў і шпіёнаў—агентаў фашызма. Палітычнае і арганізацыйнае згуртаванне партыі. Поўнае аднадушша ўсёй партыі па ўсіх пытаннях партыйнай палітыкі.

Меры палепшання састава партыі. Рэгуляванне састава партыі. Чыстка, праверка і абмен партыйных дакументаў. Палепшанне якаснага састава нашай партыі. Разбуйненне арганізацый. Набліжэнне кіруючых органаў да нізавой работы.

Вучэнне таварыша Сталіна аб кадрах. Падбор кадраў, іх вылучэнне, іх расстаноўка. Правільна падбіраць кадры. Праводзіць курс на спалучэнне старых і маладых работнікаў у галіне падбору кадраў.

«Цаніць кадры, як залаты фонд партыі і дзяржавы, даражыць імі, мець да іх павагу» **(Сталін).**

Задача—узяць поўнасцю ў адны рукі справу падбору кадраў.

Партыйная прапаганда. Марксісцка-ленінскае выхаванне членаў партыі і партыйных кадраў. Задача партыйнай прапаганды—дапамагчы нашым кадрам усіх галін работы авалодаць марксісцка-ленінскай навукай аб законах развіцця грамадства. Выхад у свет «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)» кладзе пачатак новаму размаху марксісцка-ленінскай прапаганды ў нашай краіне. Мерапрыемствы па ўстраненню недахопаў у галіне партыйнай прапаганды і паляпшанне справы марксісцка-ленінскага выхавання членаў партыі і партыйных кадраў.

### ЛІТАРАТУРА:

**І. Сталін** —Справаздачны даклад XVIII з'езду ВКП(б) (раздзел III, §§ 1, 2, 3).

**І. Сталін** —Даклад на Пленуме ЦК ВКП(б) 3 сакавіка 1937 г.

**І. Сталін** —Даклад на Студзеньскім пленуме ЦК ВКП(б) 1938 г.

**А. Жданаў** —Даклад на XVIII з'ездзе ВКП(б) (раздзел аб падборы кадраў і аб ліквідацыі тэарэтычнай і палітычнай адсталасці кадраў).

**Ем. Яраслаўскі**—Прамова на XVIII з'ездзе ВКП(б).

**Пастанова ЦК ВКП(б).** ад 14 лістапада 1933 года „Аб пастаноўцы партыйнай прапаганды ў сувязі з выпускам „Кароткага курса гісторыі ВКП(б)".

## ТЭМА 8-я: **Арганізацыйныя пытанні партбудаўніцтва на XVIII з'ездзе партыі.**

ВКП(б)—перадавы, арганізаваны атрад рабочага класа Саюза ССР, вышэйшая форма яго класавай арганізацыі. Статут ВКП(б)—непарушная аснова партыйнага будаўніцтва. Неабходнасць і заканамернасць у цяперашніх умовах змянення статута ВКП(б). Змяненні ў статуце ВКП(б)—адлюстраванне найглыбейшых перамен, якія адбыліся за апошнія пяць год у Савецкай дзяржаве, у яе эканоміцы і класавай структуры.

Вучэнне таварыша Сталіна аб суадносінах паміж палітычнай лініяй і арганізацыйнай работай. Развіццё таварышом Сталіным ленінскага вучэння аб арганізацыйных асновах нашай партыі. Статут ВКП(б)—увасабленне ленінска-сталінскіх арганізацыйных прынцыпаў будаўніцтва партыі.

Устанаўленне адзіных умоў прыёму і гадовы кандыдацкі стаж для ўсіх прымаемых у партыю, незалежна ад прыналежнасці да рабочага класа, сялянства і інтэлігенцыі. Унясенне ў статут раздзела аб правах членаў партыі. Умацаванне ўнутрыпартыйнай дэмакратыі, узмацненне бальшэвіцкай крытыкі і самакрытыкі, уздым актыўнасці членаў партыі. Адмена масавых чыстак. Усваенне і прызнанне праграмы партыі. Унутрыпартыйная дэмакратыя. Перабудова партапарата. Дапаўненне існуючай схемы цэнтральных органаў партыі новым органам—Усесаюзнай партыйнай канферэнцыяй. Змяненне характара дзейнасці Камісіі Партыйнага Кантроля. Задачы вытворчых і савецкіх пярвічных партарганізацый. Партыя і комсамол. Задачы комсамола, як памочніка партыі. Узмацненне ролі комсамола ў дзяржаўным і гаспадарчым будаўніцтве.

ЛІТАРАТУРА:

В. Ленін —Прамова пры абмеркаванні статута партыі на II з'ездзе РСДРП (т VI, стар. 31—33).
І. Сталін —Справаздачны даклад XVIII з'езду ВКП(б) (раздзел III, §§ 2 і 3).
А. Жданаў —Даклад на XVIII з'ездзе ВКП(б).
Рэзалюцыя XVIII з'езда ВКП(б) па дакладу тав. Жданава аб змяненні статута ВКП(б).
„Правда“ ад 27 сакавіка 1939 г. „Статут партыі Леніна—Сталіна“ (перадавы артыкул).
Статут ВКП(б), прыняты XVIII з'ездам ВКП(б).
Прамова Леніна на III з'ездзе комсамола (т. XXX, стар. 403—417).

## ТЭМА 9-я: Вучэнне Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна аб дзяржаве.

Пастаноўка пытання класікамі марксізма ў перыяд даманапалістычнага капіталізма. Умовы ўзнікнення, развіцця і адмірання дзяржавы.

Абарона Леніным вучэння Маркса—Энгельса аб дзяржаве ад скажэння і апашлення яго ворагамі марксізма.

Далейшая распрацоўка Леніным пытання тэорыі дзяржавы ва ўмовах імперыялізма.

Эканамічныя асновы адмірання дзяржавы. Наша дзяржава адамрэ тады, калі яна будзе не патрэбна.

Значэнне кнігі Леніна «Дзяржава і рэволюцыя».

Далейшая распрацоўка таварышом Сталіным марксісцка-ленінскай тэорыі аб соцыялістычнай дзяржаве ва ўмовах капіталістычнага акружэння. Дзве галоўныя фазы ў развіцці соцыялістычнай дзяржавы. Асноўныя задачы і роля соцыялістычнай дзяржавы ў першы перыяд—падаўленне звергнутых класаў унутры краіны, абарона краіны ад нападу звонку і аднаўленне прамысловасці і сельскай гаспадаркі краіны.

Асноўныя задачы соцыялістычнай дзяржавы другога перыяда—арганізацыя соцыялістычнай гаспадаркі краіны, ліквідацыя апошніх рэштак капіталістычных элементаў, арганізацыя культурнай рэволюцыі, арганізацыя ў поўнай меры сучаснай арміі для абароны краіны. Асноўная задача нашай дзяржавы ўнутры краіны заключаецца ў мірнай гаспадарча-арганізатарскай і культурна-выхаваўчай рабоце. «Што датычыць нашай арміі, карных органаў і разведкі, то яны сваім вастрыём звернуты ўжо не ва ўнутр краіны, а па-за ёю, супроць знешніх ворагаў» (Сталін).

Неабходнасць захавання і ўмацавання дзяржавы пры комунізме ва ўмовах капіталістычнага акружэння. Барацьба з варожай «тэорыяй» адмірання дзяржавы ва ўмовах капіталістычнага акружэння.

ЛІТАРАТУРА:

В. Ленін —„Дзяржава і рэволюцыя“ (т. XXI, стар. 365—455).
В. Ленін —„Аб дзяржаве“. Лекцыя ў Свердлоўскім універсітэце (т. XXIV, стар. 362—377).
І. Сталін —Справаздачны даклад XVIII з'езду ВКП(б) (раздзел III, § 4).
М. Калінін —Прамова на XVIII з'ездзе ВКП(б).
Міцін —Прамова на XVIII з'ездзе ВКП(б) („Правда“ ад 23/III 1939 г.)

## ТЭМА 10-я: **Сацыялістычная інтэлігенцыя і яе роля ў барацьбе за пабудову комунізма.**

Інтэлігенцыя ў стары, дарэволюцыйны час. Як мяняўся ў савецкай краіне састаў і ўсё сацыялістычнае аблічча інтэлігенцыі. Прынцыповае адрозненне новай, сацыялістычнай інтэлігенцыі ад старой, буржуазнай інтэлігенцыі. Становішча і роля інтэлігенцыі ў буржуазным і сацыялістычным грамадствах. Барацьба з варожымі поглядамі на савецкую інтэлігенцыю. «Мы хочам зрабіць рабочых і ўсіх сялян культурнымі і адукаванымі, і мы зробім гэта з часам» (**Сталін**). Неабходнасць выхавання савецкай інтэлігенцыі ў духу марксізма-ленінізма.

### ЛІТАРАТУРА:

**І. Сталін** — Справаздачны даклад XVIII з'езду ВКП(б) (раздзел III, § 4)

**І. Сталін** — Даклад аб праекце Канстытуцыі (раздзел II).

Пастанова ЦК ВКП(б) „Аб пастаноўцы партыйнай прапаганды ў сувязі з выпускам „Кароткага курса гісторыі ВКП(б).

**В. Молатаў** — Даклад на XVIII з'ездзе ВКП(б) (раздзел IV).

„Спутник агитатора“ № 23—Хто з'яўляецца інтэлігентам (адказы на пытанні чытачоў).

**Ем. Яраслаўскі** — Аб старой і новай інтэлігенцыі. („Правда“ за 12 красавіка 1939 г.).

## ТЭМА 11-я: **XVIII з'езд ВКП(б)—з'езд сусветна-гістарычных перамог сацыялізма.**

Сусветна-гістарычнае значэнне XVIII з'езда ВКП(б) і даклад таварыша Сталіна. XVIII з'езд ВКП(б) увойдзе ў гісторыю, як з'езд, які вызначыў велічны і пераможны шлях пераходу ад сацыялізма да комунізма.

Даклад таварыша Сталіна—знамянальны дакумент нашай эпохі, узор марксісцка-ленінскага аналіза шляху, які прайшлі партыя і савецкі народ за пяць год пасля XVII з'езда ВКП(б). Сталінская праграма далейшага, яшчэ больш магутнага ўздыму народнай гаспадаркі, культуры, абароназдольнасці і дабрабыту народаў Савецкага Саюза у трэцім пяцігоддзі.

Трэцяя сталінская пяцігодка—рашаючы этап у выкананні асноўнай эканамічнай задачы СССР. Усесаюзнае, сацыялістычнае спаборніцтва імя Трэцяй Сталінскай Пяцігодкі.

Задачы ўмацавання абароннай магутнасці Савецкага Саюза і ўмацавання інтэрнацыянальных сувязей рабочага класа СССР з рабочым класам капіталістычных краін. Нашы поспехі ўзнімаюць дух рабочага класа капіталістычных краін, умацоўваюць у ім веру ў свае сілы, клічуць на рашучую барацьбу пад сцягам Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна за вызваленне ад капіталістычнага рабства.

Выбары цэнтральных органаў партыі на з'ездзе—найярчэйшая ілюстрацыя адзінства, маналітнасці партыі Леніна—Сталіна. Партыя пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна разграміла ворагаў народа—трацкістаў і бухарынцаў, тым самым умацаваўшы свае рады.

Даклад таварыша Сталіна—каштоўнейшы ўклад у скарбніцу большэвізма, узбагачэнне гісторыі марксізма-ленінізма новымі пала-

жэннямі і вывадамі аб будаўніцтве комуністычнага грамадства ва ўмовах капіталістычнага акружэння. Згуртаванне працоўных мас Совецкага Саюза вакол партыі большэвікоў, вакол правадыра народаў таварыша Сталіна—залог далейшых поспехаў, залог руху ўперад для заваёвы новых перамог комунізма.

Пад сцягам Леніна—Сталіна ўперад, да поўнага трыумфу комунізма!

ЛІТАРАТУРА:

**І. Сталін** —Справаздачны даклад на XVIII з'ездзе ВКП(б)
**В. Молатаў** —Даклад на XVIII з'ездзе ВКП(б).
**А. Жданаў** —Даклад на XVIII з'ездзе ВКП)б).
**К. Варашылаў** —Прамова на XVIII з'ездзе ВКП(б).
**„Правда“,** перадавы артыкул ад 22/III „Уперад да комунізма“.



Уп. Галоўлітбела № 270
Тыраж 9650 экз.
380.160 друк. зн. ($8^1/_4$ арк.)
Злана ў набор 3/IV—39 г.
Падпісана да друку 20/IV—39 г.

*РЭДКАЛЕГІЯ.*

Друкарня імя Сталіна, Менск, Дом Друку. Зак. № 444.




ЦАНА 40 кап.

# Прадаўжаецца падпіска на 1939 год

на тэарэтычны і палітычны журнал ЦК КП(б)Б

# Большэвік Беларусі

**Год выдання 13**

**Выходзіць адзін раз у месяц**

**„Большэвік Беларусі“ разлічан**

на шырокі партыйны і комсамольскі актыў, на партыйныя і непартыйныя кадры совецкай інтэлігенцыі.

**„Большэвік Беларусі“ ставіць**

сваёй задачай аказанне дапамогі таварышам, якія працуюць над вывучэннем тэорыі марксізма-ленінізма, у першую чаргу над вывучэннем „Кароткага курса гісторыі ВКП(б)“.

**„Большэвік Беларусі“ змяшчае**

галоўным чынам тэарэтычныя артыкулы па пытаннях марксізма-ленінізма, а таксама публікуе на сваіх старонках кансультацыі, адказы чытачам па пытаннях марксізма-ленінізма і метадычныя ўказанні таварышам, якія вывучаюць гісторыю ВКП(б).

**„Большэвік Беларусі“ асвятляе**

вопыт большэвіцкай прапаганды (самастойная работа над вывучэннем „Кароткага курса гісторыі ВКП(б)“ і творамі Маркса-Энгельса-Леніна-Сталіна, лекцыі лепшых прапагандыстаў, вопыт іх работы і т. д.), а таксама вопыт і практыку работы партыйных і совецкіх арганізацый, пытанні соцыялістычнага будаўніцтва, бягучай палітыкі і міжнароднага жыцця.

**ПАДПІСНАЯ ЦАНА:**

| | |
|---|---|
| На 12 мес. | 4 р. 80 к. |
| „ 6 „ | 2 р. 40 к. |
| „ 3 „ | 1 р. 20 к. |
| „ 1 „ | 40 к. |

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:**

штомесячна ўсімі райбюро „Союзпечати“, упаўнаважанымі па друку на прадпрыемствах, усімі паштовымі аддзяленнямі і пісьманосцамі.

**Адрас рэдакцыі:** Менск, вул. Карла Маркса, памяшканне Парткурсаў пры ЦК КП(б)Б, пакой 13. Тэлефоны: намрэдактара—комутатар 20-000, даб. 271; агульны—24-887.

**УВАГА!** Па ўсіх пытаннях падпіскі і распаўсюджвання журнала ЦК КП(б)Б „Большэвік Беларусі“ належыць звярачацца ў выдавецтва ЦК КП(б)Б „Звязда“ (Менск, Совецкая, 63).